# ЗА ВУЧОБУ, СЯБРЫ!

Усе простыя, сумленныя людзі зямлі з захапленнем сочаць за поспехамі нашай краіны, якая ўступіла ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма, светлай будучыні чалавецтва.

Вялікімі дасягненнямі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, навукі і тэхнікі адзначаны 1959 год, першы год вялікаснай сямігодкі. Зусім нядаўна ўвесь свет быў уражаны найвялікшымі падзеямі: упершыню ў гісторыі савецкім народам паспяхова ажыццёўлен запуск касмічнай ракеты на Месяц, завяршыла аблёт Месяца наша навуковая касмічная станцыя, у плаванне выйшаў першы ў свеце атамны ледакол «Ленін». Гэтыя грандыёзныя падзеі, якімі ганарыцца ўсё чалавецтва, супалі з паездкай Першага Сакратара ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР, нястомнага барацьбіта за мір Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў ЗША з візітам добрай волі. Мікіта Сяргеевіч паказаў выдатны прыклад ленінскай прынцыповасці і страснасці ў абароне інтарэсаў нашай краіны, міру ва ўсім свеце.

Захапляючыся дасягненнямі сваёй краіны, савецкая моладзь добра разумее, што трэба працаваць яшчэ лепш, каб больш важкім быў яе ўклад у будаўніцтва камуністычнага грамадства — самага справядлівага грамадства на зямлі.

Вялікі правадыр працоўных Уладзімір Ільіч Ленін вучыў, што будаваць камунізм, гэта значыць выхоўваць **«усебакова развітых і ўсебакова падрыхтаваных людзей, якія ўмеюць усё рабіць».**

Чэрвеньскі Пленум ЦК КПСС заклікаў Ленінскі камсамол, усю савецкую моладзь прыняць самы актыўны ўдзел у барацьбе за тэхнічны прагрэс, за павышэнне тэхнічнага і культурнага ўзроўню маладых рабочых, інжынераў, тэхнікаў.

Выконваючы гэтыя ўказанні партыі, VI пленум Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ абмеркаваў важнейшую праблему ў жыцці камсамола — павышэнне агульнаадукацыйнга і культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочай і сельскай моладзі. Цяжка пераацаніць значэнне гэтай справы цяпер, калі такімі хуткімі тэмпамі ў нашай краіне ствараецца матэрыяльна-тэхнічная база камунізма.

Пленум абвясціў дружны паход камсамола за веды. Задача заключаецца ў тым, каб павысіць агульнаадукацыйны ўзровень і вытворчую кваліфікацыю кожнага юнака і дзяўчыны, расшырыць іх палітычны і культурны кругагзор; авалодаць навейшай тэхнікай, інжынернымі і агра-заатэхнічнымі ведамі і на гэтай аснове дабіцца высокай прадукцыйнасці працы. Вялікае значэнне надаецца далейшаму палепшанню марксісцка-ленінскай адукацыі моладзі, фарміраванню ў юнакоў і дзяўчат камуністычнага светапогляду, выхаванню лепшых якасцей чалавека камуністычнага грамадства.

Такім чынам, камсамол выходзіць у новы паход. Кожны камсамолец,

удзельнік паходу, павінен паставіць перад сабой пэўную, канкрэтную задачу. Камітэты камсамола абавязаны разумна і цярпліва растлумачваць кожнаму юнаку і дзяўчыне, што тыя з іх, хто не мае цяпер яшчэ патрэбных прафесійных ведаў і неабходнай агульнай культуры, не толькі не забяспечаць высокай прадукцыйнасці працы, але і проста не здолеюць кіраваць сучаснымі складанымі машынамі, механізмамі, прыборамі.

Абавязак камсамольскага важака — звярнуць увагу на тую частку моладзі, якая нідзе не вучыцца, пераканаць яе ў неабходнасці павышэння сваёй адукацыі, культуры, выпрацоўкі высокай камуністычнай свядомасці. Аднак трэба не толькі ўмець пераконваць, трэба яшчэ аказваць і практычную дапамогу моладзі, якая працуе, у падрыхтоўцы да паступлення ў вячэрнія школы, ВНУ, тэхнікумы. Камітэты камсамола закліка</br>ны памагчы юнакам і дзяўчатам без адрыву ад вучобы павышаць сваю прафесійную падрыхтоўку.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад па-бацькоўску клапоцяцца аб усебаковым развіцці моладзі. Кожны год адкрываюцца новыя школы, інстытуты, тэхнікумы, палацы культуры. У нашай краіне прадпрыемствы і ўстановы пераводзяцца на самы кароткі ў свеце — сямігадзінны і шасцігадзінны рабочы дзень. Такім чынам, для паспяховай вучобы, для культурнага адпачынку савецкай моладзі даюцца неабмежаваныя магчымасці.

Паход за авалоданне ведамі — не кароткатэрміновая кампанія, а штодзённы клопат, мэтанакіраваная работа кожнай камсамольскай арганізацыі. Пленум ЦК ВЛКСМ абавязаў камсамольскія арганізацыі змагацца за тое, каб кожны малады рабочы або калгаснік, які ўзяўся за вучобу, паспяхова закончыў курс навучання, абавязкова атрымаў васьмігадовую або сярэднюю адукацыю. У гэтым патрабаванні заключана практычнае ўвасабленне закону «Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай асветы ў СССР».

Трэба, каб цяпер з новай сілай разгарэлася спаборніцтва за званне калектываў і ўдарнікаў камуністычнай працы, каб кожны з тых, хто спаборнічае, узяўся на працягу года павысіць сваю кваліфікацыю, набыць адну-дзве паралельныя прафесіі, добра вывучыў свой станок ці машыну, на якой ён працуе.

У барацьбе за тэхнічны прагрэс камсамольскія арганізацыі рэспублікі маюць ужо немалы вопыт. Нядаўна на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній высокакваліфікаваныя рабочыя ўзялі шэфства над навічкамі. У гэтым годзе намечана павысіць кваліфікацыю пяцісот рабочых і навучыць новым спецыяльнасцям звыш трохсот чалавек.

На прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах камсамольскія арганізацыі рэспублікі арганізоўваюць цяпер універсітэты культурна-тэхнічных ведаў, інстытуты перадавых метадаў працы, тэхнічныя курсы, агразаатэхнічныя лабараторыі ў калгасах і саўгасах.

Паход за веды пачаўся. І трэба, каб у яго разам з усёй моладдзю рушылі настаўнікі, аграномы, інжынеры, учоныя, студэнты. Веды, якія яны перададуць моладзі, дапамогуць ёй у барацьбе за тэхнічны прагрэс, за здзяйсненне велічных планаў будаўніцтва камунізма ў нашай краіне.

За вучобу, сябры!

**Г. ЖАБІЦКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі.**



**Майстар Мінскага завода запасных частак Вечаслаў Карпаў.**
Фота А. Дзітлава.

# СЁННЯ РАБОЧЫ, А ЗАЎТРА ІНЖЫНЕР!

Нам, маладым, выпала шчасце сваімі рукамі ўзводзіць светлы будынак камуністычнага грамадства. А каб будаваць, трэба быць усебакова развітым, адукаваным чалавекам, актыўным змагаром за ўсё новае, перадавое.

Рашэнні Пленума ЦК ВЛКСМ, якія аб'явіў ударны паход за глыбокае і ўсебаковае авалоданне перадавой тэхнікай, выклікалі ў мяне шмат думак. Я пераканаўся, што мае сябры па працы ідуць правільнай дарогай, паставіўшы перад сабой мэту: «Сёння рабочы, а заўтра інжынер!»

Наш завод — прадпрыемства масавай вытворчасці. У нас рабочыя ведаюць толькі адну аперацыю. Гэта прыводзіць да вузкай спецыялізацыі, не садзейнічае павышэнню агульнай кваліфікацыі і, нарэшце, не спрыяе павышэнню прадукцыйнасці працы.

У мяне ўзнікла думка — стварыць комплексную брыгаду на лініі апрацоўкі дэталі, якая даручана нашаму ўчастку. Апрача мяне, як майстра-наладчыка, у брыгаду ўвайшлі фрэзероўшчыцы Вольга Сідзякіна, Ганна Комлік, Ніна Чайка і зубадаўбёжніца Зіна Нячай. Мы ўпяцярых абслугоўваем 21 станок.

Фрэзероўшчыцы асвоілі ўсе аперацыі апрацоўкі дэталі і ў любую хвіліну могуць замяніць сяброўку або дапамагчы адна другой. Яны сочаць, каб на поўную магутнасць выкарыстоўвалася абсталяванне.

І вось вынікі. Кожны дзень брыгада перавыконвае зменнае заданне і забяспечвае добрую якасць прадукцыі. Ствараюцца ўмовы для работы без наладчыка.

На заводзе па нашаму прыкладу арганізаваны шэсць комплексных брыгад. Шырыцца спаборніцтва за тое, каб перавыканаць заданне сямігадовага плана.

Усе мае сябры і я вучымся. Ва ўсіх за плячыма дзесяцігодка, але гэта нас ужо не задавальняе. Вольга Сідзякіна і Ніна Чайка займаюцца на падрыхтоўчых курсах для паступлення ў інстытут. Ганна Комлік заканчвае тэхнічнае вучылішча. Я вучуся на вячэрнім аддзяленні інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Трэба шчыра сказаць, што ў нас, на прадпрыемствах, яшчэ мала аддаецца ўвагі эканамічнай вучобе. А вядома, што без эканамічных ведаў, без шырокай тэхнічнай адукацыі нельга дамагчыся высокай прадукцыйнасці працы. Члены нашай брыгады добра ўсвядомілі гэта. Сваёй высокапрадукцыйнай працай, сваім імкненнем да ву-

чобы, сваімі паводзінамі мы заслужылі пачэснае званне брыгады камуністычнай працы.

Наперадзе новы год, новыя рубяжы!

**Вечаслаў КАРПАЎ,**
**майстар Мінскага завода запасных частак.**

## У ПРАЦЫ І ДЗЕЛЯ ПРАЦЫ

Здзейснілася, нарэшце, мая мара — я стала студэнткай гідратэхнічнага факультэта палітэхнічнага інстытута. Закончыўшы інстытут, буду працаваць інжынерам-гідратэхнікам. Аб гэтым я марыла ўвесь час, калі вучылася яшчэ ў школе, калі потым працавала ў калгасе.

Першыя дні вучобы ў інстытуце з'явіліся для мяне і першымі днямі працы на прадпрыемстве. Днём працую, а ўвечары вучуся, набываю неабходныя тэарэтычныя веды. Вядома, гэта нялёгка. Але мне не прывыкаць да цяжкасцей. Упэўненасць у свае сілы дае мне і ўсведамленне таго, што, працуючы, я набываю практычныя навыкі па будучай прафесіі. Гэта, у сваю чаргу, дапаможа лепш засвоіць і тэорыю.

Партыя і ўрад паклапаціліся аб тым, каб мы, студэнты, за час навучання ў інстытуце сталі сапраўднымі інжынерамі, якія добра ўзброены не толькі тэарэтычнымі ведамі, але і практычнымі навыкамі.

Вышэйшая школа працуе па-новаму, і гэта дапаможа нам пасля атрымання дыплома лягчэй знайсці сваё месца ў жыцці.

Хочацца працаваць і вучыцца, не шкадуючы сіл, каб быць вартымі той увагі, якою акружыла нас родная дзяржава і камуністычная партыя.

*Люба ШАТРАЎКА,*
**студэнтка гідратэхнічнага факультэта Беларускага палітэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна.**



Студэнтка Беларускага палітэхнічнага інстытута Люба Шатраўка.

## ЗАДУМЫ Ў НАС ВЯЛІКІЯ

Калі чытаеш рашэнні Пленума ЦК ВЛКСМ аб павышэнні агульнаадукацыйнага і культурна-тэхнічнага ўзроўню нашай моладзі, адразу ўспамінаеш мудры запавет вялікага Ільіча: «Вучыцца, вучыцца і вучыцца». Гэтая задача паўстае перад намі зноў і зноў. Без ведаў немагчыма было б пабудаваць штучныя спадарожнікі, касмічныя ракеты, атамны ледакол. Тыя велічныя планы, якія паставіла партыя перад савецкім народам, зусім рэальныя. У гэтым усе мы пераконаны. Але, разам з тым, добра разумеем, што поспех велічных планаў сямігоддзя ў многім залежыць ад таго, як мы будзем авалодваць ведамі. Вось чаму такі гарачы водгук у моладзі знайшлі рашэнні партыі і ўрада аб перабудове работы сярэдняй і вышэйшай школы, а таксама заклік VI пленума ЦК ВЛКСМ аб авалоданні спецыяльнымі ведамі, аб пашырэнні агульнага кругагляду моладзі.

Ад нас, маладых вучоных, рабочая і калгасная моладзь чакае дапамогі.

У Акадэміі сельскагаспадарчых навук даследчай работай занята многа маладых вучоных. Мы ведаем, што плённа навуковыя даследаванні можна весці толькі ў цеснай сувязі з практыкай, з вытворчасцю. Таму мы сябруем, актыўна супрацоўнічаем з працаўнікамі палёў. Толькі сёлета больш чым 400 навуковых супрацоўнікаў выязджалі ў калгасы і саўгасы рэспублікі, каб праверыць свае тэарэтычныя эксперыменты і дапамагчы хлебаробам прымяніць на практыцы дасягненні сельскагаспадарчай навукі.





Навуковы супрацоўнік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР Анатоль Кандыба.

Камсамольцы і моладзь Інстытута глебазнаўства даследавалі больш 500 тысяч гектараў зямлі. Цяпер яны складаюць картаграмы рацыянальнага выкарыстання зямель калгасаў і саўгасаў рэспублікі. Вялікіх поспехаў дабіліся глебавыя атрады, якія ўзначальваюць камсамольцы Сяргей Вайцаховіч, Раіса Пятух, Іосіф Кажура.

Супрацоўнікі Інстытута земляробства камсамолкі Раіса Балахонава і Людміла Баннікава былі на Віцебшчыне і ў Гомельскай вобласці. Яны наладзілі цікавыя экскурсіі практыкаў сельскай гаспадаркі на свае доследныя дзялянкі. Маладыя вучоныя Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі пад кіраўніцтвам М. Я. Мацапуры ўдзельнічалі ў распрацоўцы сістэмы машын па комплекснай механізацыі асушэння і асваення балот і забалочаных зямель. Іх праца атрымала высокую ацэнку.

Камсамольцы Інстытута эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці Анатоль Ліневіч, Мікалай Шэндараў і Міхаіл Курлыпа дапамагалі складаць сямігадовыя планы калгасаў і саўгасаў Мінскага, Уздзенскага і Слуцкага раёнаў. Яны чыталі калгаснікам лекцыі: «Навуковая сістэма вядзення гаспадаркі», «Аплата працы ў калгасах». У Навагрудскім раёне праведзена пашыранае пасяджэнне тэхнічнага савета раёна, на якім маладыя спецыялісты абмяняліся вопытам работы.

Можна было б назваць і іншыя мерапрыемствы, якія мы наладжвалі, каб умацоўваць сувязі з працаўнікамі сельскагаспадарчай вытворчасці. Аднак усё гэта — толькі пачатак. Нам належыць зрабіць яшчэ вельмі многа. Асноўная работа — наперадзе. Гэта мы асабліва адчулі пасля рашэнняў апошняга пленума ЦК ВЛКСМ аб па-

вышэнні агульнаадукацыйнага і культурна-тэхнічнага ўзроўню моладзі. Зараз мы думаем аб тым, як практычна лепш выканаць гэтыя рашэнні.

Нядаўна камітэт камсамола абмеркаваў пытанне аб правядзенні двухтыднёвага злёту маладых жывёлаводаў Мінскага раёна. Злёт мы вырашылі правесці на эксперыментальнай базе інстытута жывёлагадоўлі ў Зарэччы. Мы раскажам, як правільна вырошчваць цялят і парасят, разводзіць птушку, як лепш арганізаваць працу на жывёлагадоўчай ферме. Акрамя гэтага, мы падбярэм для кожнага ўдзельніка злёту камплект навуковай літаратуры па пытаннях жывёлагадоўлі. Моладзь раёна пазнаёміцца з работай перадавых даярак, птушніц, свінарак эксперыментальнай базы.

У падшэфныя калгасы выедуць маладыя вучоныя з лекцыямі на сельскагаспадарчыя і навукова-папулярныя тэмы. Камсамольцы акадэміі падбіраюць зараз бібліятэчкі сельскагаспадарчай літаратуры, каб падарыць іх падшэфным калгасам Мінскага раёна. Мы дапаможам і ў арганізацыі работы калгасных бібліятэк.

Мы намецілі правесці канферэнцыю маладых вучоных акадэміі, каб падагуліць зробленае і вызначыць асноўныя кірункі на далейшы час.

Задача цяпер заключаецца ў тым, каб выканаць ужо намечанае. А для гэтага ў нас ёсць галоўнае — жаданне маладых вучоных працаваць і далей у шчыльнай сувязі з працаўнікамі сяла.

**Анатоль КАНДЫБА,**
**сакратар камітэта камсамола Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР.**

Мікола **ГАМОЛКА**

# ДА НЯГАСНУЧЫХ ЗОРАЎ



Сёння дзёрзкасць людская не ведае межаў:
Заглянулі мы ўсё ж у затоены атам,
І цяпер ён працуе, лёд Арктыкі рэжа,
Зззяе ярка пад столямі светлымі хатаў.

Наша радасць сягоння у сэрцы не месціцца:
Мы прарэзалі трасамі далеч прастораў —
Ад Масквы да Нью-Йорка, ад Зямлі аж да Месяца,
Ад Зямлі да высокіх нягаснучых зораў.

І ракеты ляцяць, абганяючы мары,
Цемрадзь космасу рвецца імгненна на часткі.
Нават сонца зайздросна выглядае з-за хмары,
Даючы нам дарогу да славы і шчасця.

Я чакаю хвіліны, калі першым жа рэйсам
Палячу да Венеры ці можа да Марса.
Паблукаю па іхніх гарах і па лесе,
І, магчыма, надоўга я там затрымаюся.

Ты ж, Зямля, не сумуй па вандроўніку-сыне,
Ты дала нам вялікую сілу і волю,
Трэба, каб і на марсавых дзесьці раўнінах
Каласіла таксама пшаніцаю поле.

Будзь жа, час, падуладны! Скарыся, бясконцасць!
Караблёў-зоркалётаў сталі мы капітанамі.
Нам заззяе Зямля, як блакітнае сонца, —
Да яе прывязём з дальніх светаў мы тайны.



Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

# ТЫ НЕ АДЗІН

## Аповесць

Мал. Ю. Сандгазіна.

### Зноў у парабкі

Раніцаю, калі бацька сказаў Грышу не ісці ў школу, хлопчык не ведаў, навошта яго пакідаюць дома.

— От сёе-тое паможаш зрабіць. Бачыш, вясна на дварэ, а ў нас яшчэ, як той казаў, і не ў бабкі гарох, — сказаў сыну Мітрафан. Пасля снедання ён паслаў Грышу падграбаць нацярушаную на двары за зіму салому, а сам заняўся парадкаваннем пад павеццю.

Мітрафан раз-по-раз прыслухоўваўся да ляскату колаў на вуліцы, выходзіў з-пад павеці глянуць, хто едзе, і, упэўніўшыся, што гэта не той, каго ён чакае, ішоў зноў да свае работы. Нарэшце, пад абед, перад Васільцовымі варотамі спыніўся стаеннік, запрэжаны ў брычку.

Подбегам заспяшаўся Мітрафан да варот.

— Тут жыве Мітрафан Васілец? — спытаў чалавек з брычкі.

— Дзень добры пану! Тут, проша пана, тут, заязджайце, — адчыняючы вароты, адразу і вітаўся, і адказваў на запытанне, і запрашаў на двор Мітрафан.

— Вам прозвішча Вайтовіч знаёма?

— Так, проша пана, знаёма. Вы з Караліны. Цівун ваш казаў, што прыедзеце.



— А то не цівун, — махнуў стусінкай Вайтовіч. — Меў я цівуна і буду яшчэ мець, а то звычайны парабак.

— Я думаў, пане, цівун... Прабачце, калі так.

— Глупства, — зноў махнуў стусінкай Вайтовіч і перавёў гаворку на іншае:— Значыць, я патрапіў сам?.. Вялікі камень каля варот, а на другім баку вуліцы бярэзіна, — аглядаючы прыкметы, па якіх ён пазнаваў Васільцову сядзібу, гаварыў Вайтовіч.

— Самі, проша пана, патрапілі, самі... Прашу заязджаць.

Вайтовіч крануў каня. Конь зафыркаў, паспрабаваў нагою масток, што ляжаў з якіх трох жардзін на канаве перад варотамі, пераступіў іх, і брычка плаўна пакацілася па гразкаватым пасля зімы двары.

Каля ганка Вайтовіч напяў лейцы, і конь спыніўся. Тут гаспадар паважна злез з брычкі на прыступкі ганка, а Мітрафан узяў каня за аброць, адвёў за хату, прывязаў да шула і падкінуў сена.

Вайтовіч чакаў Мітрафана на ганку. Той доўга не затрымаўся. Абцёршы перад парогам аб ракітавую пляцёнку латаныя-пералатаныя боты, Васілец адчыніў дзверы ў сенцах, у хаце і, трымаючы іх, прапусціў пана наперад.

У хаце Мітрафан памог Вайтовічу распрануцца і, адставіўшы далей ад сцяны табурэтку, запрасіў яго сесці. Пан сеў не адразу. Ён тупаў некаторы час па хаце наўскасяк, з кутка ў куток, — размінаў свае ногі. Ходзячы, гаварыў пра запозненую вясну, пра вялікую цану на хлеб.

Грыша і падумаць не мог, чаго прыехаў Вайтовіч. Ён на хвілінку перастаў зграбаць смецце і глядзеў, як бацька лагодна сустракаў пана. Праз хвілін дзесяць з хаты выйшла Ганна, Грышава маці, і паклікала сына.

— Чаго, мама? — спытаў Грыша, увайшоўшы ў хату.

— Сядзь, сынок, адпачні трошкі, — адказала яна на запытанне.

Вайтовіч моўчкі агледзеў Грышу з галавы да ног. Хлопчык сеў на ложак, засланы даматканай коўдрай, і, абапёршыся рукою на біла, моўчкі сачыў за кожным панскім крокам.

Натупаўшыся, Вайтовіч прысеў на табурэтку, акінуў позіркам кожны куточак хаты, столь і толькі цяпер, відаць, заўважыў на палочку каля печы траіх меншых за Грышу дзяцей: Янку, Петручка і Валю. Яны так ціха сядзелі, што, здавалася, не дыхалі.

— Дык у пана, выходзіць, не маленькая сям'я?

— А так, проша пана, шэсць душ. Іх чацвёра, — паказаў на дзяцей, — ды нас двое. А зямлі тае — кот наплакаў: удоб'я і няўдоб'я — тры моргі. *

— Не лёгка, вядома, не лёгка з такою сям'ёю ды на такім шматочку зямлі жыць.

— Праўду, проша пана, кажаце, нялёгка. Ды што паробіш? Жыўцом у зямлю не палезеш, — развёў рукамі Мітрафан, стоячы каля лавы.

— Трэба каб старэйшыя памагалі пану гадаваць меншых, — паглядзеў Вайтовіч на Грышу.

— Ён у мяне малайчына, проша пана, — зірнуў і Мітрафан на сына. — Два гады памагае ўжо: авечкі пасвіў у пана Войціка.

* Морг—каля 0,65 гектара.

— Не разбазэраны?

— Няма ад чаго, проша пана, разбазэрвацца. Самі ведаеце, як жывём: бульба і тая ў абрэз.

— Дык пан Мітрафан, мабыць, здагадваецца ўжо, чаго я прыехаў?

— Трохі здагадваюся, а то, проша пана, самі скажаце.

— Петрусь, мой парабак, параіў наняць у вас пастушка кароў пасвіць. Пра гэтага, відаць, ідзе гаворка? — кіўнуў Вайтовіч на Грышу. — Ці ў пана ёсць большы?

— Пра гэтага, проша пана. Ён самы старэйшы ў мяне.

— А колькі ж яму гадоў?

— Трынаццаць, проша пана.

— Замалы, — пакруціў галавой Вайтовіч.

— Самы пастушок, проша пана. Я мог бы сказаць і пятнаццаць, бо ростам, як пан заўважылі, ён намнога вышэйшы за сваіх аднагодкаў... Стань, сынок, няхай пан паглядзіць, які ты дзяцюк ужо.

Грыша на момант стаў на падлогу, патупіўшы вочы, потым зноў сеў на ложак. Цяпер толькі зразумеў хлапчук, навошта яго пакінулі дома.

— Так, на рост малец ладны, толькі дзікаваты надта, у вочы зірнуць нават не хоча, — заўважыў Вайтовіч.

— Ціхі ён у нас, пане, — уступілася за сына Ганна, якая сядзела на палку каля меншых дзяцей. — Сарамяжлівы надта... А так — паслушны.

— Ну, калі ён такі, як хваліце, то можна і пра цану гаварыць, — устаў Вайтовіч з табурэткі і зірнуў у акно, за якім віднеліся заднія колы брычкі. — Дык колькі пан думае прасіць?

Мітрафан зірнуў на сына, на жонку і спытаў у Вайтовіча сам:

— А на якую, проша пана, працу думаеце гадзіць? І на які час?

— Пасвіць кароў. Сорак штук. Два бычкі будуць. Па жніве цяляты далучацца — дзесяць-дванаццаць. Падпаска будзе мець — парабкавага сына. Пасвіць да снегу.

— Цяжкаватая, проша пана, служба. Па дваццаць кароў на аднаго выходзіць. Улетку, як загізуюць... — пакруціў галавою Мітрафан і, не сказаўшы да канца, змоўк.

— Кхе, кхе,— засмяяўся Вайтовіч, сядаючы зноў на табурэтку.—А на адну карову, няхай пану будзе вядома, мне няма рахубы наймаць пастушка. Паша ў мяне на полі і на выгане. Праўда, выган каля самай граніцы з бальшавікамі... Але ж вы кажаце, што ён паслушны. А калі чалавек паслушны, то і пільны.

— Ды ўжо ж, проша пана, будзеш пільны. Беднасць тая, дзеці... — хацеў разжалабіць Васілец Вайтовічава сэрца, але той перапыніў і скіраваў гаворку ў другі бок.

— Такіх шмат цяпер не толькі тут, на ўсходніх крэсах*, але і ў самой Польшчы... Дык якую плату хочаце мець за свайго пастушка?

— А чым, проша пана, думаеце плаціць? Хлебам ці грашыма?

— Можна хлебам, можна і грашыма, як пан захоча.

* Усходнімі крэсамі называў панскі ўрад Польшчы да 1939 года заходнія вобласці Беларусі.





— Нам лепей хлебам, бо ўсё роўна купляць трэба. Грошы туды-сюды разыйдуцца, а іх вунь колькі ў мяне, нахлебнікаў,— кіўнуў Мітрафан галавою ў запек. — Я думаю, проша пана, не будзе крыўдна — трыста кіло жыта і... новыя боты справіце ўвосень. Юхтовыя, проша пана. Для вас танней, а яму абыдзецца яшчэ такому...

Вайтовіч задумаўся. Пазіраючы ў акно, ён стукаў наском левага бота па падлозе, ад чаго правая нага, закінутая на левую, гайдалася. Грыша глядзеў на панскія хромавыя боты, начышчаныя да бляску, і думаў: «Ніколі такіх у мяне не будзе». Мітрафан пераглянуўся з жонкай і моўчкі чакаў адказу пана.

Падлічыўшы ў думках, колькі выйдзе на грошы Мітрафанава цана, Вайтовіч адвёў свой погляд ад акна і зірнуў у вочы Васільцу.

— Зашмат просіш, пане... Войцік плаціў сто пяцьдзесят кілё і халацік з рызмана пашыў...

— Пан ведае і такую дробязь,— усміхнуўся Мітрафан.

— О так, сёе-тое знаю.

— Дык жа, проша пана, майце на ўвазе, работа была не тая. У Войціка — авечкі, а ў вас — каровы.

— Выходзіць, калі б я наймаў да коней, дык пан Мітрафан яшчэ большую цану загарадзіў бы...

— Само сабою зразумела, проша пана, коні — не авечкі...

— А гусі — не куры, так ці што? — зарагатаў з Мітрафанавых довадаў Вайтовіч. — Сто пяцьдзесят кілё і боты — мая цана.

— Мала, проша пана. Калі б дзвесце пяцьдзесят, то можна яшчэ гаварыць...

— Хо-хо, пан Мітрафан дарагі...

— Хлапчук варты такой цаны, проша пана.

Зноў застукаў наском левага бота Вайтовіч, зноў пачаў рахаваць у галаве.

— Дзвесце кілё і боты,— ён рашуча ўстаў з табурэткі.

— Нявыгадна, проша...

— Як хочаш, Мітрафане, — перапыніў Вайтовіч, — нявыгадна —

шукай лепшага пана, а я пашукаю таннейшага пастушка. Іх цяпер у кожнай вёсцы знайсці можна.

Васілец замітусіўся, занепакоіўся, каб хаця Вайтовіч сапраўды не кінуў яго сына. І поўнымі жалю і просьбы вачыма паглядзеў на пана.

— На беднасць, на дзяцей, проша панскае ласкі, накіньце яшчэ кіло дваццаць.

— Ні грама больш: дзвесце і боты.

— Няхай будзе па-вашаму, калі пан такі цвёрды, як крэмень, — і, павярнуўшыся да Грышы, Мітрафан сказаў: — Чуў, сынок? Пойдзеш да пана на падвышэнне. Хопіць табе з авечкамі важдацца.

Грыша чмыхнуў носам, пажаваў ніжнюю губу і скрозь слёзы спытаў у бацькі:

— А школу я і сёлета не скончу?

— Скончыш на той год. Школа не воўк — у лес на ўцячэ...

— І пазалетась казалі гэтак, і летась, і цяпер, — не стрымаўся ад крыўды Грыша і заплакаў.

Ганна падышла да сына, заступіла яго ад пана, палажыла сваю ласкавую руку на русую галаву і паціху, спагадліва пачала суцяшаць:

— Не плач, дзіцятка, супакойся. Што падумае пан пра цябе...

— Дарэчы, проша пана, са школаю як жа будзе? — спытаў Мітрафан. Хлапчук ходзіць у чацвёрты клас.

Вайтовіч махнуў рукою;

— Уладкуем як-небудзь...

— Дзякую пану. Войцік летась таксама, як і вы, уладкоўваў справу сам.

— Ну, калі ў нас усё дамоўлена, то няхай хлапчук збіраецца, а я пайду гляну, як там конь.

— Хочаце, проша пана, адразу забраць?

— А так. Навошта ж заўтра пану турбавацца — везці. Месца ў брычцы хопіць.

Ледзь Вайтовіч зачыніў дзверы, як Мітрафан загадаў сыну збірацца ў дарогу.

— Не пайду служыць да пана, — коратка адказаў хлапчук.

— Як гэта не пойдзеш? — азірнуўся на парог Мітрафан. — Маўчы, а то пан яшчэ пачуе.

— Няхай чуе. Не пайду і ўсё, — зноў паўтарыў сваё Грыша. — Я летась ледзьве да канца дабыў. Холад, дождж, а я ў падраным халаціку мёрз.

— Гэты пан лепшы, дасць вопратку, — суцяшаў бацька, хоць сам у гэта ні кропелькі не верыў.

— Дасць... Гэтак, як вы далі мне скончыць чатыры класы, — выцер кулачком вочы Грыша.

— Галодны не находзіш у школу... Жыць трэба... Аб хлебе дбаць, — павысіў голас Мітрафан.

— Сынок, гэтым цяпер нічога не паможаш. Не гнявi бацьку, — стала паміж Мітрафанам і Грышам Ганна. — Сяголета, бог дасць, на полі можа лепш уродзіць, бацька сёе-тое ў лесе заробіць ды і ты большую плату маеш за леташнюю.

— Вы толькі цяпер так гаворыце, — захліпаў, не падымаючы вачэй на бацькоў, Грыша.



— Ты перастанеш сваё вытвараць? — са злосцю ў голасе спытаў Мітрафан і звярнуўся да жонкі.— А ты менш упрошвай, дай яму чаго з'есці.

На парозе з'явіўся Вайтовіч.

— Кхе, кхе, — расплыўся ад усмешкі яго твар, — сын бацьку ўмовы ставіць. Слухаць адмаўляецца?

— Я от зараз яму настаўлю ўмовы, будзе ведаць... Яго галава не баліць, што дзеці пухнуць з голаду. На лапіку таго пяску ды балота не вельмі пракорміш такую сям'ю, а тут яшчэ з падаткам дыхнуць не...

— Кхе, кхе, навукі дамагаецца, — перапыняе Мітрафанаву скаргу Вайтовіч.

— Мала чаго яму захочацца. Падатак яшчэ вунь не заплачаны,— выказвае сваё, набалелае, Мітрафан.

— А казалі, паслушны. Відаць, не вельмі... З маленства, Мітрафан, не трэба разбэшчваць дзяцей. Кхе, кхе... А жыць можна і без навукі. Яшчэ і лепей бацькам — не будзе абы з кім звязвацца, наклікаць бяду на сябе і бацькоў... Ну, магарыч зробім, па кілішку якому, — дастаў з кішэні пляшку гарэлкі Вайтовіч і паставіў на стол.

Мітрафан паглядзеў на жонку. Тая паціснула плячыма і нічога не адказала. Тады ён сам напомніў Ганне:

— Там жа, здаецца, крыха сала заставалася?

— Якое там сала! Яго сорамна ставіць пану на закуску, — адказала Ганна, аднак пайшла ў каморку і прынесла на дошчачцы тоненькі кавалачак. Сапраўды, гэта была адна скурка, а не сала.

Гаспадар парэзаў яго на дробненькія скрылікі і адкроіў некалькі лустачак хлеба.

Выпілі па кілішку.

— Закусвайце, проша пана, Хлеб наш, праўда, не такі, як панскі, але пры чарцы можа пайсці.

Вайтовіч адламаў кавалачак, панюхаў, аднак у рот не ўзяў.

— Не падабаецца пану наш хлеб? Выбачайце, чым багаты, тым і рады. У нас і такога няма ўдосталь... Ці нельга было б, проша пана, узяць з хлопцавай платы кіло трыццаць? Вясна, работа, а з хлебам туга, нават з такім.

Вайтовіч хвілінку памаўчаў, паморшчыў лоб і адказаў на просьбу:

— Праз месяц які можна наведацца.

— Дзякую пану за ласку. Войцік таксама даваў мне наперад трохі.

— Што вы ўсё: Войцік ды Войцік. Ваш Войцік нуль без палачкі ў параўнанні са мною. Мяне злы лёс прымусіў так жыць: ездзіць наймаць парабка, таргавацца, а Войцік усё жыццё сам у гнаі корпаецца.

Збянтэжаны, Мітрафан развёў толькі рукамі: ён жа нічога благога не сказаў. Вядома, Войцік не раўня Вайтовічу, але ж гэта аднаго поля ягады.

— Ну як, хлопец, гатовы да ад'езду? — перавёў на іншую тэму гаворку пан, каб выблытацца з няёмкага становішча.

— Гатовы, пане, толькі няхай пасёрбае крыху на дарогу, — замітусілася Ганна, шукаючы Грышаву бялізну.

— Дарога не такая вялікая, конь у мяне не благі...

— Конь у пана добры. Дай божа кожнаму такога... — падтакнуў гаспадар.

— Хо-хо! Пан Мітрафан не бачыў, якіх я коней меў, — ускінуў галаву Вайтовіч. —Калі будзеш жывы, то ўбачыш яшчэ, хто такі Вайтовіч!..

Ён першы ўстаў з-за стала. Стоячы, закаркаваў недапітую бутэльку і сунуў у кішэню.

Ганна борздзенька падышла да стала, узяла лустачку хлеба і два тоненькіх скрылікі сала, загарнула ў вокладку ад сшытка, паклала ў торбачку і дала яе сыну.

— З'ясі, дзіцятка, у дарозе. Бачыш, пану няма калі чакаць, пакуль ты падсілкуешся...

— Мама, вы тут самі назірайце за трусікамі. А то Янка ці Петрусёк могуць забыцца іх накарміць, — прасіў на ад'езд Грыша.

— Добра, сынок, добра. Пакуль ты вернешся, вунь іх колькі будзе ўжо, — паабяцала Ганна.

Мітрафан зноў паадчыняў дзверы і прапусціў спачатку пана, потым забег яму наперад, папрасіў пачакаць на ганку і ўмомант падвёў каня.

Следам за сваім новым гаспадаром на пярэдняй лаўцы брычкі, плячыма наперад, сеў Грыша.

— Не сумуй там, сынок. Пан цябе не пакрыўдзіць. А я сяды-тады буду наведвацца, — развясельвала сынаву тугу Ганна, стоячы на ганку. А ў самой аж сэрца аблівалася крывёю: хлапчуку яшчэ матчына ласка патрэбна, догляд, а ён ужо трэці год памагаў карміць сям'ю.

Вайтовіч адпусціў вальней сырамятныя лейцы, цмокнуў, і конь дробненькімі крокамі падышоў да мастка, асцярожна пераступіў праз яго і пабег па вуліцы. З-пад калёс паляцелі пырскі гразі.

Насустрач пану і Грышу ішлі са школы дзеці. Грыша знарок апусціў галаву, каб тыя не заўважылі яго смутку.

## На новым месцы

Пятро Галодка здалёк пачуў ляскат колаў па грэблі і выйшаў насустрач пану. Адчыніў насцеж вароты, прапусціў на сядзібу брычку і зноў завалiў іх жалезнай завалай.

Праехаўшы некалькі метраў між ліпавых прысад, Вайтовіч спыніўся ля ганка. Пятро заспяшыў следам. Вайтовіч падаў лейцы парабку і, злазячы з брычкі, спытаў, ці вярнуўся з горада Некраш. Даведаўшыся, што фурмана яшчэ няма, зірнуў на сонца, пакруціў галавою і здзівіўся:

— Дзе ж ён так забавіўся?

— Не ведаю, пане,— пацісnуў плячыма Пятро, хоць пытанне было зусім не да яго.

Вайтовіч таму і ездзіў у Пяскі адзін, што фурман адвозіў у павятовы гарадок начальніка дэфензівы пана Запольскага. Той час-ад-часу наведваўся да сябра ў Караліну: для людскога вока пагасцяваць, а ў сапраўднасці зусім па іншай прычыне.

— Пастушка, Петрусь, вазьмі да сябе пакуль што, а там памяркуем, дзе даць прытулак,— сказаў ужо з ганка Вайтовіч.

— Добра, пане, — адказаў Пятро і крануў лейцамі каня. Хлапчук пайшоў следам за парабкам.

Пакуль Пятро распрагаў каня, пакуль дайшлі да хаты, Грыша збольшага расказаў пра сябе, пра бацькоў, пра сваю вёску.



— Тут табе таксама не будзе сумна. Пасябруеш з нашым Віцем. Ён любіць дружыць. Летась, як пан адправіў Банадыся зусім ужо з фальваркa, дык Віця колькі плакаў. Ён будзе рады табе...

Пераступіўшы парог Пятровай кватэры, Грыша адразу зняў шапку, сказаў «дзень добры», нясмела прайшоў да лавы каля сцяны і паклаў торбачку з хлебам. У дарозе ён так і не дакрануўся да яе.

— Антося, пагляДзі там чаго перакусіць хлапчуку. Пастушком будзе на Банадысевым месцы, — сказаў Пятро жонцы і звярнуўся да Грышы: — Распранайся, хлопча, будзь, як дома.

Жанчына акінула позіркам пастушка і спытала ў мужа:

— Каторы ж з іх цяпер за старшага будзе: наш ці гэты? Як яго зваць?

— Грыша,— адказаў Пятро.— За старшага, відаць, ён будзе.

— За якую ж плату згадзіў цябе пан? — зацікавіла Антосю.

Грыша сказаў.

— Ото ненасытнае горла, і тут яшчэ пяцьдзесят кіло ўварваў, — пакруціла галавой Антося, потым адхінулася ад прыпечка і растлумачыла Грышу: — Банадысю, што да цябе быў, ён даражэй плаціў.

— Ну, той столькі гадоў пасвіў, стараўся...— заўважыў Пятро.

— Стараўся, стараўся, а як прыйшла старасць, дык, як сабаку, выгнаў — ідзі куды хочаш.

— А чаго ты лепшага хочаш ад пана? Пра гэта ж я табе кожны дзень і дзяўбу; пакуль здаровы ды ногі яшчэ носяць, трэба пра свой лапік зямлі ды хату думаць. А то і з намі гэтак будзе, як з Банадысем.

— Дзіва што будзе...

Антося наліла ў міску капусты, паставіла на стол і запрасіла Грышу:

— Сілкуйся з дарогі, дзіцятка. Прагаладаўся, нябось.

— Дзякую, цётачка, мне мама хлеба паклала ў торбачку.

— Дык от да хлеба якраз гарачая страва добра. Еш.

Хлапчук развязаў торбачку, дастаў хлеб і нясмела падышоў да стала.

Надвячоркам прыгнаў леташніх цялят Віця. Пан загадаў учора выгнаць іх на пашу.

— Ну, вось твой новы начальнік на лета,— пазнаеміў сына Пятро.

Віця ваўчком паглядзеў на Грышу і сказаў бацьку:

— Кароў яшчэ нельга выганяць. Цяляты і то грузнуць. Скажыце пану.

— Скажу... Праз два-тры дні падсохне, калі пастаіць такое надвор'е. Будзеце ганяць пакуль цялят. Дарма ж пан не стане карміць пастуха.

Да шэрай гадзіны хлапчукі падружыліся і, седзячы на лаве каля акна, разглядалі малюнкі ў Віцевай чытанцы. На некаторых старонках спыняліся. Віця тлумачыў, што там намалявана, хоць Грыша і сам добра разумеў.

Віця быў маладзейшы за Грышу на год. Вучыўся ён у трэцім класе паўторна. І сёлета, як летась, настаўніца адпусціла Віцю раней,— паабяцала, што ўвосень пасадзіць яго ў чацвёрты клас, толькі няхай ён улетку чытае больш, каб не забыцца. Бо нельга ж сядзець такому росламу хлапчуку трэці год у адным класе.

— Вось дакуль мы дайшлі,— уздыхнуў Віця.— А гэта было зададзена на сёння. Я ўсё роўна ўрок вывучыў і задачкі парашаў. Учора яшчэ, як прыйшоў са школы. На заўтра вось гэта зададзена.

— Адкуль ты ведаеш? — спытаў Грыша.

— Ведаю. Калі такі маленькі ўрок, дык наша настаўніца задае ўвесь, а большы — на два разы дзеліць. Я і гэты вывучу: трошкі сягоння, а то раніцай заўтра.

— Хочаш, я табе буду памагаць?

— А як ты мне паможаш? Будзеш пытаць, як настаўніца?

— І пытаць, і чытаць,— адказаў Грыша і адразу ж узяўся чытаць. Ён вадзіў пальцам ніжэй радка і павольна вымаўляў словы. Віця глядзеў то ў кнігу, то Грышу ў твар.

— Ты таксама ўмееш па-польску чытаць? — чамусьці здзівіўся Віця.

— Умею. У нас жа польская школа і настаўнік з Польшчы,— адказаў Грыша і, азірнуўшыся, паціхеньку дадаў: — Я і па-беларуску ўмею. З нашай вёскі адзін хлопец вучыцца ў Вільні, дык ён мяне навучыў. Я нават верш адзін ведаю напамяць.

Не чакаючы, пакуль Віця папросіць расказаць яго, Грыша пачаў сам:

Ведай, свет, што я сын мужыка-бедака,
Які доўга ў няволі стагнаў...
Ўзгадавала мяне яго чорна рука,
А купала нядолі адвечнай рака,
Голад, холад мне ў твар пазіраў...

Усе казалі, што й сын, як і бацька,— мужык,
Перад панам свой горб будзе гнуць.
Што з другімі людзьмі ён не пойдзе у лік,
Запрацуе сабе лапці з ліпавых лык,
Вольнай песні не будзе ён чуць...

Грыша на момант спыніўся.

— Ну, а далей? — спытаў Віця.

— Ён доўгі, я табе на полі раскажу ўвесь... А цяпер давай пачытаю твой заўтрашні ўрок.

Грыша чытаў не гэтак, вядома, як Віцева настаўніца. У той ішло гладка, і вымаўленне было выразнае. Аднак у Віцевых вачах Грыша адразу набыў павагу.

Яшчэ гадзіну назад Віця шкадаваў дзядулю Банадыся, што не будзе каму расказваць цікавыя казкі. Цяпер жа ён нават быў рады, што Грыша замяніў яго. Грыша і сам зможа пабегчы завярнуць каровы, а дзядуля ўсё яго пасылаў. Да таго ж цешыла, што цяпер будзе каму растлумачыць, калі ён чаго не зразумее, як будзе чытаць або рашаць задачкі.

Так хлапчукі доўга сядзелі ля акна. Калі цёмна стала чытаць,— заняліся гаворкаю. Грыша прыгадаў свайго настаўніка. Да чаго добры ён: рэдка калі закрычыць на непаслухмянага вучня, але затое, як пачне прабіраць, дык той не ведае, куды дзецца. Успомніў пра Казіка-аднакласніка, што сядзеў побач з ім на парце.

Гэтым часам з суседняй хаты, што стаяла насупраць той, дзе жыў Пятро, выйшаў хлапчук.

— Во, гэта фурманаў Міша. Да нас, відаць, бяжыць. Ён кожны вечар прыходзіць, калі я доўга не іду да яго,— прыўстаў на калені Віця.— Мы з ім сябруем. У трэцім класе разам сядзелі на адной парце.



Летась ён перайшоў у чацвёрты, а мяне тата згадзіў на падпасыча, і я астаўся на другі год у трэцім,— уздыхнуў Віця.

Хлопчык бег праз двор, абмінаючы лужыны і гразь. У хаце ён забыў прывітацца і, не адсопшыся як след, пачаў скоранька гаварыць:

— Пан наказваў праз тату, каб ты і новы пастух ішлі да пана. І дзядзька Пятро каб разам ішоў.

— Таты яшчэ з аборы няма,— злез Віця з лавы.

— Як вернецца, адразу ідзіце. Тата казаў, пан чакае,— сказаў хлапчук і павярнуўся, кабісці дахаты. Але Віця затрымаў яго.

— Пагуляй, Міша.

— Мама казала, каб не бавіўся доўга. Яшчэ ўрокаў не вывучыў на заўтра.

Віця падышоў бліжэй і шапнуў сябру, зірнуўшы на Грышу:

— Будзе пастухом у пана, замест дзядулі. Ён таксама ў чацвёртым класе вучыцца.

Міша нясмела прайшоў некалькі крокаў наперад, каб лепей разгледзець Грышу. Той таксама акінуў моўчкі позіркам Мішу і злез з лавы. Ён выглядаў на шмат вышэй за абодвух хлапчукоў.

Адступаючы паволі назад, Міша дайшоў да парога і толькі цяпер спытаў у Грышы:

— Ты добра рашаеш задачкі?

— Добра.

— Пакажаш мне, калі я сам не спраўлюся?

— Пакажу.

— Я хаджу аж у Задвор'е да Лёні, калі сам не рашу. Ён добра рашае, настаўніца яго кожны раз хваліць... Пайду, а то мама будзе сварыцца, што забавіўся,— шмыгнуў Міша за дзверы.

Неўзабаве вярнуўся з работы Віцеў бацька, і яны ўсе ўтраіх пайшлі да пана.

Вайтовіч сядзеў у сваім невялікім пакоі за старым пісьмовым сталом і нешта падлічваў. На ціхі стук у дзверы ён павярнуўся і басавіта гукнуў:

— Проша.

Пятро прапусціў наперад хлапчукоў, зачыніў за сабою дзверы, паспрабаваў, ці шчыльна прысталі, і даў добры вечар пану!

— Добры вечар, — кіўнуў галавою Вайтовіч і паказаў Пятру на крэсла.

Парабак падзякаваў і прысеў на краёчку. Хлапчукі стаялі каля парога і моўчкі аглядалі пакой: залацістыя, цісчёныя ў кветкі шпалеры на сценах, памаляваную ў жоўты колер падлогу.

«У Войціка не было такіх пакояў», — падумаў Грыша, і тут жа вырашыў — чаму: «Той пан быў меншы — меў толькі хутар, а ў гэтага цэлы фальварак...»

Вайтовіч тым часам узіраўся ў твары пастушкоў і думаў сваё: «Ці справяцца яны без старэйшага?»

— Як глядзіш, Петрусь, на нашых пастушкоў? — равёў ён позірк на парабка.

— Ды як вам сказаць, пане? — паціснуў Пятро плячыма. — Хлапчукі жвавыя.

— А спаць не ўкладуцца на полі, як мысліш?

— За свайго, пане, ручаюся. А гэтага ж нам раілі як найлепшага і паслухмянага.

— Так, найлепшага і паслушнага, — паўтарыў Вайтовіч, прытупваючы наском бота. — Паглядзім, як будзе... Заўтра няхай выганяюць.
— Гразкавата яшчэ, пане. Цяляты і сёння да калень у гразі папрыходзілі. Ці не пачакаць дзянькі тры з каровамі? Няхай падсохне трохі.
— Можна пачакаць, калі так, — забарабаніў пальцамі па стале Вайтовіч і звярнуўся да хлапчукоў. — Ну як, пасябравалі ўжо?
Пастушкі пераглянуліся і патупілі вочы.
— Не пасябравалі, дык пасябруюць, — адказаў за іх Пятро.
— Сябраваць — сябруйце, але добра пасіце жывёлу. Патраву зробіце — на ваш кошт запішу. І самае галоўнае, глядзіце, каб за мяжу не трапілі з чарадою. Хоць і там мая зямля...
— Відаць, пану і сёлета яшчэ прыдзецца кіраваць толькі гэтым фальваркам, — заўважыў парабак.
Вайтовіч устаў, падышоў да парабка, паляпаў яго па плячы і прыўзнятым голасам пацешыў:
— Нічога, Петрусь, я веру, вер і ты, настане такі час, калі ты будзеш там цівуном.
Пятрусь не ўстрымаўся, усміхнуўся: колькі разоў чуў ён гэта.
— Ну так, аўдыенцыя скончана. Ідзіце дахаты. З каровамі дні тры пачакаем, а цялят заўтра няхай выганяюць, — загадаў Вайтовіч.
Парабак кіўнуў хлапчукам, каб ішлі, а сам не крануўся з месца. Як толькі пастушкі зачынілі дзверы, ён спытаў:
— Якую ж, пане, паложыце плату гэты год майму?
— Леташнюю, Петрусь, леташнюю.
— Малавата, пане. Хлапчук падрос, статак у пана павялічыўся, — прыбавіць трэба.
— Хопіць, Петрусь, хопіць на гэты год. На тое лета будзе відаць... Мая Альбіна раіць, каб прывезены пастушок жыў у цябе.
— Цеснавата, пане.
— Ну, не аддаваць жа дзіцяці цэлы пакой, дзе жыў Банадысь. Там прыдзецца парабку жыць. Хлапчук не зойме шмат месца. Спаць будзе з тваім на адной пасцелі.
— Так то яно так, пане, але ж хлапчуку, акрамя пасцелі, трэба і харч.
— Гэта іншая размова. На харчаванне будзеш мець пятнаццаць кілё мукі на месяц і сёе-тое на акрасу. Не пакрыўджу.
— З харчамі хлапчука можа пан і не пакрыўдзіць, а з аплатай сына абышлі... Другі пан даражэй заплаціў бы, я ў гэтым упэўнены...— Трошкі памуляўшыся, Пятро зайшоў з другога боку: — Можа пан узяў бы сабе і падпаска са стараны, тады яны ўдвух жылі б у Банадысевым пакойчыку.
Вайтовіч пачырванеў у твары, заміргаў вачыма і, павольна прытупваючы абцасам, адказаў:
— Пакойчык, дзе жыў Банадысь, я сказаў ужо, мне патрэбен для новага парабка. Калі ж Петрусь хоча знайсці лепшага гаспадара для сына, то, можа, ён знойдзе і для сябе адразу, каб не разлучацца з хлапчуком... Можа там будзе і кватэра лепшая, і плата большая...
Пятро маўчаў. Што мог ён адказаць на гэта? Каторы ўжо раз напамінае пан пра горкі кавалак парабкоўскага хлеба, пра змрочны прытулак — будку.
— Ах, Петрусь, Петрусь, — засмяяўся раптам пан. — Не будзем псаваць добрых адносін. Як пераедзем у Світалаўку, — ён паказаў рукою на ўсход, — і сыну прыбаўлю плату, і цябе зраблю панам. Трэба жыць надзеямі... Не доўга засталося чакаць.



— Дзякуй пану за абяцанне. Пажывём — пабачым, — надзеў шапку Пятро і выйшаў з пакоя.
Дамоў ён вярнуўся ўсхваляваны. І пакуль жонка не паставіла на стол вячэру — бульбу з шаткаванай капустай — моўчкі тупаў па хаце, хоць там і прайсціся вельмі не было дзе.
Седзячы за сталом, Антося спытала ў мужа:
— Ну, гаварыў жа ты пра Віцеву плату?
— Гаварыў... Леташнюю пакінуў.
— Нічога не прыбавіў?
— Не. Хацеў са злосці не пусціць Віцю. Няхай бы пашукаў сабе на старане, дык ён сказаў і мне шукаць другога пана.
— А каб ён сабе магілу знайшоў, каб ён... — зірнула ў акно Антося і пайшла наліваць зацірку.

### У цёмную ноч

Як апынуўся Вайтовіч у Караліне? Гэта ж не яго дзедаўскі маёнтак? Не. Маёнтак Вайтовічавых вунь у Світалаўцы, на ўсход, кіламетры за чатыры ад Караліны. Калі схадзіць у Куцец на гару і зірнуць адтуль, дык ён відаць, як на далоні. Вайтовіч часта ходзіць туды глядзець на сваё былое багацце. Нават бінокль спецыяльна дастаў.
А як жа ўсё-такі Вайтовіч трапіў у Караліну?
Пра гэта варта расказаць па-парадку.
У адну з цёмных лістападаўскіх начэй семнаццатага года Вайтовіч пакідаў Світалаўку. Спачатку мерыўся спаліць маёнтак, як зрабіў гэта сусед, ды пашкадаваў, прыйшоўшы да такой думкі:
«Час няпэўны, усё яшчэ можа быць: сёння адзін парадак, заўтра — іншы. З дымам такую гаспадарку пусціць не цяжка, а паспрабуй яе пабудаваць. Зрэшты, самі мужыкі паліць не стануць, яны ж упэўнены, што гэта іхняе ўжо, дык навошта мне самому знішчаць. Да таго ж, як бы сабе там ні было — бацькаўшчына, спадчына радавая...»
Перад выездам ён паклікаў цівуна і доўга з ім гутарыў:
— Служыў ты мне, Францусь, доўга і шчыра. І ніколі я не пакінуў бы цябе без кавалка хлеба, калі б не такія падзеі, — пачаў здалёк Вайтовіч. — Сам ведаеш, каля Баранавіч стаіць немец, а тут такая калатэча, што разабрацца нельга: дзе гром, а дзе стрэлы.
— Праўду кажаце. І што гэта, пане, толькі будзе? — спытаў цівун.
— Цяжка сказаць, каханы, чым усё скончыцца. Наш сусед Паланевіч выехаў ужо і маёнтак спаліў на ад'ездзе.
— Сам? — здзівіўся Францусь.
— Сам, — адказаў спакойна Вайтовіч. — Не захацеў пакідаць здабыткаў свае працы парабкам .
— Божачка, божачка, што гэта толькі робіцца на свеце!.. Я чуў, што Паланевічы згарэлі, але каб паны палілі маёнткі самі — дзіва проста, — пацiснуў плячыма цівун.
Вайтовіч гаварыў далей.
— Я да такога вар'яцтва, каханы мой, не дайду. Знішчаць сваё, набытае працай... У мяне не расшчэмяцца вось гэтыя пальцы запаліць сярнічку, — ён патрос правым кулаком, нібы пагражаў камусьці.

— Што вы, пане, што вы, няхай бог бароніць нават ад такой думкі,— перахрысціўся цівун і аж адступіў пару крокаў ад Вайтовіча.

— Так, паліць я не буду, а пакінуць Світалаўку мушу.

— Што, выязджаць будзем, пане? — падаўся наперад цівун, навастрыўшы вуха, ці так ён пачуў.

— Паеду з сям'ёю толькі. Ты, Францусь, застанешся тут.

— Паночак, яны ж мяне жыўцом з'ядуць тут... — аж заламаў рукі цівун.

— Не бойся, не з'ядуць. Пакідаю цябе ненадоўга. Праз невялікі час будзем піць з панам Францусем гарбату за гэтым сталом і ўспамінаць сённяшнюю ноч, калі мне сталі цесныя і страшныя бацькавы пакоі. Як думаеш, каханы, будзе гэта ?

— Пане, я ўпэўнены, што іменна гэтак усё скончыцца.

— Глядзі тут сам, каханы, выкручвайся, як можаш. Ты стары ліс і ходы ўсе ведаеш не горш за свайго пана, але параду маю паслухай: чапляцца пачнуць — звальвай усё на мяне: «Гэта зрабіў сам Вайтовіч, так загадваў мне пан». А да цябе такая просьба: глядзі і запамінай (можна запісваць, толькі асцярожна), хто што возьме, каб ведаць, з каго спаганяць.

На момант цівун задумаўся, пакруціў галавою.

— Адказную, пан, задачу даяцё. Не ведаю, як спраўлюся. Самога за карак могуць узяць.

— Завошта? Ты такі ж парабак, як і ўсе. А цяпер жа яны тут кіраваць будуць.

— Такі, пане, ды не такі. Людзі ведаюць. Сяму-таму насаліў, каб дагадзіць вам.

— Глупства, Францусь. У цябе дзеці, сям'я. Жыць трэба было, і ты выконваў толькі панскую волю. Канешне, не лёгка будзе... Вярнуся, не пакрыўджу... А цяпер пакуль што да пабачэння, шаноўны, пад'ехаў ужо фурман.

Каля ганка затупацелі коні.

— Дык пан едзе? — здзівіўся цівун. — Хоць да відна пачакалі б.

— Баюся, Францусь, каб не спазніцца.

Вайтовіч зайшоў у другі пакой і выйшаў адтуль з жонкай і дваімі дзецьмі. Узяў сам чамадан, паказаў на два другія цівуну і заспяшаў на ганак.

— Ну, глядзі тут... Да хуткай сустрэчы,— упершыню падаў Вайтовіч цівуну руку.

— Шчаслівa, пане. Дай божа, каб ненадоўга, — пажадаў расчулены Францусь.

Праз некалькі хвілін чуваць было, як у цемрыве ночыляскаталі колы па ўмарожанай зямлі. Цівун пастаяў трошкі, паслухаў, зайшоў у пакой, патушыў лямпу, замкнуў дзверы і накіраваўся дахаты.

— Дзе ты бадзяешся ўсю ноч? — сустрэла Француся занепакоеная жонка.

— Бадзяешся... У пана быў, ключоў чакаў.

— Якіх ключоў?

— Ад пакояў. Паны ўцяклі.

— Куды? У такую цемень...— аж усхапілася яна з ложка.

— У такую цемень толькі і ўцякаць. А куды — не ведаю, не сказаў...— прамовіў Францусь, распранаючыся.

— Дык чаму ж ты не ўзяў чаго з пакояў?



— А якую там трасцу возьмеш? Стол? Крэсла? Рэчы ён забраў сам. Чамаданы панапакоўваў.

— Ну, дык хоць крэсла ўзяў бы. Пашкодзіла б, думаеш?

— Мо' пашкодзіць. Ён паехаў, а нам тут быць. Пасля скажуць, што не толькі крэсла ўзяў.

— Век ты перад панам дрыжэў, і без пана дрыжыш,— дапякла жонка.— Дзе ключы? Я сама схаджу. Знайду, што ўзяць.

— І не ўставай лепш, бо ніякіх ключоў я табе не дам.

І не даў.

На світанні Францусь пайшоў у Русінавічы да старшыні камітэта паведаміць, што маёнтак астаўся без гаспадара. Не сказаў, што бачыўся з ім перад ад'ездам. Прыдумаў, быццам раніцою пайшоў па загад, куды каго пасылаць з парабкаў на работу, і не застаў ужо нікога ў пакоях. Відаць па ўсім, уцяклі і ключы пакінулі нават на стале.

Францусь дастаў з кішэні ключы і падаў старшыні.

— Што хочаце, тое цяпер рабіце. Вы і ўлада, вы і гаспадары. Камандуйце. Пасылайце каго жывёлу карміць — пара ўжо.

Цівунова вестка прымусіла задумацца старшыню. Ключы ад пакояў ён паклаў у кішэню, а Францусю сказаў:

— Ідзіце, карміце жывёлу, як кармілі. Я прышлю мужчын вартаваць маёмасць, а сам памчуся ў воласць.

У валасным рэўкоме не вельмі здзівіліся, што знік гаспадар Світалаўкі: не ён першы. У Петраградзе ж новая ўлада, ёсць «Дэкрэт аб зямлі», падпісаны Леніным; але самі рэўкомаўцы без загаду зверху нічога не адважваліся рабіць. Вось чаму яны і старшыні Русінавіцкага сельскага камітэта маглі параіць адно: ахоўваць маёнтак і чакаць іхняй каманды.

На трэці дзень усё выяснілася. Прыехаў з рэўкома прадстаўнік, сабраў сход і абвясціў, што па новаму закону ўся зямля ад паноў адбіраецца і будзе падзелена сялянам — тым, хто на ёй працуе.

Францусь па-ранейшаму вёў усе гаспадарчыя справы ў маёнтку, а гаспадаром над ім быў сельскі камітэт. Шмат было гаворкі тады, як і што будзе рабіцца з панскай зямлёй і скарбам.

Зямлю вырашылі на сходзе дзяліць ранняй вясной, але да гэтага не дайшло. У лютым васемнаццатага года Світалаўку занялі немцы. Яны пайшлі з-пад Баранавіч на ўсход па Беларусі.

Следам за немцамі з'явіўся Вайтовіч. Праўда, не ў той карэце і не на тых конях, што выехаў з маёнтка. Фурмана тады ён адправіў са станцыі пехатой назад, а сам узяўся кіраваць коньмі.

Рознае гаварылі ў той час людзі. Адны казалі — пан падаўся ў горад, каб уцячы за мяжу, другія — з'ехаў недзе ў глуш, далёка ад чыгункі, бо навошта былі б яму тыя коні, за мяжу мог цягніком ехаць.

Цяпер, калі Вайтовіч вярнуўся назад у Світалаўку, усім было ясна адно: ні за якую мяжу ён не ўцякаў, а чакаў недзе паблізу.

У першы ж вечар Вайтовіч і Францусь Цвыркун пілі чай у панскіх пакоях. За дзень яны паспелі пры дапамозе немцаў сабраць усё, што ўзялі русінавічаўцы, і цяпер абмяркоўвалі, як і што рабіць далей.

Францусь яшчэ больш стаў паважаць свайго пана: на гэты раз не толькі за багацце, але і за прадбачлівасць. Ці ж не ён тры месяцы назад запэўніваў свайго цівуна, што ад'язджае ненадоўга? Так і збылося. А ён не верыў, сумняваўся.

— А як, пане, думаеце, бальшавікі вернуцца сюды ці не? — карцела даведацца цівуну.

— Думаю, Франусь, што не. Акрамя немцаў, на савецкую ўладу паўстаў увесь свет.

— Увесь свет на адных, пане?

— Увесь, Франусь, увесь... Колькі часу пройдзе, пакуль знішчаць гэтых бязбожнікаў, цяжка сказаць, але ўстаяць на нагах ім не дадуць.

— Яно вядома, калі ўвесь свет ды на адных, то крута ім прыдзецца, пане, крута,— наліваючы ў сподачак чай, зрабіў свае вывады Цвыркун.

— І я тое ж кажу. Нам можна смела брацца за працу. Няхай яны сабе ваююць, а мы сваё робім, — пацёр ад задавальнення рукі Вайтовіч. Заўважыўшы, што цівун п'е чай упрыкуску, сказаў: — Кладзі цукру больш, саладзі, не шкадуй.

Цвыркун паставіў сподачак на стол, абцёр леваю рукою вусы і на панскае запрашэнне адказаў:

— Дзякуй, пане, нешта мне піць хочацца, а салодкім чаем не ўтаймуеш смагі.

— Глядзі, а то, можа, ты ашчаджаешся, дык не рабі гэтага. За тваю паслугу ты не такога пачастунку заслугоўваеш... Ды мы яшчэ з табою і вып'ем. Пачакай трохі, дай агледзецца.

— Дзякую, пане. Я от п'ю чай ды адно ўсё думаю: цяжка, цяжка бальшавікам, але сіла ў іх вялікая — людзі за іх гарою стаяць.

Адкінуўшы на спінку крэсла галаву, Вайтовіч гучна зарагатаў:

— Знайшоў людзей!.. Хто за іх стаіць? Бедната, галыцьба, абарванцы... Здорава яны напалохалі цябе, Франусь, здорава. Сядзіш са мною, п'еш за адным сталом гарбату і не верыцца табе, што зноў твой гаспадар я, а не камітэт.

— Так, пане, усяго даставалася. Не дзіва, калі і напалохаўся.

— Цяпер можаш смела спаць, каханы, — супакоіў цівуна Вайтовіч. — Немцы далёка за Мінскам, а ад нас да Мінска вунь колькі. Баішся, што людзі за іх? Глупства, дабрадзею.

Але не вельмі супакоілі панскія словы Цвыркуна. Калі ён пытаў, ці вернуцца бальшавікі ў Світалаўку, дык меў намер выведаць, што думае на гэты раз яго пан па такому важнаму пытанню. Цівуну хацелася зрабіць для сябе вывад, як трымацца ў далейшым з людзьмі.

Увосень яго палічылі ў камітэце сваім чалавекам: Франусь сам прынёс ключы ад пакояў, не ўзяўшы адтуль нават маленькага драбка. Не кожны б зрабіў гэтак. Калі ж яму даручылі весці гаспадарчыя справы маёнтка, выконваў іх з большай стараннасцю, чым пры Вайтовічу.

Злавіўшы аднаго разу даглядчыка жывёлы, былога парабка, які адкрыта нёс з маёнтка пад пахай жмут сена сваёй карове, Франусь завёў яго ў камітэт да старшыні і пры ўсіх пачаў лаяць:

— Спытайце ў яго, чыё нясе? Ваша, іхняе,— паказваў Цвыркун на прысутных.

— Тваё, — дадаў хтосьці з ноткай іроніі.

— І маё, калі на тое пайшло... Цяпер гэта ўсё наша, агульнае.

— Так рабіць нельга, — сказаў даглядчыку старшыня камітэта.— Няма чым карміць, напішыце ў камітэт заяву, і вам дадуць.

Цвыркун адразу ўхапіўся за старшынёвы словы.

— Што праўда, то праўда, — падтрымаў ён цяпер ужо даглядчыка, — у яго няма чым карміць. Улетку не накасіў, як давалі сенажаць парабкам, бо хварэў... Яго частку стравілі дваровым статкам.



Ідучы назад у маёнтак, Франусь даводзіў сваё:

— Табе не гневацца трэба на мяне, а дзякуй сказаць. Напішаш заяву і будзеш мець не жмут, як ты нёс, а воз, а то і два. Ты чуў, я пацвердзіў, што ў цябе няма чым карміць, а карове даваць нешта трэба. Мой голас яны ўлічаць пры разглядзе заявы, пабачыш...

У камітэце ж тады гаварылі пра Франуся рознае:

— Свой чалавек, — казалі адны.

— Выслужваецца, каб замаліць свае грахі, — казалі другія.

Але што б там ні гаварылі, а выпадак з даглядчыкам падняў аўтарытэт Цвыркуна ў вачах камітэта.

— Такі чалавек патрэбен пакуль што нам, — гаварылі камітэтчыкі. — Дай патачку аднаму, другому — ахапкамі ўсё парасцягваюць.

І вось цяпер, седзячы за панскім сталом, Цвыркун прыгадаў гэты выпадак Вайтовічу. Той не ўтрымаўся, каб не пахваліць свайго служку.

— Я ведаў, каму даверыць сваю маёмасць.

## Караліна

Вясна васемнаццатага года выдалася ранняя. Зноў на світалаўскім полі закіпела праца.

Вайтовіч конна аб'язджаў цяпер палеткі, сам наглядаў, дзе як і што робіцца парабкамі.

Зноў адчулі русінавічаўцы панскі прыгнёт, як пры царскім рэжыме: ні табе галля ў лесе набраць, ні карову на выган пусціць, ні нават у рэчцы рыбы налавіць — усё панскае, усё забаронена.

У Світалаўцы размясцілася нямецкая камендатура, яна прыдавала Вайтовічу яшчэ большую сілу ўлады: побач былі абаронцы. Гэтыя абаронцы былі дужыя толькі над сялянамі, а стрымаць тую сілу, што ішла з усходу, не змаглі.

У снежні васемнаццатага года з усходу на сваіх баявых сцягах маладая Чырвоная Армія прынесла ў Світалаўку новае жыццё. Апранутыя ў рознае адзенне, з чырвонымі стужкамі наўскасяк на сваіх зімовых шапках, чырвонаармейцы прынеслі волю і радасць бедным людзям.

І на гэты раз Вайтовіч загадзя ўцёк са Світалаўкі. Разам з ім выехаў і Цвыркун. Дарога на захад была адкрыта, і неўзабаве тыя апынуліся аж пад Варшавай. Там Вайтовіч прасядзеў аж да восені дзевятнаццатага года, а ў верасні зноў рушыў у дарогу, назад. Напышлівы і ганарлівы, ён ехаў следам за польскім войскам, ачмураным марамі Пілсудскага — стварыць вялікую польскую дзяржаву «ад мора да мора».

Зноў, як пры немцах, дзесяць месяцаў раскашаваўся Вайтовіч на дзедаўскім кодлішчы.

Дажыў ён у маёнтку да лета. А ў пачатку ліпеня 1920 года зноў прыйшлося ўсё кідаць. Жывёлу загадзя выгналі са Світалаўкі на захад, лугі ўсё ж касілі ды стагавалі: Вайтовіч цвёрда верыў — не аддасць Пілсудскі бальшавікам Мінска.

— Што нашы адступілі трохі ад Бярэзіны, дык гэта яшчэ не гаво-

рыць пра бальшавіцкую перамогу, — супакойваў Вайтовіч свайго цівуна. — Мне казаў адзін разумны стары: на вайне, як у картах. Можа і праўда. Удалося бальшавікам адагнаць нашых ад Барысава, глядзі, каб самі не адцураліся Смаленска.

Але як ні суцяшаў сябе Вайтовіч ранейшага спакою ў яго ўжо не было: гарматны гул усё набліжаўся з усходу да Світалаўкі.

Нарэшце аднойчы надвячоркам пан з сям'ёю і цівун пакінулі маёнтак, далучыўшыся да гурту такіх жа ўцекачоў.

— Цянькам лепш будзе ехаць, заядзі менш, — смяяліся сяляне, перадаючы адзін аднаму вестку пра чарговыя панскія ўцёкі.

Увосень дваццатага года Вайтовіч ехаў зноў следам за польскім войскам назад у свой маёнтак, ён цвёрда быў упэўнены, што гэта апошняя яго вандроўка з захаду на ўсход, «На гэты раз будзе створана-такі Польшча ад мора да мора, — разлічваў Вайтовіч, — і я назаўсёды застануся ў бацькавым маёнтку».

Што загінула ўся жывёла, што ўцалела сяк-так толькі пара коней, на якіх вяртаўся адзін, без цівуна, — гэта ні кропелькі не бянтэжыла Вайтовіча. Яму абяцаў знаёмы генерал даць пару дзесяткаў салдат на першы пачатак. З такой сілай ён сышча не толькі сваё ад русінавічаўцаў, але забярэ ў іх, што захоча, і наладзіць сваю гаспадарку. Ён цяпер адбудуе Світалаўку, каб усе суседзі пазайздросцілі. Ён не Паланевіч, што спаліў свой маёнтак, а цяпер і прытуліцца не мае дзе.

Не ведаў Вайтовіч, што гэта толькі спакуслівыя мары, не ведаў, што шчасце пачынае здраджваць яму. Пакуль ён дабраўся да сваёй Світалаўкі — паміж Польшчай і Савецкай Расіяй наступіла перамір'е. Часовая граніца адрэзала яго сядзібу, палі і сенажаці бальшавікам.

Вайтовіч даехаў да самай граніцы, доўга глядзеў на Світалаўку і ніяк не мог пагадзіцца з думкай, што нельга трапіць у свае пакоі. Вунь яны, у кудзерцы ліп і каштанаў, рукою падаць, а дайсці нельга.

Хтосьці з суседзяў параіў яму на тым часе з'ездзіць у Варшаву да міністра і прасіць заступніцтва.

— Мяжа яшчэ нетрывалая, мо' змены будуць, як пачнуць удакладняць. Калі на тое пойдзе, нашы могуць за панскі маёнтак у другім месцы некалькі вёсак з беднякамі аддаць. Тыя ж з ахвотаю пойдуць пад бальшавікоў, гэта ж іхнія абаронцы. Ці ж не праўду я кажу?

— Праўду, суседзе, — згаджаўся Вайтовіч.

У Варшаве так і паабяцалі яму. Назад Вайтовіч вярнуўся тады з надзеяй — у самы бліжэйшы час пераехаць на бацькаўшчыну. А пакуль што прыйшлося атабарыцца ў Каралінскім фальварку, не хацелася далёка ехаць ад Світалаўкі.

Гаспадары Караліны — маладыя польскія афіцэры — служылі ў войску, а кіраваў гаспадаркай цівун.

Убачыўшы аднойчы на свае вочы, што ставяць пагранічныя слупы на гэты бок маёнтка, Вайтовіч памчаўся ў павет да свайго знаёмага начальніка дэфензівы. Той спакойна выслухаў сябра і засмяяўся:

— Ты верыш у моцнасць гэтай мяжы, калега? Царскі трон не такі быў моцны, і то разбурыўся, а гэтыя слупы — дрэнь, — махнуў ён рукой.— Пакуль жывы наш Пілсудскі, ні адзін паляк не павінен траціць надзеі на ўтварэнне Вялікай Польшчы. Так, так, калега.

Ад сябра Вайтовіч вярнуўся абнадзеяны. Аднак настала пара падумаць, як жыць далей. Калі граніца адсунецца пад Смаленск — невядома, а што рабіць заўтра? Пакуль не было сталай граніцы — тлела вера ў яго сэрцы на зварот у Світалаўку, а цяпер трэба пераходзіць на больш сталае жыццё і спадзявацца, як раіць калега, на лепшае.



Жывучы кватарантам, Вайтовіч добра вывучыў справы фальварка. Не раз думаў, як бы ён вёў гэтую гаспадарку, калі б давялося тут жыць. І калі неўзабаве прыехаў дахаты пагасціць малады афіцэр, Вайтовіч расказаў яму пра цівуновы штучкі.

— А што рабіць? Мы самі ведаем гэта, але выкрыць яго круцельства наездамі не толькі цяжка, ды і немагчыма. Кідаць службу ў войску праз гэты фальварак нам не хочацца. Да таго ж рукі і ў мяне, і ў брата да зямлі не горнуцца, — прызнаўся шчыра афіцэр.

Вайтовічу толькі гэта і трэба было.

— Тады я асмельваюся прапанаваць пану свой план: здаць мне фальварак у арэнду. Можна на год, можна на два, пакуль праясніцца на ўсходзе,— намякнуў ён на змену граніцы і для ўпэўненасці сам спытаў: — Пан таксама верыць, што слупы на маёй зямлі недаўгавечныя?

— Так, пане, веру і спадзяюся, што мы яшчэ будзем балявыць з прыгожымі паннамі ў вашых пакоях.

— Пан ведае маё становішча і ў імя нашай агульнай ідэі згодзіцца даць мне прытулак арандатара. І сэрцы вашы будуць на месцы, — што належыць, паны атрымаюць, — і гаспадарка ў доглядзе. Ваш нябожчык бацька ведаў мяне як добрага гаспадара, і вы самі ў гэтым хутка ўпэўніцеся.

Афіцэру спадабалася Вайтовічава прапанова: гаспадарка будзе ў лепшым доглядзе, ды і плата выходзіла амаль у два разы большая, чым прыбытак, што атрымлівалі яны ад цівуна. Ён напісаў пра ўсё брату, той згадзіўся, і неўзабаве была падпісана ўмова на арэнду.

Вайтовіч перш-на-перш выгурыў цівуна. Той згаджаўся нават застацца звычайным парабкам у Караліне ў надзеі, што арандатар калі-небудзь адмовіцца арандаваць фальварак, і ён зноў стане цівуном, але новы гаспадар і слухаць не захацеў. Пасля ўзяў новых парабкаў, у ліку якіх апынуўся Пятро Галодка.

Пятро быў чалавекам гаспадарлівым, і неўзабаве пан узяў яго за асобную даплату да парабкоўскай ардынарыі сваім памочнікам. Новага цівуна Вайтовіч не ўзяў, і Галодка памагаў яму, дзе парадамі, дзе справай.

Тры гады Вайтовіч арандаваў Караліну. Потым афіцэры прапанавалі яму купіць фальварак. Самі яны збіраліся выходзіць у адстаўку і спадзяваліся на асадніцкія надзелы, «Дык чаму не мець дармовых грошай», — разважалі браты.

Так і зрабіўся Вайтовіч гаспадаром Караліны, не трацячы надзеі далучыць калі-небудзь да яе Світалаўку.

Начальнік павятовай дэфензівы стаў частым госцем у Караліне. Ён ведаў запаветныя мары калегі і, як спрактыкаваны ў такіх справах чалавек, прывозіў у фальварак самыя неверагодныя чуткі. Запёршыся ў пакоі, Запольскі выдаваў іх пад вялікім сакрэтам сябру за найвялікшую праўду.

Уся гаворка калег круцілася вакол граніцы. Часамі вызначаўся пэўны дзень, калі польскія салдаты на сваіх штыках панясуць пагранічныя слупы далёка за Мінск, за Оршу, за Кіеў. Наэлектрызаваны, Вайтовіч з нецярплівасцю чакаў тае шчаслівай хвіліны.

Прыходзіў вызначаны тэрмін, а граніца заставалася на месцы. Гэта ні кропелькі не бянтэжыла Запольскага. Пры сустрэчы з Вайтовічам ён ціхенька апраўдваўся:

— Не наша віна, каханы. На захадзе не гатовы, а без іх Польшча не хоча пачынаць. Трэба наваліцца ўсім разам, знянацку, каб не мець вялікіх ахвяр.

Вайтовіч шчыра верыў і не траціў надзеі. Калі ў дваццаць пятым годзе на світалаўскіх палях упершыню загудзеў трактар «Фардзон», Вайтовіч якраз быў у пагранічнай стражніцы. Разам з начальнікам аховы падышлі яны да самай граніцы і доўга па чарзе разглядалі ў бінокль, як следам за трактарам хадзіў натоўп саўгасаўскіх рабочых, школьнікаў. Гэта было тады вялікай падзеяй: на поле прыйшоў сталёвы конь з некалькімі плугамі.

— Да ўсяго іншага і гэта дастанецца мне. Так ці не? — паціраючы рукі, спытаў Вайтовіч.

— Так, пане, так, — адказаў начальнік стражніцы. Ён ведаў слабасць суседа і не хацеў яму пярэчыць.

Як цёпла ды сонечна на дварэ, дык і Грышу з Віцем весялей. Можна і расказаць што-небудзь адзін аднаму, і пачытаць нават разам, калі каровы добра ходзяць. А чытаць хлапчукі любяць. Каторы год ім ужо не даводзіцца ў ахвоту павучыцца ў школе. Толькі таго і вучэння, што зімою, а ўвесну зноў становяцца пастушкамі: ранняя вясна — раней, позняя — пазней.

Часам разгаворацца хлапчукі пра сваё жыццё.

— Чаму ты, Віця, служыш? У вас жа няма малых дзяцей, — спытаецца Грыша.

— А хіба цябе малыя дзеці пасылаюць? — здзіўляецца Віця.

— Ну, але. Тата кажа, мне трэба памагаць гадаваць іх. Як падрастуць Янка, Петручок і Валя, тады і мне палягчэе: я не пайду больш служыць. Няхай пан сам пасе або дзяцей сваіх пасылае.

Віця цмокнуў языком і ўскінуў галаву.

— Не пашле пан сваіх дзяцей у пастухі. Яны ж у горадзе вучацца. Кожнае лета сюды прыязджаюць. Пабачыш сам якія. У чаравіках, і гарнітуры чорныя, суконныя, не раўня нашым — шарачковым. Старэйшы, Янак, адзін раз нават цукеркамі пачаставаў.

— Добра ім, яны і ўзімку вучацца, і ўлетку нічога не робяць, — уздыхае Грыша.

— І я не буду служыць, як тата купіць зямлі. Цяпер я памагаю тату зарабляць грошы.

— А калі ён купіць?

— Не ведаю. Тата казаў, скора, — і, азіраючыся навокал, шапнуў: — Мы ўжо сабралі трохі грошай.

— А дзе вы будзеце купляць?

Віця паціснуў плячыма.

— Тата кажа — абы грошы, дык зямля знойдзецца.

— Дзіва што знойдзецца, — згаджаецца Грыша і гаворыць: —у нас дзядзька Лявон прадае і зямлю, і хату, і хлеў — усё, а сам паедзе некуды далёка, да сына.

Момант хлопцы маўчаць, потым пачынаецца гаворка пра школу.



— У вас новая школа? — пытае Віця.

— Не, такая, як ваша, толькі большая. У нас аж дзевяноста вучняў, у дзве змены вучацца.

— А настаўнік ваш строгі?

— Строгі-строгі, — адказвае Грыша, — але добры, нікога не б'е. Летась быў другі, дык той біў і на калені ставіў.

— Наша настаўніца вясёлая. Скажа што-небудзь смешнае і сама смяецца разам з намі. Яна шкадавала мяне, як адпускала за пастушка. Пагразіла вось так пальцам і кажа:

— Не забывайся на кнігу, дык я цябе перавяду ў чацвёрты клас.

— Давай пачытаем, — прапануе Грыша, — цяпер добра каровы ходзяць.

Віця расхінае хустачку, дастае абкладзены ў шэрую паперу падручнік, і хлапчукі садзяцца на камені. Спачатку чытае Грыша, а за ім Віця. Чытае Грыша бойка, бо ўсё гэта ён праходзіў летась. Віцю таксама лёгка чытаць за Грышам.

Начытаўшыся, хлопцы разыходзяцца, падганяюць кароў, што разбрыліся па ўсім папары.

Колькі разоў Грыша бачыў з гэтага месца, як уздымаецца ўгору жаваранак. Здаецца, вісіць на нябачнай нітачцы ў паветры і звініць-звініць.

Вось і цяпер Грыша прыклаў руку да ілба і сочыць, як жаваранак падае каменем на зямлю.

— Ці не вядуцца яны тут? — гаворыць сам сабе Грыша і спяшаецца да таго месца, дзе апусцілася птушка. Шэранькую, пад колер пасохлай травы, яе цяжка прыкмеціць здалёк. Хлапчук ледзь не наступіў нагою. Птушка страпянулася і пырхнула проста над яго галавою ўгору.

— Ты думаў, яе гняздо тут? — пытае Віця, падышоўшы бліжэй.

— Угу, — адказвае Грыша, не адрываючы вачэй ад птушкі.

А жаваранак усё вышэй ладымаецца ўгору. Вось ён выглядае ўжо жучком, затым мухай і нарэшце зусім знікае ў блакіце.

— Гэта ён адпачываць садзіўся, — растлумачвае Віця. — Пачакай трошкі, хутка зноў каменем упадзе.

— А дзе яны вядуцца? Я ні разу не знаходзіў іх гнёздаў.

— На зямлі, каля каменя ці купінкі якой. Іх цяжка знайсці. Летась мы з дзядулем знайшлі адно гняздо. Ён ледзь не наступіў, тады толькі ўспырхнула птушка. А як мы адышліся, зноў села на яйкі. Дзядуля казаў, жаваранкі мяняюцца: адзін сядзіць у гняздзе, а другі паблізу спявае, каб таму не было сумна.

— Адкуль твой дзядуля ведаў!?.

— Ён усё-ўсё ведаў. Толькі чытаць не ўмеў. А казак колько знаў! Як пажнуць, тады лягчэй пасвіць, і дзядуля мне расказваў. От каб мы з табою былі ў яго падпаскамі, дык разам слухалі б тыя казкі, і дзеду лягчэй было б. А то летась вунь на тым палетку ён два разы ўпусціў кароў у ячмень. Я ішоў з левага боку, ад аўса, а ён з правага. Увечары пан лаяў, лаяў дзядулю і сказаў, што апошні годваждаецца з ім, а ўвосень паклікаў да сябе і сказаў: «Ідзі ад мяне з богам... Не патрэбен ты мне такі стары».

— І куды ён пайшоў?

— Не ведаю. Мусіць, жабраваць, — адказаў Віця.

Грыша цяжка ўздыхнуў. Шкада яму стала і дзядулю адзінокага, і што казак не пачуў ад яго.

Каб перавесці гаворку на іншы лад, Віця, задраўшы галаву ўгору, дзе чулася жаваранкава песня, сказаў з жалем у голасе ні то да Грышы, ні то да сябе:

— Добра ім.

— Каму?

— Птушкам. Ніякага клопату. Пад'ядуць і спяваюць. А ў вырай паляцяць — колькі цікавага пабачаць па дарозе. От, каб мы з табой былі птушкамі!— уздыхае Віця.

— Дык што?

— Паляцелі б і паглядзелі, што робіцца за тымі кустамі, як жывуць людзі. Тата кажа, там зусім іначай жывецца: ні парабкаў, ні паноў у іх няма. І такія хлопцы, як мы, вучацца ў школе.

— Адкуль твой тата ведае гэта? Ён жа там не быў.

Віця адказаў не адразу. Ён насцярожана азірнуўся і паціхеньку сказаў:

— Да таты іншы раз прыходзіць нейкі дзядзька і расказвае. Я сам чуў, прытаіўшыся на ложку.

— Маніш.

— На, глядзі, — хлапчук склаў накрыж два мезеныя пальцы і пацалаваў. Гэта лічылася найбольшай клятвай.

— Можа і праўда, — згадзіўся Грыша.

— Калі-небудзь тата сам табе раскажа, паслухаеш.

Пастушкі некаторы час пастаялі яшчэ, паглядзелі на ўсход, дзе праходзіла граніца, і пакрочылі далей, следам за каровамі.

## Незнаёмыя людзі

Неяк пад канец лета хлапчукі гналі кароў з раніцы і сустрэлі двух мужчын.

Грыша першы заўважыў іх і сказаў сябру:

— Віця, глянь, нейкія незнаёмыя ідуць з фальварка.

— Хто ж бы гэта? Паглядзім, — пачаў узірацца Віця.

Мужчыны набліжаліся. Апрануты яны былі ва ўсё чорнае, у капелюшах, а на шыі віднеліся чорныя матылёчкі. Адзін з мужчын насвістваў нейкую лёгкую песеньку, а другі разглядаў па баках, відаць, незнаёмую для яго мясцовасць.

— Вунь таго, ніжэйшага, я ведаю. Летась увосень прыязджаў. У яго на гэтым месцы, — паказаў на сваёй шыі з левага боку Віця, — шрам ёсць. От пабачыш сам, як падыйдуць... Місюк яго прозвішча. Тата казаў, ён з Лукашоў. За мяжою ёсць такая вёска.

— А як жа ён трапіў сюды?

— Тата гаварыў... — пачаў было Віця, але, заўважыўшы, што з яго боку каровы павярнулі да збажыны, пабег адганяць.

Незнаёмыя тым часам параўняліся з Грышам і спыніліся.

— Ты што тут робіш? — спытаў ніжэйшы.

— Панскія каровы пасу, — адказаў пастушок, разглядаючы мужчын. Ён сам цяпер убачыў сінявaты рубец на шыі незнаёмага і падумаў: «Праўду казаў Віця».

— Замест Банадыся?



Хлапчук кіўнуў галавой.

— Скуль жа ты?

— З Пяскоў.

— Маці ёсць, бацька?

— Угу,— адказаў Грыша.

— Ну, ідзі, памагай свайму памочніку, — кіўнуў ніжэйшы ў той бок, дзе Віця адварочваў кароў.

Не паспеў Грыша ступіць некалькі крокаў, як той жа голас аклікнуў яго.

— Хлопча, ідзі сюды.

Грыша павярнуўся і нясмела пайшоў назад, падумаўшы: «Што яму яшчэ трэба?»

Спытаўшы, як зваць пастушка, Місюк працягнуў яму белую манету:

— На, вазьмі сабе на цукеркі.

Хлапчук хуценька ўзяў грошы і хацеў пацалаваць у руку за гасцінец, як цалаваў дома бацьку, але Місюк не даўся.

— О, ты не толькі сквапны на грошы, але і далікатны хлоп*!— зарагатаў другі мужчына, акінуўшы яшчэ раз Грышу з ног да галавы праніклівым позіркам. Потым сказаў да Місюка: — Пойдзем, Анджэй, — і сам першы пашыбаваў у бок мяжы.

Незнаёмыя пайшлі, а Грыша нейкі момант стаяў збянтэжаны і чырвоны ад кпінаў. Заціснутая ў кулак манета, здавалася, пякла агнём яго пальцы. Ён расшчаміў іх, прачытаў:— Дваццаць грошай,— перавярнуў на другі бок, паглядзеў на аднагаловага арла і шпурнуў манету наўздагон Місюку.

— Падавіцеся імі!

Але што за дзіва, як толькі манета ўпала ў траву, Грышу стала шкада яе.

«Гэта ж колькі было б цукерак! Можна было б нават Петручку, Янку і Валі паслаць, як прыдзе зноў мама ў нядзелю даведвацца», — падумаў хлапчук, не ведаючы таго, што яшчэ здарыцца з ім да нядзелі.

Грыша добра бачыў, куды паляцела манета, і памкнуўся быў ужо бегчы па яе, але Віця гукнуў адганяць каровы ад збажыны. Грыша пабег, а як вярнуўся — не мог ужо знайсці тое месца.

Пра здарэнне з грашыма Грыша не расказаў Віцю, балазе той не бачыў. Скажы яму — смяяцца будзе, а то, чаго добрага, і манюкам палічыць. Хто гэта кіне сваімі рукамі грошы.

Віцю, вядома, цяжка было б зразумець, чаму так зрабіў Грыша. Ён не ведаў, што ў сябра такая натура: не па нутру што, адразу паказвае гэта.

Яшчэ Грыша не хадзіў парабкаваць, калі з ім быў такі выпадак. Аднае раніцы яго брат Янка разбіў гліняны кубак, якім пілі ваду з вядра. Разбіў сам, а зваліў віну на брата. Маці, не разабраўшыся, распаразала фартух і адлупцавала Грышу.

Грыша пакрыўдзіўся на матчыну несправядлівасць і ўвесь дзень нічога ў рот не ўзяў, як ні прынукала маці. Толькі ўвечары, калі прыехаў з лесу бацька і ўсёю сям'ёю разабраліся, хто вінаваты, а маці неяк ласкава-ласкава сказала: «Сыночак, еш, а то памрэш», ён прыняўся за ежу...

Прыгнаўшы з раніцы каровы, пастушкі засталі ў фальварку яшчэ

* Хлоп — па-польску мужык.

аднаго прыезджага чалавека. Ён стаяў на ганку, плячыма да хлапчукоў, і нешта расказваў Вайтовічу. Той рагатаў, аж заходзіўся. Раптам прыезджы павярнуўся, і Віця пазнаў яго: гэта быў Запольскі.

— Ён часта да нашага пана прыязджае: адзін, а то з кім-небудзь,— растлумачыў Віця.

— У госці? — пацікавіўся Грыша.

— Ну, а то чаго ж!.. Наш пан ездзіць да яго ў павет, а ён сюды.

Віця нават і думаць не мог, чаго прыязджаў Запольскі. А той пад выглядам гасцей прывозіў сам або прысылаў людзей вывучаць граніцу. Яны жылі два—тры дні ў фальварку, наведвалі пагранічную стражніцу, хадзілі крадком уздоўж граніцы лесам, стараючыся не вытыркацца на прагал, каб не заўважылі іх з савецкага боку.

Вечарамі ў фальварку наладжваліся гулянкі, на якія часта прыязджаў і начальнік стражніцы. Усёю кампаніяй спявалі ваяцкія песні і разам з гаспадаром строілі планы, калі і як будуць спраўляць баль у Світалаўцы.

Потым Вайтовічаў фурман адвозіў прыезджых у павет і ў Караліне зноў наступала цішыня.

Дома ўжо, загнаўшы каровы ў абору, Віця расказаў пра Місюка ўсё, што чуў раней ад бацькі.

У свой час Андрэй Місюк разам з бацькамі жыў у Місюкоўшчыне, на невялічкім хутары каля Лукашоў. У дзевяцьсот дваццатым годзе, увосень, калі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй было падпісана перамір'е і праведзена часовая граніца, лукашоўскія палі засталіся на савецкім баку, а вёска з хутарам пад Польшчай.

Некаторыя з жыхароў, у тым ліку і Місюкі, пастараліся выкарыстаць такое зручнае становішча для сваёй выгады. Едучы ці ідучы на поле, яны бралі з сабою соль ці другія тавары, якіх тады пасля грамадзянскай вайны не хапала ў савецкіх людзей, і прадавалі па высокіх цэнах.

Неўзабаве савецкія пагранічнікі выкрылі гэтыя штучкі і аднаго разу доўга гналіся за Андрэем Місюком. Страляць наўздагон нельга было — перад імі раскінуліся лукашоўскія хаты. Місюк гэта ведаў і ні на якія пагрозы, крыкі не зважаў.

Пасля такой аблавы Місюк не ездзіў больш на поле. Бацькі яго, даведаўшыся, што іхні хутар пры ўдакладненні граніцы адыходзіць пад бальшавікоў — выехалі з усім сваім скарбам з Місюкоўшчыны ў суседнюю вёску і асталіся пад Польшчай.

У Рымашах, адкуль Пятро быў родам, Місюкі купілі невялікую гаспадарку і асталяваліся там. Андрэй аднойчы паспрабаваў лёгкага хлеба: у яго цяпер не цягнуліся больш рукі да працы. Тут ён хутка здружыўся з Васілём, маладзейшым за сябе хлопцам заможных бацькоў.

Васіль быў падатлівай натуры і са старэйшымі трымаў сябе заўсёды пакорліва і паслухмяна. Андрэй умомант заўважыў падатлівасць сябра і пастараўся яе выкарыстаць. Ён пачаў расказваць, як лёгка даставаліся яму грошы ў Місюкоўшчыне, пастараўся размаляваць той выпадак, калі гнаўся за ім савецкі пагранічнік.

Андрэй не пасаромеўся нахлусіць сябру пяць карабоў з коптарам, каб выставіць сябе перад ім адважным і смелым. Заўважыўшы, што Васіль верыць, Андрэй падышоў здалёк да галоўнага.

— Бацька ў мяне скнара і няcмелы, — уздыхнуў ён, — а то не гэтак можна было б жыць... Золата хавае без карысці, а яго можна пусціць у такі зварот, што рубель два прынясе.

— Як гэта? — здзівіўся Васіль.

— Як? Галаву трэба мець, Вася, і ёю працаваць. Мазалямі не нажывеш багацця, — знарок заінтрыгоўваў сябра Андрэй. — Як жылі на хутары, я падгледзеў, дзе бацька хаваў свой скарб, а тут, на новым месцы, не магу ніяк...

Васіль ледзь не прагаварыўся, што ён ведае, дзе яго бацька хавае золата і польскія маркі, але стрымаўся неяк, хоць і вельмі карцела выказаць тайну. Андрэй заўважыў хваляванне сябра, але не падаў выгляду.

Назаўтра ён зноў павёў гаворку пра грошы:

— Каб хоць паўсотні на першы пачатак.

— А як жа ты аднясеш тавар на той бок? Цябе ж зловяць, — усумніўся Васіль.

— Мяне зловяць? Лавілі ўжо, — зарагатаў Андрэй. — Я там усе сцежкі-дарожкі ведаю. Ні нашы салдаты, ні бальшавікі не ўбачаць нават. Трэба сёе-тое вось тут мець, — пастукаў ён па Васілёвым ілбе, — калі такімі справамі займаешся. Каб у нас было сто рублёў золата, мы схадзілі б з табой разам... Я не хачу прасіць у бацькі, ды ён і не дасць, скнара гэты.

На трэці дзень Васіль сам прынёс грошы. Хацелася паказаць сябру, як дарага яму дружба. Андрэй спакойна ўзяў бліскучыя манеты, пералічыў іх і паабяцаў аддаць у два разы больш.

— Толькі ты адразу аддасі, як вернешся. Я так узяў, каб тата не ведаў. Дазнаецца — заб'е.

— Канешне, адразу, — сур'ёзна адказаў Андрэй. — Хіба я не разумею, пад якім страхам ты будзеш хадзіць гэтыя дні, пакуль я вярнуся.

Насупіўшы бровы і падцяўшы губы, Андрэй нейкі момант моўчкі глядзеў на грошы, потым падняў вочы на Васіля і сказаў:

— Хадзем, Вася, разам, што заробім — папалам. Дружыць, дык дружыць. Твае грошы, мой вопыт...

— Тата не пусціць, — пакруціў галавою Васіль.

— А ты не кажы дома нічога. Я таксама пайду цішком.

— Не скажу цяпер, як вернемся — спытаюць.

— Тады сварыцца не будуць. Ты ціхенька паложыш бацькавы грошы і пакажаш, колькі зарабілі. Дома слова не скажуць, пахваляць нават. Васіль не ўстаяў.

Назаўтра ранічкай хлопцы пайшлі ў горад, купілі на ўсе грошы сахарыну і, не заходзячы дахаты, падаліся на Лукашы. Там праляжалі ў лесе да позняй ночы, выглядзелі, дзе лепей пераходзіць граніцу, і змрокам папаўзлі цераз яе.

На тым баку, як расказваў Андрэй, наткнуліся на засаду і далі драпака. Ён вярнуўся з перавязанай шыяй, а Васіль зусім прапаў. Васілёвы бацькі паднялі лямант, крык, але Андрэй напалохаў іх, што калі даведаецца ўлада, дык і яны яшчэ адказваць будуць.

— Можа жывы дзе, можа ранены, як і я, дык хоць некалі вернецца, супакойцеся, — даводзіў Андрэй.

Людзі ж пасля гаварылі рознае. Адзін з Місюковых суседзяў, якому давялося пабачыць незагоеную рану на Андрэевай шыі, казаў:

— Такой раны куля ніяк не можа зрабіць, быў я на вайне, ведаю. Нажом нехта паласнуў. Можа той жа Васіль, абараняючыся.

— А што, усё можа быць, — згаджаліся з суседавымі довадамі рымашоўцы.

Некаторыя нават раілі Васілёваму бацьку заявіць у паліцыю, але той баяўся раскрываць рот. Ён верыў больш Андрэю, што сын яго на тым баку, чым здагадкам сваіх аднавяскоўцаў. «А ўвядзеш у вушы паліцыі, могуць штраф яшчэ даць або судзіць нават», — думаў стары.

Хутка ў Андрэя з'явіўся новы суконны гарнітур зялёнага колеру і хромавыя боты. Бацька пусціў пагалоску, што хлопец збіраецца жаніцца, таму і прыбраўся ва ўсё новае.

А людскія языкі гаварылі другое:

— Вунь дзе плачуць грошы Васілёвага бацькі.

— Можа не толькі грошы, а і Васілёва жыццё...

Пра ўсё гэта Вайтовіч, даведаўшыся ад Пятра, расказаў Запольскаму. Той выклікаў Андрэя да сябе і доўга з ім гутарыў.

— Я мог бы цябе аддаць пад суд за такую справу, як пераход мяжы, але спадзяюся — ты для нас можаш зрабіць некаторую паслугу і гэтым выкупіць сваю віну. Работа ў нас не цяжкая, плацім не дрэнна...

Андрэй выслухаў, што трэба рабіць, і згадзіўся. Праца прыйшлася яму да спадобы. Месяцы праз тры пасля першага наведвання ім дэфензівы з Рымашоў забралі трох хлопцаў, калі тыя чыталі забароненыя творы. Хлопцы доўга не маглі ўцяміць, адкуль даведаліся пра гэта дэфензіўшчыкі. Не паспелі тыя вярнуцца, як зноў забралі яшчэ двух.

Следам за апошнімі двума арыштаванымі Андрэй пераехаў працаваць у павет. Адтуль яго неўзабаве паслалі на курсы, дзе ён прабыў некаторы час і вярнуўся са спецыяльным прызначэннем.

Запольскі не мог нацешыцца са свайго выхаванца. Ён быў рады, што такога служаку давялося знайсці іменна яму.

Пры зручным выпадку Запольскі любіў праехацца з Місюком. І на гэты раз яны завіталі ўтрох у Караліну.

Каб дагадзіць Вайтовічу, Запольскі маляваў карціну, як у адзін цудоўны дзень будуць даваць драла бальшавікі са Світалаўкі. Ён да пояса нахіліў сваю галаву перад фальваркоўцам, паказваючы гэтым, як схіляцца перад сваім панам світалаўскія парабкі, а следам за імі — русінавічаўцы.

Вайтовіч ззяў ад будучага шчасця.

— А скажы, каханы мой, будзе гэта ўдзень ці ўночы? Як думаеш?

— Толькі ўдзень. У цудоўны, сонечны дзень, каб звычайным вокам можна было бачыць, як будуць падмазваць яны свае пяткі.

— Ці не лепш было б знянацку, уночы, каб яны спалі. Так і парабкі не змаглі б уцячы. А калі ўдзень, як пан кажаш, дык некаторыя могуць збегчы...

— Адразу відаць, што пан Вайтовіч не служыў у войску, — зарагатаў Запольскі. — Нікуды вашы парабкі не дзенуцца. Як голенькіх птушанят у гняздзе, возьмем іх у Світалаўцы. І ўсё гэта будзе менавіта знянацку...

— Каханы мой, у першы ж вечар пасля вызвалення Світалаўкі будзеш маім дарагім госцем на дзедаўскай сядзібе... На гэты раз я вазьму сваіх парабкаў за каўнер! Досыць з імі цырымоніцца. Пан паможа мне, праўда?



— Само сабой, калега. Гэта ж наша агульная справа.

Так, стоячы на ганку Вайтовічавай сядзібы, паны капалі ямы для сваіх будучых ахвяр.

### Незвычайны госць

Запольскі не мог доўга затрымлівацца ў Караліне. Назаўтра ж уранні выехаў. А Місюк і яго напарнік прабылі яшчэ трое сутак. Штодня надвячоркам яны, нібы на шпацыр, ішлі ў бок стражніцы, а раніцаю вярталіся назад у фальварак. Разам з жаўнерамі-пагранічнікамі прыезджыя непрыкметна ішлі лесам уздоўж граніцы і прыглядаліся да мясцовасці.

На трэці дзень прыезджыя, а разам з імі і Вайтовіч, паехалі пасля абеду ў горад.

Даведаўшыся, што іхняга гаспадара няма ў фальварку, хлапчукі выраашылі скарыстаць гэта. Падахвоціў Грышу Віця:

— Давай пагонім каровы на вечар бліжэй да мяжы, — сказаў ён. — Там трава добрая ў кустах.

Грыша пакруціў галавою.

— А калі даведаецца пан?

— Адкуль ён даведаецца? Толькі ты маўчы, нават тату майму не кажы. Мы з дзядулем часта ганялі туды, як пан адлучаўся.

— Баюся ўсё-такі, — вагаўся Грыша.

— Як хочаш: ты пастух, а я твой падпасак... Паглядзелі б мяжу і маёнтак нашага пана. Ён, як на далоні, відаць вунь з-за тых кустоў.

— Добра, — згадзіўся нарэшце Грыша. — Толькі кароў не будзем блізка падпускаць.

Грышу даўно хацелася зірнуць хоць адным вокам на савецкую зямлю. Колькі разоў дзядзька Пятро расказваў хлапчукам пра яе. А цяпер ён можа ўбачыць нават сам. Ці ж гэта не спакуслівa?

Хлапчукі выгналі статак з аборы раней, каб мець больш часу. Яны не спыняліся з ім ні на выгане, ні на папары, а пагналі проста да кустоў, што ішлі ўздоўж граніцы.

На новым месцы каровы, сапраўды, накінуліся на траву.

— А што, я казаў — будуць добра хадзіць, — напомніў пра сваё Віця і паказаў пугаўём на прагал. — Вунь адтуль відаць Світалаўка, хадзем пакажу.

— А салдаты не будуць крычаць?

— Не. Яны і не ўбачаць нас. Мы колькі разоў з дзедам глядзелі і ні разу не сустракалі іх.

Грыша згадзіўся. Хлапчукі падышлі бліжэй і загледзеліся. На тым баку таксама хадзілі каровы, а трохі воддаль — працавалі людзі.

— Што яны робяць там, цікава? Бачыш, колькі іх, — сказаў напаўголаса Віця і з жалем уздыхнуў: — От, каб у нас быў такі бінокль, як у пана, паглядзелі б як след.

Непрыкметна для саміх сябе, разважаючы, хлапчукі кранулся з месца і прайшлі яшчэ нейкую сотню крокаў. Зусім блізка відаць былі пагранічныя слупы. Хлапчукі спыніліся. Ім, асабліва Грышу, які бачыў усё гэта ўпершыню, было цікава глядзець, як працуюць там незнаёмыя людзі.

— Гэта, мусіць, школьнікі, — сказаў Грыша.

— Чаму так думаеш?
— Бачыш, якія маленькія.
Віця моўчкі згадзіўся. Можа і сапраўды так. А Грыша, гледзячы туды, у далеч, цяжка ўздыхнуў і прамовіў:
— От, каб можна было схадзіць туды ды глянуць сваімі вачыма... Знаеш, Віця, як вырасцем ды заробім шмат грошай, паедзем па свеце вандраваць: паглядзім розных людзей — чорных, жоўтых. Нам расказваў настаўнік, якіх толькі людзей няма на свеце...
— І звяроў, і птушак пабачым. Нам гаварыла настаўніца, што ёсць такія маленькія птушачкі, з пчалу велічынёй...
Невядома, дакуль бы размаўлялі так хлапчукі, забыўшыся на свае абавязкі, калі б на тым баку граніцы не рыкнула карова. Ёй адказала, зусім блізка ад хлапчукоў, адна з каралінскага статка. Тады карова з чужога статка рыкнула яшчэ раз—другі.
— Каровы!.. — гукнуў трывожна Грыша і з крыкам: — Куды, Рагуля!.. Куды, Півоня!.. — кінуўся заварочваць. Віця таксама з крыкам пабег уздоўж граніцы.
Але Рагуля і Півоня і не думалі спыняцца. Задраўшы хвасты, яны беглі ў той бок, дзе несціхана рыкала карова.
Грыша памчаўся напярэсцігі, і сам не заўважыў, як следам за каровамі мінуў рабы слуп, за ім другі — з молатам і сярпом.
Тут Грышу не прыйшлося доўга бегчы: зусім нечакана перад ім вырасла постаць чырвонаармейца і пачуўся голас:
— Стой, хлопчык!
Пастушок па інерцыі прабег яшчэ некалькі крокаў і спыніўся. Убачыўшы перад сабой чырвонаармейца, ён сумеўся, заміргаў вачыма, хацеў нешта сказаць, але перасох язык і не знаходзіліся словы.
Пагранічнік заўважыў спалох на хлапчуковым твары і супакоіў:
— Не бойся, хлопчык! Як цябе зваць?
— Грыша. Гэта панскія каровы, — паказаў ён на Рагулю і Півоню.
— Я ведаю, — кіўнуў галавой салдат.
— Пан заб'е мяне, што пусціў на ваш бок.
— Не заб'е. А стане біць — здачы давай. Чаго з ім цырымоніцца.





— Гэта мяне Віця падбухторыў, — памкнуўся бегчы па каровы пастушок, каб не дапусціць іх да чужога статка. Але пагранічнік зноў напомніў:
— Не бяжы, Грыша. Нідзе не дзенуцца твае каровы. Бачыш, там школьнікі бягуць ужо на пярэймы, каб не пабіліся з іхнімі. Яны папільнуюць і Рагулю, і Півоню. Гэтак ты іх завеш?
— Гэтак, — кіўнуў галавой хлопчык.
— Ну, вось і добра. А мы з табою пойдзем на заставу. Там пазнаёмішся з нашым начальнікам. Ён у нас добры і любіць такіх, як ты, хлапчукоў.
Да заставы было далекавата, і, пакуль ішлі, Грыша расказваў пагранічніку пра сваё жыццё.
— Такі злосны ваш пан? — усміхнуўся пагранічнік.
— Угу. Казаў, скуру з мяне здыме, калі каровы трапяць у збажыну. А за гэта, напэўна, заб'е.
— Эх ты, — паклаў Грышу на плячо руку пагранічнік, — вялікі такі, а баішся пана. Колькі ў Караліне парабкаў?
— З дзядзькам Пятром восем.
— Ты і сябе лічыш за парабка?
— Не. Мы з Віцем пастухі...
— Вось бачыш, восем парабкаў ды вас двое, а пан — адзін...
Так непрыкметна за гамонкай прыйшлі на заставу. Салдат далажыў начальніку пра здарэнне на граніцы.
— Добра, — адказаў той. — Ідзіце на свой пост.
Польскі пагранічнік заўважыў Грышу з каровамі ўжо на савецкім баку. Ён прыкінуўся, што нічога не бачыў, і шпаркімі крокамі пайшоў уздоўж граніцы ў другі канец свайго паста. Няхай лепш заўважыць другі пост. Далей ад начальніцкіх праборак.
Трапіўшы ў такую бяду, Віця не разгубіўся. Ён борздзенька адвярнуў статак ад граніцы на папар, падагнаў, як можна было, бліжэй да фальварка і пабег сказаць пра здарэнне з Грышам.
Вайтовіч яшчэ не вярнуўся з горада. Пятру прыйшлося ісці на стражніцу. Начальнік стражніцы доўга крычаў на парабка, лаяўся, хоць той зусім быў не вінаваты. Нарэшце, паргразіўшы вялікім штрафам, паклікаў салдата і загадаў аднесці напісаную заяву на савецкі пост.
Пакуль з польскага боку маўчалі, што хлапчук і дзве каровы перайшлі граніцу, начальнік заставы павёў Грышу ў світалаўскую школу калгаснай моладзі, ці як называлі яе скарочана — «Шакаэм». «Няхай паглядзіць, чым займаюцца ў нас такія, як ён, хлапчукі», — думаў начальнік заставы, ідучы з пастушком у школу.
— Пазнаёмцеся з госцем з-за граніцы. Панскі пастушок. Грышам Васільцом зваць, — адрэкамендаваў ён хлапчука вучням.
Шакаэмаўцы сустрэлі Грышу ветліва. Да іх часта прыходзілі, прыязджалі з суседніх вёсак — настаўнікі, вучні, нават старыя дзяды — паглядзець, як жывуць, як працуюць шакаэмаўцы. Вучні прывыклі ўжо да розных экскурсій. А гэты хлапчук — аднагодак многіх — быў проста дзівам для іх. Што ні кажыце, ён трапіў з іншай краіны.
Вестка пра з'яўленне панскага пастушка ўмомант абляцела ўсіх школьнікаў.
Шакаэмаўцы абступілі Грышу і засыпалі пытаннямі:
— Ты ў сапраўднага пана служыш?
— У сапраўднага.

— А тоўсты ён?
— Не вельмі. Толькі высокі. І нос кручкаваты, як у каршуна. Гэта яго маёнтак,— паказаў Грыша на Світалаўскія будынкі.
— Быў яго, а стаў наш.
— Пан збіраецца вярнуцца сюды.
Шакаэмаўцы зарагаталі.
— Сюды? Вось гэта здорава! — усклікнуў весела адзін і гукнуў вучню, што падыходзіў да іх: — Сева, чуў, што Грыша гаворыць? Пан збіраецца вярнуцца ў Світалаўку...
— А што, няхай прыязджае, пастухом будзе ў нас, — падаў думку хтосьці.
— Хто яму даверыць наш статак? — пачулася з грамадкі.
Грыша стаяў сярод такіх жа, як сам, хлапчукоў, пазіраў на іх загарэлыя твары і думаў: «От, каб у нас была такая школа!»
Хлопчык, што назваўся Колем, падышоў бліжэй да Грышы і самым сур'ёзным тонам сказаў:
— Перадай пану, што ён тады вернецца сюды, як рак свісне.
— А рак зусім не свішча, — засмяяўся Грыша, не разумеючы Колевых кпінаў.
— Ну, вось, калі рак не свішча, значыць, пану твайму не бачыць Світалаўкі. Так і скажы, — адрэзаў Коля і перавёў гаворку на іншае:— Ты кожны дзень пасеш каровы?
— Кожны. На тое ж мы пастухі.
— А калі ты вучышся?
— Узімку. Як снег ляжыць.
— А мы ўвесь год у школе то вучымся, то працуем на полі ці на агародзе. І каровы пасём па чарзе.
— Добра вам. Адзін аднаго падмяняеце. А хто нас падменіць? Нас пан прымушае, бо ён багаты, у яго шмат грошай... Сёння ён мяне біць будзе, што не ўпільнаваў кароў, — раптам загаварыў Грыша.
І неяк адразу пацішэла пасля гэтых пастушковых слоў у грамадцы шакаэмаўцаў. Ніхто з іх не бачыў жывога пана, бачылі толькі на малюнках ды чулі ад бацькоў і настаўнікаў. А тут, на табе, перад імі стаіць хлапчук, які церпіць яшчэ панскія здзекі.
— Знаеш, Грыша, што... Не ідзі назад, — параіў Коля. — Заставайся ў нас. Каровы панскія начальнік заставы аддасць, а ты будзь з намі. Наш дырэктар добры, ён цябе прыме. Будзеш вучыцца і працаваць, як мы.
Грыша моўчкі слухаў, міргаў вачыма і глядзеў у той бок, дзе праходзіла граніца. Думкі яго віталі ў Караліне, у Пясках.
— Там жа тата, мама... — адказаў ён коратка, але такім шчырым голасам, поўным скрухі і жалю, што ўсе вучні міжволі пераглянуліся.
Тут ужо яны не ведалі, што і сказаць. У некаторых з іх не было ні таты, ні мамы, але параіць кінуць бацькоў за граніцай, а самому аставацца з імі ні ў кога не павярнуўся язык.
Вывеў з цяжкага становішча сваіх шакаэмаўцаў загадчык школы. Ён і начальнік заставы якраз выйшлі на двор.
— Ну як, падружыліся? — усміхнуўся начальнік заставы.
— Падружыліся, — пачулася адразу некалькі галасоў.
— Што ж гэта вы гаворкаю доўга займаеце хлопца? Вядзіце яго ў сталовую, пачастуйце. Хлопец, можа, не абедаў.



Коля стралой памчаўся на кухню далажыць пра гэта дзяжурнаму. У сталовую за ім пайшлі Маня, Сева і Грыша.
У прадаўгаватай зале, якая з'яўлялася і сталовай і школьным клубам, было чыста. Дзяжурныя па сталовай рыхтаваліся да вячэры. Зацягваць не было калі, бо ўвечары мелася быць апошняя, генеральная, рэпетыцыя. Ніўскія школьнікі разам са сваім настаўнікам рыхтаваліся паказаць у нядзелю спектакль. У іхняй школе была надта маленькая сцэна. Рэпетыцыі сяк-так праводзілі, а ставіць прыходзілі ў Світалаўку.
Тут, у ШКМ, было дзе разгарнуцца. Хапала месца ўсім.
Першае, што кінулася Грышу ў вочы, як зайшлі ў сталовую, — сцэна ў другім канцы залы. Ён ні разу не бачыў яшчэ ні столькі сталоў, ні сцэны. На момант хлапчук стаў, як укапаны. Над сцэнай вісела доўгая чырвоная паласа, а на ёй вялікімі літарамі было напісана:

«МЫ — ШАКАЭМАЎЦЫ — ДЗЕЦІ ПРАЦЫ.
АД ПРАЦЫ МЫ ПРЫЙШЛІ, ДА ПРАЦЫ МЫ ВЕРНЕМСЯ».

Грыша павольна прачытаў напісанае і зірнуў на вучняў.
— А што такое шакаэмаўцы? — спытаў ён.
Сева растлумачыў, што азначала незразумелае слова.
— А гэта Ленін. Правадыр усяго чалавецтва, — паказала дзяўчынка, якую звалі Маняй, на партрэт, што вісеў на сцяне каля сцэны.
— Я ведаю. У нашых хлопцаў, што арыштавала дэфензіва, быў такі, толькі меншы. Яны паказвалі нам.
Пакуль Грыша разглядаў другія партрэты і карціны, на стале з'явіўся абед.
Такога смачнага шчаўя і прасянай кашы з падліўкай і кавалачкамі мяса ў ёй хлапчук не помніў, каб калі еў. Усе трое шакаэмаўцаў сядзелі тут жа і расказвалі госцю пра сваё жыццё, адкуль яны, як вучацца.
Пасля абеду ўсе чацвёра пайшлі хадзіць па Світалаўцы.
— Гэта — яшчэ былыя панскія будынкі, а вось тыя пабудавалі саўгас, вунь у тым доме наш інтэрнат. Мы жывём у ім, — паказвалі і расказвалі шакаэмаўцы.
Грыша не мог утрымацца, каб не сказаць:
— Дзіва што наш пан шкадуе маёнтак. Ён часта праз бінокль глядзіць на яго.
— Скажы свайму пану, як будзе глядзець другі раз, мы яму вось што пакажам, — склаў тры пальцы Сева.
— А што табе, шкада, няхай глядзіць сабе здалёк. Зблізку яму ж не ўбачыць, — засмяялася Маня.
— Няма чаго на чужое і здалёк вытрэшчваць вочы, — падтрымаў Севу Коля.
Толькі аж надвячоркам паклікалі Грышу на заставу. За гэтыя некалькі гадзін пастушок да таго асвойтаўся з новымі сябрамі, што, развітваючыся, ледзь не заплакаў.
Шакаэмаўскія пастушкі прыгналі панскіх кароў да граніцы. На былой дарозе, што калісьці злучала Світалаўку з Каралінай, стаялі з савецкага боку начальнік заставы і два пагранічнікі, а на процілеглым — начальнік стражніцы з двума салдатамі і парабак Галодка.
Убачыўшы здалёк дзядзьку Пятра, Грыша на момант павесялеў, а як падышоў зусім блізка — у яго трывожна забілася сэрца.
Галодка не ўтрымаўся, каб не пакруціць галавою так, што не толькі

Грыша, але ўсе вучні, якія праводзілі яго, зразумелі, што чакае хлопчыка.

Як толькі Грыша і каровы апынуліся на самай граніцы, начальнік заставы звярнуўся да тых, што стаялі на другім баку ручая:

— Вашы каровы?

— Нашы, — адказаў Галодка.

— І пастушок ваш?

— І пастушок наш, — пацвердзіў парабак.

— Забірайце, і другі раз каб не пускалі.

— Дзякуем, будзем старацца не пускаць,— зняў шапку Пятро.

Спачатку перагналі праз ручаёк кароў. Следам за імі, падкасаўшыся да калень, перайшоў Грыша. Ужо з таго боку ён памахаў рукою світалаўскім вучням і сказаў:

— Давідзэння! — але тут жа спахапіўся і паўтарыў: — Да пабачэння!

— Да пабачэння, Грыша! — пачуліся ў адказ дружныя галасы вучняў.

— Ідзь, ідзь, псякрэў, — крутнуў салдат пастушка за плечы, калі той, абярнуўшыся, хацеў яшчэ нешта сказаць шакаэмаўцам.

І шкада стала вучням Грышу. Некаторы момант яны моўчкі глядзелі ўслед яму. Здавалася, у змрок, у цёмную ноч пайшоў хлапчук ад іх. Хто паспагадае яму ўвечары, калі пан выкліча да сябе ў пакоі, пачне сварыцца і біць?

## Пякучая крыўда

Усю дарогу аж да Караліны Грышу ўсё здавалася — ідуць следам за ім яго новыя сябры. Пройдзе, пройдзе хлапчук ды азірнецца. Нічога не хацелася б яму больш, каб хоць паблізу, на двары, былі яны — Коля, Сева, Маня і другія, калі пан пакліча яго да сябе.

Праўда, Пятро развясельваў Грышу, што абыйдзецца ўсё добра, але хлапчук не верыў. Ды і сам Галодка, калі казаць праўду, не спадзяваўся на панскую літасць.

— Можа, на першы раз даруе, а другі ты і сам не захочаш туды гнаць... Ну, раскажы, што бачыў за мяжою?..

Назад каровы ішлі спакойна, і хлапчук паспеў за дарогу расказаць Пятру пра тое, як сустрэлі яго пагранічнікі, шакаэмаўцы, што бачыў у Світалаўцы.

— Жывуць людзі, — уздыхнуў парабак. — А наш вар'ят думае яшчэ вярнуцца туды. Хто яму ўступіць такую выгаду?

— Ой, дзядзька, каб вы паслухалі, што тыя шакаэмаўцы казалі перадаць нашаму пану, — сказаў Грыша і падышоў бліжэй да Пятра, каб пацішу расказаць усё.

Пакуль прыйшлі ў фальварак, на двары сцямнела. Раней, чым далажыць пану, што ўсё ў парадку, Галодка навучыў хлапчука не баяцца вельмі панскага крыку.

— Скажы — незнарок атрымалася, паабяцай другі раз не гнаць туды, і пан, можа, даруе табе, калі штрафу не прышле пагранічная ахова. Самае галоўнае, раскажы падрабязна, што бачыў у Світалаўцы. Яму цікава будзе паслухаць.

Аднак Пятро не мог утрымацца, каб першаму не перадаць пану ўсё тое, што пачуў ад пастушка.



Вайтовіч хадзіў па сваім пакоі-канторцы і паціраў ад задаволенасці рукі.

— Кажаш, Петрусь, нічога не разбурана?

— Хлапчук гаворыць, не. У панскім палацы школа цяпер. Тая зала, дзе пан спраўляў балі — іхні клуб і сталоўка.

— У такой залі рабіць сталоўку!— абурайся Вайтовіч.— Там жа, Петрусь, паркетная падлога...

— А што ёй, пане, зробіцца?

— Як што? Завэдзгаюць лапцямі.

— Нічога, пане, наймічкі адмыюць, наглянцуюць, і не пазнае пан, што па ёй у лапцях хадзілі. Гэта добра, што пад школу аддалі, маглі разабраць па бервяну, па дошчачцы...

— Праўду кажаш, Петрусь, маглі, маглі... Але ў такой залі рабіць сталоўку... Паглядзеў бы ты хоць раз праз акно, колькі там збіралася некалі паноў. Ды якіх паноў! Два разы сам граф прыязджаў з жонкай. А паненак, а панічоў колькі з'язджалася! Балі я ўмеў наладжваць!..

Пятро знарок не расказваў пра ўсё адразу. Пасля таго, як радасны пан некалькі разоў перапытаў, як выглядае яго маёнтак, парабак зноў паддаў яму ўцехі.

— Мала таго, пане, што вашых будынкаў не разбурылі, дык яшчэ, кажа хлапчук, новы пабудавалі — двухпавярховы, вялізны дом. Паміж палацам і млячарняй. Інтэрнат для вучняў ці што.

Вайтовіч спыніўся і здзіўлена паглядзеў парабку ў вочы.

— Што ты кажаш, Петрусь?

— Хлапчук так гаворыць, я толькі чутае перадаю пану.

— Я такі заўважыў праз бінокль, што там новы будынак з'явіўся. Асабліва добра відаць ён увосень, як ападзе з дрэваў лісце. Не спадзяваўся, не спадзяваўся, што бальшавікі стануць дабудоўваць мой маёнтак.

— Выходзіць, пане, што бальшавікі могуць не толькі разбураць, але і будаваць, калі ім трэба.

— О так, Петрусь, калі ім што трэба — могуць, могуць, — адказаў Вайтовіч і зноў спытаў: — Кажаш, млячарня засталася?

— Хлапчук гаворыць, стаіць. Ён толькі не ведае, ці працуе.

— Як жа яна можа працаваць без малака? А малако адкуль у іх будзе? О, каханы Петрусь, ты не ведаеш, якая там у мяне млячарня! Тутэйшая наша ні ў якое параўнанне не можа ісці. Вярнуся туды, матор пастаўлю, механізую ўсё.

— Гэта добра, пан, зробіце. Бо надта ж пакутна людскою сілаю рабіць усё гэта... Толькі калі тое будзе, пане, невядома.

— Будзе, Петрусь, будзе. Не сёння, вядома. Можа, нават і не заўтра, але будзе. Я маю пэўныя звесткі. Такія людзі казалі, што я не магу ім не верыць.

— Ой, пане, гэтыя «казалы» не перастаюць ад дваццаць другога года, калі ўсталявалася мяжа...— махнуў рукой Пятро.

— А Петрусь ведае, што Амерыка і да сённяшняга дня не прызнае бальшавікоў? А гэта ж сіла,— паўтарыў чутае ад Запольскага Вайтовіч.

— Пане, дзе тая Амерыка і дзе Світалаўка.

Вайтовіч зарагатаў.

— Да чаго ж ты, Петрусь, зняверaны... А што, калі праз тыдзень ці два я запрашу цябе ў світалаўскія пакоі на кілішак добрага лікёру? Што скажаш, васпан, тады? — Вайтовіч зноў захадзіў па пакоі, а потым спыніўшыся каля парабка, нахіліўся ніжэй і шапнуў: — А тыя двое, што

жылі ў мяне гэтыя дні, думаеш, так сабе аціраліся тут?! Яны вывучалі мясцовасць, пойдуць хутка туды, кіўнуў ён галавою на ўсход, — даведаюцца, чым дыхае народ. Там цяпер у вёсках такі шурум-бурум пачаўся... Ка-лек-ты-ві-за-цыя,— падняў Вайтовіч палец угору і вымавіў павольна, па складах гэтае новае слова. — Разумееш, Петрусь, што азначае гэтае слова? Не? Аддасі ўсё сваё ў агульны кацёл і будзеш з адной міскі есці разам з суседзямі. Так, так, няхай Петрусь не сумняваецца.

— Цяжка паверыць, пане, бо такіх жа місак вялікіх няма.

— Ёсць, нарабілі ўжо. На гэта вялікай навукі не трэба.

Вайтовіч ужо астыў трошкі ад свайго захаплення і выправіў Галодку паклікаць пастушка. Той давёў хлапчука да дзвярэй, а сам застаўся на ганку паслухаць. Праз адчыненую фортку было добра чуваць, што гаварылася ў пакоях.

Спачатку ўсё ішло лагодна. Пан распытваў у пастушка яшчэ раз пра ўсё тое, што даведаўся ад парабка. Грыша ахвотна расказваў. Ён рад быў, што пан маўчыць пра штраф і не сварыцца, што каровы трапілі за граніцу.

І нямаведама чым скончылася б іхняя гутарка, калі б Вайтовіч не скіраваў раптам гаворкі ў іншы бок:

— Ці сказаў жа ты хаця ім, што гэта мой маёнтак?

— Сказаў.

— Ну, і што яны на гэта?

— Адзін сказаў: «Трасцы з хваробаю ў бок твайму пану, а не маёнтак».

— Ах, галган!.. — заірдзеўся Вайтовіч. — Я ж яму пакажу, як вярнуся ў Світалаўку. Ты добра яго запомніў?

Але Грыша не адказаў на панава пытанне, ён працягваў гаварыць далей:

— А другі сказаў: «Калі пан будзе ў наш бок глядзець, дык мы вось што пакажам яму», — Грыша склаў тры пальцы і паказаў гаспадару фігу.

Усяго мог чакаць Вайтовіч, толькі не гэтага. Ён аж затросся ўвесь. Твар умомант наліўся крывёю. Ад злосці і знявагі ён затрос кулакамі і накінуўся, як драпежнік, на Грышу:

— Яны гаварылі, а ты рад пераказваць усякую брыду... Я табе пакажу трасцу з хваробаю...— крутнуў ён Грышу за вуха.— Ты знарок, шэльма, пусціў туды каровы... — Потым схапіў за другое вуха і, тупаючы нагамі, трос хлапчукову галаву і крычаў, што меў сілы: — Скуру злуплю з жывога, у турме згнаю... Бацькоў жабракамі пушчу па свеце за штраф...

І крыўда, і боль, і страх, што пан можа пакараць за гэта бацькоў, — усё зблыталася ў Грышавай галаве. Ён не мог больш стрымаць сваёй злосці і з усяе сілы ўдарыў пана кулаком спаднізу ў жывот. Вайтовіч войкнуў, захістаўся, выпусціў з рук пастушковы вушы і, сагнуўшыся ў тры пагібелі, грузна апусціўся на канапу. Грыша шмыгнуў за дзверы.

— А-ай! — пачуўся праз момант немы голас у панскіх пакоях.

— Зыгмусь, што з табою? — выбегла з бакоўкі жонка. Убачыўшы збялелага мужа, яна кінулася на кухню па ваду. Вайтовіч выпіў глыток, другі, аддыхаўся і прагаварыў:

— Альбіна, любая, забіць хацеў той галган.

— Ты закрычаў такім страшным голасам, што я ўтрупянела ўся.



Выпі яшчэ трошкі, палягчэе, — паднесла кубак з вадой Альбіна. Вайтовіч глынуў, абцёр пальцам вусы і з гневам прамовіў:

— Узяў на сваю галаву служку! Гэта ж забіць мог...

— Гэтак моцна выцяў?

— О, так. Ведае, шэльма, куды цаляць.

— Мог яшчэ і Банадысь гэта лета папасвіць. Усё ж стары чалавек, смялей. А цяпер яшчэ са стражніцы штраф прышлюць.

— Не прышлюць. Адносін начальнік не захоча псаваць. Мала ён папіў тут гарэлкі, — абвёў вачыма пакой Вайтовіч і, разагнуўшы спіну, ласкава звярнуўся да жонкі: — Скажы, даражэнькая, пакаёўцы, каб паклікала Петруся.

Галодка стаяў на ганку і чуў усё. Па немым панскім голасе ён адразу здагадаўся, што адбылося ў пакоі. Хлапчук выбег на ганак і не адразу ў цемені заўважыў Пятра, а той расхінуў рукі ў бакі і Грыша трапіў у абдымкі.

— Што ты натварыў, хлопча... — прашаптаў парабак.



— А навошта ён так моцна круціў за вушы... Казаў, тату з мамай жабракамі па свеце пусціць за штраф. Ну, я і не вытрываў...

— Добра ты зрабіў, толькі куды ж табе цяпер падацца? Пан, як піць даць, прагоніць... Відаць, прыдзецца ісці ў Пяскі да бацькоў.

— Не пайду я дадому. Тата біць будзе.

— І то праўда — лепш не ісці. Калі вернешся, дык пан законам сышча з бацькоў штраф...

У цемені пачуліся крокі.

— Мусіць, па мяне бяжыць пакаёўка, — шапнуў Пятро. — Ідзі ты, Грышачка, дахаты, а я паслухаю, што пан скажа, і, прыйшоўшы, раскажу.

Грыша доўга стаяў, гледзячы ў той бок, дзе быў некалькі гадзін назад. Цёпла і радасна стала ў яго на сэрцы, што побач жывуць такія добрыя і такія ласкавыя суседзі.

«Чаму мой тата не жыве ў Світалаўцы? — пашкадаваў Грыша, узіраючыся ў змрок. — І я мог бы так працаваць, як тыя вучні, і вучыцца кожны год у новым класе. Добра ім там, спяць сабе цяпер і ніякае бяды. А можа, глядзяць, як рыхтуюцца да спектакля ніўскія школьнікі. Каб хоць раз паглядзець, што гэта за спектаклі...»

Хлапчук раптам прыгадаў бацькоў і здрыгануўся: яго апанаваў страх. У іх і так не хапае хлеба, а пан сышча штраф. Апошняе прададуць.

«Калі не пайсці ў Пяскі, дык можа ўсё і абыйдзецца... Не пайду», — цвёрда вырашыў хлапчук. Ён саступіў з ганка і павольна пайшоў у процілеглы ад Пятровай хаты бок. Вочы прывыклі ўжо да цемені, і знаёмая дарога стала не такою страшнаю, як здавалася спачатку.

Пятро не застаў дома Грышы. Віця спаў адзін. Гарэла газнічка. Антосі дома не было, і не было ў каго спытаць пра хлапчука. Пятро зірнуў на печ, пад ложак, думаў, Грыша ад страху схаваўся дзе, і, не знайшоўшы, выйшаў на двор. Паглядзеў за хатаю, ціхенька гукнуў у адзін бок, у другі, ніхто не падаваў голасу.

«Людцы мае, куды ж ён мог падзецца супроць ночы? Яшчэ зробіць што з сабою, узяўшы ў галаву»... — непакоіўся парабак.

Не прыйшлося Пятру выканаць на гэты раз панскі загад. Дарма ўсю дарогу — ад пакояў да хаты — прыдумваў ён, як сказаць хлапчуку, каб ішоў з Караліны, куды вочы глядзяць.

Грыша зрабіў гэта сам, не дачакаўшыся, пакуль скажа Вайтовіч.

## У дружнай сям'і

Знаёмая дарога зноў прывяла Грышу на савецкую заставу. Не мала набраўся ён страху, пакуль дайшоў. Учора ўдзень выйшла неяк проста: ён пабег адварочваць каровы і апынуўся на другім баку граніцы.

Уночы было страшней. Дайшоў да кустоў і задрыжаў ад нечаканага шолаху. Спужаўшы птушку, ён не менш за яе спалохаўся сам.

Але страх паволі мінаў, і хлапчук зноў, асцярожна ступаючы, пайшоў наперад. Наблізіўся да граніцы і прытаіўся.

На ўсходзе пачало святлець. Ясней праступілі абрысы пагранічных слупоў. Упэўніўшыся, што паблізу нікога няма, пастушок прыгнуўся і ціхенька падаўся ў бок выгана, дзе ўчора хадзіў школьны статак. Толькі апынуўшыся за слупамі, ён перастаў дрыжаць, дыхнуў на поўныя грудзі і нават перахрысціўся, што скончылася ўсё добра.

Пра новае здарэнне на граніцы дзяжурны адразу ж далажыў начальніку заставы.

— Спадабалася яму тут,— усміхнуўся начальнік заставы Свірын і адказаў дзяжурнаму ў трубку:— Я прыду зараз.

Калі ён увайшоў у дзяжурку, Грыша ўстаў з крэсла і перш, чым дзяжурны аддаў начальніку рапарт, прывітаўся:

— Дзень добры, пану!

— Дзень добры, Грыша, але паноў у нас няма. Яны там, адкуль ты прыйшоў.

Прыняўшы рапарт, Свірын паклікаў хлапчука і пайшоў з ім да сябе ў кабінет. Пасадзіў на крэсла, і сам сеў насупраць.

— Ну, расказвай, Грыша, хто цябе прывабіў тут? Школа ці, можа, тая светлавалосая школьніца, што махала табе ўчора хустачкай на развітанне?



Грыша пачырванеў, апусціў вочы і нічога не адказаў. Ён страшэнна здзівіўся, адкуль начальнік ведае, што яму сапраўды ўспаміналася Маня.

— Не чырваней, Грыша, я пажартаваў, — падняўся Свірын і правёў рукою раз, другі па ўскудлачаных хлапчуковых валасах. — Пастрыгчыся трэба, а то што ж ты з такімі валасамі ходзіш улетку.

Ніхто так ласкава не гладзіў Грышу, хіба толькі бацька, ды і то рэдка-рэдка. Гэта расчуліла хлопчыка. Ён заміргаў вейкамі, шмаргануў носам. Свірын злёгку падняў за падбародак Грышаву галаву і зірнуў у яго вільготныя вочы. Хлапчук устаў з крэсла.

— Ну, які ж ты мужчына пасля гэтага... Я не скажу нікому пра гэта і ты, глядзі, не рабі больш так,— жартаўліва пагразіў пальцам Свірын.— А цяпер сядай і расказвай пра ўсё. Пачынай з таго, як перайшоў учора ад нас праз ручай, — прысеў і сам начальнік.

Грыша зноў пацягнуў носам, правёў рукавом па верхняй губе і, супакоіўшыся, пачаў расказваць пра ўсё, што адбылося з ім, як выбег з панскага пакоя і аж пакуль не апынуўся тут, на заставе.

— Дык ты што ж, прыйшоў скардзіцца на пана?

— Не, я зусім уцёк ад яго. Мне ўчора Сева і Коля казалі аставацца ў іх.

— Учора запрашалі, а за ноч маглі раздумаць... Цябе хто ж праводзіў да нашай мяжы, дзядзька Пятро ці польскі салдат? — пазіраючы ў твар хлапчуку, нібы між іншым, спытаў Свірын.

— Ніхто не праводзіў, я ж вам казаў толькі што: адзін ішоў. Няўжо вы забыліся?

— Ці ж усё запомніш, што нагаварыў ты сёння тут, — павёў брывамі Свірын. — А што пан сказаў дзядзьку Пятру, ён жа выклікаў яго пасля цябе?

— Не ведаю, я ж не дачакаўся.

— А Віця, кажаш, вярнуўся, не захацеў ісці з табою сюды?

— Ой, і гэта вы забыліся. Я ж і ў хату не заходзіў, як выбег ад пана. Віця і не ведае, дзе я... Можа я зноў раскажу вам усё па парадку, тады лепей запомніце.

— Не трэба, Грыша, другім разам. Цяпер ты скажы мне, як жа будзе з татам і мамай? Ды там жа, здаецца, засталіся яшчэ браты—Петручок, Янка і сястрычка Валя?

Хлапчук павесялеў, пачуўшы пра дом, пра родных і неяк здзівіўся.

— Учарашняе запомнілі. Нават не забыліся, як зваць маіх братоў і сястру, а што сёння расказваў — забыліся...

— У мяне на імёны добрая памяць...

— І ў мяне памяць добрая, — пасмяялеў Грыша. — Тры разы прачытаю верш і ведаю ўжо. Настаўнік заўсёды хваліў...

— Добрая... Але вось што мы будзем рабіць з тваімі бацькамі?

Грыша сумеўся, адвёў позірк ад твару начальніка і ўжо цішэйшым голасам адказаў:

— Яны будуць жыць у Пясках. Там у нас хата, конь, цялушка. Была карова, але захварэла летась і здохла. Дзядзька Пятро казаў, калі я не вярнуся, дык пан з іх штрафу не спагоніць...

— Дык ты, выходзіць, уцёк, каб не плацілі бацькі штрафу?

— Угу, — кіўнуў галавой хлапчук.

— А як тут праштрафішся, дык уцячэш назад, праўда?
— Не, адсюль я не буду ўцякаць. У вас тут добра: і вучацца, і працуюць... І паноў такіх лютых няма, як Вайтовіч. Улетку ён узлаваўся на парабка, што вазіў снапы, і збіў яго пугаўём, калі той абярнуўся з возам. Парабак хацеў падаць у суд, але пан прыгразіў, што адправіць з работы. У таго парабка аж пяцёра дзяцей, самая старэйшая дзяўчынка меншая за мяне.
Свірын знарок здзівіўся:
— Такі люты ваш пан?
— О, каб вы паглядзелі які! — адказаў сур'ёзна хлапчук.
— А суседнія паны хіба лепшыя?
— Я не ведаю, — пацісну ў плячыма Грыша. — Я не служыў у іх, толькі на хутары ў Войціка.
— Ты не ведаеш, а я ведаю. Маленькім хлапчуком і я служыў у паноў пастушком. Усе яны адной масці, усе падобны адзін да аднаго і ўсе аднае шыбеніцы варты.
— І вы былі пастухом? — утаропіўся вачыма ў твар Свірыну хлапчук. — А цяпер начальнік?
— Быў, Грыша, быў. Спазнаў смак гэтага хлеба і цану яго ведаю, — уздыхнуў Свірын.
З гутаркі Свірыну стала ясна: пастушок перабег сам, каб знайсці лепшае жыццё і выратаваць бацькоў ад штрафу.
— Ну што ж, Грыша, нагаварыліся мы з табою. Пара табе і паснедаць. Пойдзеш нашага супу пакаштуеш, — і начальнік выклікаў байца.
Неўзабаве Грыша і баец выйшлі, а Свірын далажыў свайму начальству пра панскага пастушка, прыгадаўшы і ўчарашні выпадак.
— Так, кемлівы хлапчук. І, самае галоўнае, сур'ёзны не па гадах. За што пабіўся з панам? Перадаў, што гаварылі пра пана шакаэмаўцы. А камсамольская ячэйка ў школе дружная і вялікая. Добра, скажу, скажу. Вядома, перавыхавае. Так, узрост яго піянерскі, але ростам — ладны хлапчына. Правільна, на месцы ім будзе відаць: у піянеры ці ў камсамол прынялць. Добра, добра, вазьму пад свой нагляд. Пайду з ім сам і пагавару з загадчыкам школы. Канешне, знаёмы, амаль кожны дзень бываю там. Можаце быць упэўнены, высветліў як след... Усяго найлепшага, таварыш начальнік.
Шакаэмаўцы здалёк заўважылі начальніка заставы і Грышу. Выбеглі насустрач, замахалі шапкамі.
— Добры дзень! — падышоўшы бліжэй, прывітаўся Свірын.
— Добры дзень, таварыш начальнік, — адгукнулася дружна некалькі галасоў.
— Паснедалі?
— Паснедалі, таварыш начальнік.
— Чым займаемся сёння?
— На поле збіраемся, авёс вязаць за жняяркай.
— Малайцы, — пахваліў Свірын. — Трэба памагаць саўгасу...
Грышу было дзіўна, што так смела гаварылі з начальнікам заставы вучні. Усё гэта выходзіла проста і нават жартаўліва. Грыша ўспомніў начальніка польскай пагранічнай стражніцы, напышлівага і ганарлівага.
— Прывёў вам новага члена калектыву,— паказаў галавою на Грышу Свірын. — Вы ўчора запрашалі яго застацца, ён адмовіўся, а за ноч раздумаў і вярнуўся.



— Калі ласка, мы рады, — адказаў Коля.
— Ну, вось і добра. Значыць, прымаеце? А што скажа на гэта ваш загадчык? Дзе ён?
— З аграномам пайшлі на агарод.
— Таварыш начальнік, Ігнат Міхайлавіч таксама прыме, —запэўніў Сева. — Мы Грышу ў сваю брыгаду возьмем.
Загадчык школы і агранparam Ходаш тым часам выйшлі з-за кароўніка. Свірын павітаўся і расказаў пра юнага перабежчыка.
— Ну што ж, Мікалай Іванавіч, няхай застаецца. Будзе памагаць нам будаваць сацыялізм, калі спадабалася яму ў нас, — адказаў загадчык начальніку заставы, потым зірнуў на хлапчука і спытаў: — Будзеш памагаць?..
— Буду, — згадзіўся Грыша.
— Мы яго возьмем у сваю брыгаду, Ігнат Міхайлавіч, — звярнуўся Коля.
— Чаму вы возьмеце? Можа Маня захоча ўзяць ці Сева? — зірнуў загадчык школы на брыгадзіраў.
— Канешне возьмем, — адказалі тыя ў адзін голас.
— Але ж я першы папрасіў вашага дазволу. Акрамя таго, Ігнат Міхайлавіч, я вазьму яго да сябе жыць.
— А бацькі не будуць на цябе сварыцца за гэта?
— Не, ён разам са мною спаць будзе.
— Ну што ж, тваё ўзяло. У нас з інтэрнатам цяжкавата. Схадзі з ім на кухню, няхай паснедае і адвядзеш дахаты.
— Дзякуй, я паснедаў у іх, — паказаў Грыша на начальніка заставы. — Я разам з усімі на поле пайду.
— Добра, ідзі, калі паснедаў. Там весялей табе будзе. На абед прыходзь у сталовую... Ідзіце, дзеці, не марудзьце. Жняярка ўжо даўно жне.
На полі брыгадзір даў Грышу самую лёгкую работу — накладваць кучкамі зжаты авёс, каб выходзіў сноп.
— А следам за табою будуць вязаць. Вучыся, як робяць твае новыя сябры перавяслы, як вяжуць снапы, каб самому ўмець. У нас кожны шакаэмавец павінен умець рабіць усю гаспадарскую работу.
Вялікай навукі вязаць снапы не патрабавалася. Перавяслы круціць Грыша ўмеў. Яшчэ малога яго навучыла гэтаму маці. Трэба ўзяць жменьку зжатага аўса, а калі маленькі, дык вырваць з карэньчыкамі — тады перавясла будзе даўжэйшае — падзяліць на дзве часткі, злажыць вяршкі, пасля ўзяць адну частку пад паху, а другую скруціць, потым перамяніцца, і перавясла гатова. Ды якое моцнае, не разарваць! А вязаць яшчэ лягчэй: пакладзі перавясла, на яго кучку аўса, туга закруці абодва канцы ў правы бок і падаткні іх пад перавясла ад вяршкоў да камля, каб не раскруціліся.
Як толькі брыгадзір звязаў сноп, Грыша следам за ім зрабіў тое ж самае.
— О, дык ты ўмееш добра вязаць, — пахваліў Коля. — А чаму ж ты не казаў нічога?
— Вы ў мяне не пыталі.
— Я думаў, ты пастушок толькі і гэтай работы не ведаеш. Тады давай адразу назбірвай сноп і вяжы. Як шмат навяжаш, саставіш у бабкі па тры — чатыры снапы, каб не паваліў вецер.

З якім гоманам, з якой весялосцю вярталіся шакаэмаўцы пасля работы. Кожнаму хацелася расказаць нешта цікавае і незвычайнае.

Каля саду Сева са сваімі хлапчукамі чакаў Колеву брыгаду. Першае, што спытаў ён у Колі, гэта пра навічка:

— Ну, як, не стаміўся ён?

— Не, — адказаў Грыша сам.

— Ён, аказваецца, умее снапы вязаць, — як вялікую навіну, сказаў Коля Севу.

— А чаму ж яму не ўмець? Ён такі ж, як мы, сялянскі хлапчук.

Маніна брыгада першая прыйшла ў сталовую — ім бліжэй было з агароду. Пакуль астатнія прыйшлі са жніва, яны паспелі памыцца.

— А што пасля абеду будзем рабіць? — спытаў Грыша ў хлапчука, які сядзеў побач з ім за сталом.

— Хіба табе не сказалі? Як паабедаем, я пакажу табе распарадак сённяшняга дня. Вунь ён каля таго акна вісіць,— паказаў хлапчук у другі бок залы. — Тры гадзіны пасля абеду адпачынак.

— Спаць столькі? — здзівіўся Грыша.

— Чаму спаць? Можна пагуляць у валейбол ці ў гарадкі. А то кнігу цікавую пачытаць у цяньку. Як хто хоча. А пасля зноў пойдзем вязаць авёс.

За сталамі праца кіпела таксама дружна, як і на полі: без гоману і шуму.

Грышу ні на момант не пакідалі аднаго. Не паспеў ён вылезці з-за стала, як яго запрасілі гуляць у валейбол.

— Я не ўмею, — засаромеўся хлапчук.

— Навучышся, — падахвочвалі яго новыя сябры. — Станеш у нашай камандзе.

— Грыша, калі не ўмееш у валейбол, дык хадзем з намі ў гарадкі згуляем, — клікалі другія.

— Не перахоплівай. Я першы запрасіў,— і, паклаўшы руку на плячо Грышу, адзін з хлапчукоў пайшоў з ім побач да валейбольнай сеткі.

У цікавай гульні, як і ў шчырай працы, непрыкметна бяжыць час. Так было і на гэты раз: не паспелі агледзецца — дзяжурны абвясціў канец перапынку, пара было збірацца на работу.

### Лёня пакідае бацькоў

Пасля снедання ўсе разышліся хто куды: адны гуляць, другія ў грыбы, трэція селі за кніжкі.

Грыша пакуль што ні ў якія гурткі не запісваўся. Больш за ўсё чытаў. Цяжкавата было першыя дні па-беларуску, але неўзабаве яго нельга ўжо было адрозніць па чытанню ад шакаэмаўцаў.

Асабліва падабаліся Грышу казкі. Зачытаецца і забудзе пра ўсё на свеце. То ён плыве разам з героем за моры і акіяны, каб знішчыць змея і зрабіць добрую справу — вызваліць заняволеную прыгажуню, то шукае ў цёмную купальскую ноч папараць-кветку. Гэта ж яна прыносіць шчасце тым, хто не збаіцца жахаў і сарве яе. Ён, вядома, не збаяўся б. Праз граніцу страшней было ісці і то пайшоў адзін сярод ночы.

Грыша міжвольна перанёсся думкамі ў Караліну, адтуль у Пяскі.





— Што там цяпер нашы робяць дома? — прамовіў уголас хлапчук: — Гэта ж сёння нядзеля, мама зноў павінна была прыйсці да мяне.

Не ведаў ён таго, што маці гэтым часам была ўжо ў Караліне, сядзела ў Галодкавых і плакала горкімі слязьмі.

— І куды ён мог падзецца? Дзе яго цяпер шукаць? — ламала яна рукі. — Можа і жывога няма ўжо... Вось і пераведала сваё дзіця, вось і паглядзела на яго. Прынясу радасць дахаты...

Пятро стараўся суцешыць Ганну:

— Не бярыце надта да галавы. Можа нічога з хлапчуком не здарылася. Не такі ж ён дурны, каб праз пана рабіць сабе што благое.

Але хіба можна было супакоіць матчына сэрца, калі трывожныя думкі неадчэпна лезлі ў галаву. То адным, то другім ражком хусткі Ганна выцірала слёзы і прыгаворвала:

— Як чула яго беднае сэрца бяду. Да таго ж не хацеў ехаць сюды служыць. Потым жа Войцік прыязджаў і ўжо так шкадаваў, што ўпусціў такога пастушка. Ён прывык да Грышы, ведаў, што хлапчук недазволенага не возьме, сам ні ў што не палезе. Кажа: «Я ж бы вам гэтыя тры пуды...»

— Прыбаўляў, калі хлапчука не было ўжо дома. Усе яны добрыя, як спяць, — уставіў у Ганніну гаворку Пятро.

— Праўду кажаце, абяцаць па часе нічога не каштуе. Знарок мог так гаварыць, каб шкадавалі...

— А як вы думалі, вядома, знарок. Ведаў, не пойдзеце ж вы назад забіраць хлапчука. Немачы на іх няма...

Антося паставіла на стол талерку тварагу са смятанай і кубак малака. Пятро адрэзаў пару лустачак хлеба і запрасіў:

— Падсілкуйцеся з дарогі.

Ганна падзякавала. Да тварагу са смятанай, каб не рабіць людзям страты, не дакранулася, а кубак малака і маленькую лустачку хлеба ўзяла. Трымаючы ў адной руцэ малако, у другой хлеб, зноў загаварыла:

— І от скажэце, людцы, сэрца ўсё-такі прадчувае, мусіць, бяду... Гэтыя дні месца сабе не знаходзіла: так і цягне сюды, здаецца, палацела б, каб мела крылы. Адсюль-адтуль ды гляну ў ваш бок. А сёння не ішла, а бягом бегла. От табе і прыбегла, от табе і пераведала дзіця... А дома чакаюць. Той раз ягад паслаў сваім браткам ды сястрычцы, з гэты раз слязьмі сваімі пачастую...

Антося правяла Ганну далёка за фальварак. Ёй хацелася суцешыць жанчыну, аблегчыць яе гора. На развітанне яна параіла:

— Вы там, даражэнькая, а мы тут, паблізу, будзем прыслухоўвацца.

Можа ён дзе на хутары ці ў фальварку якім застаўся ды жыве, а матчына сэрца разрываецца. Мне ўсё адно думаецца: не загіне такі хлапчук,— сказала Антося.

— А можа ён падаўся за мяжу? — прыйшла Ганне думка, як зірнула на ўсход.

— Усё можа быць, — хуценька адказала Антося, але тут жа разважыла іначай: — Хаця чаго ж яму было ісці паначы, калі ён мог застацца там учора днём.

— І то праўда, — згадзілася Ганна. Яны пастаялі хвілінку яшчэ, умовіліся, калі хто пачуе што пра Грышу, перадаць адно аднаму, і разышліся.

... Начытаўшыся казак, Грыша пагуляў у валейбол (спадабалася яму гэта гульня лепш за гарадкі) і пасля абеду разам з другімі шакаэмаўцамі пайшоў сустракаць ніўскіх піянераў і школьнікаў. Пад гул барабана тыя ішлі ў Світалаўку ставіць спектакль.

На вучнёўскія спектаклі часта прыходзілі рабочыя саўгаса, калгаснікі. Часам драматычны гурток ШКМ хадзіў у суседнюю вёску паказваць свае прадстаўленні. У народны дом набівалася там паўнютка людзей.

Грыша ні разу яшчэ не бачыў спектакля. Як зачараваны, сядзеў ён увесь час — так блізка да душы прыйшлася п'еса «Пастушкі». На сцэне віднелася палявая дарога з фурманкай, удалечыні стаялі мэндлікі, а з левага боку дарогі пасвіўся статак; пастушок тужліва глядзеў услед фурманцы.

Спачатку Грышу зацікавілі не артысты, а малюнак. Надта ж знаёмыя мясціны нагадваў ён.

«Ну якраз такая дарога каля нашых Пяскоў, — падумаў хлапчук і зноў у думках перанёсся дахаты. — От, каб тата з мамай пабачылі ўсё гэта», — уздыхнуў ён цяжка і непрыкметна для самога сябе зноў захапіўся тым, што рабілася на сцэне.

Аж здрыгануўся Грыша, як з-за бярэзінкі, што стаяла злева, высунуўся таўстапузы пан і ціхенька пакраўся да задумёнага пастушка.

Грыша ведаў, чаго падкрадваўся пан. Затаіўшы дыханне, ён з трывогай сачыў за кожным «панскім» крокам. Такі выпадак быў з ім, калі ён пасвіў на хутары авечак. Адкуль і калі з'явіўся тады Войцік, хлапчук і да гэтага вечара не мог зразумець. «Відаць, і я тады гэтак задумаўся», — вырашыў цяпер хлапчук. А пан краўся праз усю сцэну да пастушка, каб адсвянціць яго знянацку. Ён нават паварушыў пальцамі на ручцы бізуна, сціскаючы яе мацней. Ведаючы, якая бяда чакае пастушка, Грыша не вытрываў і гукнуў герою п'есы:

— Вася, уцякай!

Усе азірнуліся, хтосьці пагразіў пальцам, хтось цыкнуў. На сцэне Вася не зварухнуўся, не зірнуў у залу і пан, што краўся да пастушка. Яны добра выконвалі свае ролі. Затое які гул падняўся сярод прысутных, як толькі пан хвасянуў пастушка бізуном. Здавалася, усе гатовы былі рынуцца на сцэну і задушыць гэтага ката сваімі рукамі.

— Гад!

— Буржуй! — пачуліся грозныя галасы шакаэмаўцаў.

Доўга не маглі супакоіцца ў зале. Апусцілі заслону, выйшаў ніўскі настаўнік, падняў руку, каб суцішыць расхваляваных дзяцей.

— А за што ён, гад, б'е пастушка бізуном?



— Хто яму даў права?

Настаўнік стаяў з паднятай рукой і чакаў цішыні. Гул павалі сціхаў і раптам пачуўся рэзкі голас:

— Чаму Вася каменем не смальнуў яму ў тоўстае пуза?

— Пацярпіце трошкі, убачыце...

Пакуль драматычны гурток ніўскай школы рыхтаваўся паказваць на сцэне світалаўскай ШКМ першую дзею п'есы, у Ніве адбылося вось што.

Лёня Камейша, вучань шостага класа, таксама сабраўся пайсці разам з усімі на спектакль. Бацька яго, адзіны аднаасобнік у вёсцы, загадаў весці пасвіць каня. Хлапчук адмовіўся.

— Усе ўступілі ў калгас, іхнія коні пастух пасе, а вы ўсё не так, як людзі...

— Дык гэта ўжо не іхнія коні, а калгасныя. А я цябе пасылаю свайго пасвіць.

— Усё роўна не паведу. Вунь усе пайшлі на спектакль, а чым я горшы?

Раззлаваны, Рыгор схапіў сына за каўнер, даў лупцоўку і штурхануў у кут.

Лёня стаяў паміж двума ложкамі і плакаў, а Рыгор хадзіў па хаце, як утрапёны:

— Мала яшчэ дапякаюць мне аднаасобніцтвам людзі, дык і ты ім памагаеш. Бацька я табе ці не?

Хлапчук падцяў зубамі ніжнюю губу, зірнуў з-пад ілба на бацьку.

— Не. Калі не хочаце ісці ў калгас, дык і не бацька.

— Вунь што... — аж пачырванеў Рыгор. — Гэта падзяка бацьку за тое, што выгадаваў такога неслуха?..

Лёня маўчаў. І ад гэтага злосць яшчэ больш разбірала Рыгора.

— Ну, калі я табе не бацька, дык ты мне не сын. Ідзі ў свой калгас, няхай ён цябе корміць і бацькам будзе...— пагразіў Рыгор.

— І пайду,— рашуча ступіў хлапчук з месца.

— Ідзі, ідзі, — схапіў бацька з шастка халацік з саматканага сукна, а са сцяны шапку і шпурнуў сыну. Вопратка ўпала на падлогу.

Хлапчук падняў яе, моўчкі надзеў шапку, узяў пад паху халацік і знік за дзвярыма. Рыгор стаяў сярод хаты і глядзеў праз акно, як сын адчыніў весніцы, выйшаў на вуліцу, зноў зачыніў іх, і, не зірнуўшы нават на хату, пашыбаваў у бок Світалаўкі.

«О, гэта сыночак!.. Яшчэ ён будзе прымушаць мяне ў калгас ісці. Хочаш паспытаць агульнага хлеба, дык ідзі сам. Абрыдла бацькаў есці,— паспрабуй свайго», — не супакойваўся Рыгор.

Так з халацікам пад пахай і зайшоў Лёня на спектакль. Сцішыўся ў куточку ля дзвярэй, каб яго не заўважылі, і з прагнасцю глядзеў на сцэну. Ён пазнаў на сцэне вучняў з іхняй школы, і яшчэ большая крыўда агарнула яго. Ці ж не змог бы і ён гэтак сама выступіць? Мала таго, Рыгор нават не дазваляў сыну дэкламаваць тыя вершы, што вывучалі ў школе.

У перапынку паміж першай і другой дзеямі дзеці заўважылі Лёню і абступілі яго.

Дзіцячыя сэрцы надзвычай чулыя да чужой бяды. Можа таму, што дзеці яшчэ толькі ступаюць на жыццёвы шлях і свае нягоды не кранулі тонкіх струн іхняга сэрца...

Лёня расказаў пра ўсё, што сталася з ім. Ніўцы адзін перад адным пачалі запрашаць ісці да іх у сям'ю, але хлапчук адмоўна ківаў галавой — у Ніву яму дарогі няма. Тады шакаэмаўцы пашапталіся між сабой і сказалі да ніўцаў:

— Мы папросім Ігната Міхайлавіча, каб узяў яго да нас. Будзе тут і вучыцца і жыць.

Хутка адшукалі загадчыка школы Савасцюка і разам з Лёнем пайшлі да яго. Лёня з жалем у голасе расказаў загадчыку пра ўсё тое, што перад гэтым гаварыў вучням.

— Ігнат Міхайлавіч, вазьміце ў нашу школу. Куды ж яму цяпер ісці, калі бацька з хаты выгнаў?.. — прасілі шакаэмаўцы.

— Добра, параімся з завучам, — адказаў той.

— У нас яшчэ са стыпендыяй Васільцу не ўладжана, Ігнат Міхайлавіч, а тут новы клопат, — напомніў завуч, калі Савасцюк расказаў яму пра здарэнне з Лёнем.

— А што рабіць, Аляксей Захаравіч? Дахаты хлапчук катэгарычна адмовіўся вяртацца...

— Калгас няхай возьме...

— Мы лепш дамовімся, каб калгас даваў усё неабходнае на ўтрыманне яго, а пакінуць хлапчука трэба тут. Мы ж не толькі павінны вучыць дзяцей грамаце, прывучаць іх да работы, але і выхоўваць з іх будаўнікоў калгаснага ладу. А ў хлапчука на гэтай глебе з бацькамі разлад.

Завуч хацеў яшчэ нешта сказаць, але загадчык школы паклікаў Севу і сказаў, каб той узяў Лёню ў сваю брыгаду.

— Сёння няхай пасціць з кім-небудзь на адной пасцелі, а заўтра ўладзім.

На сцэне, перад заслонай, з'явіўся ніўскі настаўнік і запрасіў сесці. Пачыналася другая дзея п'есы.

### Федзева магіла

Заняткі ў школе ішлі поўным ходам. Вярнуліся з канікул усе вучні з далёкіх вёсак, прыйшлі навічкі. З'явіліся адзетыя ва ўсё крамнае дзетдомаўцы. Новенькія чорныя гарнітуры іх вылучаліся сярод саматканых світак і шарачковых штаноў сялянскіх дзяцей. Прывыкшы за некалькі гадоў адно да аднаго, дзетдомаўцы і тут на першым часе трымаліся асобнай купкай.

Палягчэла цяпер тым шакаэмаўцам, што аставаліся на лета ў Світалаўцы. Многім з іх — сіротам — не было куды ехаць, а іншыя з'ездзілі на які тыдзень праведаць бацькоў ці родных ды адразу ж назад. Тут ім і весялей было і жылося лепш.

Цяпер, як сабраліся ўсе сто шэсцьдзесят восем вучняў, працаваць даводзілася зусім патрошку: радзей прыходзіла чарга пасвіць, ісці дзяжурыць на кухню. Калі правільна размеркаваць дзень, дык часу хопіць на ўсё: і папрацаваць, і павучыцца, і пагуляць. У ШКМ на ўсё адводзіліся пэўныя гадзіны. Калі на двары, скажам, ідзе дождж і на поле ці на агарод нельга ісці, дык работа заўсёды знойдзецца ў майстэрнях, у класе.

Увосень галоўная праца была на полі ды на агародзе. Сад яшчэ быў малады і пладоў не даваў. Усе дваццаць гектараў школьнай зямлі былі разбіты на маленькія доследныя ўчасткі. Араў увесь майдан трактар з саўгаса.



Вучняў на полі было шмат, і праца спорылася.

На выкапаных бульбяных участках сямікласнікі, як больш дарослыя і старэйшыя, адразу баранавалі, сцягвалі бульбоўнік. Следам за імі хадзілі адны з кошыкамі і збіралі бульбу, другія з віламі — вытрасалі бульбоўнік ад пяску і скідалі ў кучы.

Пасля абеду некалькі вучняў пятага класа, а разам з імі Грыша, пайшлі ў грыбы. Надта ж многа з'явілася апенек. Надвор'е спрыяла, і яны раслі велізарнымі сем'ямі каля пнёў, на пнях.

Дарога ў лес ішла паўз могілкі. Грыша ні разу яшчэ не быў у гэтым баку. Усё яму тут было незнаёма.

— Зойдзем на Федзеву магілу? — спытаў адзін з грыбнікоў.

— Зойдзем, — коратка адказалі астатнія.

Так ужо вялося між шакаэмаўцаў: хто б ні праходзіў з іх каля могілак, — не абміне, каб не зайсці да аднае магілы. І на гэты раз яны трошкі збочылі налева з дарогі і спыніліся каля жалезнай агарожы.

Кожную вясну дзяўчынкі з ШКМ ачышчалі магілу і садзілі кветкі. На магіле раслі астры, саранчукі, зялёненькі барвінак.

Першае, што кінулася Грышу ў вочы — на помніку не было крыжа. На адшліфаваным камені была высечана пяцікутная зорка, а пад ёю напісана:

Камсамолец<br>
Федзя Ткачук.<br>
Нарадзіўся 10 снежня 1906 года,<br>
загінуў ад варожай кулі<br>
19 чэрвеня 1922 года.<br>
Памяць аб табе, дарагі Федзя,<br>
будзе вечна жыць у сэрцах<br>
тваіх братоў-камсамольцаў.



Грыша два разы прачытаў надпіс. Хлопцы расказалі яму, што Федзя — старэйшы брат Севы, цяперашняга брыгадзіра другой школьнай брыгады, і расказалі, як ён загінуў.

Лета 1922 года было неспакойнае. Скончылася грамадзянская вайна, замірыліся з Польшчай, лю-

дзі прыступілі да мірнай працы, але не хацелася мірыцца з такім становішчам панам, накшталт Вайтовіча, і іх паслугачам: то ў адным, то ў другім месцы з'яўляліся падазроныя людзі паблізу граніцы. Яны шнырылі па цёмных кутках і пускалі розныя чуткі то пра боскую кару за бязбожніцтва, то пра намеры замежных дзяржаў знішчыць бальшавізм. Пры зручным моманце забівалі вясковых актывістаў.

Федзя жыў з маці і меншым братам. Бацька загінуў у дваццатым годзе каля Гродна. Гаспадарку яны мелі невялікую. Каня зусім не было. За тое, што хто-небудзь з суседзяў даваў каня заараць якія гоні, адпрацоўвала Алеся, а часам і Федзя, калі было што па яго сіле.

У дваццаць першым годзе, у трэцюю гадавіну існавання камсамола, Федзя разам з іншымі вясковымі хлопцамі арганізавалі камсамольскую ячэйку ў Русінавічах.

Напалоханая суседзямі, маці спачатку ўгаворвала сына:

— Федзечка, дзіцятка, навошта табе той камсамол? Што ён дасць нам каня ці паможа чым?

— А калі я не буду камсамольцам, дык хіба каня хутчэй прыдбаем? Няўжо камсамол перашкаджае гэтаму?

Ну што магла адказаць на сынавы словы Алеся? Вядома, гэта не перашкаджала адно аднаму. І ўсё ж доўгі час яна крыўдавала на Федзю за непаслушэнства. Мог жа ён спытацца ў маці, запісвацца яму ў камсамол ці не. А то прыйшоў са сходу і хваліцца:

— Мама, я ўжо камсамолец.

За працу ячэйка ўзялася адразу. Перш-на-перш з былой карчмы зрабілі народны дом.

Параскідалі баковачкі, зрабілі адну вялікую залу, і ў цёмным кутку змайстравалі сцэну. Пакуль ішоў рамонт, настаўнік арганізаваў драматычны гурток і падрыхтаваў п'есу Чэхава «Мядзведзь».

Пасля першага спектакля зусім інакш пачалі глядзець русінавічаўцы і світалаўцы на камсамольцаў.

— Гэта толькі адзін бок нашай шматграннай працы, — сказаў тады сакратар ячэйкі. — Нам трэба зрабіць нешта большае, каб людзі ўбачылі, хто такія камсамольцы.

Неўзабаве ячэйка вырасла з чатырох да шаснаццаці чалавек. На адным са сходаў камсамольцы вырашылі стварыць пры сельсавеце камітэт узаемадапамогі. Адпрацавалі па чатыры дні на лесараспрацоўках і першыя аддалі свой заробак на ўзнос. Потым паклікалі ўдаву Тэклю Пыжык і выдалі дапамогу на каня.

— А дзеткі мае, чым жа я выплачу такую суму? — збянтэжылася ўдава.

— Выплаціш, цётка, на пяць гадоў даём. Дзеці падрастуць. У заработкі паедуць, палягчэе і вам. А то якая ж гаспадарка без каня...

— Дзетачкі, няхай вам бог дае здароўя, хоць, кажуць, вы і не верыце ў яго.

Хлопцы пераглянуліся, трэба падзякаваць жанчыне за добрае пажаданне, а як зрабіць, калі тут бог успамінаецца.

— За пажаданне быць здаровымі дзякуем, цётка,— выкруціўся Федзя.

Назаўтра хлопцы, сярод якіх быў Федзя, пайшлі ў суседнюю вёску памагаць удаве Тэклі купляць каня.

Калі пра гэта дачулася маці, яе разабрала злосць:



— Добра, дзіцятка, робіш, добра... Самі без каня трэці год гібеем, а ты ходзіш у заработкі, каб другім купіць. Няхай бы Тэкля і ў лес выпраўляла цябе. А то ж мая галава балела, што ў торбачку даць.

— Мама, дарагая, — стараўся ўгаварыць маці Федзя. — Няўжо вы пазайздросцілі цётцы Тэклі? У яе ж чацвёра дзяцей, усе адно пад адным, і муж, як наш тата, забіты на вайне. У вас жа толькі двое. Скажыце, каму перш за ўсё трэба было купіць: нам ці ёй? А да восені, мама, і ў нас конь будзе, не гаруйце, — запэўніў Федзя.

Але не суджана было Федзю набыць каня. 15 чэрвеня Алеся схадзіла да лесніка, што жыў за іхняй вёскай пад лесам, папрасіць каня. Той ахвотна даў, бо ведаў, што Алеся не блага адпрацуе за яго ласку. Яна хутка вярнулася дахаты, узяла пілу, а Федзя тапор і пайшлі да лесніка.

У лесе яны доўга не забавіліся: сушняку і галля было процьма. І толькі яны выехалі з дрывамі на дарогу, як перад Федзевымі вачыма шмыгнула ў леснікоў двор двое незнаёмых мужчын.

Федзя паехаў хутчэй дахаты. Дома ён сказаў маці скідаць галлё, а сам пабег на заставу. Умомант двое коннікаў былі ў лесніка. Той пакляўся хрыстом-богам, што ніхто чужы да яго не заходзіў. Гэта нехта апазнаўся: ён сам толькі што ішоў з лесу дахаты. Пагранічнікі зрабілі вобыск і паехалі з пустымі рукамі.

Ляснік і выгляду не паказаў, калі Федзя прывёў яму каня, што былі пагранічнікі. Федзя таксама нічога не спытаў, каб не наклікаць на сябе падазронасці. Але надарма засцерагаўся хлопец. Ляснік быў у хлеве і праз шчыліну бачыў, як Алеся з сынам угледзелі незнаёмых.

Камсамольская ячэйка дзве ночы засаб хадзіла ў сакрэтныя дазоры, але нікога злавіць не ўдалося. Тыя незнаёмыя, відаць, падаліся далей ад граніцы.

На пяты дзень пасля гэтага здарэння Федзю Ткачука знайшлі нежывога на дальняй палосцы свайго поля. Ён пайшоў па нарваную маткай бярозку для каровы, і там у яго стрэлілі з лесу.

Толькі праз шэсць год выявіўся Федзеў забойца. Ляснік перадаў тады пра ўсё свайму чалавеку ў суседнюю вёску. Той добра ведаў хлопца і падпільнаваў яго на полі.

Камсамольцы не забываліся пра Алесіна гора. Яны самі шкадавалі Федзю і ведалі, што матцы яшчэ цяжэй перажываць страту такога сына. Адсюль-адтуль ды зойдзе каторы да жанчыны: то памагчы што ў гаспадарцы, то слоўцам перакінуцца, то параіць што-небудзь. У сенакос пайшлі ранічкай, скасілі Алесін шнурок, а ідучы на снеданне, сказалі гаспадыні, каб ішла разбіваць ды сушыць.

— Дзякуй вам, хлопчыкі, не забываецеся на мяне, памятаеце свайго таварыша, — хвалявалася Алеся.

— І не забудземся, цётка. І вам, чым зможам, памагаць будзем.

Аднойчы, неяк пад восень, на Алесін двор зайшло чацвёра камсамольцаў: адзін з іх трымаў за повад каня. Алеся і не заўважыла, што на двары столькі людзей. Ёй сказаў Сева, які сядзеў на лаве каля акна і забаўляўся:

— Мама, да нас прыехалі...

Адкасваючы на хаду рукавы, яна выйшла на ганак і, убачыўшы каня, падумала: «Ці не жыта толькі прыйшлі сеяць мае памочнікі?»

— Добры дзень, цётка Алеся! — прывітаўся ад усіх сакратар ячэйкі.

— Дзень добры, дзеткі! — адказала жанчына, акінуўшы ўсіх хлапцоў позіркам.

На момант наступіла нейкая збянтэжанасць, замяшанне. Здаецца, усё было проста, як ішлі сюды, а цяпер з чаго пачынаць, разгубіліся. Дапамагла ім, сама не ведаючы таго, Алеся.

— Што ж вы скажаце, хлопчыкі? — спытала яна.

— Мы, цётка, да вас вось па якой справе. У камітэце ўзаемадапамогі была Федзева заява, ён прасіў пазычыць грошай на каня. Мы вырашылі задаволіць яго просьбу пасмяротна і купілі вам буланага, — паказаў сакратар ячэйкі на каня.

Алеся захваляvалася, заміргала вейкамі. Пасля смерці сына яна і думкі не дапускала, што будзе мець у сваім хлеве каня. Так, думала, і прыдзецца гараваць.

— А дзетачкі мае, — звярнулася яна да камсамольцаў, — калі ж я расплачуся з вамі? Зарабляць у мяне цяпер няма каму, самі ведаеце.

— І не трэба расплачвацца. Гэта вам падарунак ад нашай ячэйкі.

## Пажар у Воўчым Бродзе

Трэці год світалаўская ШКМ прымала ўдзел у раённай выстаўцы. Праводзілася выстаўка на «Дзень ураджаю», чатырнаццатага кастрычніка. Гэта свята працы прыйшло на змену рэлігійным «пакровам».

Тое незвычайнае, чым на гэты раз намерваліся здзівіць выставачны камітэт аграном і загадчык школы — былі цукровыя буракі. Не праходзіў той дзень, каб аграном хоць раз не зайшоў зірнуць на граду тых буракоў.

— Ну як, Маня, глядзіш на свой цукар у Беларусі? Гэта ж навіна з навін. От здзівяцца на выстаўцы, як убачаць нечаканы экспанат з нашай школы. Могуць не паверыць, што цукровыя, — сказаў аднойчы аграном.

— Не павераць, дык няхай пакаштуюць.

— А ты каштавала?

— Каштавала, як прарэджвалі. Салодкія-салодкія, аж губы зліпаюцца.

Аграном Ходаш з прыемнасцю думаў:

«Вось ён, доказ маёй правільнай думкі, што ў Беларусі можна вырабляць свой цукар».

Часта вечарамі ў маленькім пакойчыку агранома гарэў агеньчык. Ціхана Аляксеевіча даўно запаланіла тэма — «Беларускі цукар». Ён перагортваў кніжкі, перапісваў нешта адтуль у свой сшытак. Цікавілі яго найбольш лічбы: колькі пудоў буракоў збіраюць з гектара на Украіне. Па яго падліках выходзіла, што ўраджай, атрыманы світалаўскімі школьнікамі, быў не меншы, і гэта радавала агранома.

Школьная зала перад Святам ураджаю была бітком набіта. Сёння на адной лаўцы побач з Грышам сядзіць начальнік заставы. Ён — часты госць у школе. Яго бадай што нельга назваць госцем, бо прыходзіць ён сюды, як дадому, у родную сям'ю. Амаль усіх школьнікаў ведае па імю і прозвішчу.

Калі астаўся ў школе Грыша, Свірын яшчэ часцей пачаў сюды наведвацца. Часам прынясе кавалак пірага і дасць хлапчуку.

— На,— скажа,— пакаштуй, цётка Насця нешта прыслала.



Першы раз хлапчук пачырванеў і адмовіўся ўзяць:

— Дзякую, нас тут добра кормяць.

Свірын усміхнуўся, правёў рукою па стрыжанай Грышавай галаве і ласкава сказаў:

— Глядзі мне ў вочы і слухай: калі табе старэйшы дае што, вазьмі і падзякуй, а то чалавек можа пакрыўдзіцца...

І Грыша ўзяў.

На гэты раз Свірын прынёс цікавую кніжку. Хлапчуку хацелася зірнуць, што за кніжка згорнута ў газету, але разгортваць не паважыўся: Мікалаю Іванавічу можа не спадабацца яго залішняя цікавасць.

Ішоў сход, абмяркоўвалі, каго з вучняў паслаць на выстаўку. Аграном і брыгадзіры выедуць заўтра нанач. Ім трэба паспець размясціць свае экспанаты.

Загадчыку школы хацелася, каб і некаторыя вучні пабачылі выстаўку. Дырэктар саўгаса паабяцаў узяць восем чалавек на грузавую машыну.

— Няхай паглядзяць. Вядома, будзе карысна і ім і школе ад такой паездкі, — згадзіўся з довадамі Савасцюка дырэктар.

Выбіралі самых лепшых і па працы і па вучобе. Маня прапанавала паслаць Грышу.

Хлапчук уздрыгнуў, пачуўшы сваё прозвішча, і міжвольна падсунуўся бліжэй да Свірына.

— А ён яшчэ не паказаў сябе ў працы, — гукнуў хтосьці.

Яго падтрымаў голас з другога месца залы:

— І па вучобе даганяе яшчэ пяцікласнікаў.

Усе загаманілі, зашумелі. Сакратар ячэйкі пастукаў алоўкам па стале.

— Вось бачыш, Стась, ён даганяе пяцікласнікаў, а ты спускаешся да іх з шостага класа. Дык можа цябе паслаць замест Грышы?

— Ён і хоча, каб яго паслалі, — пачуўся кплівы голас.

Па зале пракаціўся смех.

— А Грыша не камсамолец яшчэ, — зноў кінуў заўвагу Стась.

— Заява яго тут ляжыць, — падняў са стала папку з паперамі сакратар ячэйкі. — Будзем сёння разглядаць. Гэта адно, а па-другое, — мы выбіраем з вамі не адных камсамольцаў, а найлепшых вучняў. Толькі гэта даручана зрабіць камсамольскай ячэйцы. І сход жа наш агульнавучнёўскі. Васілец наш малады шакаэмавец, і ўсе вы, мабыць, ведаеце, як трапіў ён сюды. Далей Світалаўкі хлапец нідзе не быў, няхай паглядзіць наш раённы цэнтр, пабудзе на выстаўцы, азнаёміцца, якая збажына, гародніна і садавіна родзяць у нас. Пабачыць, чые каровы лепшыя — нашы ці панскія, якія ён пасвіў.

Больш пярэчанняў не было, і Грышу выбралі.

Гэты раз начальнік заставы зайшоў у школу не толькі праведаць, як вучацца, як працуюць вучні. У яго была іншая мэта: пагутарыць з навічкамі, напомніць тым, хто вучыўся ўжо летась, што жывуць яны каля самай граніцы.

Пачаў Свірын гутарку са знаёмства.

— Шмат хто з навічкоў, мусіць, не ведае, што мы суседзі. Вы вучыцеся, працуеце, а мы ахоўваем вашу мірную працу. Мэта ў нас з вамі адна — спакойна жыць, добра вучыцца і мірна працаваць. Праўда?

— Праўда... — пракацілася па зале.

Дзесяцігадовая настаўніцкая праца прывучыла Свірына да такіх гу-

тарак, калі ўвесь клас ці прысутныя на сходзе прымаюць удзел. Такія гутаркі заўсёды праходзяць жвавей і даюць большую карысць.

— Але ж вы ведаеце, ёсць людзі, якім не па сэрцы наша мірная праца. Яшчэ жывы Вайтовіч, пан гэтых палацаў. Ён разам з іншымі багацеямі хацеў бы вярнуць сабе гэты маёнтак. Толькі як жа вярнуць яго? Граніцу пільна ахоўваюць пагранічнікі. Дык паны пасылаюць цішком розных ворагаў, каб тыя шкодзілі нам.

Такога ворага не цяжка пазнаць і вам, калі яму ўдасца перайсці незаўважаным. На чужой зямлі ён трывожыцца, азіраецца, усяго баіцца.

Пра выпадак з русінавіцкім рыбаком вы не ўсе ведаеце.

...Аднае нядзелі ўлетку дваццаць шостага года Павел Раманчык сядзеў пад вярбою на беразе Нёмана і вудзіў рыбу. Тым часам на другім баку граніцы з асцярогаю выглядаў з куста невядомы чалавек у шэрай сялянскай світцы, з аброццю ў руцэ.

Ад граніцы да алешніку трошкі больш за кіламетр. Чалавек прабіраецца туды, паўзе па нашай зямлі.

«Каб толькі да кустоў дапяць, там меншая небяспека»,— так думаў, паўзучы, чалавек. На што спадзяваўся ён, перапаўзаючы граніцу ўдзень? Мо' на тое, што днём ходзяць мясцовыя жыхары і цяжка разабраць, хто чужы, хто свой?..

У Раманчыка рыба на хлеб не бралася. Ён устаў пашукаць чарвякоў. Падняў вынесеную веснавой паводкай адну дзеравяку, другую, пагрэбаў рукамі — ніводнага чарвяка няма. Зноў узяў галку хлеба ў рукі, пачаў яе качаць на далонях. Забруджаныя рукі зусім счарнілі хлеб. Задумаўся Раманчык, міжвольна правёў пазногцем па галцы падоўжныя палоскі, затым папярочныя. Галка хлеба нагадала Паўлу «французскую» гранату, асколкам якой ён быў ранены ў дзевяцьсот шаснаццатым годзе.

— Цьфу ты...— плюнуў Павел убок і раптам убачыў, як недалёка ад яго, метраў якіх за чатырыста, сыходзіў з узгорка чалавек. «Хто ж бы гэта? Няўжо каня хто шукае? Можа закурыць у яго ёсць. А то і рыба не клюе, і курыва выйшла»,— падумаў Раманчык і пайшоў ад берага насустрач.

Чалавек заўважыў Паўла: збочыў і прыбавіў кроку.

«Эге, выходзіць, ты з нядобрымі думкамі ў галаве блукаеш тут, калі цураешся людзей. Не наш, значыць,— здагадаўся Павел і тут жа вырашыў: — Трэба пераняць яго».

Прыгнуўшыся, Раманчык пабег берагам рачулкі, што ўпадала ў Нёман, каб перасекчы шлях парушальніку. Той разгадаў Паўлаў намер і таксама прыпусціўся з адным жаданнем: «Каб толькі да кустоў, каб толькі да іх паспець...»

«Каб толькі не дапусціць да алешніку»,— стараецца Павел забегчы ад кустоў. Тады парушальнік змяніў кірунак у бок сасновага лесу. Прабег сотню крокаў і на момант спыніўся. Потым зноў пабег па дрыгве, праваліўся да калень, выцягнуў адну нагу, другую, абвёў вачыма балота і зусім разгубіўся. Бегчы далей, відаць па ўсім, было небяспечна — можна з галавою праваліцца ў багну.

А Павел ужо тут.

**— Стой! Рукі ўгору!**

Парушальнік выканаў загад, падазрона акінуўшы позіркам Паўла з галавы да ног. Каб не даць ворагу апамятацца, рыбак мацней сціснуў у руцэ галку хлеба і грозна крыкнуў:



— Назад! Не аглядацца! Паспрабуеш у бок — адразу «французскую» ў плечы запушчу.

Не паспелі яны выйсці з балота на топкую дарогу, як там ужо чакалі іх двое коннікаў.

— Ледзьве пераняў. Хацеў у той лес драпануць,— паказаў Раманчык на высокі сасняк...

Скончыўшы пра Паўлаў подзвіг, начальнік заставы заўважыў:

— Вось таму і моцная наша граніца, што разам з пагранічнікамі яе ахоўвае ўвесь савецкі народ. І вы зможаце добра памагаць Радзіме, калі будзеце пільнымі. Затрымаць ворага вам не так лёгка, а паведаміць нам можаце. Толькі рабіць трэба асцярожна і разумна. Нам абы натрапіць на след ворага, а там ён не вырабіцца з нашых рук...

Гэтым часам хтосьці з вучняў, які выходзіў з залы, вярнуўся і ціха шапнуў:

— Пажар у Воўчым Бродзе.

У зале зашумелі. Тыя, што сядзелі бліжэй да дзвярэй, рынуліся на двор. Сакратар ячэйкі паспрабаваў супакойваць, але гэта не памагло. Следам за вучнямі ён выбег і сам.

Ад Світалаўкі да Воўчага Броду было кіламетраў сем. З таго калгаса ў ШКМ вучылася восем чалавек. Яны плакалі, стоячы на двары.

— Не хвалюйцеся, можа там нічога страшнага няма. Мы паедзем зараз туды і пабачым,— сказаў загадчык школы.— Саўгасная пажарная каманда памчалася ўжо.

— І мы паедзем, і мы паедзем...— загаманілі вучні.

— Не рабіце панікі, ідзіце па хатах і вучыце ўрокі,— загадаў Савасцюк.

Начальнік паспяшыў на заставу. Яго непакоіла прычына пажару. Месяца не прайшло, як арганізаваўся калгас, і вось на табе... Ці не падпаліў хто?

Зарыва на небе пашыралася і чырванела.

## Густы туман

З лесу на ўскрай хмызняку выйшлі двое. Яны доўга блукалі па балоце, абрасіліся і, мокрыя, стаялі ў нерашучасці. Іх разбірала злосць: паблізу брахалі сабакі, і нельга было распазнаць, што за паселішча ў густым тумане.

«Дзе мы знаходзімся? Куды ісці?» — трывожыла іх адно і тое ж пытанне. Так яны прастаялі некалькі хвілін, моўчкі ўзіраючыся ў той бок, адкуль даносіўся брэх. Нарэшце адзін не вытрымаў і шапнуў:

— Гэтак і да раніцы правандраваць можна. Ці не пайсці на сабачы брэх і даведацца хоць, дзе мы.

Другі нічога не адказаў. Зноў наступіла трывожная цішыня. Абодва адчувалі — няма іншага ратунку, як зайсці да каго-небудзь і спытацца пра мясцовасць. Аднак рызыкаваць ім не вельмі хацелася.

І ўсё ж высокі рашуча ступіў наперад і пашыбаваў па іржэўніку туды, дзе аж заходзіліся, брэшучы, сабакі. За ім, крадучыся, пайшоў другі.

— Каб на вас здыхата... Сну вам няма...— вылаяўся высокі на сабак. Мужчыны прайшлі яшчэ крыху і наткнуліся на плот. Спыніліся і ў ту-

мане распазналі хату. Адшукалі ў плоце веснічкі, што выходзілі на агарод, адчынілі іх і хуценька падышлі да ганка.

— Сцяпан, Сцяпан... — пачуўся жаночы голас у хаце.

Напрацаваўшыся за дзень каля малатарні, гаспадар спаў непрабудным сном.

— Сцяпан, чуеш? — паўтарыла зноў жанчына.

— Ну, што табе трэба? — спытаў злосна мужчынскі голас.

— Паглядзі, можа зноў ваўкі каля хлява ходзяць.

— Адкуль ты гэта ўзяла?

— Чуеш, сабакі аж зямлю дзяруць. Гэта не так сабе. Я ўжо даўно не сплю і прыслухоўваюся.

— А ты лепш спала б сама і другім дала б адпачыць,— усё з тою ж злосцю адказаў Сцяпан. Неўзабаве ўсё ж заскрыпеў ложак, і ў хаце пачуліся крокі.

— Не грукай ты абіякамі *, хлопца разбудзіш, — зноў азваўся жаночы голас.

— Не бойся ты за хлопца. Яго і гарматай не разбудзіш у такую пару,— не змяншаючы груку, пайшоў Сцяпан да парога.

— Вазьмі ў сенцах каля драбіны жалезныя вілы, мала што там...

На жончыну параду гаспадар нічога не адказаў і выйшаў за дзверы. Чуваць было, як стукнула аб прабой засаўка, затым пачуўся скрып іржавых дзвярных слесакоў.

Незнаёмыя адышліся ў бок ад ганка.

Не выходзячы з сянец, Сцяпан высунуў у прыадчыненыя дзверы галаву і пачаў узірацца. Адзін з незнаёмых знарок кашлянуў.

— Хто тут? — спалохаўся Сцяпан, хуценька зачыніў дзверы і залажыў засаўку.

— Каморнікі, — пачуўся голас з двара. — Едзем у Сямёнаўку, ды заблудзіліся.

У далейшыя размовы Сцяпан не пусціўся. Ён зайшоў у хату і шапнуў жонцы:

— Якія табе ваўкі. Людзі стаяць каля ганка.

— Хто яны? Ты ж нешта гаварыў з імі?

— Кажуць — каморнікі. Едуць у Сямёнаўку, ды заблудзіліся.

— Спытай, чаго яны хочуць.

Сцяпан зняў абіякі і ціхенька, каб не грукаць па падлозе, падышоў да акна і спытаў:

— Чаго вам трэба?

— Мы едзем у Сямёнаўку, ды заблудзіліся, — паўтарыў адзін з мужчын. — Хочам распытаць дарогу і можа ёсць што перакусіць. Выгаладаліся.

— Перакусіць можна, чаму ж, — адказаў Сцяпан праз акно. Падышоў да бакоўкі, дзе ляжала на ложку жонка і спытаў парады: — Мусіць, трэба пусціць?

— Пусці, можа і сапраўды заблудзілі людзі.

Сцяпан запаліў лямпу і пайшоў адпіраць дзверы. Следам за гаспадаром у хату ўвайшло двое мужчын, адзін з іх, вышэйшы, з партфелем. Адзеты яны былі чыста, па-гарадскому, у руках тонкія арэхавыя пруточкі.

* Абіякамі называлі тут чаравікі з драўлянай падэшвай, у якіх ходзяць у гразкае надвор'е.



— Прабачце, што патурбавалі, — сказаў замест прывітання вышэйшы, акінуўшы вострым позіркам хату. — Давалі тэлеграму, каб прыехалі на станцыю, ды нешта ніхто не з'явіўся. Прыйшлося ісці пехатой.

— Можа тэлеграмы не даставілі з пошты. А то прыехалі б, калі прасілі каморніка. Сядайце, — уважліва агледзеў Сцяпан мужчын.

— Дзякуй. Прысесці не пашкодзіць, бо стаміліся, як тыя ганчакі на паляванні.

Незнаёмыя прыселі каля стала.

— Алеся, — звярнуўся Сцяпан да жонкі, адхінуўшы фіранку ў бакоўку, — устань, пашукай людзям чаго з'есці.

— Малака хіба з хлебам, — адказала тая.

— Чаму толькі малака?..— скрывіўся Сцяпан і зайшоў у бакоўку.— Масла прынясі, сыр можа ёсць, паглядзі. Людзі здарожыліся.

Пакуль Сцяпан гаварыў з жонкай у спальні, невядомыя непрыкметна ўстанавілі, дзе яны знаходзяцца. Ім памагло пісьмо Сцяпанавага сына з арміі і газеты з наклееным адрасам, што ляжалі на стале. Цяпер ім засталося толькі пад'есці. Адсюль дарогу яны знойдуць самі.

Следам за мужам з бакоўкі выйшла Алеся, прывіталася з незнаёмымі і пайшла на кухню. Неўзабаве адтуль данёсся бразгат пасуды.

Грыша спаў за сталом. Ад святла і чужой гаворкі ён ачнуўся, зірнуў на незнаёмага, калі той павярнуўся да яго леваю шчакою, і ледзь не ўскрыкнуў ад здзіўлення. Няўжо яму здалося? «Гэта ж Місюк!»

Так, гэта быў Місюк і яго напарнік па рабоце Сушчыцкі.

— Ідзі, Грыша, засні на маёй пасцелі, пакуль пад'ядуць людзі, — сказаў Сцяпан хлапчуку.

— Няхай спіць тут, ён нам не перашкаджае, — сказаў Місюк, уважліва паглядзеўшы на Грышу. Надта ж знаёмы здаўся яму хлапчукоў твар.

«Да чаго ж падобны на Вайтовічавага пастушка», — падумаў ён.

Грыша, праціраючы кулаком вочы, моўчкі злез з лавы, у трусіках выйшаў за дзверы, быццам бы па пільнай патрэбе.

— Сын? — кіўнуў Місюк галавою на дзверы, калі хлапчук зачыніў іх за сабою.

— Не, — адказаў Сцяпан. — Кватарант. Разам з сынам у «Шакаэме» вучыцца. Мой паехаў з экспанатамі на раённую выстаўку. Заўтра ж «Дзень ураджаю», свята земляробаў.

— Трэба будзе і нам наведаць, калі паспеем, — сказаў Місюк свайму напарніку.

— Будзе відаць, — адказаў абыякава Сушчыцкі.

Місюк прапусціў гэтыя словы міма вушэй. Яго цяпер непакоіла другое: як мог апынуцца тут пастушок? І чаму Вайтовіч нічога не сказаў, калі ён тыдзень назад быў у Караліне?

Вярнуўшыся з двара ў хату, Грыша пайшоў не на сваю пасцель, а ў бакоўку. Місюк уважліва правёў хлапчука позіркам і ўпэўніўся ў здагадцы.

— Забірай, Грышачка, сваё адзенне, каб не перашкаджала людзям, — сказаў наўздагон хлапчуку Сцяпан.

— Няхай ляжыць, яно нам не перашкаджае, — адказаў Місюк і ўсеўся на Грышавы штаны і сарочку, якія ляжалі тут жа на лаве.

Грыша і сам не пайшоў па адзенне. Чуваць было, як ён варочаўся на пасцелі. Гэта зусім супакоіла Місюка і ён сказаў:

— Гэта ж трэба так заблудзіцца. Маглі за мяжу да паноў трапіць. От бы ўжо ўсыпалі нам па двадзесце пенць.

Незнаёмыя зірнулі адзін на аднаго і зарагаталі.

— У такі туман, як сёння, заблудзіцца не дзіва... Тут на сваім пасёлку можаш на суседні плот узбіцца, не то што чужым людзям, па незнаёмых сцежках блукаючы. А да мяжы вам яшчэ ісці ды ісці,— і каб перамяніць гаворку, гукнуў жонцы:

— Ну, скора ты дасі людзям есці!

— Дай кубкі памыць. Увечары пакінула так, а цяпер не даскрабешся. Крой там пакуль хлеб...

Сцяпан зняў з бэлькі бляшанку з тытунём, паставіў на стол і прапанаваў закурыць, пакуль старая збярэ паесці, а сам пачаў кроіць хлеб.

Закурваць мужчыны не сталі. Місюк насыпаў у насовачку добрую жменю самасаду, завязаў на вузялок і паклаў у кішэню. Затым адсунуў бляшанку, падзякаваў і зноў вярнуўся да ранейшай гаворкі:

— Хіба так далёка мяжа, што вы кажаце, да яе ісці ды ісці?

— Гледзячы як ісці: калі напрасцяк, дык вёрст дзевяць будзе, а па дарозе і ўсе дванаццаць набяруцца.

— А як жа ваша вёска завецца? — нахіліў трошкі галаву і прыжмурыў вока Місюк.

— Гэта не вёска, а пасёлак Малады Бор, — адказаў Сцяпан, падкладваючы хлеб кожнаму з мужчын.

Місюк зарагатаў.

— Ці ты, дзядзька, вялікі хлус, ці думаеш, што мы якія шпіёны.

— Чаму? — здзівіўся гаспадар.

— Ці ж гэта Малады Бор?

— А што, па-вашаму?

— Па-нашаму, Русінавічы. І зваць вас Сцяпан Андрэйчык, праўда? Гэта ж вам прыслалі? — паказаў на пісьмо і на газету Місюк.

Сцяпан пачырванеў, знарок паказаў сваю разгубленасць і, махнуўшы рукою, адказаў:

— А няхай вас, няхай... Праўду кажуць людзі: не поп — не прыбірайся ў рызы. Хацеў раз на вяку схлусіць і то няўдачна.

— А навошта ж вам хлусіць?

— Ну, як вам сказаць, — пацісну́ў плячыма гаспадар. — Розныя людзі поначы ходзяць. Для добрага чалавека і дня хапае, каб зрабіць сваю работу.

— Выходзіць, мы нядобрыя?

— Я пра вас нічога не кажу. У душу чалавеку не залезеш. Думаеце, учарашняй ноччу добры чалавек спаліў калгас у Воўчым Бродзе?

Мужчыны пераглянуліся. Як добра, што гаспадар сам распачаў гаворку пра пажар. Зарыва над Воўчым Бродам яны бачылі самі, а колькі згарэла — не ведалі. А ведаць хацелася і нават патрэбна было.

— І шмат чаго згарэла? — спытаў абыякава Місюк.

— Амаль уся вёска. Двароў дзевяноста. Людзі толькі на новае жыццё браліся, а іх — у галечу.

— Чаму ж у галечу? Дзяржава паможа. Яна ж зацікаўлена, каб людзі ішлі ў калгасы.

— Людзі і самі зацікаўлены калгасамі, не толькі дзяржава. А што на гэтых шнурочках за жыццё? З бараной завярнуцца нельга.

Алеся прынесла масла, сыр, паставіла на стол і зноў пайшла на куханьку. Хутка яна вярнулася са збанком і двума кубкамі.



— На большае выбачайце. Чым багаты, тым і рады. Перакусвайце, калі ласка,— запрасіла гаспадыня і адышлася.

— Што вы, гаспадынька, гэта ж каралеўская вячэра, — усміхнуўся Місюк, аблізваючы губы. Ён узяў за вушка збанок, каб наліць у кубкі малака, ды так і не наліў. Што гэта такое? Ці то здалося яму, ці сапраўды патыхнула з бакоўкі ветрыкам і заварушылася фіранка.

Місюк, нічога не кажучы, паставіў збанок на стол, устаў з лавы і расхінуў абедзве полкі фіранкі. Так, яму не здалося. Сапраўды, адтуль патыхала свежым паветрам праз адчыненае насцеж акно, і Грышы на пасцелі не было.

У адзін момант Місюк усё зразумеў.

— На заставу паслаў кватаранта? — кінуўся ён да Сцяпана.

— На якую заставу? Ён жа там, у бакоўцы.

— Пакажы, дзе ён? — схапіў Місюк Сцяпана за каўнер і павярнуў тварам да бакоўкі. Ён іrванyў .фіранку, нітка парвалася, і абедзве полкі яе ссунуліся на зямлю. Ад святла лямпы было добра відаць усё ў спальні.— Ну, дзе ён? Дзе?

— Не ведаю, толькі я не пасылаў яго нікуды, — адказаў Сцяпан.

— А хто, я паслаў? Ён? — паказаў Сушчыцкі на Місюка і так урэзаў кулаком у патыліцу Сцяпану, што той не ўстаяў на нагах.

Алеся залемантавала, забегала па хаце.

«Каморнікі» кінуліся прэч за дзверы. Ад парога ўжо Місюк вярнуўся назад, схапіў са стала акраец хлеба і выбег следам за Сушчыцкім.

— У які бок?— спыніўся Сушчыцкі каля веснічак.

— Хвіліначку, дай агледзецца. Калісьці я прыязджаў з бацькам сюды. Іхняя вуліца ідзе ў бок мяжы, толькі не ведаю, у які канец мы трапілі.

Але як ні ўглядаліся Місюк і Сушчыцкі ў цемрыва густога туману — нічога разабраць не маглі. Толькі сабачы брэх разлягаўся па вёсцы ды наводзіў на іх большы страх. Марудзіць было нельга. Алесін лямант можа хто пачуць і прыбегчы.

Місюк і Сушчыцкі прыгнуліся за плотам.

— Пайсці ды прыкончыць яго зусім? — падаў думку Місюк, пачуўшы, як Алеся бразнула варотамі ад вуліцы.

— Пайшлі лепш адсюль, ён і так доўга не пажыве,— шапнуў Сушчыцкі.

## Трывога на заставе

Грыша, як толькі зайшоў ў спальню, хуценька надзеў святочныя штонікі, сарочку, адчыніў акно і вылез на двор. Памкнуўся быў зачыніць яго, ды збаяўся, каб не забразджэлі шыбы.

Ад Сцяпана да пагранічнай заставы дарогаю кіламетраў са тры, а праз балота і аднаго не будзе — рукой падаць. Як ісці: дарогаю ці праз балота?

«Пакуль аббяжыш дарогаю, дык і след іх прастыне, — падумаў Грыша і тут жа вырашыў: — Вядома, трэба спяшацца».

Хлапчук падкасаўся і пабег напрасткі. Аж за калені грузнуць ногі. Дарма што восень і гразь халаднаватая, а Грыша аж спацеў увесь.

«А можа гэта сапраўды каморнікі заблудзіліся? І шрам у аднаго такі, як у Місюка, — раптам усумніўся хлопчык. — Што тады? Ну і няхай сабе каморнікі. Праверацъ дакументы, упэўняцца хто і паедуць. Застава павінна ведаць пра кожнага незнаёмага чалавека, казаў учора на сходзе начальнік. На тое граніца...»

Ну, вось і балота скончылася. Грыша абцёр з ног гразь, адкасаў калашыны, але ў гэту ж хвіліну пачуўся грозны голас:

— Ні з месца! Кладзіся!

Чулае вуха пагранічніка здалёк улавіла хлюпанне па гразі і шолах кустоў. Пакуль Грыша прабіраўся па балоце, дык пагранічнікі падрыхтаваліся сустрэць яго, як сустракаюць кожнага незнаёмца, што трапляе сюды.

Момант Грыша стаяў разгублены, потым ледзь чутным голасам прашаптаў:

— Мы свае, гэта я...

— Кладзіся! — зноў пачуўся той жа настойлівы голас.

Грыша лёг ніц, уцягнуўшы галаву ў плечы. Пагранічнікі падышлі бліжэй.

— Ты хто такі? — спытаў адзін з іх.

— Грыша Васілец з «Шакаэм».

—Але, Грыша, — пазнаў па голасе другі пагранічнік. — Уставай. Куды ты бяжыш?

— Да начальніка, у заставу... Да дзядзькі Сцяпана, дзе я жыву, двое мужчын зайшло. Адзін з-за мяжы. Я пазнаў яго. Ён прыходзіў да пана, калі я пасвіў каровы.

— Сарокін, бяжыце з Грышам на заставу.

Умомант яны зніклі ў густым тумане.

Свірын не клаўся яшчэ спаць, як далажылі па тэлефоне з дзяжуркі пра здарэнне.

— Зараз іду, — коратка адказаў ён.

Што некалькі дзён назад мяжу перайшлі двое мужчын, у заставе ведалі. Натрапілі на след адразу, але нагнаць не змаглі, нават з сабакам: прайшоў дробненькі дожджык і змыў пах чалавечых ног. Усе гэтыя дні стаялі ўзмоцненыя пасты, дзе толькі маглі прайсці парушальнікі.

І вось яны з'явіліся. Трэба было спяшацца, каб не выпусціць з рук.

— Падняць усіх, узмацніць пасты, — загадаў начальнік заставы і сам з двума коннікамі адразу памчаўся ў Русінавічы да Сцяпана. Следам за імі пабег праваднік з сабакам.



**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**

**Адбыўся першы выпуск мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Часопіс «Маладосць» знаёміць чытачоў з дыпломнымі работамі выпускнікоў.**

**Васіль Ярмоленка нарадзіўся ў 1924 годзе ў Мінску. Сярэднюю мастацкую адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішчы, а потым вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Дыпломная карціна «Раніца ў калгасе» — першае закончанае палатно маладога мастака. Цяпер В. Ярмоленка працуе выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы.**



Грышу начальнік заставы сказаў нікуды не адлучацца, а быць разам з дзяжурным, хоць хлапчук і спяшаўся дахаты.

— Можа іх скора прывядуць, дык ты пазнаваць будзеш. Вось чаму цябе пакінулі тут, — растлумачыў дзяжурны, калі яны асталіся ўдваіх.

Хлапчук трошкі пасядзеў, паглядзеў праз чорныя шыбы на двор і, сказаўшы дзяжурнаму: «Я зараз вярнуся», выйшаў за дзверы.

У дзяжурку Грыша больш не вярнуўся. Калі ён апынуўся на двары, яму да таго захацелася даведацца, ці засталі пагранічнікі Місюка і Сушчыцкага ў вёсцы, што ён не змог стрымаць свайго жадання і памчаўся дахаты.

«Павінны застаць, — думаў Грыша, — яны надоўга расселіся за сталом. Ніхто з іх не падумае, што я пабег на заставу. Шкада, што Колі няма дома, удваіх пабеглі б. Удваіх смялей».

Прайшоўшы трошкі, Грыша хацеў збочыць і ісці праз балота, але прыгадаў, што там зноў могуць затрымаць, і не пайшоў. Да таго ж успомніў, як плёхаўся па гразі, і яго ўсяго аж скаланула. Дзіўна Грышу: сюды ішоў з вялікай ахвотай, не палохала ні гразь, ні цемень з туманам, а назад нават ад шолаху лісцяў чамусьці кідае ў дрыжыкі.

Каля вёскі начальніка заставы і салдата сустрэлі двое калгасных коннікаў. Яны баяліся, ці дабяжыць упору Грыша, і памчаліся на заставу самі.

Усе пяцёра коннікаў прымчаліся да Сцяпана. У хаце было ўжо шмат людзей. Як толькі Місюк і Сушчыцкі выбеглі на двор, Алеся кінулася ратаваць мужа. Яна паспрабавала падняць Сцяпана на ложак і не змагла. Аглушаны, ён ляжаў на падлозе і цяжка хроп. Тады Алеся кінулася да суседзяў прасіць дапамогі. Адны пабеглі да Сцяпана, а двое ў канюшню, каб узяць коней і даць знаць пагранічнай заставе.

— А каб яны галовамі панакладалі, каб яны!..— шаптала Сцяпанава суседка, стоячы каля ложка. — Глядзі, гэта, можа, тыя парушальнікі, што Воўчы Брод спалілі.

— Усё можа быць, — адказвалі ёй жанчыны.

На гэту гаворку і ўвайшоў Свірын.

— Ну, як гаспадар сябе адчувае? — спытаў ён.

**Фёдар Бараноўскі нарадзіўся ў 1924 годзе ў г. Мінску. Працаваў слесарам, а пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі — мастаком-афарміцелем. Прафесійную мастацкую падрыхтоўку атрымаў спачатку ў Мінскім мастацкім вучылішчы, а затым у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Побач з жывапісам працуе ў галіне графікі. Яго дыпломная карціна — «Выхад з блакады».**



— Трошкі ачуньвае,— адказаў калгаснік.— Нашатырнага спірту ледзь знайшлі. Ты зноў капні на ватку і да носа, — параіў ён дзяўчыне, што стаяла ля ложка з бутэлечкай і ваткай у руцэ.— Некалькі разоў ужо міргаў вачыма... О, зноў...

На гэты раз Сцяпан даўжэй глядзеў асавелымі вачыма на прысутных. Алеся трымала ў сваіх руках яго руку і скрозь слёзы прасіла:

— Сцяпанка, зірні, во і начальнік прыехаў. Ну, хоць адным слоўцам азавіся...

Праз хвіліну Сцяпан зноў акінуў позіркам хату і глянуў на Свірына:

— Дзе яны?

— Злавілі іх, Сцяпанка, злавілі. Бачыш, начальнік прыехаў падзякаваць табе і Грышу, — аж не ведала як утрымаць сваю радасць Алеся.

— Ну, нічога, значыць, выжыве, — пракаціўся радасны шэпт між прысутных пасля першых Сцяпанавых слоў.

Свірын так і не даведаўся, у які бок пайшлі злачынцы са Сцяпанавай хаты: ніхто не бачыў. У іх адна дарога, а ты гадай, куды маглі ўцячы яны адсюль.

Неўзабаве прыбег праваднік з сабакам, але Джэк не змог узяць следу: шмат людзей перавярнулася за гэты час у Сцяпанавай хаце.

— З нашых рук яны не вырабяцца, — сказаў Свірын на адыходзе, а старшыні калгаса хутчэй загадаў, чым параіў: — Павялічце варту, каб не паўтарылася тое, што ў Воўчым Бродзе.

Місюк і Сушчыцкі гэтым часам сядзелі ў канцы вёскі пад кустом ажыны і, разламаўшы акраец хлеба, елі яго. Ісці ў такі час у невядомую дарогу было рызыкоўна, і сядзець тут цэлы дзень — таксама не меншая небяспека. Учора абышлося добра, дык гэта ж было далёка ад граніцы, а тут могуць з сабакамі знайсці. Праўда, Місюк па слядах пасыпаў Сцяпанаў самасад.

Расседжвацца вельмі не было калі. Трэба ісці, пакуль не развіднела. А куды, у які бок падацца? Пайшлі наўздагад і наткнуліся на плот, што абгароджваў русінавічаўскі выган. Яны прыгнуліся, пералезлі праз сярэднюю жэрдку і апынуліся на выгане. Зноў паўстала адно і тое ж пытанне: «Куды ісці?»

— Ты ж казаў, іхняя вуліца магла б уперціся ў мяжу, калі б яна працягнулася кіламетры два.

— Казаў, — буркнуў Місюк.

— Дык хадзем у той бок, — махнуў Сушчыцкі рукой у цемень.

— А можа ў той? — паказаў у процілеглы бок Місюк. — Як тут разабрацца, дзе ўсход, дзе захад? Трэба ж было ўгробіць компас у Воўчым Бродзе. Каб ён цяпер быў у нас, дык ніякага б клопату.

— Што ты шкадуеш?.. Траха самі галовамі не належылі, а ён — компас...

— Мне здаецца ўсё ж — у тым баку мяжа, — зноў паказаў на захад Сушчыцкі.

Не ведаючы мясцовасці, яны пайшлі наўздагад у бок ад вуліцы. Перасеклі палявую дарогу, прайшлі трохі полем, сталі на момант, паслухалі і, асцярожна ступаючы, зноў падаліся далей.

З дарогі Грыша звярнуў на сцяжынку. Для большай смеласці ён трымаў у руцэ невялікі кіёк, размахваў ім у такт хадзе. Раптам ці то здалося яму, ці сапраўды пачуліся крокі. «Можа ўцяклі Місюк і той, другі, дык калгаснікі ідуць шукаць іх», — падумаў хлапчук. Коля яму



расказваў, што ў Русінавічах, у Світалаўцы ды і ва ўсіх вёсках так вялося: калі трэба памагчы пагранічнікам — памагаюць усе.

Людзі набліжаліся. Грыша саступіў трошкі са сцяжынкі і сцішыўся. Цікава, хто ж там ідзе? Яму і ў галаву не магло прыйсці, што Місюк і Сушчыцкі накіроўваюцца ў бок граніцы. Ды хлапчук і не ведаў, што яны ўцяклі ўжо ад Сцяпана. Як толькі мужчыны падышлі зусім блізка, Грышу здалося, што шэпчуць не Місюк з Сушчыцкім, а іхні сусед з некім.

— Дзядзька Андрэй, гэта вы? — запытаў напаўголаса Грыша.

— Я,— здрыгануўся Місюк, пачуўшы сваё імя. Аднак страх не заглушыў яго слыху: голас хлапчука здаўся дужа знаёмы — О, дык гэта наш сябар, — схапіў Місюк Грышу за руку, калі той выйшаў да іх на сцяжынку.

Хлапчук перапалохаўся, у горле перасохла, ён не ведаў, што гаварыць, — думаў суседзі, а тут вунь у чые лапы трапіў.

— Не развітаўся з намі ў хаце, дык твой гаспадар паслаў нас насустрач табе. Ну, добра, што мала часу патрацілі на пошукі, — прыкінуўся радасным Місюк. — Дарогу ты ведаеш тут, пойдзеш разам у Караліну. Памятаеш, Грыша, я табе даў дваццаць грошай на цукеркі? А цяпер, як дойдзеш да пана Вайтовіча, аж дваццаць злотых будзеш мець ад мяне.

— Я не пайду да пана Вайтовіча. Ён заб'е мяне за штраф.

— За які штраф?

— Панскія каровы трапілі на гэты бок мяжы.

— О, за гэта біць мы не дадзім. А за тое, што прыдзеш з намі, пан даруе табе ўсё, і ты з грашыма пойдзеш да бацькоў.

— Усё роўна не пайду. Мне тут лепей, як у Караліне.

— Ну, калі не хочаш ісці да маткі, заставайся сабе тут, толькі давядзі нас да мяжы, а сам вернешся.

— Я не ведаю, дзе мяжа, — ледзь не заплакаў Грыша.

— Не ведаеш? А ў заставу дарогу знаеш, нягоднік! — страсянуў Місюк за каўнер хлапчука.

— Не павядзеш, смерць табе тут. Бачыш гэта? — паказаў нож Сушчыцкі.

— А як мяне зловяць пагранічнікі? — усхліпнуў Грыша.

— Цсс, — цыкнуў Місюк. — Не распускай нюняў. Вядзі туды, дзе няма пагранічнікаў.

Грыша крануўся ў дарогу. Не выпускаючы з рук каўняра хлапчуковай сарочкі, следам ішлі Місюк і Сушчыцкі.

Ці то здалося Грышу, ці сапраўды пачуўся ў начной цішыні конскі тупат? Прыслухаўся лепш: так, гэта тупат. На заставу вяртаўся начальнік і коннікі.

Раптам тупат сціх. «Няўжо яны паехалі другой дарогай? Хто ж мне паможа? А што, калі драпануць самому? Не, пакідаць іх адных нельга. Трэба іх весці на заставу, але як?» — хвалявалі трывожныя думкі Грышу. Ён на момант спыніўся, ці не ўловіць слых тупату, але ўсё было ціха.

— Ты чаго стаў? Вядзі далей, — штурхнуў яго злёгку Місюк.

— Баюся ісці на мяжу. Ідзіце адны, — прыкінуўся хлапчук.

— А дзе мяжа?

— Вунь там, — паказаў Грыша ў бок заставы.

— Там? У лапы пагранічнікаў пасылаеш? — страсянуў за каўнер

Місюк. — Цяпер я павяду цябе. Ідзі наперад. Пойдзем да Вайтовіча. Я чуў пра твае штучкі.

Усяго мог чакаць хлапчук, толькі не гэтага. Страх апанаваў яго. Ён ірвануўся, але ўчэпістая Місюкова рука ўтрымала за каўнер.

— Заб'ю, калі будзеш уцякаць.

«Каб павесці іх на той пост, дзе затрымалі былі пагранічнікі мяне? Можа яны і цяпер там?»— падумаў Грыша, але тут жа спахапіўся:— Яны не палезуць у балота, пабаяцца». Прыгадалася, як учора расказваў начальнік пра таго парушальніка граніцы, што ледзь не захлынуўся ў дрыгве, уцякаючы ад рыбака. І страшэнна захацелася хлапчуку, каб і гэтых злачынцаў злавіць такім спосабам. Толькі дрыгвы тут няма, ды і цёмна.

Зусім паблізу затупацелі коні. Місюк і Сушчыцкі кінуліся ўбок да лазовага куста, пацягнуўшы за сабою Грышу. Каб даць пагранічнікам трывожны сігнал, хлапчук хацеў крыкнуць, але Місюк на першым гуку «А...» закрыў Грышу далоняй рот.

— Навошта ён табе? — сыкнуў Сушчыцкі.

— Гэта ж цэлы скарб для дэфензівы і Вайтовіча.

— Патрэбен табе Вайтовіч, як у мосце дзірка. Сваю галаву ратуй. Прыкончым гадзяня і ўсё, — дастаў Сушчыцкі нож з-за халявы.

— Паспеем прыкончыць, — адштурхнуў яго Місюк.

Тупат набліжаўся, адзін з коней моцна зафыркаў. Пагранічнік паляпаў каня па шыі і нешта шапнуў. Да чаго карцела Грышу крыкнуць...

Ні Грыша, ні Місюк з Сушчыцкім не ўяўлялі нават сабе, што за пяць крокаў ад іх ляжалі двое пагранічнікаў. Яны чакалі толькі, каб пад'ехалі бліжэй коннікі і пад конскі тупат накінуцца на Місюка і Сушчыцкага.

Разам з коннікамі набліжаліся паўзком да злачынцаў і пагранічнікі. І толькі Свірын з салдатамі параўняўся з кустом, як тыя пагранічнікі, што паўзлі па зямлі, усхапіліся і гукнулі:

— На падмогу!

Сушчыцкі хацеў абараніцца нажом, але не паспеў — пагранічнік спрытна зваліў таго. З Місюком справіўся другі паставы. На дапамогу саскочылі коннікі.





Падаючы, Сушчыцкі падабраў пад сябе Грышу і, раз'юшаны, усадзіў яму нож. Ад страшэннага болю Грыша нема закрычаў і страціў прытомнасць.

— Ну, што тут? — падбег Свірын.

— Абодва затрыманы, таварыш начальнік. Хлапчук паранены.

— Сарокін, мігам імчыце Грышу на заставу, зрабіце перавязку і ў бальніцу, — скамандаваў начальнік і сам панёс хлапчука да коннага пагранічніка.

## Сяброўская цеплыня

Ад Світалаўкі да бальніцы было кіламетраў шэсць. Туды пасля перавязкі і прывезлі пагранічнікі Грышу. Дзяжурны доктар агледзеў хлапчука і сказаў, што рана не смяртэльная, але паляжаць некаторы час давядзецца.

Ужо добра развіднела, як вярнуліся пагранічнікі з бальніцы. Адзін з іх павёў распрагаць коней, а другі пайшоў дакладваць начальніку.

Свірын выслухаў усе падрабязнасці, падзякаваў пагранічніку за службу і выправіў адпачываць. Сам прайшоўся па пакоі, зірнуў у акно. На двары па-ранейшаму усё засцілаў туман.

«Ці не схадзіць да загадчыка школы? — падумаў Свірын. — Напэўна, ён устаў, а калі не ўстаў, дык і разбудзіць можна. Гэта ж надзвычайнае здарэнне і для нас і для школы».

Начальнік заставы апрануўся і выйшаў, ціхенька зачыніўшы за сабою дзверы. Свежая асенняя раніца надала яму бадзёрасці.

Савасцюк яшчэ адпачываў, калі Свірын пастукаў у дзверы. Быў якраз выхадны, і спяшацца не было пільнай патрэбы. Загадчык школы надзвычай здзівіўся, пачуўшы пра ўсё, што адбылося з яго вучнем.

— А мы спім і нічога не ведаем... Ну, а як жа хлапчук адчувае сябе? Што сказалі дактары? — занепакоіўся загадчык. — Чаму ж вы нам не далі знаць, мы самі адвезлі б?..

— Усё, што можна было зрабіць, — зроблена, Ігнат Міхайлавіч. За хлапчука не хвалюйцеся. Я зайшоў сказаць вам пра здарэнне і заадно прапанаваць з'ездзіць разам наведаць нашага героя.

— Вельмі ўдзячны вам, Мікалай Іванавіч, за клопаты, — захваляваўся загадчык школы. — Безумоўна, трэба з'ездзіць праведаць. Хлапчук адзін, ні бацькоў, ні родных не мае тут, і ў такі час асабліва дарага яму чуласць людзей. Толькі ці варта вам турбаваць сябе? Мы можам з'ездзіць з завучам ці з сакратаром камсамольскай ячэйкі, а то і ўтраіх... Праведаем... А вам адпачыць трэба.

— Ну, добра, едзьце ўтраіх, а я пазней конна з'езджу. У мяне ўсё роўна там справа ёсць да свайго начальства,— згадзіўся Свірын.

Начальнік пайшоў да сябе на заставу, а загадчык, выйшаўшы следам за ім, скіраваў да завуча.

Праз гадзіну якую яны збіраліся ўжо ў дарогу. Савасцюк стаяў каля ганка і чакаў, пакуль з'едзе з горкі завуч на саўгаснай фурманцы. Ён так быў уражаны начной падзеяй з Грышам і Сцяпанам, што не заўважыў, калі падышоў Рыгор Камейша.

— Дзень добры! — адказаў механічна на прывітанне Савасцюк і зноў упіўся вачыма ў той бок, дзе павінна была паказацца фурманка.

— Вы, відаць, сабраліся некуды, а я да вас, таварыш загадчык.

— Прашу прабачэння... — спахапіўся Савасцюк. — Збіраемся ехаць у бальніцу. Вы, мабыць, чулі, што здарылася ў Русінавічах ноччу?

— Чуў, таварыш загадчык, чуў, а як жа. Заходзіў да Сцяпана. Кажа, шуміць яшчэ ў галаве. Дзівіцца чалавек, чым так урэзаў нягоднік, што зваліў з усіх чатырох... Можа я, таварыш загадчык, не зусім у пару прыйшоў. Але калі прыйшоў, то сказаць мушу... — прамовіў Камейша і запнуўся.

Савасцюк здагадаўся, чаго прыйшоў нівец, але пытаць сам не хацеў. Ён моўчкі паглядзеў Рыгору ў твар. Было відаць, што таму не лёгка выказаць сваю просьбу. Збянтэжаны, стаяў ён перад загадчыкам з апушчанымі вачыма, пераступаў з нагі на нагу. Так прайшла хвіліна, другая. На горцы паказалася фурманка. Сакратар камсамольскай ячэйкі і завуч ехалі па Савасцюка.

— І жонка, і я, таварыш загадчык, просім адпусціць нашага Лёню дахаты, — заспяшаўся са сваёю просьбай Рыгор, убачыўшы фурманку.— Можа ёсць бяднейшыя, дык няхай ім будзе і стыпендыя, і інтэрнат... А мне перад людзьмі сорамна, каб мой сын на казённых харчах вучыўся.

— Вунь што, — усміхнуўся Савасцюк. — А хто гэта казаў мне: «Ён вашага выхавання, дык і бярыце яго сабе...»? Мы і ўзялі.

— Так што, таварыш загадчык, трэба дараваць цёмнаму чалавеку. Чаго не скажаш у гневе? Вы ж адукаваныя і разумееце гэта... Сын ён усё-такі мне, ды і люблю я яго...

— Любіце, а выгналі з хаты. Як жа гэта зразумець?

Камейша цяжка ўздыхнуў.

— Не сваім розумам жыў, людзей слухаў. Трымаўся за палоску ды за конскі хвост, як сляпы за кій, от і выйшла так... Вучыцца ён будзе хадзіць, а жыве няхай дома. Два гэтыя кіламетры прабегчы не такая вялікая ўжо дарога. Ходзіць жа вучняў ад нас нямала... Старая вочы свае праплакала...

— Добра, прыеду з бальніцы, пагавару з Лёнем. Захоча ісці, трымаць не будзем. А не захоча — сілком не адправім.

— А можа, таварыш загадчык, цяпер пагаворыце?

Пад'ехала фурманка. Не злазячы з воза, завуч гукнуў:

— Паехалі, Ігнат Міхайлавіч.

— Адну хвілінку, — падняў угору руку загадчык школы і звярнуўся да сакратара камсамольскай ячэйкі: — Слава, схадзі пакліч Лёню Камейшу. Скажы, што я заву.

Неўзабаве Слава з'явіўся з Лёнем. Убачыўшы бацьку, хлапчук на момант збянтэжыўся, пачырванеў, але пайшоў следам за Славам. Рыгор здрыгануўся.

Лёня таксама захваляваўся. Што сабе ні кажыце — бацька. Няхай ён выправіў Лёню пад злосць з хаты, няхай пакрыўдзіў яго... Лёню чамусьці вельмі шкада стала бацькі ў гэты час.

Слава з Лёнем ладышлі зусім блізка.

— О, ты падрос за гэты час, — праз сілу ўсміхнуўся Рыгор, перамагаючы ўзрушанасць. — Ну, здароў, — падаў ён руку. Хлапчук узяў працягнутую руку, зірнуў у вочы загадчыку школы, бацьку і сарамліва пацалаваў яе.



— Можна лічыць, што прымірэнне адбылося, — зірнуў на Камейшу Савасцюк, а ў Лёні спытаў: — Ты ведаеш, чаго прыйшоў бацька?

Хлапчук пацiснуў плячыма. Яму хацелася ад бацькі самога пачуць тое, аб чым ён толькі здагадваўся. І Рыгор не замарудзіў сказаць гэта:

— Па цябе, сынок, прыйшоў. І мама, і я змаркоціліся адны... З канём табе не прыдзецца большваждацца. Адвёў яго ўчора на калгасны двор. Што будзе людзям, тое і нам.

— Уступілі ў калгас, тата? — павесялеў Лёня.

— Уступіў, сынок, уступіў. Шкада было з конікам разлучацца, але ж усе кажуць, лепей будзе ў калгасе і нам, старым, і вам, маладым.

— Дык як, Лёня, згодзен вярнуцца назад? — спытаў Ігнат Міхайлавіч.

— Пайду, — з радасцю кіўнуў галавою хлапчук.

— Тады здай усё, што лічыцца за табою школьнае, каменданту. Скажы, я дазволіў ісці. Пачакай, я лепш напішу. Толькі заўтра, глядзі, прыходзь на заняткі, — даючы Лёню запіску, напомніў Ігнат Міхайлавіч.

— Можаце не сумнявацца, таварыш загадчык, заўтра ён першы тут будзе, — адказаў за сына Рыгор і звярнуўся адразу да траіх: загадчыка школы, завуча і сакратара камсамольскай ячэйкі: — Дзякую вам усім, што далі прытулак сыну. Усё ж хлапчук быў у даглядзе, і маё сэрца было на месцы, хоць і гарэла ад крыўды на яго.

— Няма за што дзякаваць, таварыш Камейша. Гэта быў наш абавязак памагчы, і мы яго выканалі, — адказаў за ўсіх загадчык школы.

Рыгор з сынам пайшлі шукаць каменданта, а Савасцюк, Сіўко і Слава паехалі ў бальніцу.

— Ото ўжо маці будзе рада, што вярнуўся з табою. Калі хутка ўправішся здаць рэчы, дык яшчэ на гарачыя бліны паспеем. Ты ж любіш іх, з лоем. Тут вас, мусіць, не песцілі гэтым? Дзе на такую сямейку напячэшся тых бліноў...

— Пяклі. Не часта, але пяклі. Толькі не бліны, а аладачкі, маленькія, вось такія, — паказаў, склаўшы колцам вялікі і сярэдні палец, Лёня.

Каменданта доўга шукаць не прыйшлося, ён жыў пры інтэрнаце і быў якраз дома. Неўзабаве бацька і сын ішлі полем дахаты.

Коля не мог дачакацца, пакуль скончыцца выстаўка, так не цярпелася пабачыць бацьку, даведацца, што з Грышам. Ён аж пабялеў увесь у твары, калі расказалі яму шакаэмаўцы пра начное здарэнне. Вельмі шкадаваў, што яго не было дома, а то памог бы ў бядзе бацьку: «Ды я качаргою паразбіваў бы галовы тым бандытам. Мама спалохалася і не магла ім нічога зрабіць — ведама, жанчына, — а я не папусціўся б, — разважаў сам з сабою Коля, стоячы каля сваіх экспанатаў. — А можа мы з Грышам удваіх пабеглі б на заставу, дык тату ўсё роўна магло тое самае быць. Затое з Грышам, можа, не сталася б так».

Місюк і Сушчыцкі тым часам сядзелі абодва на допыце, сагнутыя, скурчаныя, і апраўдваліся:

— Ніякіх калгасаў мы не палілі.

— А што, вы ў госці хадзілі ў Воўчы Брод? Варта мне паведаміць туды, што вы ў нашых руках, дык людзі мігам прымчацца сюды на расправу з вамі.

Місюк і Сушчыцкі здрыгануліся. Ад праніклівых вачэй начальніка заставы не схаваўся цень страху, што прабег па тварах затрыманых.

Ён, вядома, не зробіць такой расправы. Сваё яны і так атрымаюць. Важна тое, што Свірын упэўніўся ў іхняй прычыннасці да пажару.

— Вы хацелі забіць хлапчука, каб замесці сляды, — спытаў далей Свірын. — Не ўдалося, праўда? Ён раскажа яшчэ нам пра вас. Так, так, раскажа... — гаварыў спакойна начальнік заставы.

А пакуль што загадчык, завуч і Слава, седзячы ў палаце, расказвалі Грышу, як перажываюць усе шакаэмаўцы яго няшчасце. Хлапчук надзвычай расчуліўся ад сяброўскай цеплыні. Бо нічога так не кранае, як памяць аб табе ў цяжкі час. Грышу гэта было асабліва дорага. І хоць яму нельга было размаўляць, ён усё ж спытаў у Славы:

— Цяпер, мусіць, мяне не скора прымуць у камсамол?

Савасцюк пагразіў пальцам, каб Грыша больш не размаўляў, а Слава адказаў:

— Чаму не скора? Адразу, як паправішся, будзем прымаць.

Грыша павесялеў, вочы яго засвяціліся. Ён так чакаў таго сходу, калі меліся яго прыняць. І ўжо, напэўна, быў бы камсамольцам, каб не пажар у Воўчым Бродзе. Пасля сакратаровых слоў нават боль паменшаў. Яшчэ будучы дома, у Пясках, ён даў сабе слова стаць камсамольцам. Там, праўда, гэта цяжэй давалася: трэба было асцерагацца, каб не ўведалі жандары.

Доўга сядзець у палаце, надакучаць хвораму дзяжурны доктар не дазваляў. Другі раз ужо зайшоў ён і напомніў усім траім — пара развітвацца.

— Папраўляйся, Грыша, не сумуй,— пажадаў на адыходзе загадчык. — Хутка зноў вернешся да сяброў, а пакуль што яны будуць наведваць цябе.

— Я адстану цяпер з вучэннем, — сказаў раптам з жалем у голасе Грыша. Усе трое — загадчык школы, завуч і сакратар камсамольскай ячэйкі — пераглянуліся і толькі цяпер спахапіліся, што ні слова не сказалі хвораму пра яго далейшую вучобу, а таму, відаць, карцела гэта ўвесь час.

— Не адстанеш, — пачаў суцяшаць завуч. — Ты ж не адзін сярод поля. Як толькі паправішся, памогуць і настаўнікі, і твае сябры — школьнікі. Ты стаpанны і дагоніш іх.

Маленькая пахвала завуча падбадзёрыла хлопчыка. Ласкавым позіркам праводзіў ён сваіх настаўнікаў.

У прыёмнай Савасцюк доўга яшчэ гутарыў з дзяжурным доктарам, прасіў назіраць за хворым, а калі спатрэбіцца што, дык перадаваць аб гэтым проста яму, загадчыку школы.

...Позна вярнуліся з выстаўкі світалаўцы. На гэты раз усім брыгадам пашчасціла — кожная атрымала пахвальную грамату. Колева — за бульбу, Севава — за лён, Маніна — за цукровыя буракі.

Найбольшай навіною для ўсіх наведвальнікаў выстаўкі былі цукровыя буракі. Увесь дзень аграном не адыходзіў ад сваіх экспанатаў. Усім, хто цікавіўся, ён з прыемнасцю расказваў, на якой глебе трэба садзіць іх, як даглядаць, каб мець добры ўраджай.

Колькі разоў за дзень прыйшлося самому ўкусіць ад скрыліка, даць пакаштаваць якому-небудзь дзядзьку. З цікавасцю глядзеў аграном, як той смакаваў бурак, потым здзіўляўся:

— Да чаго ж салодкі! Цукар ды годзе.

Следам працягваў руку другі селянін. Смакуючы, ён круціў галавою і пацвярджаў думку суседа.



— Гэта ж свой цукар можна мець у хаце. І як ён, бурак гэты, нацягне з зямлі столькі слодычы?

Даючы Ходашу ўзнагароду, старшыня выставачнага камітэта гаварыў:

— Я разумею вашу ўзрушанасць. Калі чалавек у сваёй настойлівай працы дасягае мэты, ён не можа сябе інакш адчуваць. Сваёй працай вы прынеслі гонар не толькі світалаўскай школе ці нашаму раёну, але зрабілі вялікую справу для ўсяе рэспублікі. Цяпер можна сказаць адно: шлях беларускаму цукру забяспечаны.

Ніколі не забыцца аграному на гэты радасны момант. Да чаго ж захваляваўся ён, да чаго пачырванеў: праца яго не прапала дарма, ацанілі яе. Значыць, Беларусь можа таксама мець свой цукар, ён даказаў гэта на практыцы.

Ходаш разумеў, каб не світалаўская ШКМ, цяжка яму давялося б. Так шчыра, так любоўна даглядаць гародніну, як рабіла гэта Маня са сваёй брыгадай, не кожны можа. Вярнуўшыся з выстаўкі, ён, радасны, пайшоў адразу да Савасцюка, каб не толькі расказаць, з чым прыехалі яны з раёна, але і выказаць яму сваю падзяку за гарачы ўдзел у вырошчванні цукровых буракоў.

Савасцюк павіншаваў агранома з поспехам і жартаўліва заўважыў:

— Чаго добрага, Ціхан Аляксеевіч, вы яшчэ ў нашым саўгасе цукровы завод пабудуеце. Толькі не думайце ісці туды дырэктарам, — паківаў пальцам, — я вас не адпушчу.

— Ды я і сам не пайду, Ігнат Міхайлавіч. Вы ж добра бачыце, — мая стыхія — прастор: поле, агарод, сенажаць, а не чатыры сцяны дырэктарскага кабінета.

— Тады будуйце... — усё тым жа жартаўлівым тонам дазволіў загадчык і раптам перамяніў гаворку: — А ў нас, чулі, што адбылося ўночы?

— Чуў. Трэба ж так здарыцца. Каб ён не пайшоў адзін дахаты з заставы, дык, можа, нічога б і не сталася.

— Не мог хлапчук сядзець спакойна... Малайчына ён усё-такі, не разгубіўся. Ездзілі мы ў бальніцу. Доктар кажа, нічога страшнага, але паляжаць прыйдзецца.

— Не без таго, вядома...

Назаўтра Коля і Маня звярнуліся да загадчыка, каб дазволіў ім пайсці наведаць Грышу. Яны пабылі на школьных занятках і пасля абеду сцяжынкаю, праз лог, пайшлі ў бальніцу. Да іх далучылася яшчэ двое школьнікаў.

### «Да пабачэння, родная Світалаўка!»

Не заўважыў Грыша, як прабеглі тры гады ў працы і вучобе. Вось ужо і трэба збірацца ў дарогу. А ці даўно тое было, калі ён упершыню пераступіў парог світалаўскай школы.

І таго дня, як вярнуўся з бальніцы назад у Сцяпанаву хату, Грышу таксама не забыць. У канцы лістапада пад вечар Коля прыехаў па яго. Нават запомнілася, які дзень быў тады: з раніцы хмурны з ветрам, а пасля абеду распагодзілася і пачынала брацца на марозік. Перад выпіскай медыцынская сястра мерала яму тэмпературу і, пазіраючы на блакітнае неба, сказала пра вецер:

— Прынёс нам мароз і супакоіўся.

Едучы з бальніцы ў Світалаўку, Коля расказаў па дарозе, што загадчык школы хацеў забраць Грышу ў інтэрнат і што яму не мала прыйшлося папапрошваць, каб усё асталося па-ранейшаму.

— Мы так прывыклі да цябе, а тут раптам у інтэрнат.

З першага ж вечара да Грышы пачалі прыходзіць аднакласнікі і вучні старэйшых класаў. Яшчэ ён у бальніцы ляжаў, а камсамольская ячэйка прызначыла ўжо камсамольцаў памагчы яму дагнаць прапушчанае. Найцяжэй было з арыфметыкай. Усё, што задавалася ў школе на ўроках вывучыць напамяць ці прачытаць, Грыша і ў бальніцы асіліў.

Найбольш чытаў Грыша ўголас, і сусед па палаце не мог нацешыцца з хлапчука. Аднаго разу ён выказаў свае думкі:

— Я ўсё роўна як у школу трапіў, а не ў бальніцу. Ты малайчына, Грышка, чытай — не так маркотна і боль меншы. Сам я не ўмею чытаць, толькі прозвішча ведаю як напісаць, а слухаць, як чытаюць, люблю.

Вярнуўшыся з бальніцы, Грышу зноў трэба было «запрагацца ў шоры», як гаварыў яго бацька пад час нявыкруткі. Праўда, цяпер ужо не так цяжка было: памочнікаў хоць адбаўляй, і да зімовых канікул ён дагнаў прапушчанае. Настаўнікі нахваліцца не маглі.

Не адчуваў хлапчук таго, што скутае гадамі жаданне да кнігі, да навукі вырвалася на волю, падахвочвала на працу, вабіла наперад. Ён не мог утаймаваць свае ахвоты да вучэння, да чытання.

Грыша шмат чытаў. Пакуль дома быў Коля, яму сілком прыходзілася адцягваць сябра ад кнігі, каб хоць трохі пагуляў на вольным паветры.





Апошнія два гады Грыша адзін жыў у Сцяпанавай сям'і. Як да роднага сына, прывыклі да яго гаспадары. І пасля таго, як іхні Коля паступіў вучыцца ў заатэхнікум, яны нізавошта не адпусцілі Грышу ад сябе.

— Ну, як жа мы адны астанёмся? — развёў рукамі Сцяпан, калі Грыша загаварыў аб пераходзе ў інтэрнат. — Пакуль будзеш у Світалаўцы вучыцца, ніхто цябе не адпусціць. Месца не хапае? Хата паменшала? Не. Дык можа пакрыўдзіла цябе чым цётка, — паказаў Сцяпан на жонку, — ці я?

— Ды што вы, дзядзька? Не лепшага я шукаю, а хачу ад лішняга клопату вызваліць вас. Хоць калі ж прыдзецца развітацца з вамі, падзякаваць за ўсё добрае.

— Тады тое і будзе.

Так і астаўся Грыша ў Сцяпана.

Сева пасля сканчэння ШКМ паехаў вучыцца на садоўніка. Любіў ён сад. Увесь вольны час, бывала, праводзіў каля саўгаснага садоўніка, навучыўся ад яго рабіць ушчэпы і, будучы ў сёмым класе, пасадзіў разам са сваёю брыгадай нешта ўшчэпаў з восемдзесят каля школы.

— Няхай застанецца аб нас памяць, — казаў тады Сева да сваіх брыгаднікаў. Ён ведаў, вырастуць некалі яблыкі, грушы на гэтых дрэвах і прыгадаюць добрым словам новыя вучні тых, што садзілі, даглядалі гэты сад.

Маня засталася працаваць у сваім калгасе. Старшыня добра ведаў пра яе стараннасць у школе і з радасцю сустрэў дзяўчыну, калі яна з'явілася ў канторы калгаса.

— Такія, Манечка, людзі, як ты, нам вельмі патрэбны. Мы з табою загрымім цяпер на ўвесь раён. Падбярэм табе брыгаду і раскашоўвайся на агародзе.

Час-ад-часу Маня наведвала Світалаўку. Зойдзе, паглядзіць на агарод, як што расце, параіць часам, што трэба зрабіць, каб лепей урадзіла. Адтуль не праміне трусікаў паглядзець. Вунь колькі іх развялося за гэтыя гады! Рахманыя такія: бяры ў рукі — не ўцякаюць.

Яшчэ ў пятым класе Грыша неяк вясною спытаў у агранома:

— Ціхан Аляксеевіч, а чаму ў нас няма трусікаў?

— Былі ды не павяліся. Загінулі. А больш не куплялі.

— Эх, каб можна было, — уздыхнуў хлопчык, — я свае забраў бы! У мяне шэсць штук было, як адыходзіў парабкаваць.

Колькі радасці было ў той дзень не толькі ў Грышы, але і ў многіх вучняў, калі прывезлі аднекуль з саўгаса пяць пар трусоў: чатыры пары беленькіх і адну шэранькую. Хлапчук не мог нацешыцца: гладзіў іх, размаўляў, карміў. Яны напомнілі Грышу родную вёску, маці.

Пакуль трусоў было мала, ён даглядаў іх адзін, а як пабольшала — загадчык школы даручыў яму арганізаваць звяно і падабраць хлапчукоў і дзяўчынак па свайму выбару.

Да зімы звяно збудавала засыпную хацінку для сваіх выхаванцаў. Навукі вялікай на гэта не спатрэбілася. Укапалі слупкі, абабілі іх аполкамі, навазілі з саўгаснай гантарэзкі пілавіння, засыпалі, утрамбавалі добра. А на зіму вартаўнік маленькую печку зрабіў. Цёпла трусам, утульна.

Добрае, дружнае звяно падабралася ў Грышы. Затое і пакідае ён у Світалаўцы, як памяць аб сабе, цэлую чараду трусоў. Ды прадалі за гэты час колькі другім школам, калгасам! Няхай таксама разводзяць.

Не хочацца Грышу расставацца і з сябрамі, прывык, здружыўся. Не хочацца, а трэба. Свірын настаяў на сваім: Грыша едзе вучыцца ў школу пагранічных войск.

На дварэ вечарэе. Заўтра гэтай парой Грыша будзе ў Мінску. Ён здаў ужо іспыты і прыязджаў пабыць да пачатку заняткаў. Паслязаўтра і сніталаўская школа загудзе звонкімі, радаснымі галасамі — пачнецца навучальны год.

Сціскаецца ад перажыванняў хлопцава сэрца. І радасна, што едзе вучыцца, і шкада пакідаць родную ШКМ. Тут знайшоў ён усё: і веды, і сяброўства, і чуласць.

Апошні раз ходзіць Грыша гаспадаром па школьнай сядзібе. Ён, вядома, будзе прыязджаць сюды на канікулы, у водпуск, але гэта ўжо будзе гасцяванне — не больш. А што прыедзе сюды, што будзе вабіць яго да сябе Світалаўка, дык у гэтым не можа быць ніякага сумнення. Тут жа паблізу і Маня працуе. А ці ж ён можа не сустрэцца з ёю?

Учора яна прыходзіла ў Світалаўку. Сказала, што хацела паглядзець, чые большыя і лепшыя трусы: шакаэмаўскія ці іхняга калгаса. Доўга хадзілі яны па школьнай сядзібе. Потым пайшлі разам у бок Нівы, дзе Маня працавала. За гаворкаю не заўважылі, як апынуліся каля Манінай вёскі.

— Тут адна не пабаішся ісці? — спытаў Грыша.

Маня толькі ўсміхнулася. Нічога яна не баялася, і Грыша зусім не таму праводзіў, каб ёй смялей было. Трэба ж нешта сказаць. Стаялі хвіліну-другую моўчкі. Маня нагнулася, сарвала жоўценькую кветачку і, павольна адрываючы двума пальцамі кволенькія пялёсткі, першая загаварыла:

— Ты ўжо заганарышся цяпер. Не захочаш і знацца з намі.

— Чаго ж гэта мне ганарыцца? І прыязджаць буду, і пісаць.

Ён не сказаў, каму будзе пісаць, але Маня здагадалася. Яна заміргала вейкамі, неяк нервова адарвала адзін за другім некалькі пялёсткаў і, не падымаючы вачэй, сказала толькі:

— Глядзі ж, — і борздзенька заспяшыла дахаты.

Грыша стаяў і з болем у сэрцы глядзеў ёй услед: не зразумеў адразу, чаму яна не развіталася нават. Маня прайшла некалькі крокаў, азірнулася і памахала рукой. Грыша таксама памахаў у адказ.

У Грышавым сэрцы і сёння ўвесь дзень тлела маленькая іскрачка надзеі, што Маня знойдзе прычыну прыйсці. Але яна не прыйшла. Можа не выпадала на рабоце, а можа, і хутчэй за ўсё, чакала, што Грыша сам здагадаецца завітаць у Ніву.

«Ну, бывай, родная школа!» — развітваецца ў думках хлапец і ідзе да Савасцюка і Свірына падзякаваць за ўсё добрае.

Першым працягвае руку загадчык школы. Ён жадае поспехаў і дае наказ:

— Самае галоўнае — не цурайся ніякай працы і старайся добра вучыцца. Усё астатняе ўладзіцца само. Пішы, не лянуйся. Спадзяюся, школы нашай ты не забудзеш, прыязджай наведваць...

Грыша хвалюецца, абяцае пісаць, прыязджаць.

Свірын таксама цісне Грышаву руку:

— Падрос ты ў нас, пасталеў. Глядзі ж, добра вучыся, каб не чырванелі за цябе... І самае важнае — ніколі не забывайся, што Савецкі Саюз — твая Радзіма. Любі яе, як сваю маці. Гэта любоў у самы цяжкі час будзе надаваць табе сілы і на працу, і на подзвігі.



— Дзякую, Мікалай Іванавіч, за ўсё дзякую. Абяцаю, што чырванець праз мяне нікому не прыдзецца.

— У Ігната Міхайлавіча я пакінуў невялічкі пакунак. Цётка Насця падрыхтавала табе сёе-тое на дарогу.

— Не трэба было, Мікалай Іванавіч.

— Чаму не трэба. Мамы тут няма выпраўляць цябе.

Успамін пра маці адразу навеяў смутак. Вядома, калі б маці была тут, дык з апошняга сабрала б нешта ў дарогу, хоць і дарога невялікая.

— Не трэба, не трэба перажываць, — ляпае па плячы Свірын. — Тваё жыццё ўсё наперадзе, ты сустрэнеш яшчэ і маму, і тату, і сястрычку. А пакуль што чужая мама не забылася пра цябе.

Савасцюк маўчыць, што і яго жонка нешта пякла сярод тыдня.

Дахаты Грыша вярнуўся з двума пакуначкамі пад пахай.

— Што ж гэта ты прынёс, дзіцятка? — не ўцярпела Алеся, каб не спытаць.

— Ды вось на дарогу далі.

— Хто?

Грыша адказаў.

— А вой-вой, навошта ты браў? — пакруціла галавой Алеся. — Я вунь табе і Колю напякла перапечак, па сыру зрабіла, масла наклала ў кубачкі, сала загарнула...

— Як я мог адмовіцца, цётка? — пацепвае плячыма Грыша і апраўдваецца вінаватым голасам: — Самі ведаеце, загадчык школы, начальнік заставы, — проста загадалі ўзяць.

Алеся і сама разумее — не мог іначай зрабіць яе кватарант, і знаходзіць выйсце:

— Давязеш да інтэрната, а там новых сяброў пачастуеш.

З'явіўся з гулянкі Коля. Хлопцы ўзяліся ўпакоўваць чамаданы. У Колі чамадан фабрычны, фанерны, а ў Грышы — самаробны з тоненькіх дошчачак, у школьнай майстэрні зрабілі яму.

Пад ніз, як самы дарагі скарб, Грыша кладзе партфель. Ён пакручвае яго ў руках і яшчэ раз (каторы ўжо!) чытае на верхняй накрыўцы, у правым ніжнім ражку, выграўіраваны на металічнай пласцінцы надпіс:

«Выдатніку аховы граніцы
ў Савецкай Беларусі —
Грышу Васільцу.
14.10.1930 г.»

Каля хлапцоў тупае Колева маці. Яна кладзе на стол бялізну, сарочкі, ручнікі. Усё гэта чыста вымыта, адпрасавана.

— Разлятаецеся, галубкі мае. Не было цябе, сынок, дык хоць Грыша аставаўся. А цяпер апусцее хата зусім, — гаворыць Алеся.

— Ненадоўга, — супакойвае маці Коля. — Хутка вернецца з флоту Міхась. А там і мы папрыязджаем.

З двара ў хату ўваходзіць Сцяпан, ён затрымаўся трохі на рабоце. Чамаданы ўпакаваны ўжо, усё падрыхтавана ў дарогу. Можна і вячэраць.

Усе чацвёра садзяцца за стол і амаль да поўначы цягнецца сямейная бяседа.

Назаўтра саўгасны конюх ранічкай прыехаў, каб адвезці Колю

і Грышу на станцыю. Цягнік праходзіў адзін раз на суткі, удзень, і трэба было не спазніцца.

Уз'ехаўшы на ўзгорак, хлопцы азірнуліся і, як згаварыўшыся, памахалі кожны рукой.

— Да пабачэння, родная Світалаўка! — гукнуў удалеч Грыша. І нейкі боль казытнуў яго сэрца.

З горкі коні пабеглі трушком, і фурман напяў лейцы, каб плаўней з'ехаць. Неўзабаве ён звярнуў сваіх буланых на шырокую дарогу.

Перад Грышавымі вачыма адкрыўся роўны гасцінец.

## Зламанае кола

### Эпілог

Скончыўшы ваенную школу, Васілец вярнуўся на граніцу з двума кубікамі на зялёных пятліцах. У час вучэння ён некалькі разоў прыязджаў на адпачынак у Світалаўку.

І Сцяпан, і Алеся сустракалі Грышу, як роднага сына, і заўсёды былі рады, калі ён прыязджаў да іх. З Русінавіч Грыша амаль кожны вечар завітваў у Ніву, каб хоць некалькі хвілін пабыць з Маняй. «Няхай не думае, што я заганарыўся. Гэта зусім не ў маёй натуры», — даводзіў ён сам сабе ў першыя часы. Пазней перастаў думаць так, бо зразумеў, — зусім іншая была прычына, чаму хацелася пабачыцца з Маняй.

Так ішоў час: Маня то сустракалася з Грышам, то пасылалі адно аднаму пісьмы. На апошнім спатканні яны дамовіліся згуляць чатырнаццатага кастрычніка вяселле. Грышу надта хацелася каб іменна ў гэты дзень радасць засланіла тое змрочнае, што прыйшлося перажыць дзевяць гадоў назад. Але выйшла па-іншаму, не так, як меркавалі Грыша і Маня. Позна вечарам шаснаццатага верасня Васільца выклікаў камандзір і сказаў аб той пачэснай задачы, у якой ён павінен прыняць удзел.

Грыша захваляваўся ад радасці. Пераступіць граніцу са сцягам вызвалення ў руках, ці ж гэта не радасць, не гонар?! Вызваліць ад панскага ўціску бацькоў, братоў, суседзяў, прынесці волю прыгнечаным, зрабіць парабкаў гаспадарамі свайго жыцця, — якую можна яшчэ назваць больш пачэсную справу для чалавека?

У тую ноч Васілец ні на хвіліну не заснуў. Думкі агарнулі яго: уявіў Пяскі, Караліну. «Дома спяць недзе і не адчуваюць свайго блізкага шчасця. І дзядзька Пятро не ведае, што заўтрашні дзень прынясе яму новае жыццё. А пан Вайтовіч, напэўна, па-ранейшаму ўсё бачыць сябе гаспадаром Світалаўкі.

Пра бацькоў і Пятра правільна думаў Грыша. А з Вайтовічам было трошкі іначай. Уночы з павятовага гарадка прымчаўся ў Караліну коннік і моцна забарабаніў у панскае акно. Яго прыслаў Запольскі паведаміць сябру, каб не марудзіў і зараз жа выязджаў са свайго фальварка.

Не злазячы з сядла, коннік перадаў праз адчыненае акно начальнікава даручэнне і памчаўся назад, а Вайтовіч забегаў з пакоя ў пакой.

— Матка боская, Езус свенты, ратуй нас! Альбіна, каханая, уцякаць трэба... Збірай каштоўныя рэчы, а я пабягу да Некраша, каб запрагаў коней.



— Божа мой, а скарб зноў кідаем на згубу, — залемантавала жонка, — каторы раз ужо...

— Альбіна, не думай пра гэта. Будзе цэлая галава — усё будзе, збірайся хутчэй,— загадаў яшчэ раз ужо з парога Вайтовіч і бягом кінуўся да фурмана.

Ён не сказаў праўды парабку, спаслаўся, што раптоўна захварэў яго сябар і просіць праз ганца прыехаць.

Некраш сонны хадзіў па хаціне, шукаючы за газнічным святлом свой абутак, а Вайтовіч тупаў з нагі на нагу ля парога і, як мог, прасіў не марудзіць.

— Ды вы, пане, прысядзьце хоць на лаве, крэслаў у нас няма... Боты знайсці не магу.

— Няма калі, каханы, расседжвацца. Такое няшчасце, такое няшчасце... — тупаў Вайтовіч і сам пачаў углядацца ў куткі, каб дапамагчы знайсці боты.

З-за фіранкі, што завешвала ложак, пачуўся жаночы голас:

— А няхай іх паляруш з тваімі ботамі... Гэта ж я і забылася, што ўчора выставіла ў сенцы. Ты прыйшоў са стайні і не ачысціў іх...

Абуўшыся, фурман пайшоў запрагаць коней, а Вайтовіч — да Пятра.

— Хто там? — пачуўся на стук у шыбу голас з хаты.

— Я, Петрусь. Прашу выйсці на хвілінку.

Пятро пазнаў пана па голасе і здзівіўся, чаго яму трэба ад парабка гэтак рана.

— Такая справа, каханы,—пачаў ласкава Вайтовіч, як толькі Пятро выйшаў на ганак.—Я мушу з жонкай адлучыцца на некаторы час, з калегам у мяне бяда, дык хачу папрасіць цябе, Петрусь, пабыць гаспадаром да майго прыезду.

— Ды ўжо ж, калі пан давярае, магу пабыць.

— Давяраю, Петрусь, давяраю. Глядзі, як сваё. Не пакрыўджу, як вярнуся. Прыдзеш, возьмеш ключы.

Пускацца ў вялікую гаворку не было патрэбы. «Яшчэ невядома, як павернецца справа, — нават у гэтую хвіліну развясельваў сябе Вайтовіч. — Не будуць жа маўчаць саюзнікі Польшчы. Напэўна, запратэстуюць, калі бальшавікі пераступяць мяжу. На ўсякі выпадак трэба ад'ехаць».

І гэта незвычайная даверлівасць, і гэта начная паспешлівасць выклікалі падазронасць у Пятра. Ён зайшоў у хату і расказаў жонцы пра панскае даручэнне

— Ці не ўцякае ён, глядзі, — падала думку Антося. — На воўка памоўка, а мядзведзь цішком. Так і ён сябравай хваробай прыкрываецца.

— А што думаеш, можа і праўда?.. — згадзіўся Пятро. Не запальваючы святла, ён падаўся да пакояў.

Некраш быў чалавек павольнай натуры і спяшацца не любіў. Запаліўшы ліхтар, ён чысціў скрэблам і шчоткай каня, калі Вайтовіч вярнуўся ад Пятра.

— Ты яшчэ не запрог? — здзівіўся ён.

— Пачышчу яшчэ таго каня ды буду запрагаць, — адказаў зноў спакойна фурман.

— Божачка, калі тое будзе? Запрагай хутчэй.

— Пане, не гарыць жа нічога. Як жа на нячышчаным кані ехаць?

— Рабі тое, што кажуць, — ускіпеў Вайтовіч.

— Магу, — шпурнуў Некраш са злосцю скрэбла і шчотку ў куток. — Мне што — я парабак. Пану брыдка будзе.

— Даўно б гэтак.

Ён памог выкаціць з закутка брычку і пайшоў у пакоі. Каля ганка стаяў Пятро.

— Ты ўжо тут? Зараз, каханы, зараз. Некраш кешкаецца каторы час, — сказаў і знік за дзвярыма.

Неўзабаве Вайтовіч з жонкай чакалі фурмана на ганку. Вайтовіч падаў два чамаданы Пятру і загадаў пакласці пад сядзенне, а трэці сам падаў фурману і дазволіў сесці на ім.

За брамай, на развілцы дарог, Некраш спытаў:

— Куды, пане, загадаеце ехаць?

— На Літву кіруйся. Праз Апечкі.

Некраш усміхнуўся сам сабе і падумаў: «Значыць, праўду казаў Пятро, прыпякло. Збіраўся ў дзедаўскім маёнтку раскашавацца, а тут і свой фальварак цесны стаў... Прыйшоў на вас звод». Ён з радасцю хвасянуў дратаваніцай аднаго каня, другога.

Пад лёскат колаў Вайтовіч пачаў супакойвацца. Як там сабе ні было, яны ў дарозе, і з кожнай хвіляй усё далей і далей ад таго месца, дзе пагражала ім небяспека.

Каля самых Апечак пярэдняе правае кола, трапіўшы ў выбоіну каляіны, хруснула і брычка нахілілася на бок. Фурман ледзь утрымаўся, каб не зваліцца з чамадана. Вайтовіч саскочыў на зямлю і падхапіў жонку.

Усе трое стаялі і моўчкі глядзелі некалькі секунд на зламанае кола. Парушыў маўчанне Некраш.

— Ну вось, пане, якая непрыемнасць...

— А што цяпер будзе, Зыгмунт? — спытала Альбіна.

Фурманавы словы Вайтовіч прапусціў міма вушэй, а на жончыны ласкава адказаў.

— Нічога страшнага, каханая. Мы ўжо далекавата ад мяжы... Знойдзем каваля, ён адрамантуе. Некраш, зайдзі ў першую хату, спытай, дзе жыве каваль.

Але ў хату заходзіць не прыйшлося. Убачыўшы, мусіць, праз акно нязвычайнае з панскай брычкай, адтуль выйшаў мужчына. Вайтовіч паківаў пальцам, запрашаючы селяніна падысці. Чалавек павольна, не спяшаючыся, падышоў і на панавы распытванні адказаў:

— Каваль жыве пад сярэдзіну вёскі. Там і кузня на агародзе.

— Некраш, здымай кола і глядзі тут коней, а мы сходзім да каваля. Вазьміце кола, — звярнуўся ён да селяніна. — За турботы я заплачу.

— Ды я ведаю, што пан шляхетны і не захоча крыўдзіць беднага чалавека, — шматзначна падміргнуў селянін фурману.

Каваль яшчэ спаў. Работы спешнай не было, дык і ўставаць рана не хацелася. Кавалёва жонка ўходжвалася каля печы і, пачуўшы стук у сенечныя дзверы, выйшла адчыніць. Лежачы ў ложку, каваль выслухаў панаву бяду, прыкінуў, колькі ўзяць, і вырашыў у думках: «Заплаціш, колькі скажу, вы нашай скуры не мала садралі».

У мыцельніку каваль знарок доўга абмываў твар вадой, каб упэўніцца, ці сапраўды спяшаецца пан.

— Ці нельга, каханы, хутчэй трохі? — нерваваўся Вайтовіч.

— Гэта ж, пане, не распаленае жалеза ляжыць на кавадле, калі азірацца няма часу. Трэба ж памыцца.

— Спяшаюся. Прашу, чым барджэй зрабі.

— Ну, тады іншая справа, калі так,— заспяшаўся каваль.

На двары ён агледзеў зламанае кола, хвілінку падумаў, пачухаў патыліцу і, мацаючы цэлыя спіцы, сказаў, колькі абыдзецца рамонт.

— Пабойся бога, чалавеча... Пяць злотых? — аж вытрашчыў вочы Вайтовіч. — Ды за такія грошы можна новае кола купіць.

— Дык няхай пан і купіць новае, навошта са старым важдацца. А мне няма інтарэсу танней рабіць,—махнуў каваль рукой і павярнуўся ісці ў хату.

— Ну добра, добра, рабі за пяць злотых, — загарадзіў Вайтовіч дарогу кавалю.

— Адразу б так, а то дарага, дарага. Баіцёся, пане, каб палацаў каваль не пабудаваў за свае мазалі... Праз гадзіны тры прыходзьце, — ускінуў ён кола на плячо і накіраваўся ў кузню.

— А раней нельга?

— Пастараюся. Але ж, самі бачыце, работы шмат з ім.

Вайтовіч пашворыўся ў кішэні, дастаў трыццаць грошай і падаў за турботы селяніну, і яны пайшлі разам назад.



**Карціна Алы Замай «Вясна на будоўлі» — гэта першая жывапісная работа маладога мастака.**
**Ала Замай нарадзілася ў 1932 годзе ў Растоўскай вобласці. Скончыла мастацкае вучылішча ў Растове-на-Доне і паступіла ў Беларускі дзяржаўны мастацка-тэатральны інстытут. Цяпер працуе выкладчыкам у Мінскай дзіцячай мастацкай школе.**





**Іван Ціханаў нарадзіўся ў 1922 годзе ў пасёлку Вярхоўе Арлоўскай вобласці. Скончыў жывапіснае аддзяленне мастацкага вучылішча ў Арле і пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі працаваў у Мінску мастаком-афарміцелем. У 1953 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Пры рабоце над дыпломнай карцінай «Салдаты дзвюх армій» карыстаўся эцюдамі і замалёўкамі, зробленымі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.**



І. Ціханаў. Салдаты дзвюх армій.



В. Ярмоленка. Раніца ў калгасе.

— Зойдзем, Альбіна, у хату, пакуль адрамантуюць, — гукнуў Вайтовіч жонцы, падышоўшы бліжэй да брычкі. — А ты, Некраш, назірай за коньмі. Дай ім аўса.

— Пане, ім трэба было б сена трохі дастаць у людзей. Няхай падсілкуюцца, пакуль стаяць, — параіў фурман, — а авёс на скорую руку прыгадзіцца яшчэ.

— І то праўда. Альбіна, ідзі з гэтым чалавекам у хату, — паказаў ён на таго селяніна, што насіў кола, а сам звярнуўся да аднаго з апечкаўцаў, якія акружылі брычку: — Вазьмі злоты, каханы, і прынясі ахапак добрага сена.

Следам за жонкай Вайтовіч таксама пайшоў у хату. А на вуліцы ўсё больш і больш падыходзіла да брычкі людзей. Коні елі мурог, пафырквалі, а людзі стаялі, гаманілі, выказвалі свае меркаванні, і ўсе сходзіліся на адным: цесна тут Вайтовічу стала, уцякае.

— Мо' варта было б яго затрымаць. Навошта выпускаць са сваіх рук.

— Калі што якое будзе чуваць, дык я яго і сам не пашкадую, здам у рукі, — падаў свой голас фурман.

У хаце Вайтовічу не сядзелася. Перакусіўшы трохі, ён зараз жа пайшоў у кузню. Там ужо калеснік канчаў насаджваць спіцы і каваль не замарудзіў з нацяжкай шыны. Вайтовіч разлічыўся і паабяцаў даць кавалю на кілішак гарэлкі за тое, што занясе кола да брычкі.

Але не дайшлі яны крокаў дзесяць да брычкі, як з-за могілак, што былі недалёка ад вёскі, выскачыла чацвёра коннікаў. Яны спыніліся, убачыўшы кучку людзей. Па адзенні апечкаўцы пазналі, хто гэтыя коннікі. Хтосьці з прысутных радасна гукнуў:

— Бальшавікі!

Мужчыны замахалі рукамі, нехта падкінуў угару шапку. Пачулася гучнае:

— Ур-ра!

Коннікі прышпорылі коней і апынуліся каля апечкаўцаў. З хат павыбягалі дзеці, жанчыны,





пачуўшы радаснае «Ур-ра!». Усе спяшаліся да нахіленай на бок брычкі, дзе стаялі коннікі. Вайтовіч, скарыстаўшы мітусню, кінуўся ў хату да жонкі.

— Салдат няма ў вашай вёсцы? — спытаў адзін з коннікаў.

— Няма, — хорам адказалі апечкаўцы.

Двое коннікаў тут жа памчаліся ў другі канец вёскі праверыць.

— А брычка чыя? — спытаў другі коннік.

— Гэта каралінскага пана. Уцякаў ад вас, ды кола зламалася.

— Не толькі кола, уся панская машына сапсавалася, — зарагаталі ў натоўпе.

І толькі цяпер, калі першая ўзрушанасць прайшла, спахапіліся апечкаўцы, дзе ж Вайтовіч. Нехта паказаў на канцавую хату. Трое мужчын з вуліцы пабеглі на двор. Следам за імі падалося яшчэ некалькі чалавек. Неўзабаве адтуль выйшла Альбіна з мужам, а за імі мужчыны.

— Хацелі праз агароды ў кусты шмыгнуць, — сказаў адзін з мужчын.

— А навошта ж вы са сваіх рук выпускаеце? — спытаў у апечкаўцаў коннік.

— Не ведалі, як што. А цяпер-то не выпусцім.

— Ад'ездзіў сваё.

— Ды яно ж так: колькі вяровачку ні віць, быць і канцу, — сказаў, праціснуўшыся наперад, стары дзядуля.

Насустрач Вайтовічу падышоў каваль. Ён працягнуў руку і, ківаючы ўсімі пальцамі, напомніў:

— Не расквіталіся, пане. За фатыгу абяцалі на кілішак гарэлкі.

— Чаго ты прычапіўся з гэтым кілішкам гарэлкі да пана? — пачулася з натоўпу.

— Ну як жа, людцы, маўчаць — дармавая чарка прападае. Раз, мабыць, за ўсё жыццё хацеў пан зрабіць ласку, ды і то не паспеў...

Відаць, кавалёвы словы кальнулі Вайтовіча, бо ён дастаў з кішэні і працягнуў кавалю два злотых.

— Гэта ўжо не толькі за фатыгу, але хопіць і на спамінак вашай душы, што быў некалі добры Вайтовіч у Караліне, — сказаў, ледзь стрымліваючыся ад смеху, каваль, беручы грошы.

У натоўпе зарагаталі.

— Назад паедзем? — спытаў Некраш у коннікаў.

— Прыдзецца, — кіўнуў галавой малодшы камандзір. — Куды ж вам на ламанай брычцы ў далёкую дарогу ехаць.

— Сядайце, былыя панове, — звярнуўся фурман да Вайтовічаў, заварочваючы коней. — Будзем кіравацца на Савецкі Саюз.

Ці то пасля адпачынку, ці таму, што дахаты, коні адразу ж шпарка рванулі наперад. Следам за імі паехалі абодва коннікі, а неўзабаве прамчаліся галопам і тыя двое, што ездзілі далей за Апечкі разведаць, ці няма дзе войска.

Амаль ніхто з апечкаўцаў не пайшоў у той дзень на поле, «Колькі тае бульбы — выкапаецца», — думаў кожны. Затое ў бок тракту, што ішоў на Вілейку, павалілі валам людзі: хто з хлебам-соллю, хто з познімі асеннімі кветкамі. Там калонамі ішлі доўгачаканыя вызваліцелі ад панскага ўціску, і кожнаму апечкаўцу хацелася выказаць сваю падзяку, прывітаць іх.

У адной з такіх калон, толькі па другім шляху, рухаўся са сваім узводам Васілец.

Здарылася так, што яму прыйшлося праходзіць сваю вёску. Ад разведчыкаў вяскоўцы ведалі ўжо, што ідуць магутныя часці Чырвонай Арміі, і высыпалі на вуліцу сустракаць.

Праз Пяскі Грышава часць ехала павольна. Салдатам падносілі кветкі, віталі. Нейкая дзяўчына падала букет і Васільцу, ён падзякаваў, але чыя яна — не пазнаў. Старэйшых за сябе ён пазнаваў, махаў ім рукою, але ніхто не мог пазнаць Мітрафанавага Грышу. Можа і пазналі б, калі б ведалі, што ён тут, у гэтай калоне.

Толькі матчына сэрца прадчувала блізкую сустрэчу. Кожнаму чырвонаармейцу зазірала яна ў твар, усё здавалася: яе Грыша мільгае ў магутнай сіле вызваліцеляў.

Ужо колькі часу ехаў Грыша па знаёмых мясцінах. Тыя ж вузкія палоскі з быльніковымі межамі паабапал дарогі, якія былі пры ім, тыя ж коні ходзяць на выгане, тыя ж пакрыўленыя будынкі з прагнілымі стрэхамі.

Вось і родная хата. Здалёк яе заўважыў Васілец. Той, хто вяртаўся дахаты пасля доўгай адлучкі, ведае, як моцна пачынае біцца сэрца, калі ўбачыш яшчэ здалёк бярозу ці клён, пасаджаныя бацькам.

На вуліцы каля варот стаялі Мітрафан і Ганна. Грыша пазнаў бацькоў. «А чые ж гэта хлопцы і дзяўчына стаяць побач з імі?» — падумаў Грыша. Ён не ўяўляў нават сабе, што за час яго адсутнасці так выраслі браты і маленькая Валя. Яму заўсёды чамусьці здавалася, што дома нічога не змянілася. Нават Янка з Петручком і сястрычка ўсё такія ж гарэзлівыя і дапытлівыя, якімі пакінуў іх, ад'язджаючы ў парабкі.

За некалькі крокаў ад родных варот Грыша саскочыў з грузавіка. Ён прывітаўся з суседзямі і пайшоў да бацькоў.

— Ганна, сустракай госця,— гукнула суседка і сама пайшла побач з Грышам.

Ганна не разабрала, што сказала суседка, але, пачуўшы сярод гулу машын сваё імя, зірнула ў той бок і ўскрыкнула.

— Мітрафан, дзеткі, гляньце, хто ідзе! — і кінулася насустрач сыну. — Грышачка мой, ты жывы?! — абшчапіла яна абедзвюма рукамі сына за шыю.

Падбеглі Янка, Пятрук і Валя. Прывіталіся, і не верыцца ім, што іхні брат, панскі пастушок, стаіць перад імі ў камандзірскай форме.

Падышоў Мітрафан, моцна абняў і пацалаваў сына. Ад радасці салдаты на машынах запляскалі ў далоні. А адзін з іх нават сказаў:

— Глядзі ты, якое шчасце для нашага камандзіра і яго бацькоў. Столькі гадоў не бачыцца і сустрэцца ў такі дзень.

Маці ішла побач з сынам і выказвала набалелае за гады:

— Мы тут колькі чаго перадумалі пра цябе.

— А я па-суседству з вамі быў, у Світалаўцы.

— У Світалаўцы? — здзівілася Ганна. — Божачка мой, рукой падаць, а мы і не ведалі. Чаму ж ты хоць вестачкі не даў аб сабе.

— Баяўся, каб у дэфензіву не цягалі вас... Скончыў у Світалаўцы сем класаў, потым паслалі вучыцца ў Мінск.

— На камандзіра? — з любоўю акінуў позіркам Мітрафан сына.

— Але, — кіўнуў галавой Грыша.

— Хто мог падумаць, сынок, што там было тваё шчасце,— радасна зірнула Ганна ў той бок, адкуль ішлі савецкія часці.



— Не толькі маё, мама, але і ваша, і ўсіх... Бачыце, — паказаў Грыша на чырвонаармейцаў, — усе яны, а разам з імі і я, нясём у сваім сэрцы вялікае шчасце беднаму люду... Ну, жывіце здаровы, хутка пабачымся.

— Дык ты нават і ў хату не зойдзеш? — спахапілася Ганна, не заўважаючы, што даўно мінулі яе.

— Няма калі, мама. Другім разам, як у госці прыеду.

— Толькі ж пастарайся хутчэй... Пішы хоць пісьмы.

— Цяпер буду пісаць, буду. Добра, што напомнілі, — дастаў з кіцеля пісьмо Грыша і падаў бацьку,— здасцё яго заказным на пошту. Не паспеў учора адаслаць.

— Каму ж гэта? — зацікавіла Ганну.

— Ды там... За Світалаўку. На канверце напісана.

— Дык навошта на тую пошту здаваць. Можа каторы з хлапцоў, а то і сам бацька аднесці... Не вялікая дарога...

— Глядзіце самі.

Развітваючыся, Грыша цяпер толькі заўважыў, што шэры асенні дзень пасвятлеў і ў суцэльнай пялёнцы туману сям-там віднеліся прагаліны, праз якія прабіваліся сонечныя праменні.

— Распагоджваецца, — сказаў ён да бацькі.

— Пасля цёмнай ночы заўсёды бывае сонечны дзень,— адказаў той.

За вёскай машыны прыбавілі хуткасць. Грыша зразумеў — не дагнаць яму свае і зірнуў на тую, што праходзіла міма.

Васілец учапіўся за борт, чырвонаармейцы падхапілі пад пахі і памаглі сесці.

А войска ішло і ішло.

Каля самага Ваўкавыска Грыша сустрэўся з Віцем. Іхняя часць Войска Польскага здалася Чырвонай Арміі без аднаго стрэлу. І доўга ўспаміналі пра Караліну Грыша з Віцем. Расказвалі адзін аднаму пра сваё жыццё за час разлукі.

— Бацькі ў Караліне жывуць? — спытаў Грыша.

— А дзе ж ім быць?— пытаннем на пытанне адказаў Віця.

— Зямлі так і не купілі?

— Не. Пакуль збіралі грошы, зямля падаражэла.

— Ну, цяпер не трэба ім думаць пра зямлю, няхай працуюць толькі.

**Ліпень 1958 г. — люты 1959 г.**
**Прусінава — Мінск.**





Уладзімір ПАЎЛАЎ

# ВАЙНА



Секанула яна маланкай,
Праз граніцу на гарнізоны
Папаўзла на нямецкіх танках
Па пшаніцы яшчэ зялёнай.

Яшчэ й сёння асколак ные
На нягоду ў плячы салдата.
І чакаюць сыноў старыя,
А сыны не прыйшлі дахаты.

Ды з-пад снегу штораз прадвесні
Агаляюць вайны прывіды.
А якія спяваюць песні,
Гора ўспомніўшы,
інваліды?!

Шторм на моры у лютай злосці
Яшчэ й сёння у міну хвошча...
Дык хіба ж мы для прыгажосці
Абеліскі
ставім
на плошчах?!

* * *



Мы сялом праходзілі пад вечар
З песняю, у полі недапетай.
Хлапчукі сядлалі шулам плечы,
У дзяўчат з'яўляліся сакрэты,
Пазіралі моўчкі з аканіцаў



Вераб'і прыціхшыя за намі,
З хат ішлі на песню маладзіцы,
Рукі выціралі хвартухамі.
Пацеркі бурштынавых сузор'яў
Апусцілі тонкія рабіны.
Дзе ж тыя пакатыя узгор'і,
Дзе ж тыя шырокія даліны?!
Не крышылі ў бойках супастатаў.
Ваявод і розных атаманаў,
Ад бацькоў па спадчыне салдатам
Застаецца слава і пашана.
І для нас сягоння ў кожнай хаце
Сенцы ўсе расчынены і дзверы.
Дзякуй, незнаёмыя нам маці,
Толькі нас не клічце на вячэру.
Не завіце да сябе, дзяўчаты,
Да цыбатых і цяністых вішань.
Ведайце, што кожны з нас,
салдатаў,
Пісьмы да дзяўчат дадому піша.

* * *



Пахне зямля маладой збажыною,
Квеценню белай ды першым рамонкам.
Дзяўчына босая з доўгай касою
Звоніць на лузе
парожняй даёнкаю.
З лыжкамі рукі нібы анямелі,
Больш кацялкамі прывал наш не ляскае.
Вецер ірве сарафан на ёй белы,
Ногі сцябае вясновымі краскамі.
Бліжай і бліжай лёгкай хадою...
Хлопцы маўчаць, на язык забіяцкія.
— Вы пачакайце. Сюды сырадою
Я прынясу вам да кашы салдацкае.—
Так і прайшла невядомаю казкай.
Зноў падніmaліся травы мядовыя.
Моўчкі на лоб мы насоўвалі каскі.
Нам у дарогу.
Мы — людзі вайсковыя.

* * *



За лясамі сінімі, высокімі —
Стужкі пераблытаных шляхоў.
Чэшуць елі лапкамі шырокімі
Мокры шоўк скамлычаных імхоў.
У ярах расквашаных і лужынах
Вымакае трапяткая сінь.
У гушчар, рыкаючы прастуджана,
Падаліся статкамі ласі.

А зубры на чорных радыятарах
Яшчэ больш стальны тапыраць горб.
На зямлі разбуджанай, някратанай
Вырастае горад Салігорск.
Пад зямлёй увішныя праходчыкі
Першай шахты прабіваюць ствол.
Ад вяргіняў ломяцца гародчыкі,
Хмель мацуе кожны частакол,
А сады асеннія за сёламі
Дыхаюць настоем, як вінам.
За лясамі сінімі, за доламі —
Мой бацькоўскі край,
Мой дом.

## НАС ДАЎНО ПАЖАНІЛІ ПЛЯТКАРКІ



Нас даўно пажанілі пляткаркі,
Нібы лёс наш ім грудзі пячэ,
Хоць да поўнай вясельнай чаркі
Так далёка яшчэ.

Я ім сэрца з грудзей не выму
І, як праўду, не дам на далонь.
Нарабілі пляткаркі дыму,
Затушылі агонь.

Не таму хіба дарма штовечар
За сялом я чакаю цябе,
Быццам там прызначаў сустрэчу
Толькі сам для сябе.

Ты баішся няхітрых плётак
І кахання майго не дзеліш.
Хай жа скісне гарэлка ў цётак,
Што к вяселлю купіць паспелі!

Нас даўно пажанілі пляткаркі,
Нібы лёс наш ім грудзі пячэ.
А да поўнай вясельнай чаркі
Так далёка яшчэ...



Леанід Гаўрылкін нарадзіўся ў 1935 годзе ў пасёлку Стэп Церахоўскага раёна на Гомельшчыне. Закончыўшы сярэднюю школу, у 1952 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна на аддзяленне філасофіі, а праз два гады перайшоў на аддзяленне журналістыкі, якое і закончыў у 1957 годзе.
З таго часу працуе ў рэдакцыі Церахоўскай раённай газеты «Ленінец».
«Радасць» і «Абгарадзіўся» — першыя апавяданні маладога аўтара.

**Леанід ГАЎРЫЛКІН**

# РАДАСЦЬ

Мал. В. Ягорава.

Старшыня не даў каня Івану Трафімавічу падараць бульбу. Ён нават не глянуў у яго бок, а толькі буркнуў сабе пад нос:

— Паспееш, Крахмалёў. Калгасную пачалі толькі што капаць.

Гэтыя словы пакрыўдзілі старога. Здалося Крахмалёву, што ў іх прагучала знявага.

Ён выйшаў з канторы, затрымаўся на ганку, дастаў кісет, закурыў. Глыбока зацягнуўся, але крыўда ўсё роўна пякла грудзі, не давала дыхаць.

Сорак пяць гадоў ён прастукаў молатам. Даўно можна было пайсці на адпачынак, але вельмі ж патрэбны людзям яго залатыя рукі. Ён гэта ведае. Далёка ідзе слава пра яго сякеры, замкі, сярпы. Усе паважаюць старога. І калі ў калгас прыязджае сакратар райкома партыі, ці не ён гэта заўсёды загляне ў кузню спытаць пра здароўе Івана Трафімавіча?

Стары пайшоў напрасткі па ледзь прыкметнай сцяжынцы сярод рослага алешніку. Пад нагамі шамацела апалае лісце, твар надакучліва казытала белае павуцінне, блыталася ў барадзе.

Недзе ў асеннім небе сумна курлыкалі нябачныя журавы.

Ля кузні, што стаяла на невялікай палянцы каля раўчука, на траве ляжаў меншы сын Крахмалёва Віктар і чытаў. Ён закончыў у гэтым годзе дзесяцігодку, марыць праз два гады паступіць ва ўніверсітэт на фізмат, а пакуль што памагае бацьку.

— Віця, залівай горан, — распарадзіўся стары Крахмалёў.

— З трэцяй жа брыгады пяць плугоў прывезлі, хутчэй зрабіць прасілі.

— Мы сваё адпрацавалі. Рыхтуйся лепш у сваю ўніверсітэту.

— Чаму гэта, тата?

— Табе не зразумець. Малады... Ну, залівай!

Шыракаплечы з доўгімі моцнымі рукамі хлопец падняўся і з вядром пайшоў да раўчука.

...Іван Трафімавіч сам павесіў замок на дзверы, сам пайшоў у праўленне арцелі і кінуў ключы на стол старшыні.

— Што гэта значыць? — здзівіўся той.

— А гэта значыць, таварыш старшыня, што мне шэсцьдзесят пяць гадоў.

Вечарам Крахмалёў дастаў паляўнічыя боты і доўга мазаў іх дзёгцем. Потым вычысціў стрэльбу, набіў патроны.

— Што, тата, на паляванне?

— Можа якую-небудзь качку і падстрэлю. Ды і баравічкі яшчэ трападаюцца.

Сын усміхнуўся, задумаўся. Бацька глядзеў на яго ўскудлачаны чуб, на крыху кірпаты нос. Усе сыны былі простыя, без хітрыкаў. Падняліся на ногі — і кавалі. А гэты больш маўчыць, разважае пра штосьці. І над чым так доўга можна думаць маладому? Хаця, хлопец ён кемлівы. І вучыцца яшчэ будзе. Толькі вось, каб пайшоў на ўрача, падлячыў бы пад старасць. А то нейкі фізмат...



Іван Трафімавіч прачнуўся на досвітку, апрануўся паціху, каб нікога не разбудзіць. Амаль да паўдня ён прабадзяўся па балацянках, не ўбачыўшы там ніводнай качкі. Стаміўшыся, зайшоў да свайго старога сябра, лесніка. Той трохі занядужаў, нікуды не хадзіў, больш ляжаў і піў па настойлівай просьбе сваёй жонкі брусьнічны чай. Пасядзелі на ганку на сонейку, пагаварылі пра тое, што прырода ўсё бяднее, што калісь качкі залятал і аж на двор, а цяпер... Ляснік дастаў з-пад бэлькі тытуню-самасаду. Закурылі. Размова неўзабаве перакінулася на палітыку...

Ідучы дадому, Іван Трафімавіч дзівіўся, што не адчувае ніякага задавальнення. Думкі яго былі ў кузні. Ён зразумеў цяпер, што і на паляванне пайшоў толькі таму, каб упэўніцца, прыдуць сягоння яго прасіць ці не? А можа знайшлі ўжо каго другога?.. Можа ўжо нечыя чужыя рукі трымаюць абцугі, якія яшчэ захоўваюць цяпло ягоных далоняў... Яму стала балюча на душы, і ён скіраваў проста да кузні.

Раптам яго вуха ўлавіла знаёмае пастукванне малатка аб нешта металічнае. Пацягнула пахам свежай акаліны...

Яшчэ здалёк праз кусты ён убачыў, як Віця, надзеўшы ягоную спяцоўку, корпаецца разам са сваім школьным сябрам ля плуга.

Крахмалёў сеў на счарнелы дубовы пень і дастаў кісет. Ніколі яшчэ на яго сэрцы не было такой радасці...



# АБГАРАДЗІЎСЯ

З-за лесу ўставала сіняя хмара-аграмадзіна. Яе паласавалі блакітныя бліскавіцы. Хутка цямнела.

Казлоў спяшаўся. Ён зняў пінжак і нёс яго ў руках. Але кашуля ўсё роўна ліпла да цела.

Буйныя кроплі дажджу ўпалі на дарогу, узняўшы пыл. Да вёскі яшчэ заставалася з паўкіламетра. Казлоў ужо шкадаваў, што адмовіўся ад машыны ў райкоме партыі. А цяпер вось хутка хлыне лівень і прыдзецца мокраму да ніткі з'явіцца да свайго былога ўніверсітэцкага сябра.

Жылі яны раней, што браты. Спалі на суседніх ложках, галава да галавы, елі з адной скаварады. З таго часу прайшло сем гадоў. Казлоў даўно працаваў у часопісе, друкаваў апавяданні, нарысы, выдаў кніжачку сваіх твораў. А яго сябар Хмяльніцкі паехаў настаўнічаць у вёску. Праз два гады меркаваў паступіць у аспірантуру, але мару сваю чамусьці не здзейсніў.

Дождж так і не пайшоў. Заціх вецер, і хмара нерухома засталася вісець там, над лесам. І толькі ў злосці рэдзенька вурчэў гром.

Стала брацца на прыцемкі, калі Казлоў падышоў да двара Хмяльніцкага.

Цагляны дом трыма шырокімі вокнамі цікаваў на вуліцу праз зеляніну, што буйна разраслася ў гародчыку. Сядзіба была абнесена ад вуліцы густым штакетам. Паміж тоўстых дубовых шулякоў віселі цяжкія вароты. Усё было зроблена трывала, на доўгія гады.

Два распухлыя парсюкі, усунуўшы лычы ў карыты, здаецца, драмалі: так далікатна яны елі цеста. Каля іх ківаўся сам Хмяльніцкі. Быў ён у майцы, у старых сініх галіфэ, у тапачках басанож. Круглая яго галава трывала сядзела на шырокім і кароткім тулаве. Пухлая, быццам жаночая, рука кратала бярозавай хлудзінай свіныя вушы.

— Іван! Ты ці не ты? — аж крыкнуў Казлоў.

Гаспадар азірнуўся. Твар яго адразу ж яшчэ больш пакруглеў і абапёрся на два падбародкі.

— Андрэй?! — здзівіўся гаспадар. Тонкія вусны яго расцягнуліся ў лёгенечкай усмешцы, адкрываючы верхнія зубы. Прыжмурыліся вочы, і носік згубіўся недзе ў пульхных шчоках. — Якім цябе ветрам, Андрэй?



— Прыязджаў у камандзіроўку ў раён... А ты ўжо, гляджу, абжыўся, абгарадзіўся, як у крэпасці засеў...

— Крэпасць шчасця... — засмяяўся гаспадар. — Ну, а ты як? Ажаніўся? Напэўна, кватэра на праспекце?

— Памыляешся, дружа. Адзін, як і сем год назад. Мне і кватэры не трэба. Больш у раз'ездах. Вандрую па жыцці...

— Та-а-к, — расцягнуў Іван.

Яны моўчкі разглядалі адзін другога, дзівячыся таму, што ім няма ўжо пра што і гаварыць. Маўчанне перабіў хлопец, што сядзеў ля самай форткі на сукаватай дубовай калодзе. Казлоў яго спачатку не прыкмеціў. Хлопец быў у прамасленым камбінезоне, на грудзях у яго чырванеўся камсамольскі значок.

— Ну, дык як, Іван Пятровіч, будзе з лекцыяй?

— Я ж ужо сказаў... Не дуры мне больш галавы. Ды і госць во...

— Дык з усіх жа брыгад прыедуць... Рыхтаваліся так.

— Дайце хоць летам адпачыць?!.. — раптам абурыўся Хмяльніцкі.

Юнак, нічога больш не сказаўшы, выйшаў на вуліцу, моцна ляпнуўшы форткай.

Гаспадар запрасіў Казлова ў хату. Толькі зайшлі ў сенцы, як з агароду пачуўся жаночы патрабавальны голас:

— Ваня!

Ваня куляй вылецеў з сянец. На двор ён вярнуўся з вялікім мяшком травы на плячах і бурчэў на жонку, якая ішла следам:

— І на чорта табе цяпер гэтая трава? У хлеве ж яе цэлая куча...

— А табе нічога не трэба. Ты заўсёды такі... Жывеш без усялякіх клопатаў, за маёй спіной...

Казлоў стаяў на ганку і слухаў. Калі яны падышлі бліжэй, пажартаваў:

— Пазнаю, пазнаю тваю далікатнасць, Іван...

— Ты хоць бы госця пасаромелася, Ірына, — агрызнуўся той жонцы.— Гэта ж Андрэй. Памятаеш, я табе расказваў. Універсітэцкі сябар.

— Як прыемна, як добра, што заехалі... — Ірына працягнула Казлову сваю руку. Твар яе асвятліўся той жа ўсмешкай, што нядаўна была ў гаспадара. Казлоў заўважыў, што жанчына вельмі прыгожая і цяпер, калі ранняя паўната шмат чаго ўжо ад яе дзявочай прывабнасці пахавала назаўсёды. Казлоў таропка пацiснуў яе руку і шчыра прызнаўся:



— Я вельмі рад за свайго сябра.

...За перагародкай бразджэлі лыжкі, міскі, чуліся прыглушаныя шэпты мужа і жонкі. Яны рыхтавалі вячэру.

Казлоў сядзеў на канапе, разглядаў пакой і сумаваў. А чаму, не ведаў. Мо' таму, што пара ўжо мець і яму свой вось такі ж прытулак, дзе б можна было адпачыць ад працы, ад турбот. Але, калі ён бліжэй прыглядаўся да ўсялякіх дарожак і сурвэтак, што віселі ўсюды, да бязглуздых гіпсавых курачак на вокнах, у яго такая ахвота чамусьці знікла. Заставаўся сум. І Казлоў не мог зразумець, адкуль ён бярэцца. А мо' ён ад таго, што ўспаміналася маленства, бацькі, якія загінулі ў вайну. Калі яны ішлі на работу, заўсёды Андрэйку пакідалі дома аднаго. Ён тады, каб не так было боязна, узбіраўся на падаконнік і глядзеў у акно. Памятаецца, як на шыбінах санліва гулі мухі.

Яны і цяпер тут гудуць якраз так...

Андрэй паспрабаваў уключыць прыёмнік, але слухаць перашкаджаў навальнічны трэск. Хацеў пакапацца ў кніжнай шафе, — але тая была замкнёна. На нейкую хвіліну яго зацікавіў сямейны альбом. Бегла прагледзеў яго. На першай старонцы — фотакартка Івана яшчэ з юнацкіх гадоў. Імклівая ўзнёсласць на надзьмутым хлапечым твары... А вось ён ужо вясковы настаўнік. Стаіць ля драўлянай аднапавярховай школы. Штаны не адпрасаваны, прыкметна вытыркаецца жывоцік. І вось, нарэшце, ён з настаўнікамі за сталом. На твары задавальненне, сарочка расшпілена ад духаты. Ледзь не локцем адсоўвае бутэлькі і талеркі.



Казлоў, схіліўшыся ля акна, і не заўважыў, як падышла да яго Ірына, дакранулася рукой да пляча, запрасіла да стала.

За сталом гаварылі мала. Гаворка не клеілася, калі нават і выпілі. Толькі Іван пачаў больш упарта прапаноўваць госцю то крывянку, то мясную каўбасу, то сыр, то яешню... Расхвальваў кожную страву, расказваў, як яе гатаваць, каб яна была смачнейшая. Жонка яго маўчала і толькі зрэдку падтаквала яму. Не прамінуў пахваліцца Іван, што і варэння наварылі гэтым летам больш двух пудоў. А Ірына Сямёнаўна запрасіла Андрэя ў госці ў снежні, бо варэнне можна ацаніць толькі зімой.

Спаць Казлова гаспадар павёў на сена. Пашкадаваў, што так і не ўдалося пагутарыць пра справы, але нічога, заўтра яны абавязкова гэту памылку выправяць; пажадаў добрай ночы.

Праз шчыліны ў шыферным даху відаць было, як бліскае дзесь маланка. Чуўся гром. Хутка забарабаніў дождж. Прыемная цеплыня разлівалася па ўсім целе, зліпаліся павекі. Праз сон ужо Андрэй чуў, як з ганка данеслася гаворка, якая злівалася з шумам дажджу.

А мо' проста памацнеў дождж? Не! Вось чуваць асобныя галасы...

— Мала было клопатаў... Дзяцей да маткі выправіла, каб спакайней адпачыць, а тут...

— Ірына, ды зразумей жа ты... Мы ж пяць год разам... Лепшы, самы блізкі...

— Блізкі твой, не бойся, не памог табе ў Мінск выбрацца, а ты...

— Ірачка!..

Нешта звонка бразнула. Падобна было на тое, што зачыніліся дзверы. Андрэй узняўся, сеў. Сон як рукой зняло...

...Калі Хмяльніцкі раніцой пайшоў будзіць госця, таго на сене не было. Гаспадар выбег на двор, злётаў у агарод, у сад, нарэшце выйшаў на вуліцу. Нідзе не было следу. Казлоў пайшоў яшчэ ноччу.



Таленавіты грэчаскі паэт Алексіс Парніс нарадзіўся ў 1924 годзе ў Пірэі ў сям'і рабочага-тэкстыльшчыка.

З юнацкіх год ён удзельнічаў у руху супраціўлення чужаземным захопнікам. У 1956 годзе паэт скончыў літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. А. Парніс—аўтар п'ес «Апошняя ноч Афін», «Сухі востраў», «Плацдарм», кнігі апавяданняў «Я баец народна-дэмакратычнай арміі», аповесці «Фомас Барутас», зборніка вершаў «Да савецкай зямлі», паэмы «Сказанне пра апошнюю песню».

На Сусветным фестывалі моладзі ў Бухарэсце ён атрымаў медаль лаурэата за зборнік вершаў «Сэрца Грэцыі» і на фестывалі ў Варшаве—першую прэмію за паэму «Сказанне пра Белаяніса».

Вершы Парніса перакладзены на рускую, кітайскую, румынскую, польскую, балгарскую, албанскую і іншыя мовы.

Нядаўна паэт наведаў нашу рэспубліку. У выніку гэтай паездкі ён напісаў вершы пра Беларусь, якія мы друкуем ніжэй.



**Алексіс ПАРНІС**

# БЕЛАРУСЬ

I



Ты мне зычыла столькі дабра,
Гэткай блізкай была і знаёмай,
Быццам я сядзеў ля кастра
Між сяброў на радзіме, дома.

Усё лясы і лясы, і лясы,
Усе дрэвы на мачты прыгодны,
Каб на іх нацягнуць парусы
Карабля маіх песень паходных.

Вецер, вецер, напоўнены свежаю сілай,
Парусы надзімае туга.
І ляціць карабель, як на крылах,
К сэрцу друга.

І ўсе хаты, як гавані з казкі,
Запрашалі мяне: «Калі ласка!»

II

Гор на тваёй зямлі я не бачыў нідзе, Беларусь,
Але вышыню адчуваў я ўсюды,
Глыбокіх цяснін не сустракаў я на Беларусі,
Але глыбіню адчуваў я ўсюды.

Таму што мяне акружалі
З высокімі мыслямі,
з глыбокім пачуццем
людзі.

І цяпер я ў спрэчцы з кожным
сцвярджаць бяруся,
Што высакагорнай краінай з'яўляецца Беларусь.
Ці ж Мінск — не вяршыня пад сонцам?
Ці ж Купала і Колас — не горныя пікі?
Ці ж не тут рабілі заслонаўцы
Подзвіг высокі ў змаганні вялікім?
А сцягі чырвоныя на сельсаветах,
А гмахі заводаў, а людзі рупныя?!.
Бачу з кожнай вяршыні гэтай
І мінулае
і наступнае.

## АГУЛЬНАЯ МОВА



Хутка салдат знаходзіць
агульную мову з салдатам,
З Мінскам я вельмі хутка
агульную мову знайшоў.
Хоць беларускую мову
мне зразумець цяжкавата,
Ды мова акопаў, бамбёжак
знаёма мне з даўніх часоў.
Я разумею гора эвакуацыі,
гора,
Калі ў вашу хату з крыкам
уламваецца вайна.
Я разумею радасць,
калі адваёван ваш горад,
З мовай чырвонага сцяга
я добра знаёмы здаўна.
Сонечны сцяг над Мінскам!
Першае вольнае ранне.
Калі ён ізноў над горадам
успыхнуў у першы раз,
Яму руіны ўсміхаліся,
як усміхаецца ранены,
Верачы, што набліжаецца
выздараўлення час.
І хоць беларускую мову
мне зразумець цяжкавата,
Я разумею радасць
запеўшага зноў гудка,
Ён кліча людзей і сонца
стаць на працоўную вахту,
У ім — нецярплівасць неба
і нецярплівасць станка.
Выслоўі вялізных кранаў
я разумею дакладна,
Рукі ўзнялі, як арудаўцы,
кожны здалёк відзён.
Праца у кранаў пачэсная:
ім увесь рух
падуладны
На скрыжаваннях сучасных
і будучых светлых дзён!



Я разумею і молат, і трактар,
што поле заворвае —
Над баразною глыбокай
курыцца цёплы дым.
Я разумею добра
мову сучаснай гісторыі,
Яна ў маім сэрцы глыбока
свае пакідае сляды.
Я разумею мову
з праху узнятага горада.
Гэтакая ж палымяная
мова у мары маёй.
Краіна мая! Я веру,
што хутка пазбавішся гора ты,
Ізноўку на гордай мове
народ загаворыць твой.
Тысячамі салдат,
што 'шчэ дамоў не вярнуліся,
Маткаю, што гаруе,
не знаючы, дзе яе сын,
Сэрцамі, чые раны
даўнія
не зацягнуліся,
Сёння я ў Мінск пасланы,
як заўтрашні дзень Афін.
Горад-баец!
Тваю мову
я ўсёй душой адчуваю,
Таму што і сам я
падобны
на горад
ў руінах вайны:
Сцежку да роднага дома
сню я ды ўспамінаю,
Брата, бацькі і маці
мне галасы не чутны.
Усё гэта сцёрта,
усё гэта —
сёння у эвакуацыі,
Страшная эвакуацыя
самых прасцейшых слоў,
Самых прасцейшых радасцей,
тых, без якіх задыхацца
Ты пачынаеш часамі
і нават памерці гатоў.
Горад-салдат!
Мы ў нечым
вельмі падобны часамі,
Мяне не пакінула вера,
прага змагацца і жыць.
Цябе твае партызаны
не пакідалі таксама,
Яны ішлі ў падполле,
каб лепей табе служыць.
Я веру,
простыя радасці
вернуцца хутка ізноўку,
Так, як і ў Мінск вярнуліся
сотні яго сыноў.
І муза мая адзене
рабочую зноў спяцоўку,
Вершы, як новабудоўлі,
буду узводзіць зноў.

Шчаслівы,
з будаўнікамі
ўзыйду я на рыштаванні,
Убачу з паверха высокага
роднага краю шыр.
У доме паселяцца людзі,
забыўшыя пра выгнанне,
І справяць сваё наваселле
праца,
радасць
і мір.

Пераклад П. Панчанкі.

## СУСТРЭЧА Ў МІНСКУ



Поўнач. Дождж.
Свістапляска патопу і цемры.
Быццам мокрай мятлою,
Лівень з вуліцы вымеў усіх.
Гэтак п'яны гуляка,
Што ўварваўся праз дзверы,
Выганяе з шынка ўсіх,
Каб шумліва буяніць
З ватагаю сябраў сваіх.
Серпантынам маланкі ўплятаюцца
У косы чарнявае ночы;
Тонкія ножкі дажджу
Па пустых тратуарах
Пускаюцца ў скокі шпарчэй;
Нібы ў сцены шпурляючы пляшкі,
Навальніца-гуляка грукоча,
Ды задзірлівы вецер
Лае кагосьці
З п'яных вачэй.

Толькі я не з нясмелых!
Пакінуў вакзальныя дзверы,
У навальніцу нырнуў,
Па баках ні на што не гляджу,
Прабіваюся
Скрозь непагоду наперад
У шумлівым натоўпе дажджу.
Сябра мой беларус
Сустракае, сціскае ў абдымках мне плечы.
Ён гасціннасці воін,
І ў любую пагоду ў страю.
Лівень, лівень, збіраўся ты нам перашкодзіць?
Паглядзі на братоў двух сустрэчу, —
І не траць лепш дарэмна
Гэтую лютасць сваю.
Мы — паэты, і, значыць,
Нам раз'юшанасць буры знаёма,
Наша сіла і моц
Навальніцам і бурам раўня,
Нам вядомы прывычкі
І ветру, і граду, і грому,



Мы таксама умеем
Шаленства стыхіі суняць.
І пятлёй нашых строф
Мы не раз вас за шыю хапалі,
І за грыву трымалі
І вецер, і лівень, і град,
І не раз вы ўсю сілу сваю
Палёту радкоў аддавалі,
Выканаўшы паэта загад...

Слухаць каманду маю!
Пабочныя спыніць размовы!
Вецер, ану, адстаўць
Усе вашы спрэчкі з дажджом!
Станьце вайсковай часцю,
Для сустрэчы станьце вартаю ганаровай!
Салютуй у гонар паэтаў,
Гром!
Маланкі, ўзвіць
Фейерверк над намі,
Хмары, спыніцеся, — загадвае чалавек,
«Ура!» крычыце
Разам з вятрамі,
Радуйцеся:
Браты сустрэліся —
Беларус і грэк!

Лівень, лівень, мой дружа,
За верную службу паэтам
Атрымаеш ты ордэн:
Лепшую песню, народжаную у грудзях...

Лівень, лівень...
Я знаю, на Беларусі летам
Часта дажджы выходзяць на шлях.
Вучоны метэаролаг
На тэму гэту, не іначай,
Як прадставіў бы цэлы трактат.
А мы з Аркадзем — паэты,
Мы такія рэчы тлумачым
На свой,
На паэтычны лад.
Няма тут загадкавага нічога:
Беларусь
Прыгажосцю палёў і лясоў
З усіх куточкаў
Шара зямнога
Прываблівае легіёны турыстаў-дажджоў...

Лівень, лівень,
Які ты упарты дурань!
Няўжо табе не абрыдла ліць?
Ты ж — толькі цацка
У параўнанні з бурай,
Якую прышлося і нам перажыць.
Мы, як паэты-байцы,
Павінны
Не апускаць галаву перад ворагам
Ноччу і днём.
... Так з узнятай галавою
І журбою ў сэрцы
Пакідаў я калісьці Афіны,
Гэтак з Мінска выходзіў
Аркадзь пад варожым агнём.

Ён ішоў па гэтай вуліцы.
Стаялі дамы адзінока.
Змучаны горад тужліва прыціх,
Зажмурыўшы вочы, —
Тысячы вокан,
Каб адступлення не бачыць
І сыноў
І заводаў сваіх.

Успамінае Аркадзь:
«Рэчы хатнія ўсе
Аглядаў я з маўклівай тугою,
Бо прасілі мяне па чарзе,
Каб забраў іх з сабою.
А ні лыжкі, ні міскі
Застацца ў кватэры не хочуць,
Не згаджаюцца кніжкі,
Каб вораг паліў іх на плошчы».

Ў яго дом я ўвайшоў.
— Ну і як ты збярог іх, Аркаша?
І ці многа сяброў даваенных
Вярнулася, дружа, сюды?
— Многа!
Вось яна, слаўная гвардыя наша,
Вось яны, кнігі, — у шафах рады...
А лыжкай — вось гэтай —
Гады чатыры
Я сёрбаў і слёзы, і порах, і дым... —
І ён усміхаецца горда і шчыра
Успамінам сваім.
Успамінаў у сэрцы сабрана нямала,
Да краёў
Імі поўна ў салдата яно.
Іх сябра вымае асцярожна —
Гэтак з падвала
Для гасцей дастаюць
Хмельнае дарагое віно.

Мы ў хатнім прытулку
Прамоклае сушым адзенне,
Як ля вогнішча некалі
Ў лесе начным.
І нам свецяць
І клічуць у заўтра надзеі,
Нас грэе
Памяць аб тым,
Як мы ўчора змагаліся з ім.

Ён — беларус.
Я — грэк.
Мы — дзеці розных народаў.
Лад у нашых краінах
Далёкі такі...
Але перад часам
Адказваем
Мы абодва,
А радзіма ў нас — век дваццаты.
Значыць — мы землякі.
Ў вялікім шматлюдным доме,
Якому — Чалавецтва імя,
Здаўна жывём мы сярод лясоў і гор.
Яго беларуская кватэра,



Мая кватэра грэчаская
На адно і тое ж сонца
Вокнамі глядзяць сваімі
І абедзве выходзяць
У адну ідэю вялікую,
Як у адзін калідор...
Так сядзім і гутарым аб будучым
Мы з Аркашам.
Як раней, грыміць і ззяе
Навальніца за акном.
Мы знаем, што за акіянам
Злавесны, страшны
Грыміць і бліскае
Атамны гром.
Ды мы — паэты,
Ды мы — салдаты.
Мы знаем: і гэтую буру
Здолее ўтаймаваць чалавек,
І віхор атамных навальніц,
Вайною багатых,
Як паслухмяных хатніх жывёл,
Ён прыручыць навек.
І ён зробіць так,
Што страху ў душах не будзе,
І толькі ўсмешкі
Ўспыхнуць наўкруг,
І пад дахам усіх часоў
Будуць мірна страчацца людзі,
Як пад гэтым беларускім дахам
Сустрэліся я і Аркадзь, мой друг.
І, спаць кладучыся,
Будуць верыць і знаць усе людзі,
Што не выццё сірэны,
Не цень бамбавозных крыл —
Яснае сонца
Іх ранкам разбудзіць,
І будзе блакітны,
Чысты небасхіл.
І яшчэ іх разбудзіць светлая турбота, —
Прывабнае хваляванне, —
Турбота аб новых паэмах,
Што стукаюць сэрцу ў лад...

Беларусь, добрай раніцы!
Сусвет, з добрым раннем!
Добрай раніцы,
Чалавек,
Мой брат!

# ПАРТЫЗАНЫ



I

Толькі камень спачатку ў руках вы трымалі,
Але трапна і ім вартавых забівалі
Каля моста ці склада.
Пад рукамі нічога не меў чалавек, —
У каменны нібыта адкінула век, —
Вы з каменнем хадзілі ў засады.

Ды пасля узялі вы жалеза кускі
І ў пячорах кавалі нажы і штыкі,
Быццам людзі жалезнага века.
З дапамогаю гэтых нажоў і штыкоў
Здабылі сабе порах пасля ў чужакоў
І рабілі гранаты.

З дапамогаю зробленых вамі гранат,
Адабраўшы ў фашыста ў баю аўтамат,
Ў век машыны ўступілі,
Так ва ўпартых баях,
У цяжкі грозны час
Барацьба к перамозе прыводзіла вас,
Партызаны мае, партызаны.

Лом, запалкі і нож ды ў бутэльцы бензін
На заданне з сабою з вас браў не адзін,
Але гэтымі простымі рэчамі
Вы тварылі гісторыю.
У вашых руках
Выклікала ўсё гэта ў захопнікаў жах,
Партызаны мае, партызаны.

Вашы горы сівыя, дрымучы ваш лес —
Зала, дзе штогадзіны праходзіў працэс
І фашыстаў адплата чакала.
Гнеў загінуўшых сябраў вы ўзялі сабе,
Ваш прысуд справядлівы быў у барацьбе,
Катам літасці вы не давалі.

II

Палюбілі вас горы,
Былі вы для іх ручаямі,
Палюбілі вас травы —
Для іх жа былі вы дажджамі,
Палюбілі вас тыя,
Хто быў заняволены чужакамі,
Як надзею сваю,
Што у змроку свяціла агнямі,
Партызаны мае, партызаны.

Пад варожай нагой
Вы, як торф беларускі, гарэлі,
Быў нябачны агонь,
Але іскры пад попелам тлелі,
І вы катаў пяклі,
Як палаючы вугаль, як лава.
Вас вянчалі па ўсёй зямлі
Перамога і вечная слава.
Партызаны мае, партызаны.

Для саставаў чужых
Вы апошнім прыпынкам служылі,
І на вашых палянах
Гарэлі іх гонару крыллі,
У лістах пуцявых іх салдат
Вы папраўкі рабілі,
І захопнікі шлях свой канчалі ў магіле.
І хто б вы ні былі: грэкі, чэхі, французы,
Югаславы, украінцы і беларусы,
Вораг,
Смела чые парушалі вы планы,



Адным іменем вас называў:
«Партызаны!»
Гэта слова заўжды для яго азначала
Смерць, пагібель, разгром,— дзе б яно ні гучала,
Гэта слова шаптаў кожны вораг і помніў:
На усходзе, на захадзе, поўначы, поўдні...

І хто б вы ні былі: югаславы, французы,
Ці палякі, ці рускія, ці беларусы,
Друг, што чуў пра вас смелых, адданых,
Адным іменем вас называў:
«Партызаны!»
Гэта слова для вашых сяброў азначала
Мужнасць, сонца святло, дзе б яно ні гучала,
І з надзеяй ў грудзях паўтараў гэта слова
Поўдзень цёплы і поўнач з прыродай суровай.
Партызаны мае, партызаны.
І фашыст аж дрыжэў,
калі з крыкамі
вы нападалі,
А калі вы на допытах горда маўчалі,
Гэта ваша маўчанне
яго яшчэ больш калаціла...
Слава песні маўчання!
Якая ў ёй сіла!
Пераможна яна над зямлёю грымела
За турэмнай сцяной і ў хвіліны расстрэла.
Ні аркестру, ні хору не ўзняцца над светам
Аніколі ў сімфоніях,
песнях,
акордах
Да вышынь,
што ў маўчанні затоены гэтым,
Што праславілі вартасць
сумленных і гордых.
Каты розных часоў
з дамавін выпаўзалі,
Памагалі гестапаўцам,
мучылі вас,
Але катам на зло
вы спакойна маўчалі
У апошні,
смяротны,
свой доблесны час.
Паміралі,
каб зноў на зямлю вам вярнуцца
Бессмяротнае славы дзяцьмі
на зары.
Ваша праўда жыве,
вашы песні пяюцца,
Партызаны,
браты,
дарагія сябры!
Па лясах беларускіх
я крочу сягоння,
На вялізнай зялёнай трыбуне стаю,
І ад кожнай рачулкі
і галінкі зялёнай
Чую песню аб вас
і пра вас сваю песню пяю.
Партызаны лясоў!
Партызаніў я ў горных адхонах,
Партызаны лясоў,
пасланец я ад скалаў крутых.

Я з краіны,
у якой партызанская слава ў загоне,
У падполлі,
глыбока у сэрцах людскіх.
Я прыйшоў к вам сюды,
як выходзяць салдаты з блакады,
З той краіны,
дзе многа людзей пры сабе
Сцяг хаваюць вясны,
сцяг хаваюць брыгады
Пад адзеннем,
прастрэленым у барацьбе.
Гэты сцяг берагуць,
каб пазней на паверцы,
Пры сустрэчы з галоўнымі сіламі —
з будучым днём,
Разгарнуць яго горда!
Як душы, як сэрцы
Незаплямлены ён!
На ім словы — з агнём.

III

Па зямлі,
мая песня,
выгнанніцай ходзіш,
Як душа партызана,
забыўшы і мір і спакой,
Іншы раз ненадоўга прытулак знаходзіш,
Ды дарога ляжыць увесь час прад табой.
Я ў гасцях у лясоў беларускага краю,
Што працягваюць вецце, як тысячы рук,
У зялёных абдымках іх
я адчуваю
Радасць, шчасце,
сяброўскае кола наўкруг.
Лес падобен цяпер
на байца медсанбата.
Ён схіліўся над раненым,
што у бядзе,
Перавяжа крывавыя раны салдата,
Асцярожна ён з зоны адчаю яго адвядзе.
Сонца, мой праваднік,
то гарыць за камлямі,
То знікае ў густой зеляніне ляснай,
Я іду ўслед за ім
да кvяцістай паляны,
Дзе складзе
дзень наступны для песні маёй
Самы светлы фінал,
поўны радасці чыстай,
Як звінячыя шчасцем бары.
Я іду, сонца свеціць
скрозь лісце ўрачыста...
Партызаны, браты, дарагія сябры!
Я ваш лес, дружбакі, буду помніць заўсёды,
Як баец-партызан
не забудзе прывалы ў пуці,
Дзе не раз ён
ад стомы спачываў у паходах,
Каб пасля на заданне ізноўку ісці.
Як баец-партызан
не забудзе руку,
што ў змаганні



Працягнула, як сябру,
каштоўную флягу вады,
Як ён помніць людзей,
што знайшлі яго ўранні,
Зберагалі ў цяжкую пару ад бяды
І казалі, калі загаіліся раны:
«Ну, шчасліва, сынок!»
І махалі рукамі ізноў...
Я знайшоў ў вашых даўніх лясах,
партызаны,
Як у сэрцах у вашых,
падтрымку, любоў.

## ВОЗЕРА НАРАЧ



Цёплы ранішні дзень
над залівам прыгожым.
Нарач —
светлы і роўны бясконцы абшар,
Нібы люстра чароўнае,
дзе прыгожым становіцца кожны
Ярка адлюстраваны твар.
Над кармой я схіліўся,
на свой паглядаю адбітак,
Бачу: зморшчынкі, шрамы знікаюць.
І ў валасах сівізна
Ўжо растала, як соль.
Цені ў сэрцы расталі нібыта,
І яно, быццам Нарач,
празрыстае стала да дна.
Неба — чыстае, яснае,
быццам сягоння рашыла
Для людзей быць з шырока раскрытай душой,
Берагі па баках, як зялёныя крылы,
І, здаецца, зямля
хутка ўгору ўзляціць над вадой.
У азёрным чыстым люстры
свет мы іншымі
бачым вачамі,
Шэпчуць вусны вады
тым, глядзіць хто
на сінюю гладзь:
«Прыгажэйшыя, лепшыя вы,
чым лічыце самі,
Ды яшчэ прыгажэйшымі, лепшымі
можаце стаць».
Нарач —
возера Нарач — даліна чароўная
І паляна блакіту ў лясах беларускай зямлі,
Штосьці ёсць невыказнае тут
і няўлоўнае,
Што хвалюе мяне,
быццам з Грэцыі чую я кліч,
Можа быць, гэта сосны,
што з берага ў хвалі глядзяцца,
Мо' зямлі гэты сонечны пах
нагадаў мне вясну,

Быццам бы усю ноч
на зялёным матрацы
Спачывала тут сонца
ва ўладзе глыбокага сну.
Можа, гэта святло,
Што блакіт адфільтроўваў празмерна,
Ці мо' вецер, сюды даляцеўшы з дзялянкі
лясной,
Ад якога трапечацца ліст,
як каўнерык
Светлай блузкі на дзеўчыне,
ап'янёнай вясной.
Штосьць нагадвае тут
гэтым ранкам прыгожым
Маю родную Грэцыю.
Нарач здаецца ўжо мне
Нашым грэчаскім морам
і памяць трывожыць
Чарадою малюнкаў,
што бачу я часам у сне.
«Не заўжды наша Нарач
бывае спакойнай, хлапчына,—
Мне гаворыць рыбак.—
Не заўжды ўбачыш добрай яе»...
Ды здаецца мне возера
беларускай прыгожай дзяўчынаю,
Што сягоння для госця
па-грэчаску
свае песні з ранку пяе.
(Друг мой Пімен на стол паклаў здымкаў шэраг
Парфенона і Дэльф, каб, як дома, было мне між
іх,
А Пятрусь пастараўся,
каб масліны былі на вячэру...
Нарач — вельмі падобна
на сяброў беларускіх маіх.)
Нарач! Нарач!
Сягоння здаецца, што побач Грэцыя,
Толькі варта на вёслы налегчы —
І ля родных ты берагоў:
Хвалі рэжа баркас,
выйшла маці сустрэць мяне,
Я прычалю і зараз аддам ёй улоў.
Нарач! Нарач!
Сягоння ад душы я жадаю,
Каб настаў гэткі дзень,
у які не адзін твой сын
Будзе госцем маім,
будзе госцем пірэйскага краю,
Саранічаскіх хваляў,
што як неба сінь.
«Як прыгожа! — ён скажа. —
Як Нарачы ўвесну абшары».
З фотаздымкамі Брэста і Мінска
пакажу яму я свой альбом,
Беларускую страву
ў гонар госця
нам маці зварыць,
Мы спяем беларускую песню
за нашым сталом.
Навявае мне гэтыя мары
красуня-Нарач раніцай,
Сінявокае возера ў раме лясной.
Я гляджу на яго —
як далёка адсюль яно цягнецца,



З гарызонтам блакітным
здаецца краінай адной.
Неабдымнай краінай красы,
што мяжуе з зямлёю,
З небасхілам і сэрцам людскім.
«Не заўсёды, браток, наша Нарач
бывае такою,
І віры ёсць на возеры,
буры бываюць на ім,—
Кажуць мне рыбакі. —
Хваль баяцца падчас і харобрыя,
Можа лодку заліць,
нават можа адправіць на дно»...
«Ну і што ж, — я кажу ім, —
наогул жа возера добрае,
Не як божы анёл,
а такое, як людзі, яно.
Мы падчас памыляемся самі,
вытвараем учынкі благія,
Ды, па сутнасці ж,
добрыя мы
і не церпім маны»...
Ціха-ціха над возерам
сосны стаяць векавыя
І ўглядаюцца ў люстра яны.
Нарач! Нарач!
На свой пазіраю адбітак,
І душу сваю бачу,
бачу сэрца сваё,
А наўкол цішыня,
толькі раптам з блакіту,
Бачу, выплыла лодка.
Дзяўчына на ёй
Загарэлая.
Вось яна спрытна нырае,
І кругі разбягаюцца, ціха плывуць.
Гэта бура на возеры
хутка сціхае,
Толькі хвалі
спакою ўжо мне не даюць.
Я хацеў бы над сэрцам дзяўчыны
схіліцца,
Свой адбітак хацеў бы пабачыць у ім,
І прыгожым,
шчаслівым
у ім я хацеў бы
адбіцца.
Нарач! Нарач! Такім, як у сэрцы тваім.

Пераклад М. Аўрамчыка.



30 лістапада споўнілася 60 год выдатнаму беларускаму пісьменніку Міхаілу Ціханавічу Лынькову. Таленавіты навеліст, аўтар вядомага савецкаму чытачу рамана «Векапомныя дні», Міхась Лынькоў шмат зрабіў для развіцця беларускай савецкай літаратуры. Побач з літаратурнай дзейнасцю, Міхась Лынькоў вядзе вялікую грамадскую і навуковую работу. Ён правадзейны член Акадэміі навук БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі. У складзе беларускай урадавай дэлегацыі ён неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Улетку карэспандэнты нашага часопіса наведалі Міхаіла Ціханавіча Лынькова на яго дачы ля возера Нарач. Пра гэтую сустрэчу і расказваецца ніжэй.

# ХАЙ СЭРЦА Б'ЕЦЦА ПА-МАЛАДОМУ

Пад яркім сонцам лянівыя хвалі Нарачы ўтульна ляжаць на прыбярэжным пяску. Бяскрайняя зялёна-блакітная шыр, здаецца, прыгрэлася на сонейку, задрамала. Ціха...

Машына крута зварочвае ўлева, шыбуе па чыстай, пустыннай у гэты час вуліцы наднарачанскай вёскі Купа. Скрозь густую лістоту дрэў дзе-нідзе прасвечвае яркі блакіт. Яшчэ адзін паварот. Вачам зноў адкрылася бязмежная роўнядзь возера, а на ёй — адзінокая лодка з нерухомай постаццю чалавека. Голыя хлапчукі ловяць ля берага малявак, пырскаюцца вадой. Над іх стрыжанымі галовамі дыяментамі гарыць вясёлка.

З глыбіні лесу кволы ветрык прыносіць пах ягад, кветак і свежай, растопленай сонцам смалы. У лесе пад шатамі дрэў прытуліліся легкавыя аўтамашыны, брызентавыя палаткі, немудрагелістыя полагі з прасцін і пасцілак — часовыя хаціны тых, хто рызыкнуў адпачываць проста так, без усялякіх курортных картак і санаторных пуцёвак. І людзі, відаць, не шкадуюць аб гэтым.

А вось і дом, у якім жыве Міхаіл Ціханавіч Лынькоў. Невялікі садок, добра дагледжаны руплівымі гаспадарскімі рукамі, ладныя сцяблы кукурузы на градках, мноства макаў і іншых кветак, утульная чысціня дарожак. Здаецца, вось-вось на якой-небудзь з іх паявіцца і сам гаспадар. Але гаспадара няма. Нам кажуць, што ён адразу ж пасля снядання «выйшаў на лодцы ў возера».



Летні дзень бясконцы. І хоць па-ранейшаму ярка свеціць сонца, але ў паветры ўжо адчуваецца вячэрняя прахалода. Аднекуль наляціць вецер, зашуміць у вершалінах дрэў, і зноў настане цішыня. Выцягваюцца, гусцеюць цені. Летні дзень дагарае недзе за лесам.

На возеры з-за касы́ вынікае чорная кропка. Яна павялічваецца і нарэшце вырастае да памераў невялікай лодкі. Раўнамерна тахкае матор; відаць белы бурунчык пены за кармой, а на карме — буры ад загару чалавек у сінім берэце. Гэта — Міхаіл Ціханавіч Лынькоў.

...Крыху сутулячыся, Міхаіл Ціханавіч ідзе па беразе да таго месца, дзе ляжыць старая калода. Ля калоды — халодны попел вогнішча, а побач — куча нарыхтаванага валежніку. Кволы аганёк запалкі весела ліжа сухія яловыя лапкі. І вось ужо на месцы патухшага вогнішча зноў патрэсквае агонь, у празрыстую чысціню неба ўзнімаецца тонкі струменьчык дыму.

Міхаіл Ціханавіч сядзіць на чорнай старой калодзе, падкідвае ў агонь паленца за паленцам, распытвае ў нас пра навіны, пра Мінск. За яго пытаннямі мы адчуваем прыхаваную да часу цікаўнасць: а чаго прыехалі гэтыя хлопцы? Па новае апавяданне? Ці, можа, прывезлі на рэцэнзію чый-небудзь твор?

Мы расказваем пра мэту свайго нечаканага візіту.

— Юбілей... Сумная гэта рэч, — кажа Міхаіл Ціханавіч. — Невясёлая...

Ён задумваецца.

Паволі апускаецца на зямлю летняя ноч. Патрэсквае агеньчык, спапяляючы сухое голле. Побач нясмела шоргаюць нарачанскія хвалі. Пра што думае пісьменнік? Можа вось так пры вогнішчы, пад ціхую гамонку хваль выкрышталізоўваліся і вобразы цудоўнага апавядання «Агні Танганьікі»? А можа, пісьменнік успомніў цяпер усё сваё жыццё, ад самых малых год. Сын рамонтнага рабочага на чыгунцы, ён дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі вырас да буйнага пісьменніка і вучонага, актыўнага грамадскага дзеяча.

Не хацелася парушаць гэтага глыбокага роздуму. Гарэў касцёр, луналі песні над Купай, нясмела шумела возера Нарач. На жвавы аганёк прыйшлі паэты Максім Танк і Аркадзь Куляшоў, празаік Мікола Садковіч, якія таксама адпачываюць тут, на нарачанскім беразе. Даводзілося адкладваць гаворку да заўтрага.

... З мансарды дома праз шкляныя дзверы адкрываецца цудоўны краявід: зялёна-блакітны заліў, атулены лесам, і вузкая стрэлка касы, што бязлітасна ўпілася ў цела Нарачы. Пасля ўчарашняй вандроўкі па возеру Міхаіл Ціханавіч зноў выглядае бадзёра і неяк занадта па-маладому на свае амаль шэсцьдзесят год.

— Ну што ж, задавайце пытанні. Вы ж, мусіць,



**Міхаіл Ціханавіч ля кастра.** Лета 1959 года.

іх назапасілі не адзін дзесятак, — жартуе Міхаіл Ціханавіч.

Шчыра кажучы, мы і сапраўды падрыхтавалі такія-сякія пытанні. Але пасля ўчарашняй размовы многія з іх цяпер здаюцца непатрэбнымі.

— Як вам прыпамінаецца пачатак вашай літаратурнай дзейнасці?

Пытанне гэтае не зусім новае, але нам хочацца пачуць адказ самога пісьменніка.

Крыху падумаўшы, Міхаіл Ціханавіч пачынае расказваць:

— Хто ў маладосці не захапляецца вершамі. Бадай кожны пісьменнік пачынаў свой творчы шлях з паэзіі. Не мінуў гэтага і я. Праз сорак гадоў цяжка сказаць, чаго варты былі тыя вершы, але ж з песні слова не выкінеш. Пісаў вершы і я. Пасля напісаў п'есу. Помню, што камусьці пасылаў яе. Мусіць, адказу не атрымаў, і п'еса недзе загінула. Потым напісаў другую. Выслаў яе ў Мінск. Атрымаў адказ. У пісьме знайшлося месца і пахвале і крытыцы. Больш крытыцы. Гэтую п'есу я парваў.

Ішоў 1923 год. У краіне разгортваўся селькораўскі рух. Я пачаў селькорыць. Пісаў карэспандэнцыі, заметкі, фельетоны, нарысы. Супрацоўніцтва ў газетах дапамагло мне потым у творчай дзейнасці. У 1926 годзе ў часопісе «Уздым» было надрукавана маё першае апавяданне. Тэмай для яго паслужыў голад у Паволжжы. Апавяданне гэтае натуралістычнае, і яго я ніколі не ўключаў у зборнік. Ва «Уздыме» было надрукавана і другое маё апавяданне «Гой». Уласна кажучы, сталая літаратурная праца і пачалася з гэтага апавядання.

Нам адразу прыпомніліся першыя навелы Міхася Лынькова «Гой», «Чыгунныя песні», «Над Бугам». Гэтыя навелы даўно сталі хрэстаматыйнымі. Яны былі і будуць узорам для маладых і пачынаючых навелістаў.

Мы просім Міхаіла Ціханавіча падзяліцца думкамі наконт беларускай навелы.

— Наша літаратура, — гаворыць Міхаіл Ціханавіч, — не бедная навелай. Лепшым навелістам не толькі беларускага, але і саюзнага маштабу, безумоўна, з'яўляецца Янка Брыль. Своеасаблівыя апавядальнікі Іван Навуменка, Іван Пташнікаў, Яўген Васілёнак. Апошняму трэба было б пашыраць тэматычны дыяпазон сваіх твораў.

Я маю прывычку запісваць кожнае апавяданне, якое спадабалася мне. У апошні час я звярнуў увагу і пачаў уважліва сачыць за новым імем у нашай маладой літаратуры — Васілём Быкавым. Гэта цікавы апавядальнік. Яго шлях у літаратуры некальні напамінае мне пачатак літаратурнай творчасці ў даваенны час Івана Шамякіна. Многія не ведаюць, што Іван Шамякін да Айчыннай вайны пісаў апавяданні. У іх было многа непатрэбнага «псіхакапацельства». Але ўжо тады ўгадваўся несумненны талент будучага пісьменніка. У апавяданнях Васіля Быкава празмеру многа апісання нязначных учынкаў людзей, разгляду гэтых учынкаў з розных пунктаў гледжання. Але адчуваеш, што пісьменнік перажыў тое, пра што піша. А калі адчуваеш у творы жыццёвы матэрыял, тады аўтару даруеш і тыя недаробкі, што сустракаеш у творы.

Большасць нашых маладых пісьменнікаў працуе ў рэдакцыях. І гэта добра, бо такая праца дысцыплінуе, прывучае да лаканічнага выказвання думак. Аднак ёсць тут і небяспека. Праца ў рэдакцыі вельмі часта прымушае сядзець на месцы. Уявіце, што будзе з маладым пісьменнікам, які, не маючы вялікага запасу жыццёвых назіранняў, засеў у чатырох сценах кабінета. Вельмі хутка ён пачне цытаваць самога сябе. У яго проста не будзе чаго сказаць людзям. Таму маладым пісьменнікам, якія працуюць у рэдакцыях, я раіў бы як можна часцей бываць у камандзіроўках, папаўняць запас жыццёвых назіранняў, глыбока вывучаць жыццё, людзей. Вось тады праца ў рэдакцыі акажа добры ўплыў на творчасць пісьменніка. А прыклады ёсць. Тарас Хадкевіч доўга супрацоўнічаў у газетах. Ён шмат ездзіў, многа было ў яго цікавых сустрэч з цікавымі людзьмі. Усё гэта дапамагае яму цяпер у яго пісьменніцкай рабоце.

Міхаіл Ціханавіч на хвіліну задумваецца. Потым пачынае расказваць





**З веранды дома Міхаіла Ціханавіча добра відно нарачанскае прыволле.** Лета 1959 года.

пра сваю селькораўскую дзейнасць, пра работу ў рэдакцыях. У яго голасе чуюцца цёплыя ноткі і нейкі малады задор.

— Нельга цяпер сядзець, — кажа ён. — Навокал столькі цікавых спраў. Ды і каб напісаць штонебудзь вартае ўвагі, трэба весці вялікую падрыхтоўчую работу. Прынамсі, так працую я. Помню, што дзеля таго, каб напісаць аповесць «Талісман», я два месяцы быў у авіябрыгадзе. Каб напісаць апавяданне «Баян», я паехаў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Думаю, што доўгі падрыхтоўчы перыяд, калі ідзе накапленне матэрыялу для твора, нікому яшчэ не пашкодзіў. А вось малы ўжо нашкодзіў многім.

Нельга не згадзіцца з гэтымі словамі пісьменніка. Што грахі таіць, вельмі часта маладыя аўтары, як кажуць, з ходу бяруцца за вырашэнне тэмы, якую ведаюць вельмі дрэнна. Таму і творы іх шэрыя, невыразныя. Маладыя празаікі вельмі часта замест таго, каб паказваць чалавечыя характары, высакародныя парывы і думкі людзей, нудна апісваюць бытавыя дробязі, першае сваё каханне.

А як глядзіць на гэта Міхаіл Ціханавіч? Якія, на яго думку, ёсць недахопы ў творчасці маладых празаікаў?

— Галоўны недахоп — гэта непатрэбнае, надакучлівае бытапісальніцтва, — адказвае пісьменнік на наша пытанне. — Маладыя празаікі неяк закрылі доступ у свае творы вялікім чалавечым страсцям. У многіх творах не адчуваеш пафасу нашага жыцця, біцця пульсу новабудоўляў. Кніжныя, літаратурныя тэмы ўзялі ў палон многіх маладых пісьменнікаў. Чамусьці кожнаму хочацца пісаць пра каханне. Але моладзь забывае, што нашы класікі пісалі пра гэтую адвечную тэму, маючы за плячыма шматгадовы жыццёвы і творчы вопыт. А што новага скажа семнаццацігадовы юнак, які яшчэ добра і сам не ведае, што такое каханне. Каго і чаму ён хоча навучыць? Можа яму варта запісаць пра гэта ў свой дзённік, а некалі потым падумаць над тым, што запісаў у маладосці.

Неяк непрыкметна гутарка зайшла аб рамане «Векапомныя дні». Міхаіл Ціханавіч успамінае пра тое, як яшчэ ў 1942 годзе ён пачаў збіраць матэрыялы аб партызанскім руху на Беларусі. У Маскву, дзе ён тады працаваў, часам наведваліся госці з беларускіх лясоў і балот — праслаўленыя народныя мсціўцы, камандзіры партызанскіх атрадаў, радавыя байцы. Міхась Лынькоў падоўгу размаўляў з імі. Неўзабаве паявілася мноства запісаў, жывых замалёвак, апісанняў баёў, бытавых сцэн, кароткіх рэплік, слоў.

Але да напісання рамана быў яшчэ вельмі далёкі шлях. Міхаіл Ціханавіч вывучаў архіўныя дакументы, сістэматызаваў матэрыял, доўга шукаў найбольш дасканалага вырашэння. Шмат бяссонных начэй правёў пісьменнік. Пісаў, знішчаў напісанае і зноў пісаў. І той, хто думае, што жыццё пісьменніка — нейкі парадны марш скрозь строй людзей, якія апладыруюць, глыбока памыляецца. Жыццё пісьменніка — гэта штодзённая нястомная дзейнасць, дзе перамагаюць талент, сіла волі і працавітасць.

— І ўсё ж раманам я незадаволены, — раптам гаворыць пісьменнік. — Над ім яшчэ трэба працаваць. Тады ён выйдзе больш кампазіцыйна з'яднаным, стройным.

...Нам уявілася, як пісьменнік кожны дзень у думках яшчэ і яшчэ раз перагортвае сотні старонак чатырох тамоў свайго твора, адшукваючы ў ім нейкія недаробкі, якія, мусіць, і не заўсёды заўважае чытач. Але такая ўжо натура мастака: у яго творы ўсё павінна быць дасканалае.

Хіба Аляксандр Фадзееў праз усё сваё жыццё не ўносіў праўкі ў «Разгром»? А Міхаіл Шолахаў пасля таго, як яго «Ціхі Дон» атрымаў сусветнае прызнанне, перапрацаваў жа свой раман.

Але ж у чытача ёсць законнае жаданне: ён хоча чытаць усё новыя і новыя творы сваіх любімых пісьменнікаў. Пра планы на будучае мы і пытаемся ў Міхаіла Ціханавіча.

— Сёлета думаю працаваць над новай тэмай. Мне давялося не раз быць за мяжой. Ад гэтых паездак засталіся дзённікі, замалёўкі. Думаю напісаць кнігу апавяданняў. Якая тэма? Жыццё народаў калоній. Хочацца напісаць што-небудзь і для дзяцей. Напэўна, на матэрыяле Айчыннай вайны.

— А якія больш далёкія планы?

— Думаю пра гады грамадзянскай вайны ў БССР, пра нараджэнне нашай рэспублікі. Напэўна, гэта будзе раман.

Нарэшце нашы пытанні вычарпаны. Мы жадаем Міхаілу Ціханавічу добрага здароўя і добрага творчага натхнення. Хай сэрца б'ецца па-маладому, і хай хутчэй здзяйсняюцца добрыя задумы пісьменніка!

*Дарогамі сямігодкі*

Сцяпан КУХАРАЎ

# ДУМКІ НАДЗЁННЫЯ

**З блакнота журналіста**

З прыходам восені вальней адчуў сябе Уладзімір Калачык, але свайго ранейшага парадку не парушыў. На досвітку падхопіцца, спаласне вадою пасвяжэлы за ноч твар, хутка апранецца, кіне з парога гаспадыні звычайнае «паснедаю потым» — і пабег у праўленне.

Ля канторы ў гэты час Генка-шафёр увішна тупае вакол прапахлага полем і травамі газіка і, яшчэ здалёк убачыўшы старшыню, звычна, па-салдацку вітае яго з добрай раніцай ды адразу ж пытае:

— Едзем, Уладзімір Міхайлавіч?

— Зараз.

Уладзімір Калачык старанна абшкрабае гразь з кірзавых ботаў і подбегам крочыць у кантору, але не направа, у свой кабінет, а налева, у агульны пакой, дзе ўжо ўрупіліся ў свае паперы бухгалтар і дзяўчаты-ўчотчыцы. Садзіцца побач з бухгалтарам, падпісвае розныя паперкі, праглядае пошту.

— Каму што трэба, давайце, таварышы, — звяртаецца ён да людзей, што сядзяць на лаўцы ўздоўж сцяны, на зэдліках ля грубкі, — бо я зараз жа еду!..

Ён уважліва выслухоўвае кожнага, хто звяртаецца да яго, звычайна тут жа прымае рашэнне, калі пытанне такое, што не трэба згоды членаў праўлення, і развітваецца.

... Весела спявае матор. Паслухмяная спрытным маладым рукам чубатага Генкі, машына лёгкай птушкай імчыць, раскручваючы бясконцую шэрую стужку асфальту. З посвістам праносяцца стрэчныя грузавікі; з абодвух бакоў бягуць навыперадкі залацістыя прыдарожныя бярозкі, бягуць бясконцай чарадой, нібы заскавіцкія дзяўчаты на вечарынкі. Генка трымае ў руках баранку руля і ўсё крадком пазірае на старшыню, які моўчкі, засяроджана, звёўшы цёмныя бровы, аж складка абазначылася на пераноссі, глядзіць перад сабой. Генка хоча загаварыць з Уладзімірам Міхайлавічам, але не адважваецца. Ведае, што калі старшыня маўчыць ды часта папраўляе кепку, часта пацепвае плячом, — значыць, ён заняты, думае.

... З малых год Уладзіміру за-

палі ў сэрца родныя дарогі. Яшчэ хлапчуком любіў ён з бацькам ездзіць на кірмаш у Лебедзева, Маладзечна і ў тыя ж Заскавічы. У звычайнай сялянскай калымажцы адчуваў ён сябе шчасліўцам, забыўшыся на ўсё на свеце. Любіў Уладзімір і конна праехацца ды так, каб аж пыл курэў з-пад ног, каб аж іскры сыпаліся з-пад конскіх каваных капытоў!.. Але ўсё гэта толькі ў марах, бо конь у Калачыкаў быў такі, што на ім шыбка не разгонішся. Хіба пратрымаеш добрага каня на двух гектарах пясчаніку пры сям'і ў пяць душ?

Потым прыйшоў час, што можна было б праехацца на добрым кані — скончылася вайна, пачало ўсталёўвацца калгаснае жыццё, але Валодзева дзяцінства абарвалася неяк раптоўна і нечакана: спачатку памерла маці, пакінуўшы на бацькавы рукі траіх дзяцей, а праз гады тры памёр і бацька. Валодзя застаўся за гаспадара. Яму тады ішоў пятнаццаты год. Калачыкі-сіроты аднымі з першых паклалі тады на стол заяву ў калгас. Меншыя хадзілі ў школу, а Валодзя з усіх сіл стараўся, каб быў парадак у хаце ды каб і на працы не адстаць ад другіх.

Старшыня прыгадвае, як яму, яшчэ юнаку, даручылі пост брыгадзіра і як яму тады цяжка было, напэўна, цяжэй, чым цяперашнім брыгадзірам у заскавіцкім калгасе. Тады ж на кожным тыдні даводзілася збіраць плугі, фурманкі, не паспееш звезці ўсё ў адно месца, як глядзіш, усё паразбіралі: выязджаючы, кожны стараўся свайго каня сабе захапіць, баючыся, што сусед яго не дагледзіць, не дасць корму, не напоіць.

Ужо больш за два гады Уладзімір Калачык старшынюе ў Заскавічах. Калі акінуць у думках позіркам гэты час, змераць той крок наперад, які зрабілі калгаснікі ў сваім жыцці, то не крыўдна будзе і за сябе, і за тутэйшых людзей, з якімі зрадніўся ён яшчэ ў дні сваёй працы сакратаром райкома камсамола.

У Заскавічах, як і ў іншых калгасах пад Маладзечнам, адбыліся прыкметныя, радасныя змены. Калгас атрымлівае прыбыткі не толькі ад ільну, як раней, але і ад збожжа, бульбы, гародніны: рэзка павялічылася пагалоўе жывёлы на калгасных фермах, павысілася яе прадуктыўнасць.

На гэтай аснове калгас змог шырэй разгарнуць капітальнае будаўніцтва, павялічыў непадзельны фонд і вагу працадня.

Гэтае лета было ўдарным. Калгаснікі, натхнёныя велічнай праграмай сямігодкі, усхваляваныя перамогамі савецкіх людзей на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва, працавалі не шкадуючы сіл, не адчуваючы стомы. Ужо цяпер бачна, што ўзятыя абавязацельствы ў спаборніцтве за датэрміновае выкананне сямігадовага плана будуць выкананы. Першы рубеж — атрымаць у 1959 годзе на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў 42 цэнтнеры мяса і 150 цэнтнераў малака — узяты!

Уладзімір Калачык, думаючы пра сёлетняе лета, задае сабе пытанне:

— А ці на ўсіх участках заўсёды было патрэбнае напружанне?

На памяць прыходзяць шматлікія паездкі ў сельгасснаб, на базы матэрыяльнага забеспячэння, бясконцыя турботы пра будматэрыялы, запасныя часткі. А колькі патрачана дарагога летняга часу на візіты ў РТС!..

Генка, прытармазіўшы газік перад развілкай дарог у горадзе, спытаў, куды ў першую чаргу ехаць.

— Вядома куды, — незадаволена кінуў Уладзімір, цярэбячы шчаку, — на базу сельгасснаба.

Потым нечакана, нібы пра нешта ўспомніўшы, перадумаў:

— Чакай, Генка. Спачатку заедзем у райвыканком, да Івана Васільевіча, бо без яго званка там нічога не вырвеш...

Праз колькі хвілін у кабінеце



старшыні райвыканкома І. В. Ліхача ішла гарачая гаворка.

— Вазьміце цяперашнія ўзаемаадносіны паміж калгасамі і РТС, — расказваў старшыня калгаса. — Яны грунтуюцца на адносінах заказчыка і падрадчыка. Калгас прывозіць, скажам, трактар. У РТС так-сяк адрамантуюць яго і справе канец!..

— Дык што табе яшчэ трэба, — хітравата прыжмурыў вока Іван Васільевіч. — Тэхніку вам рамантуюць запаснымі часткамі, гаручым забяспечваюць...

— Вось і бяда ўся ў тым, што цяперашняя наша РТС, на маю думку, не зацікаўлена ў добрым рамонце, — перахапіў ініцыятыву ў свае рукі Калачык. — Запасных частак, якія нам патрэбны, таксама не даюць. Калі спатрэбіцца якая-небудзь неабходная рэч — выпраўляйся па яе ў Мінск ці нават у Харкаў. Там у «прыватнікаў» усё знойдзеш, а на базе ці ў РТС завалы таго, што нікому можа ніколі і не спатрэбіцца. Потым жа запчасткі мы атрымліваем непасрэдна з базы сельгасснаба, але чамусьці афармляем дакументы праз РТС. Лішняя, непатрэбная цяганіна...

— А што ты прапануеш? — сур'ёзна запытаў Іван Васільевіч, хоць па вачах было бачна, што ў яго наконт гэтага ёсць свая думка, сваё меркаванне. Шмат перадумана было за апошні час, пакуль рыхтаваліся да пленума ЦК КПСС.

— Трэба, каб РТС адказвала за рамонт тэхнікі, як за сваё, — гарачыўся заскавіцкі старшыня і пачаў хуткімі крокамі мераць прасторны кабінет. — Гэта адно. Другое — стварэнне ў калгасе рамонтнай майстэрні, дзе можна было б прыводзіць у поўную гатоўнасць усе машыны — і трактары, і камбайны, і аўтамашыны, без старонняй дапамогі. І трэцяе — калгасам патрэбна такая аўтарытэтная арганізацыя, якая забяспечвала б нас і будаўнічымі матэрыяламі, і мінеральнымі ўгнаеннямі, і запаснымі часткамі. І каб яна была кроўна зацікаўлена ў гэтым, несла б за гэта поўную адказнасць перад партыяй, перад народам.

— Гэта ты правільна, браток, наконт майстэрняў гаворыш, — устаў з-за стала Іван Васільевіч. — Ужо многія калгасы пачалі будаваць памяшканні. Вунь «Герой працы», «Кастрычнік», «Камсамолец» мураюць прасторныя будынкі з цэглы, з блокаў. І табе, Уладзімір, час пра гэта падумаць. Але мяне іншае турбуе, — Іван Васільевіч на хвіліну змоўк, нібы збіраючыся з думкамі. — Майстэрні ў нас будуць хутка, а дзе ўзяць столькі абсталявання, станкоў, нарэшце, кваліфікаваных спецыялістаў, каб пусціць на поўны ход калгасныя майстэрні?..

— І пра гэта я думаў, Іван Васільевіч! — усклікнуў Калачык, і яго жвавыя сінія вочы заблішчэлі гарэзна, па-хлапечаму, выдаючы незвычайную ўзрушанасць. — Нашы заводы могуць на першым часе нас выручыць. Цяпер жа поўным ходам ідзе пераабсталяванне. Старыя станкі, інструмент адпраўляецца на пераплаўку, замяняецца новай тэхнікай. А нам тыя станкі яшчэ паслужылі б!.. А наконт людзей няма чаго сумнявацца. У нашым калгасе ёсць такія ўмельцы, якія зробяць усё, што трэба, каб толькі інструменту хапала ды матэрыялу. Ну і горад можа інжынераў паслаць, нашых жа землякоў.

... У кабінет ужо колькі разоў прасоўвалася галава нейкага нецярплівага наведвальніка, разы са два адчыняла дзверы і светлавалосая сакратарка, але Іван Васільевіч махаў рукой: пачакайце!

У Івана Васільевіча, відаць, быў добры настрой, і ён уважліва слухаў Калачыка, спрачаўся з ім, удакладняў яго разважанні, рабіў сабе нейкія адзнакі і раз-по-раз задаваў яму пытанні.

Пагаварылі яшчэ пра тое, што трэба на месцы ў больш шырокіх маштабах арганізаваць вытворчасць цэглы, дошак, шчапы, закранулі надзённую праблему асушэння балот, паляпшэння лугоў і пашаў. Нарэшце Калачык нагадаў сваю неадкладную просьбу.

— Пілараму наважыў я набыць,— неяк сумеўшыся, загаварыў ён. — Якраз электрыфікацыю заканчваем, і яна за колькі месяцаў апраўдае сябе і нават прыбытак дасць. Дык, калі ласка, памажыце, каб нашаму калгасу пілараму занарадзілі.

— Падтрымаю, а як жа, падтрымаю, — урачыста сказаў Іван Васільевіч і пацягнуўся да тэлефоннага апарата. — Алё, сельгасснаб?.. Пілараму, калі ласка, «Светламу шляху»... І трансфарматары. Так. Так. Афармляйце!..

— Вось бачыце, а я ўжо каторы раз езджу на базу і ўсё дарэмна, — Калачык шчыра, з усяе моцы паціснуў руку старшыні райвыканкома.

У Калачыка на душы вірылася дваістае пачуццё; з аднаго боку, ён быў удзячны Івану Васільевічу за падтрымку, з другога — недзе ў закутках душы ўсё больш акрэслівалася прыкрасць ад таго, што яшчэ часта даводзіцца сутыкацца з фармалізмам у самых нечаканых праявах. Вось жа не выдалі яму нарад у сельгасснабе на пілараму, пакуль не пазваніў старшыня райвыканкома. А маглі, калі б самі цікавіліся тым, што які калгас дзе будуе, чым жыве.

З такім пачуццём вяртаўся Калачык дадому. Захінуўшыся ў свой цёмны дажджавік, ён маўчаў, хмурыўся. Генка, недаўменна пазіраючы на старшыню, мацней націскаў на старцёр. Машына імчалася на поўным газе. Стрэлка спідометра паўзла ўгору, але Генка не знімаў нагі са старцёра: ён ведаў, што старшыня любіць шпаркую язду.

Дарога пралегла якраз пасярэдзіне між узгоркавых, парослых чэзлым хвойнікам і лазняком палеткаў калгаса «Светлы шлях». Направа зірнеш — лысыя ўзгоркі, пясчанікі, дзе-ні-дзе віднеюцца лужкі з барадаўкамі куп'я. Гэта поле другой брыгады. Яе дзве вёскі зліліся ў адну і называюцца Турэц-Баяры. Тут — самыя горшыя землі: хмызнякі, куп'ё, пясчанікі. Аднак сёлета ў другой брыгадзе — самы лепшы ўраджай: жыта намалацілі па 18 цэнтнераў, пшаніцы — 16 цэнтнераў з гектара, цудоўная кукуруза вырасла ў звяне камсамолкі Ніны Шыман — па 1100 цэнтнераў на гектары. На гэтых недалужных, сыпучых пясчаніках у Турцы-Баярах накапалі па 200 цэнтнераў бульбы, лён добры вырасцілі. А ці даўно тутэйшыя людзі скардзіліся, што ў іх ні бульба, ні лён не родзяць?

У другой брыгадзе дружна ўзяліся за паляпшэнне «сельгасугоддзяў». Гэтак тут называюць свае выпасы — здзічэлыя, парослыя хмызам і чэзлым саснячком пагоркі, балотцы з іржавай асакой і кустамі. Такіх «сельгасугоддзяў» толькі ў Турцы-Баярах больш за 200 гектараў. Ужо сёлета каля паловы гэтай плошчы апрацавана і залужана райграсам і цімафееўкай.

Старшыня глянуў налева. Удалечыні, на асмужанай узгоркавай паляне, відаць стрэхі хат — гэта вёскі Конавічы і Хатуцічы, трэцяя брыгада. Крыху збоч, за чыгункай, — Гуткавічы, чацвёртая брыгада. Здаецца, у іх і землі лепшыя, большыя плошчы, меней хмызнякоў, а ўраджайнасць збожжа — дзесяць-дванаццаць цэнтнераў. Гэта ў апошнія два гады, а раней і таго не мелі: што сеялі, тое і зжыналі...

«Дзе ж прычына? — разважае сам з сабою Калачык. — Чаму на лепшых землях ураджай ніжэйшы? Дзе ключ да павышэння ўрадлівасці нашых наогул бедных, запусцелых зямель?»

І адказ прыходзіць, калі старшыня пачынае аналізаваць поспехі турэц-баярскай брыгады, якую ўзначальвае малады, ініцыятыўны камуніст Іван Казёл. Брыгадзір абапіраецца на моладзь, на камсамольцаў, якія ўсклалі на свае плечы ўвесь цяжар працы ў брыгадзе. На працягу ўсёй мінулай зімы камсамольцы вывозілі на палі ўгнаенні, нарыхтавалі столькі торфа-гноевага кампосту, што яго хапіла і пад яравыя, і пад азімыя, і пад бульбу. Старанна папрацавала маладзёжная брыгада, якую ўзначаліў камсамолец Ілья Рак, на ачыстцы палеткаў ад хмызнякоў.

Торф і мінеральныя ўгнаенні — вось тая крыніца, якая ажывіць нашы палі!

— Той хлопец з Турца паехаў на вучобу? — пасля доўгага маўчання спытаў старшыня ў Генкі, які таксама засяроджана ўзіраўся ў ветравое шкло і маўчаў.

— Які хлопец? — перапытаў Генка і зараз жа дадаў: — Можа той, што летась на хмызнякі моладзь узняў... Ілья Рак?

— Ага, Ілья, — задаволена прагаварыў старшыня і дадаў: — Харошы хлопец, малайчына. Вось нам бы зноў такіх падабраць ды цяпер, калі спрыяе надвор'е, рушыць у наступ на хмызнякі!

— Ілья паступіў у лесатэхнічны інстытут, — з гонарам за свайго равесніка загаварыў малады камуніст Генка. — Няхай вучыцца хлопец, некалі вернецца ў нашы лясныя мясціны інжынерам. А мы і сёлетняй зімы не ўпусцім. Я ўжо раіўся з камсоргам — у Заскавічах і ў Гуткавічах ёсць камсамольцы, якія згодзяцца пайсці на расчыстку хмызнякоў.

— Я думаю, што трэба пагаварыць з камсамольцамі, — раіўся старшыня калгаса з Генкам, як з роўным сабе чалавекам, — трэба сабрацца ды пагаварыць пра нашы цяперашнія «сельгасугоддзі». Іх жа ў нас не мала — 800 гектараў!

І ў Генкі заблішчэлі вочы. Ён бачыў у думках і сябе сярод тых заўзятых вясковых хлопцаў і дзяўчат, якія не спалохаюцца завірухі і з сякерамі выйдуць на змаганне з хмызнякамі.

... Нечакана разарвалася бліскучая стужка шасэ, зацярушаная апалым лісцем, мільганула знаёмая паласатая шыльдачка «Заскавічы», і старшынёўскі газік спыніўся ля чырвонаверхага доміка калгаснай канторы.

Уладзіміра Калачыка, як і раніцой, чакалі людзі. Мужчыны і хлопцы ў ватоўках і ў шапках-вушанках сядзелі і на ганку, і ў калідоры, жанчыны ж занялі бухгалтарскі пакой. Чувадь была гамонка, жарты. У канторы была і парторг Алена Іванаўна Бельская.

— Што здарылася?— прахо дзячы ў пакой і вітаючыся, спытаў Калачык.

— Кладаўшчык не ўпраўляецца выдаваць збожжа, — растлумачыла Алена Іванаўна. — Дык вось людзі крыўдуюць, няма, кажуць, распарадку. У чарзе даводзіцца стаяць...

— Згодзен, парадку няма, — кіўнуў старшыня, скупа ўсміхнуўшыся. — Але ж хіба самі брыгадзіры не могуць дамовіцца, каб не тоўпіцца ўсім адразу?

І ўсім кінулася, што іх старшыня яшчэ зусім малады, са звычайнай хлапечай іскрынкай у чыстых сініх вачах, нават ніводнай маршчынкі на простым чарнявым твары.

Ужо даючы ўказанні брыгадзіру-трактарысту Аляксею Бохану наконт паездкі ў горад па пілараму, ён запытаў у Бельскай, як ідуць справы па вывазцы вапны са станцыі Пруды.

— Усе пяць машын возяць, — адразу сказала Бельская. Адчувалася, што яна добра ведае ўсё, што робіцца ў гаспадарцы. — Прыйшоў аўтапагрузчык, дык трэба было даць яму работу, — памаўчаўшы, дадала Алена Іванаўна. — І яшчэ адна навіна, Уладзімір Міхайлавіч...

— Якая? — узварухнуўся Калачык.

— Механізатары з Вілейкі, з ММС прыехалі. Два трактары, канавакапальнік і бульдозер прыгналі...

— Дзе ж яны?

— Адправілі ў Гуткавічы, на балота.

— Вось добра. Правільна! — узрадаваўся Калачык і весела крыкнуў: — Генка, едзем!

Віхляючы вузкай заскавіцкай вуліцай, раскідваючы апалае лісце, імчыць знаёмы старшынёўскі газік. Вуліца доўгая, вузкая.

Калі стрэнецца чалавек, на ёй не лёгка размінуцца. Але Генка — майстар, ён так вядзе машыну, што і кураняці ніколі не зачэпіць.

Параўняўшыся з прыземістай хацінай, над якою высока ўзняла жоўтакосую галаву прыгажуня-бярозка, Генка сцішае ход.

— Можа заедзеце дадому. Паабедаеце? — асцярожна пытае ў старшыні Генка, але ў яго голасе адчуваецца настойлівасць. Ён пра сябе так не турбуецца, як пра гэтага чалавека, які яму падабаецца сваёю шчырасцю і прастатой.

— А ты што, хочаш есці?

— Не. Я магу пачакаць.

— Тады цісні!

Машына выбіраецца на вузкую, але добра наезджаную за летні час палявую дарогу. Лёгка гойдаецца на каляінах. За машынай віхрыць, курыцца гаркавы пыл.

Уладзімір Калачык расхінуў свой плашч-дажджавік, зняў кепку. Густая, чорная, нібы воранава крыло, пасма валасоў спадае на шырокі чысты лоб. На твары — водбліскі думкі. У дарозе добра думаецца.

Ужо шмат чаго з тых намераў і задум, якія яму не даюць спакою, збываецца і здзяйсняецца.

Вось і за балоты ўзяліся. Кукуруза назаўсёды прыпісалася на заскавіцкіх пясчаніках. Абозы з сухім, лёгкім торфам пайшлі на кароўнікі. Угнаенняў на будучы год будзе двайная норма.

«Людзі нашы працавітыя, залатыя людзі, — разважае малады старшыня - трыццацітысячнік. — Зробяць усё, не спыняцца ні перад якімі перашкодамі — толькі жыві з імі шчыра, з адкрытым сэрцам, іх справамі, іх хваляваннем. І думкі-планы твае спраўдзяцца».

... Уладзімір Калачык упэўнены, што са сваімі людзьмі, з камуністамі і камсамольцамі, якія яго падтрымліваюць у смелых задумах і планах, калгас выйдзе пераможцам і адолее тыя рубяжы, што вызначыў сабе на сямігоддзе.

**Калгас «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна.**

*„Маладосць" вядзе рэпартаж...*

# СА СТАЛІЦЫ РЭСПУБЛІКІ

Тэкст і фота А. Дзітлава.

## САВЕТ МАЛАДЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

— Ці правільна я зрабіў? — звычайна пытае кожны з нас самога сябе і сваіх сяброў, калі хоча ўзважыць свой учынак.

На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній, прыкладна, такое ж пытанне:

— Ці правільна мы працуем? Парайце, што трэба зрабіць, каб працаваць лепш? — пытаюць члены Савета маладых спецыялістаў, створанага па ініцыятыве заводскага камітэта камсамола два гады таму назад.

Спачатку Савет паставіў перад сабою вельмі многа задач. Вырашылі ўзяць на сябе клопаты аб маладых тэхніках і інжынерах, аж да ўладкавання іх хатніх спраў. Сталі распрацоўваць планы культпаходаў і спартыўных спаборніцтваў. Падумалі і пра тое, як пазнаёміць паміж сабою маладых спецыялістаў, што працуюць у розных цэхах, аддзелах і службах. Не забылі і аб тым, што трэба няспынна пашыраць свае веды, сачыць за спецыяльнай літаратурай, калектыўна змагацца за агульны тэхнічны прагрэс на заводзе... Здавалася, канца не будзе цікавым задумам.



Члены Савета маладых спецыялістаў Фёдар Лабецкі, Юлі Траняк, Ірына Шатохіна і Зоя Анцюфрыева рыхтуюць чарговую тэхнічную інфармацыю.

Аднак калі Савет маладых спецыялістаў пачаў брацца за работу, дык выявілася, што ў інтэрнаце ўжо даўно створаны і добра працуе бытавы савет. Нашто ж дубліраваць работу сваіх жа таварышаў, камсамольцаў?. Нязменнай засталася галоўная задача — барацьба за тэхнічны прагрэс. Пагадзіўшыся на гэтым, Савет заключыў дагавор аб супрацоўніцтве з заводскім аддзяленнем Усесаюзнага таварыства вынаходцаў і рацыяналізатараў і прыступіў да работы.

Была створана насценная газета «За тэхнічны прагрэс», арганізаваны рэгулярны выпуск «Тэхнічных бюлетэняў». Матэрыял у гэтыя друкаваныя органы дастаўляюся і дастаўляецца вялікай колькасцю добраахвотнікаў-дазорных, якія старанна сочаць за тэхнічнай літаратурай — як айчыннай, так і замежнай.

Савет знаходзіў усё новыя і новыя формы работы. Вось адзін з членаў Савета інжынер Э. Захаранка разгаварыўся з кавалём Сяргеем Нікіцюком. У каваля ўжо даўно наспявала думка аб удасканаленні вырабу некаторых дэталей станкоў. Ён параіў перайсці на штампоўку шасцерняў, замест іх свабоднага кавання.

— За адным затрымка, — паскардзіўся каваль інжынеру. — Не магу я штампы сканструяваць. А ведаю, што выгада ад іх будзе вялікая.

Захаранка ад імя Савета маладых спецыялістаў адразу ж прапанаваў рацыяналізатару дапамогу. Разам са сваім таварышам інжынерам У. Махначом яны распрацавалі чарцяжы новых штам-

паў. Прапанова Нікіцюка была прынята. Шасцерні цяпер вырабляюцца па-новаму, што дае вялікі эканамічны эфект.

Не заставаўся Савет у баку і ад спаборніцтва людзей за званне ўдарнікаў і калектываў камуністычнай працы. Многія маладыя спецыялісты з аддзелаў упраўлення ўвайшлі ў склад рабочых брыгад. Так зрабілі, напрыклад, інжынеры-канструктары камсамольцы Уладзімір Палонскі, Барыс Індзін і другія. Што гэта дало, відаць на простым прыкладзе з жыцця брыгады слесараў-зборшчыкаў, якую ўзначальвае Ігар Блок. Гэтая брыгада прыняла да сябе Барыса Індзіна, які толькі што закончыў канструяванне прыстасавання для расточкі паршнявых колцаў. Брыгада Ігара Блока абмеркавала гэтую канструкцыю і ўнесла свае практычныя папраўкі, якія аказаліся вельмі каштоўнымі.

Здараецца і так, што вока інжынера выяўляе недакладнасці ў тым ці іншым тэхналагічным працэсе. Яны тут жа выпраўляюцца сумесна з рабочымі.

Інжынеры, якія ўвайшлі ў склад брыгад камуністычнай працы, добра ўплываюць на рост тэхнічнай адукацыі рабочых. Так, канструктар У. Палонскі стаў не толькі ўдзельнікам калектыўнай працы брыгады слесараў-лякальшчыкаў, але і ўзяўся дапамагчы брыгадзіру Мікалаю Галавачу, студэнту палітэхнікума, авалодаць таямніцамі вышэйшай матэматыкі, навыкамі праекцыйнага чарчэння.

Мы расказалі тут пра першыя крокі Савета маладых спецыялістаў МЗАЛ і спадзяемся, што нашы чытачы параяць ім, што яшчэ трэба зрабіць, каб працаваць лепш.



**Удзельнікі лодачнага паходу па азёрах Браслаўшчыны: Зінаіда Сушко, Мікалай Крукоўскі, Лілія Тамгіна, Юры Міхайлавіч Кокараў і Раіса Кляуза.**

## ПА ДАЛІНАХ І ПА ЎЗГОРКАХ...

За акном — зімовы марозны вечар. Сіняя імгла. Шквалісты вецер намятае гурбы сыпучага снегу.

А перад вачыма тых, што сабраліся ў пакоі, узнікаюць то зялёныя даліны, то лясістыя ўзгоркі, то ціхія пратокі, зарослыя чаротам.

Над сталом схіліліся ўпяцёх. Над галовамі ў іх не столь, залітая электрычным святлом, а бяскрайні блакіт неба. Яны чуюць шэлест лісця, галасы птушак і аддаленыя глухія раскаты грому. Навальніца прайшла. Можна выйсці з-пад раскідзістай елкі і зноў у дарогу.

— Па лодках! — падае каманду старэйшы з іх.

Усе смяюцца і, застаючыся кожны на сваім месцы, працягваюць падарожжа.

Вось іх лодкі пераплылі возера Цно і ўвайшлі ў маляўнічае рэчышча ракі Друйкі.

Вечарэе.

Вогненны шар сонца і яго двайнік — адлюстраван у вадзе.

Пара быць вялікаму прывалу.

Начлег на востраве пасярод возера Несліш. Націск у гэтым слове трэба рабіць на першым складзе. Але падарожнікі прыйшлі да аднадушнага рашэння — перанесці націск на апошні склад. І вось цяпер, у зімовы марозны вечар, пяцёра з іх, сабраўшыся разам, тлумачаць:

— Гэтае возера — сапраўды казачнае! Ноч на ім поўная неапісальнага хараства. Спаць немагчыма.

Хто ж гэтыя пяцёра? З якім падарожжам звязаны іх успаміны?

Мінулым летам быў пакладзены пачатак вялікім турысцкім паходам па паўночных раёнах Беларусі. Браслаўшчына — край азёр і лясоў, напоены цудадзейным паветрам, нарэшце атрымаў прызнанне як выдатная здраўніца.

У шматлікім атрадзе турыстаў, які першым выкарыстаў паслугі новай базы, былі і гэтыя пяць мінчан: сяброўкі з тонкасуконнага камбіната ткачыха Раіса Кляуза, рахункавод Зінаіда Сушко, інжынер Лілія Тамгіна, малады вучоны з акадэміі навук Мікалай Крукоўскі і вопытны падарожнік, інструктар турызму Юры Міхайлавіч Кокараў. Усе яны ўдзельнічалі ў першым лодачным паходзе па азёрах. Дваццаць восем чалавек з Мінска, Гомеля і Гродна склалі экіпажы сямі лодак. Яны прайшлі вадою восемдзесят чатыры кіламетры і па сушы — больш трыццаці кіламетраў, пабыўшы на маляўнічых берагах Заходняй Дзвіны.



Для Ю. М. Кокарава, які кіраваў паходам, гэта было юбілейным падарожжам: роўна 30 год таму назад, будучы студэнтам, ён упершыню закінуў за плечы рукзак турыста. Ён многа бачыў: леднікі Каўказа, чашчобы Алтая, уральскія запаведнікі, горы Крыма, пейзажы цэнтральнай Расіі. І вось яго шчырая ацэнка яшчэ аднаго, на гэты раз, кутка Беларусі:

— Браслаўскія азёры — проста казачны край! Хараство яго непаўторнае. Я ганаруся тым, што быў удзельнікам адкрыцця новага цудоўнага турысцкага раёна.

Мікалай Крукоўскі браў з сабою ў паход фотаапарат.

І вось цяпер, калі ўсе плёнкі праяўлены і з вялікай колькасці негатываў зроблены фотаздымкі — пяцёра сабраліся разам. Яны ўспамінаюць цудоўныя дні адпачынку, праведзенага ў паходзе па роднаму краю. А думкі іх забягаюць наперад. Не за гарамі і чарговы адпачынак, а значыць, і новыя паходы па зялёных далінах і ўзгорках роднай краіны.

## ЯГО ПРЫЗВАННЕ

Было так: юнак Казік Сабіла, доўга не думаючы, проста са школьнай парты пераскочыў у тэхнікум. Якая спецыяльнасць чакала яго? Ён не клапаціўся пра гэта. Важна, што ён будзе тэхнікам. І ў 1950 годзе дырэктар тэхнікума харчовай прамысловасці уручыў Казіміру Сабілу дыплом тэхніка-тэхнолага, а разам з ім накіраванне загадваць хімічнай лабараторыяй на заводзе. Так ён стаў хімікам.

А вельмі хутка выявілася і іншае: кім яму сапраўды хочацца стаць.

У лабараторыі, якой загадваў малады тэхнік, прымяняліся не толькі хімічныя, але і фізічныя метады аналізаў. На працягу года ён уважліва прыглядаўся да работы, параўноўваў магчымасці абедзвюх навук і толькі тады зразумеў памылковасць зробленага ім кроку. Больш за ўсё яго цікавіла фізіка.

Ён павінен стаць фізікам, чаго б гэта яму ні каштавала!

Юнака прызвалі ў армію. Ён атрымаў дадатковы час на роздум.

Адслужыўшы, Казімір не вярнуўся ў заводскую лабараторыю, а адразу прыступіў да ажыццяўлення свайго намеру.

Набраўшыся рашучасці, ён пераступіў запаветны парог старога корпуса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе размешчаны кафедры фізікі. Пасля кароткай размовы з дэканам Казімір Сабіла выйшаў з памяшкання ўніверсітэта ўжо лабарантам кафедры спектральнага аналізу.

Не трацячы часу, ён здаў экзамены і паступіў на завочны факультэт. Фізіку завочна не вывучаюць. Вячэрні факультэт павінен быў адкрыцца толькі праз год. І Сабіла вырашыў пакуль што вучыцца на завочным аддзяленні матэматыкі, якое існавала.

Праз год ён атрымаў новы студэнцкі білет. Цяпер ён быў залічаны ўжо на вячэрняе аддзяленне фізікі.

Казімір Сабіла ўзорна спраўляецца са сваімі абавязкамі лабаранта. Нядаўна пад кіраўніцтвам маладога вучонага кандыдата фізіка-матэматычных навук Леаніда Вікенцьевіча Валодзькі Сабіла закончыў мантаж новага ўдасканаленага спектрографа.



**Казімір Сабіла ў лабараторыі спектральнага аналізу.**

— Можа вы возьмецеся выканаць на ім самастойную работу? — спытаў яго кіраўнік. — Нашы калегі з хімічнага факультэта просяць памагчы ім. Іх метады ў адным пытанні аказаліся бяссільныя.

— Хімікі бяссільныя?! — перапытаў Казімір.

А Леанід Вікенцьевіч ужо раскрываў перад ім падрабязнасці будучых даследаванняў. Казімір зразумеў: гэта была тэма вельмі значная, роўная тэме любой дыпломнай работы. Ці справіцца з ёю студэнт-вячэрнік другога курса?

— Справіцеся, — цвёрда сказаў яму вучоны. — Самае галоўнае ў гэтай справе — настойлівасць. А вам яе не набываць.

# НА ЯКОЙ РАЦЭ СТАІЦЬ МІНСК

Гэтае пытанне любіць задаваць сваім субяседнікам адзін з інжынераў Белдзяржпраекта Канстанцін Уладзіміравіч Іваноў. Звычайна яму на гэта адказваюць:

— На Свіслачы.

— На якой? — перапытвае ён. — Скажыце дакладней — на якой? — ён робіць націск на апошнім слове.

— Я вас не разумею, Канстанцін Уладзіміравіч. На звычайнай.

Але праз хвіліну недаўменне рассейваецца.

— Што Мінск стаіць на Свіслачы, гэта ведае кожны школьнік. Але падумайце, на якой Свіслачы?.. На мелкаводнай, забруджанай, з нядобраўпарадкаванымі берагамі. І гэта ў сталічным горадзе, адным з найпрыгажэйшых у нашай краіне!..



Канстанцін Лазарук і Іван Харужы за работай на набярэжнай Свіслачы.

Так пачынаецца размова аб адной з наспеўшых праблем добраўпарадкавання беларускай сталіцы. Аўтар праекта добраўпарадкавання Свіслачы К. У. Іваноў робіць невялікі экскурс у гісторыю пытання.

Яно ўзнікла больш чвэрткі стагоддзя назад. Першым маленькім крокам наперад з'явілася стварэнне вадасховішча пры ўваходзе Свіслачы ў тагачасныя межы горада. Яно названа «Камсамольскім возерам», бо будавалі яго маладыя мінчане. Разам з паркам, які раскінуўся на яго берагах, «Камсамольскае возера» стала ўлюбёным месцам адпачынку. Але гэтым яго значэнне, бадай, і абмяжоўваецца. Маючы ёмістасць усяго мільён кубаметраў, яно не можа ўплываць на рэгуляванне сцёку. А водны рэжым Свіслачы быў да нядаўняга часу такі, што патрабаваў умяшання: кожную вясну паводкі і рэзкі спад узроўню вады летам.

Кіраванне водным рэжымам Свіслачы стала магчымым толькі пасля стварэння «Мінскага мора» — вадасховішча ў раёне Ждановіч. Цяпер запас веснавых вод выпускаецца цераз плаціну раўнамерна на працягу ўсяго года.

Плаціны — у парку імя Горкага і паблізу аўтазавода — утвараюць невялічкія вадасховішчы, каб падтрымліваць глыбіню ракі не меней аднаго метра. А такая глыбіня ўжо дазволіць хадзіць рачным трамваям.

Расчыстка рэчышча і добраўпарадкаванне набярэжных зараз ідзе поўным ходам...

У гэтым месцы К. У. Іваноў спыняе гутарку і рэкамендуе звярнуцца непасрэдна да тых, хто здзяйсняе задумы архітэктараў і інжынераў.

У парку імя Горкага працуе група будаўнікоў на чале з прарабам М. П. Казаковым. Зарослы пустазеллем гліністы адхон яны ператвараюць у прыгожую светла-шэрую жалезабетонную сцяну, аснову будучай набярэжнай.

Маладыя рабочыя Іван Харужы і Канстанцін Лазарук, якія забіваюць палі, адышліся ўбок, каб адпачыць.

— Ідуць справы памаленьку! — адказваюць яны на наша пытанне вельмі ўжо сціпла.

Мы просім расказаць аб тым, як будзе выглядаць Свіслач у парку. Юнакі ахвотна дзеляцца ўсім, што ім вядома:

— Глыбіня Свіслачы рэзка ўзрасце. Шырыня ракі пасля расчысткі стане 35—40 метраў. Рэчышча яе па магчымасці выпрамляецца.

Уздоўж ракі, па ўсіх набярэжных будуць створаны азелянёныя дарожкі, па якіх ад цэнтра горада можна будзе прайсці аж да «Камсамольскага возера». Пры сустрэчы з мастамі гэтыя дарожкі будуць нібы ныраць пад іх і пешаходам, такім чынам, не трэба будзе перасякаць вулічныя магістралі. Зялёная паласа сквераў і паркаў працягнецца ўздоўж усёй ракі; агульная плошча яе складзе больш за 600 гектараў. Добраўпарадкаванне Свіслачы дазволіць стварыць новыя жылыя кварталы на тых нізінах, якія зараз яшчэ затапляюцца паводкай.

Юнакі вяртаюцца да працы. Падыходзім да прараба. Магчыма, ён што-небудзь яшчэ дадасць.

— А што дадаваць?.. — гаворыць Мікалай Парфёнавіч Казакоў. — Яны хлопцы адукаваныя, усё ведаюць і...

— Добра працуюць?..

— Добра. І старанна вучацца. Яны ж абодва — студэнты, будучыя інжынеры. Таму так лёгка разбіраюцца ва ўсіх нашых справах і ўсім цікавяцца наперад. Прыходзьце ўлетку, і вы не пазнаеце гэтага кутка ў парку імя Горкага.





Іван Логінаў і Валянцін Пятроўскі выкладаюць на паперы новыя задумы.

# ЗНОЎ ПОШУКІ

Два сябры, два маладыя тэхнолагі — Валянцін Пятроўскі і Іван Логінаў — зноў нешта задумалі.

Зноў іх часцей, чым звычайна, бачаць разам. Вечарамі, калі пакой аддзела пустуе, яны садзяцца ў куточку ля акна і пагружаюцца ў разлікі. Часамі ўзнікае гарачая спрэчка, потым зноў кожны аддаецца сваім думкам.

Трубкі ватмана ляжаць горкай тут жа, на стале, побач з тоўстымі даведнікамі. На ватмане — чарцяжы новай машыны.

Якой?

Гэтага пакуль ніхто не ведае.

У сяброў строгае правіла: зрабіў справу — тады і гавары смела. Да таго, як будзе вычарчана апошняя гайка і з'явіцца поўная ўпэўненасць у рэальнасці плана, яны не скажуць аб новым вынаходніцтве ні слова.

Зусім няшмат прайшло, як былі падведзены вынікі рэспубліканскага маладзёжнага конкурсу на лепшае вынаходніцтва і рацыяналізатарскую прапанову. Першай прэміяй тады была адзначана канструкцыя машыны для ліцця ў металічных формах. Аўтары прапановы — Пятроўскі і Логінаў.

І вось менш чым за два гады машына мінскіх вынаходнікаў з завода імя Кірава атрымала ўсесаюзную вядомасць. Амаль з кожнай поштай прыходзяць новыя просьбы.

«Прашу вас выслаць нам рабочыя чарцяжы пнеўматычнай кокільнай машыны з водаахалоджваннем металічных форм, распрацаванай тэхнолагамі Пятроўскім і Логінавым»,— пішуць з Дзяржплана РСФСР.

З курскага Саўнаргаса прыйшло пісьмо з просьбай прыняць групу ліцейшчыкаў для абмену вопытам і практычнага вывучэння новай машыны.

Некаторы час на заводзе імя Кірава гасцявала група спецыялістаў з Луганска. Яны цікавіліся некалькімі ўнікальнымі станкамі. Але першае, што луганцы паклалі ў свае партфелі, былі чарцяжы машыны Пятроўскага і Логінава.

Паўаўтаматызм дзеяння, рэзкае зніжэнне браку ліцця, скарачэнне да мінімуму допускаў на механічную апрацоўку — гэтыя галоўныя вартасці новай кокільнай машыны павінны яшчэ быць памножаны на прастату і ўніверсальнасць канструкцыі. Пераканаўшыся ў карыснасці свайго вынаходніцтва, сябры ў той жа час палічылі патрэбным унесці ў будову машыны шэраг удасканаленняў.

— Можа вы і цяпер заняты далейшымі ўдасканаленнямі?

Сябры памаўчалі, пераглянуліся.

— Не,— сказаў Валянцін.— Мы «хвараем» на другое. З інфармацыяй не варта спяшацца. Па нашых разліках, «крызіс» павінен хутка наступіць: мы пачалі ўжо рабіць рабочыя чарцяжы.

— Гэта будзе новая ліцейная машына?

Сябры паціснулі плячыма, нібы самі не былі яшчэ ўпэўнены ў сваіх пошуках.

— У кожным разе, ваша новая прапанова накіравана на далейшае палепшанне ліцейнай справы?

Яны адначасова ўсміхнуліся:

— Так.

## ТЭАТР БУДЗЕ!

— Я больш не магу! Яна восьмы раз хоча «застрэліць» мяне і кожны раз няўдала. Давайце зробім перапынак!

— Сапраўды, Святлана, чаму вы марудзіце з апошнім стрэлам?

— Я не магу трымаць рэвальвер у правай руцэ. Я ляўша. Дазвольце, я «заб'ю» яго левай рукою.

Пытанне выклікае агульны смех. Смяецца і сама Святлана, хоць у момант помсты ўсмешка не да месца. Прыходзіцца зрабіць перапынак.

Гэты эпізод адбыўся на адной з рэпетыцый у тэатральнай студыі трактарнага завода. Вясёлая настаўніца сярэдняй школы № 34 Святлана Скірда і разметчык аддзела тэхнічнага кантролю Леў Бяссмертны павінны разыграць вельмі далёкую для іх сцэну забойства. У п'есе Яўгена Рамановіча «Дзве сяброўкі» Леў іграе гестапаўца, а Святлана — савецкую дзяўчыну, якая абавязана забіць мярзотніка з пачуцця справядлівай помсты... Цяжкая сцэна,— адна з тых, у якой студыйцы могуць сябе як след праверыць.

Кіраўнік студыі і рэжысёр спектакля А. Бяляеў з вялікай пахвалой адгукаецца аб здольнасцях і працавітасці моладзі, якая вырашыла стварыць Рабочы тэатр. Але не толькі моладзь ахоплена гэтым жаданнем. Сярод больш чым дваццаці энтузіястаў аматарскай сцэны ёсць і пажылыя людзі, такія, як 52-гадовы рабочы электрацэха Георгі Фёдаравіч Пушкевіч. Гарачы ўдзел у занятках студыі прымае дырэктар заводскага клуба Іван Піменавіч Баранаў.

Калектыў Беларускага тэатра юнага гледача ўзяў шэфства над студыяй. Студыйцаў запрашаюць на абмеркаванне ўсіх спектакляў тэатра, яны маюць права прысутнічаць на рэпетыцыях. Распрацаваны вучэбны план, разлічаны на два гады, блізкі да праграмы тэатральнага інстытута. Артысты тэатра А. Бяляеў, Б. Берцінг, Э. Гарачы, Р. Маленчанка, Б. Курыліна сталі педагогамі студыі. Па строгаму раскладу, з захаваннем усіх правіл студыйнай дысцыпліны вядуцца заняткі па акцёрскаму майстэрству, тэхніцы мовы, сцэнічных рухах, гісторыі тэатра.

— Гэта захапленне ці забава?— спыталі мы ў студыйцаў.

— Мяркуйце самі,— адказалі нам.— Толькі ўлічыце, што заседжваемся мы часам тут далёка за поўнач.

Паралельна з вывучэннем тэорыі ідзе падрыхтоўка спектакляў. У спектаклі «Хлопцы прадзіраюцца праз чашчобу» гледачы сустрэнуцца са сваімі равеснікамі — заводскай моладдзю, якая актыўна змагаецца за чысціню маралі новага чалавека нашага грамадства.

Фармаванне артыстаў будучага тэатра заснавана на прынцыпах працоўнага выхавання. Усё, чаго патрабуе пастаноўка спектакля, робяць самі ж выканаўцы. Яны з'яўляюцца і рабочымі сцэны, і асвятляльнікамі, і машыністамі.

Наперадзе шэраг вучэбных спектакляў, а праз два гады вялікая прэм'ера — адкрыццё тэатра. Дата і час пачатку прадстаўлення яшчэ не ўстаноўлены, але студыйцы хацелі б бачыць чытачоў «Маладосці»-мінчан у ліку першых сваіх гледачоў.



**Артыст Тэатра юнага гледача Б. Берцінг** (другі злева) **вядзе з трактаразаводцамі заняткі па акцёрскаму майстэрству.**

# Давайце пагаворым...

## ЗА ВЯЛІКАЕ І ПРЫГОЖАЕ КАХАННЕ

### КАХАННЕ — НЕ ПРЫВЫЧКА

Нядаўна мне давялося размаўляць з былой аднакласніцай Галяй К. Мы не сустракаліся чатыры гады, і нам было што ўспомніць. З вялікай любоўю яна расказвала пра Брэст, дзе цяпер працуе, пра сваю работу. У часе размовы я неяк жартам спытаў у Галі, ці хутка яна запросіць мяне на вяселле.

— Ведаеш, я не веру ў каханне. Можа таму я нікога яшчэ і не кахала. Мне цяжка паверыць, што яно наогул існуе, калі я бачу, што юнак у першы ж вечар імкнецца пацалаваць цябе ці прызнаецца ў каханні.

Я спрабаваў пярэчыць, што не ўсе хлопцы такія, але Галя перапыніла:

— Пакуль я сустракала толькі такіх...

Гэтая гутарка мяне вельмі ўразіла.

Аднойчы ў час неафіцыйнай дыскусіі пяцікурсніца нашага ўніверсітэта Ніна С. загаварыла пра тое ж самае:

— Ёсць захапленне, якое потым пераходзіць у прывычку,— вось гэта і ўсё, што некаторыя наіўныя людзі лічаць каханнем,— секанула Ніна.— Я не веру ні ў якое каханне.

Я пaглядзеў на прысутных. Чамусьці ніхто не пажадаў ёй запярэчыць.

Чытаючы артыкул С. Лапцёнка, я ў першую чаргу думаў аб тых, хто не верыць у тое, што існуе гэтае вялікае пачуццё.

Я думаю, што многія чытачы не згодзяцца з такім скептычным поглядам Галі і Ніны на каханне — тое вялікае, цудоўнае, што даўно прызнана ўсімі.

**Фёдар МАЙСЕЙШЫН,**
**студэнт V курса Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна.**

### ЦІ БЫВАЕ КАХАННЕ З ПЕРШАГА ПОЗІРКУ?

Аб каханні з першага позірку часта гавораць і спрачаюцца. Сярод моладзі знойдзецца шмат такіх, хто верыць у яго, і не менш такіх, хто зусім адмаўляе такое каханне.

Мне здаецца, што ўся справа тут у тым, як разумець гэтае «каханне з першага позірку».

У жыцці нярэдка здараецца так. Жывуць сабе юнак і дзяўчына, не ведаюць аб існаванні адзін аднаго. У марах кожнага, бясспрэчна, жыве вобраз любімага чалавека. Але вось які-небудзь нечаканы выпадак дае магчымасць сустрэць жывога носьбіта гэтага вобраза. Гэта можа адбыцца на канцэрце, на маладзёжным вечары, у чарзе ля касы кіно ці проста на тралейбусным прыпынку. Усяго некалькі слоў, а то і проста позіркаў, і яны ўжо думаюць адно пра аднаго.

А далей... далей усё залежыць ад многіх «калі».

Калі яны пазнаёмяцца і, сустракаючыся, будуць адкрываць адзін у другога ўсё новыя і новыя станоўчыя якасці, калі яны адчуюць, што не могуць далей жыць адзін без аднаго, і, калі, нарэшце, пажэняцца,— тады яны маюць права сцвярджаць сваім сябрам, што

кахаюць з першага дня знаёмства, з самага першага позірку. Бо каб так заявіць, яны мелі час праверыць свае пачуцці.

Але ж ёсць і такія, што лічаць: сустрэў, зірнуў — і адразу закахаўся... Хоць заўтра — у ЗАГС.

Сапраўды моцнае пачуццё так проста і адразу не ўзнікае.

Давайце ўявім наступнае. Юнак, якому пры першай выпадковай сустрэчы спадабалася дзяўчына, не знайшоў у сабе рашучасці пазнаёміцца з ёю і прызначыць спатканне. Як быццам і «першы позірк» быў і, магчыма, не адзін. Але дзе ж каханне? Зразумела, не стане сур'ёзны юнак у такім выпадку сцвярджаць, што без гэтай «каханай» не ўяўляе свайго жыцця.

Але можа здарыцца яшчэ і так.

Маладыя людзі пазнаёміліся, прызначылі спатканне. На душы ў абодвух было светла і радасна. «Гэта — каханне, — думалася кожнаму. — Цяпер на ўсё жыццё. А прыйшлі на спатканне — і зразумелі, як яны не падыходзяць адно аднаму. І пры гэтым зусім не абавязкова, каб адзін з іх быў благім чалавекам.

Такім чынам, каханне з першага позірку існуе, але існуе яно толькі ў тым выпадку, калі, нарадзіўшыся з першага, працягваецца да апошняга позірку, як кажуць, да канца жыцця.

Колькі бывае такіх пачуццяў, якія ўзнікаюць пад уражаннем першага знаёмства, першага позірку! Але мы хутка забываем аб іх, яны знікаюць з памяці амаль назаўсёды.

Мне прыгадваюцца словы адной песні, у якой аб гэтым сказана вельмі правільна.

Не вер каханню з «першага пагляду»,
І не пакутуй, дружа мой, дарма:
Не будзе там ні радасці, ні ладу,
Дзе пачуцця сапраўднага няма.
Чакайце, сябры, не спяшайце,
Праверце пачуцці не раз,
У сэрца свайго запытайце,
І дасць яно шчыры адказ!

**В. СЯРГЕЕЎ.**

## ПАВАЖАЦЬ ПАРАДЫ БАЦЬКОЎ

Мы доўга спрачаліся паміж сабой пасля таго, як прачыталі артыкул «За вялікае і прыгожае каханне». Асабліва нас зацікавіла пытанне аб тым, якую ролю павінны адыгрываць бацькі ў фармаванні поглядаў сваіх дзяцей на дружбу і каханне.

Бацькі не абыякавыя да лёсу дзяцей. Яны жадаюць бачыць іх шчаслівымі. Таму юнаку ці дзяўчыне, вырашаючы складанае пытанне аб выбары сябра, які б стаў спадарожнікам на ўсё жыццё, трэба быць уважлівым да парад бацькоў.

Нам здаецца, вельмі дрэнна, калі натуральнае жаданне бацькоў ведаць, з кім сябруюць іх дзеці, перарастае ў надакучлівае апякунства, імкненне кантраляваць кожны іх крок. Гэта часта прыводзіць да непажаданых вынікаў. Спашлемся на прыклад.

Маці нашай знаёмай Дзіны кантралюе кожны яе крок, трымае яе ў строгім хатнім «палоне». Нават схадзіць у кіно Дзіна не мае права без дазволу маці. Да таго ж паглядзець яна можа толькі той фільм, які маці лічыць змястоўным. А што датычыць знаёмых Дзіны, дык маці патрабуе, каб усіх іх дачка прадстаўляла ёй: сябраваць дазволена з тымі, хто вытрымае матчыну «экзаменоўку».

Зразумела, што ўсё гэта выклікае ў дзяўчыны імкненне рабіць часта насуперак маці, вызваліцца з-пад надакучлівага апякунства. У такім настроі пры пэўных абставінах Дзіна здольна зрабіць неабдуманы ўчынак, аб якім потым пашкадуе, пашкадуюць і яе бацькі. А маці гэтага не разумее.

Мы ўпэўнены, што падобныя прыклады — не частыя. У большасці выпадкаў бацькі правільна ўплываюць на погляды дзяцей, на іх паводзіны, адносіны да знаёмых, таварышаў, сяброў. Мінулі тыя часы, калі бацькі выдавалі сваіх дачок замуж, не пытаючыся іх жадання, калі шлюб нярэдка ператвараўся ў камерцыю. Аднак сіла традыцыі, сіла звычкі вельмі вялікая. Гэтым, відаць, тлумачыцца тое, што і зараз сяды-тады здараюцца выпадкі, калі бацькі спрабуюць дыктаваць дзецям сваю волю ў іх адносінах з таварышамі і сябрамі.

**Святлана ШАЛЮТА,**
**Раіса РЫЖКОЎСКАЯ,**
**навучэнцы Мінскага харэаграфічнага вучылішча.**



## НА ЧЫІМ ЖА БАКУ ПРАЎДА?

У нумары дзевятым «Маладосці» быў змешчаны артыкул «За вялікае і прыгожае каханне». Ён выклікаў вялікую цікавасць у чытачоў. Рэдакцыя часопіса атрымала шмат водгукаў, у якіх юнакі і дзяўчаты дзеляцца сваімі думкамі, выказваюць свае меркаванні па ўсіх пытаннях, закранутых у артыкуле. Характэрна тое, што праз усе пісьмы праходзіць адна галоўная думка: каханне — гэта вялікае пачуццё, якое ўзвышае і ўпрыгожвае чалавека, робіць яго жыццё больш светлым і радасным, дапамагае пераадольваць цяжкасці, змагацца за здзяйсненне пастаўленай мэты.

Па-сапраўднаму кахаць, гэта значыць, лічыць, што лепшага сэрца, чым у таго, каго кахаеш, на свеце няма, гэта значыць, ва ўсім даверацъ сябру, не растрачваць свае пачуцці марна.

У наш век — век найвялікшых гістарычных падзей і навуковых адкрыццяў — і пачуцці чалавека павінны быць вялікімі і моцнымі. Аб чыстай, як крыніца, закаханай душы гаварыць не сорамна: на зямлі трэба жыць з вялікім і прыгожым каханнем. А калі такое каханне ёсць, то, на думку чытача І. Кісяля, не мае значэння, хто першы ў ім прызнаецца. Такой жа думкі прытрымліваецца і чытач М. Языкаў. Ён лічыць, што «можа і дзяўчына першай прызнацца ў каханні... Але спяшацца з гэтым не трэба».

Заўвага — слушная: спяшацца, сапраўды, не варта. Перш, чым гаварыць аб пачуццях, трэба пераканацца ў іх трываласці.

Юнакі і дзяўчаты ў нашай краіне раўнапраўныя перад грамадствам і законам. Усё больш узрастае роля савецкай жанчыны ў будаўніцтве камунізма. Каханне цесна звязана з грамадскімі інтарэсамі чалавека, з яго працоўнай дзейнасцю. Таму і да кахання савецкія людзі адносяцца прынцыпова, умеюць паважаць пачуцці адзін другога.

Вельмі слушна заўважае настаўнік І. Рабкоў, што этыкі без ведаў, без выхавання не можа быць. Таму яшчэ ў школе трэба правільна накіроўваць узаемаадносіны паміж юнакамі і дзяўчатамі. Настаўнікі не накіравалі як след сяброўства вучняў дзесятага класа Людмілы і Уладзіміра. За іх гэта зрабіла само жыццё. А хацелася б, каб выхавацелі не стаялі ў баку ад такіх важных пытанняў. А. С. Макарэнка гаварыў: «Навучыць кахаць, навучыць разумець каханне, навучыць быць шчаслівым — гэта значыць, навучыць паважаць самога сябе, навучыць чалавечай годнасці». Да таго ж, у вучнёўскім узросце істотнай розніцы паміж сяброўствам і каханнем у хлопчыкаў і дзяўчынак часцей за ўсё не бывае, з самымі добрымі намерамі яны блытаюць гэтыя паняцці. І калі мы спрабуем умешвацца ў іх адносіны, то трэба рабіць гэта вельмі асцярожна, тактоўна, бо тут лёгка памыліцца і пашкодзіць шчырым пачуццям юнацкасці.

На нашу думку, людзі, якія не вераць у каханне і імкнуцца пераканаць у гэтым іншых, проста самі дрэнна выхаваны. Шкада, што знаёмая чытача Фёдара Майсейшына Галя К. не сустракала яшчэ на сваім жыццёвым шляху сур'ёзнага юнака, які б не спяшаўся з прызнаннем. Але яшчэ горш, што другая яго знаёмая не хоча бачыць розніцы паміж захапленнем, прывычкай і... каханнем. Вядома, што прывычка можа з'явіцца ў двухгадовага дзіцяці, хоць яно яшчэ далёка ад разумення пачуцця кахання. Напэўна, гэта разумее і Ніна С. і спрачаецца проста... па прывычцы, не задумваючыся над бясплённасцю спрэчкі.

Сурова асуджаюць чытачы паводзіны тых, што адносяцца да кахання лёгкадумна, распыляюць свае пачуцці. Іх мала сярод моладзі, гэтых «маральных жабракоў», але яны пакуль што сустракаюцца.

Перад намі — лісты афіцэра Уладзіміра К. да каханай дзяўчыны. Іх цэлы пачак. З дазволу таго, каму гэтыя лісты адрасаваліся, прывядзем некалькі вытрымак:

«Ліля! Як шмат у цябе чалавечнасці. Мне ўсё ў табе падабаецца: характар, паводзіны, сэрца, сама ўся. Толькі ты можаш быць сапраўдным сябрам. Дзякуючы табе, я стаў паўнацэнным чалавекам. Ты — мэта маіх імкненняў». (11.X.1958 г.)

«Хутчэй наша Бяроза гацячэ назад,

чым я здраджу табе ў каханні». (18.X.1958 г.).

«Сябар у жыцці — не іголка патэфонная, якую часта мяняюць. Прыгажэй за цябе няма на свеце». (05.XII.1958 г.)

«Л., мілая, усе мае думкі — з табой, ты — зорка мая, ты — імкненні мае, сонца маё, ЕЯсна кахання майго». (12.XII.1958 г)

«Кветка мая! Я пішу ліст у вершах— прабач!» (12.I.1959 г.).

«Ты — мой анёл, бо... не адцуралася мяне». (7.III.1959 г.)

І так — каля 30 лістоў па 5—7 старонак кожны. Апошні ліст напісаны ў красавіку 1959 года: «Будзем разам кавацць сваё шчасце. Будучыню ладзіць па прыказцы: «сем разоў памерай, адзін — адрэж».

Чытаючы лісты Уладзіміра, можна падумаць: які ён прыгожы, верны ў каханні. Але на самай справе ён зусім не такі.

Ліля і Уладзімір — аднакласнікі. У школе былі сябрамі—не больш. Але калі Уладзімір паехаў вучыцца ў ваеннае вучылішча, яна засумавала. Ні з кім не сустракалася, не хадзіла на вечары моладзі. Праз некаторы час Уладзімір прыехаў у водпуск і прызнаўся ёй у каханні. Ліля была шчаслівая.

Уладзімір паехаў. І раптам Ліля даведалася з яго ліста, што ён ажаніўся «выпадкова», пасля навагодняга вечара.

Ішоў час. Аднойчы вераснёўскім вечарам Ліля ішла дадому. Каля сваіх варот яна ўбачыла знаёмую постаць. Гэта быў Уладзімір. «Добры вечар, Ліля...» Ліля, не прыпыніўшыся, зачыніла за сабою брамку.

Сустрэліся ў клубе на танцах. Уладзімір многа курыў, ні з кім не размаўляў. Ён пайшоў праводзіць Лілю з танцаў. Яна не пярэчыла. Уладзімір расказаў, што ён развёўся з жонкай, якая здраджвала яму. Уладзімір кляўся, што памылка шмат чаму яго навучыла. Калі ён паспрабаваў загаварыць аб вернасці, Ліля запярэчыла — жыццё пакажа.

Уладзімір паехаў. Пачалася перапіска, вытрымкі з якой мы прыводзілі вышэй.

Уладзімір шукаў ідэала ў жыцці, але сам ім не быў. Ён, гэты слабавольны чалавек, зноў, другі раз, ажаніўся... выпадкова, цяпер пасля другога святочнага вечара. Пісаў бацькам: гэтая жонка прыгожая, разумная, сястра начальніка і г. д.

Што ж, можа гэта і так. Але ж... дзе павага да Лілі, якая зрабіла яго «сапраўдным чалавекам»?

Ды справа не толькі ў павазе, абавязку. Як можна быць такім хлусам? Дарэчы, і на гэты раз сямейнае жыццё Уладзіміра не вельмі ладзіцца.

А Ліля? Яна не страціла веры ў людзей. Яна — моцны чалавек, яна верыць, што ёсць на свеце сапраўднае каханне. Яе паважаюць на рабоце, Ліля заканчвае Беларускі дзяржаўны універсітэт завочна. Яна змагалася за каханне, але не яе віна, што Уладзімір здольны плысці толькі па цячэнню. Ён не варты яе кахання.

Не будзе верным у каханні той, хто не паважае сваёй чалавечай годнасці, не цэніць гонару чалавека. Павага да людзей і вернасць у каханні ходзяць па адной сцяжынцы. Захоўваючы вернасць, чалавек выхоўвае ў сабе рысы камуністычнай маралі, і яго, вядома, паважаюць як таварыша, як грамадзяніна.

Наша этыка патрабуе аналізу сваіх учынкаў, каб не станавіліся яны «мёртвай пятлёй» блізкаму чалавеку.

Чытач М. Языкаў расказвае аб сваёй знаёмай, якая растрачвае свае пачуцці на выпадковыя сустрэчы і ўсё ж спадзяецца, што яе «асноўны ўхажор» не пакіне яе. Магчыма, будзе і так. Але ж аддаваць кожны раз камусьці кавалачак свайго сэрца — значыць, спустошваць сябе, здзеквацца з кахання. Прыгожым каханне можа быць толькі чыстае і ўзаемнае.

Герой рамана Алеся Ганчара «Сцяганосцы» Юрась Бранскі расказвае, як Шура пакахала толькі яго. Ён запэўняе таварышаў:

«Я таксама пасля яе бачыў многіх дзяўчат, нават больш прыгожых, чым яна, нават сапраўдных прыгажунь, але ні адна з іх не мела падабенства да яе, не магла зраўняцца з ёю. Не таму, вядома, што яна самая лепшая на свеце, не, я не ідэаліст. Але іменна такую, не іншую, не горшую і не лепшую, я толькі і магу кахаць».

Так, найвышэйшая прыгажосць — гэта вернасць у каханні. А там, дзе яна ёсць, не можа быць і размоў аб рэўнасці. Як мы і чакалі, не ўсе згодны з думкамі аб рэўнасці, выказанымі ў артыкуле. Некаторыя чытачы дапускаюць «суіснаванне» прыгожага кахання і рэўнасці. Думаецца, што такія сцверджанні памылковыя. Мы часам чуем: «Я раўную яго да кніг, спорту, да яго працы, якой ён удзяляе больш увагі, чымся мне»... Але хіба можна супроцьстаўляць дарагога вам чалавека калектыву, яго інтарэсам? Ці не лепш палюбіць і яго справу, як і яго самога? Такая «рэўнасць» шкодзіць жыццю маладых людзей, ад яе патрэбна пазбаўляцца, а не прымірацца з яе з каханнем.



А чытач С. Пташка заяўляе: «Калі я адчуваю, што каханне маё разбураецца па віне дарагога мне чалавека, ці ж магу я не раўнаваць?» Што ж, калі здарыцца такое, нельга быць раўнадушным, трэба змагацца за каханне. Але як? — Учынкамі, вартымі чалавека, словамі, якія не абражаюць чалавечую годнасць, не прыніжаюць асабісты гонар...

Чытачы Рыгор М., Карына З. і іншыя спрабуюць вызначыць ролю бацькоў ва ўзаемаадносінах маладых людзей. Гэта — тэма іншай гутаркі. Але і па гэтаму пытанню хочацца выказацца.

Не бацькі, вядома, павінны вырашаць пытанне аб каханні дзяцей, але не прыслухоўвацца да іх парад дзеці не маюць ніякага маральнага права. Бацькі заўсёды жадаюць бачыць сваіх дзяцей шчаслівымі. І калі парады бацькоў часам не адпавядаюць жаданням дзяцей, то малодыя людзі павінны пераканаць іх, а не ўхіляцца ад размовы.

Каханне — маральная аснова савецкага шлюбу і сям'і. І да сённяшняга дня захоўваюць сэнс словы В. Р. Бялінскага аб змястоўным каханні. Ён гаварыў, што калі б наша асабістае шчасце заключалася толькі ў каханні, то жыццё было б пустыняй, закіданай трупамі з разбітымі сэрцамі. Але ў чалавека, прадаўжае Бялінскі, акрамя інтымных пачуццяў, ці, як кажуць, унутранага свету, ёсць той вялікі свет жыцця, дзе «думка становіцца справай, а высокае пачуццё подзвігам». Вялікі гуманіст Бялінскі вучыў, што моладзь павінна думаць не аб тым, колькі разоў можна кахаць, а аб тым, як ні разу не зганьбаваць сэрца чалавека, якое даверылася нам, думаць аб тым, як зрабіць наша каханне больш змястоўным, асэнсаваным, прыгожым.

Зараз, калі наша моладзь актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве камунізма, каханне савецкіх людзей — магутная сіла, якая дапамагае спраўдзіць самыя светлыя мары чалавецтва.

Камунізм прывядзе да поўнага росквіту ўсіх здольнасцей чалавека, яго лепшых пачуццяў. Наша задача—выхоўваць у сабе і ў таварышаў рысы чалавека камуністычнага грамадства, правільнае разуменне кахання, чыстыя адносіны паміж людзьмі.

**С. ЛАПЦЁНАК,**
**кіраўнік лектарскай групы Мінскага абкома ЛКСМБ.**

*Навука і тэхніка*

**В. КАМАРОЎ,**
**лектар Маскоўскага планетарыя**

# СКОРАСЦЬ ПЕРАМАГАЕ ЧАС

Адзін з герояў вядомага англійскага раманіста Герберта Уэлса робіць незвычайнае падарожжа ў прошласць і будучыню Зямлі пры дапамозе сканструяванай ім машыны часу. Ён сустракаецца з нашымі продкамі і нашчадкамі, а потым шчасліва вяртаецца назад.

Развіццё навукі і тэхнікі зрабіла сапраўднасцю многае з таго, што ў свой час было апісана на старонках навукова-фантастычных раманаў. Ажыццявіліся і некаторыя фантастычныя здагадкі, што належаць пяру Уэлса. Але пабудаваць машыну часу, якая дазваляла б пранікаць у мінулае і будучае, прынцыпова немагчыма.

І ўсё ж адзін від падарожжа ў часе можа быць ажыццёўлены...

Мы жывём у эпоху пакарэння касмічнай прасторы. Ужо недалёка той час, калі міжпланетныя караблі з людзьмі апусцяцца на паверхню Месяца, дасягнуць бліжэйшых планет сонечнай сістэмы — Марса і Венеры. Такія палёты звязаны з пераадоленнем значных адлегласцей — да Месяца, як вядома, каля 400 000 кіламетраў, а Марс і Венера знаходзяцца ад Зямлі на адлегласці дзесяткаў мільёнаў кіламетраў. Савецкая касмічная ракета прайшла адлегласць да Месяца за 34 гадзіны палёту, а для таго, каб дасягнуць Марса і Венеры, спатрэбіцца некалькі месяцаў. Такая вялікая працягласць касмічнага палёту, канешне, павялічвае ў многа разоў цяжкасці яго ажыццяўлення.

У прыватнасці, спатрэбяцца значныя запасы паліва, а таксама кісларод, ежа і вада для экіпажа касмічнага карабля. І ўсё ж гэтыя і іншыя перашкоды пры палётах у межах сонечнай сістэмы можна пераадолець.

Значна цяжэй справа ў тым выпадку, калі мы гаворым пра палёты на іншыя зоркі. Нават бліжэйшая з іх — зорка Праксіма Цэнтаўра — знаходзіцца ад нас на велізарнай адлегласці. Прамень святла пры скорасці 300 000 кіламетраў у секунду праходзіць яе толькі за $4^1/_3$ года, а касмічная ракета нават пры велізарнай скорасці каля 100 000 кіламетраў у гадзіну даляцела б да гэтай зоркі толькі праз 50 000 год. А такая ж скорасць больш чым у 2,5 раза перавышае скорасць руху штучнага спадарожніка Зямлі...

Значыць, палёты да зорак ажыццявімы толькі пры ўмове дасягнення яшчэ большых скорасцей. Аднак і самі скорасці не могуць павялічвацца бязмежна. Ніколі, ні пры якіх умовах яны не могуць перавысіць скорасць распаўсюджвання святла ў пустаце, якая роўна 300 000 кіламетраў у секунду.

Уявім сабе на хвіліну, што пабудаван касмічны карабель, здольны рухацца са скорасцю, блізкай да скорасці святла. Тады, сапраўды, час палёту да Праксіма Цэнтаўры быў бы зусім здавальняючы — каля 4—5 год.

Але нават і пры такой жудаснай скорасці, каб даляцець, напрыклад, да зоркі Вега ў сузор'і Ліра, патрэбна было б 28 год, падарожжа да Палярнай зоркі патрабавала б каля 600 год, а каб праляцець з канца ў канец нашу сістэму зорак — Галактыку — трэба было б каля 100 000 год. Яшчэ большыя тэрміны спатрэбіліся б для палёту да іншых Галактык, іншых зорачных астравоў Сусвету. Так, напрыклад, палёт да адной з бліжэйшых Галактык — Галактыкі Андрамеды — заняў бы каля мільёна год. Такім чынам, на першы погляд можа здацца, што няўмольны бег часу назаўсёды адгарадзіў чалавеку шлях у Вялікі Космас.

Але гэта толькі на першы погляд.

Чалавек перамог і падпарадкаваў сабе розныя сілы і з'явы прыроды, якія доўгі час здаваліся непераможнымі. Навейшыя дасягненні сучаснай навукі сведчаць пра тое, што можа быць пераможаны таксама і час.

У сусветнай прасторы ў розных напрамках імчацца з велізарнымі скорасцямі ядры атамаў вадароду, гелію і некаторых іншых хімічных элементаў — касмічныя праменні.

Яшчэ чвэрць стагоддзя таму назад у складзе касмічнага выпраменьвання былі знойдзены новыя, невядомыя раней часцінкі. Яны абсалютна свабодна, амаль не адхіляючыся, праходзілі праз вельмі тоўстыя слаі свінцу. Даследы паказалі, што новыя часцінкі ў шмат разоў цяжэйшыя за электроны, але ў той жа час лягчэйшыя за пратоны, ядры атамаў вадароду. За гэтую ўласцівасць яны атрымалі назву «мезонаў», што значыць — сярэдні, ці прамежкавы.

Неўзабаве высветлілася, што мезоны адрозніваюцца ад іншых вядомых часцінак сваёю недаўгавечнасцю. «Жыццё» такой часцінкі працягваецца толькі каля 2-х мільённых долей секунды, пасля чаго яна распадаецца.

Выявілася, што мезоны ёсць у даволі вялікай колькасці ў зямной атмасферы, яны нараджаюцца ўжо ў верхніх слаях у выніку ўзаемадзеяння пярвічных касмічных праменняў з ядрамі атамаў паветра. Аднак просты разлік паказвае, што гэтыя мезоны не могуць даходзіць да зямной паверхні. Для гэтага часцінка, якая «нарадзілася» ў верхніх слаях атмасферы, павінна праляцець па меншай меры некалькі сот кіламетраў. Але, нават рухаючыся са скорасцямі, блізкімі да скорасці святла, мезоны за кароткія імгненні свайго жыцця здольны праляцець не больш 500—600 метраў.

Разам з тым, вучоныя знайшлі, што і на ўзроўні мора, ля самай паверхні Зямлі, мезоны складаюць вельмі істотную частку касмічнага выпраменьвання. Узнікае зусім слушнае пытанне: адкуль яны з'яўляюцца тут у такой колькасці?

Зусім правамерна было б дапусціць, што мезоны, якія сустракаюцца каля паверхні Зямлі, нараджаюцца тут жа ў прыземных слаях паветра. Аднак факты сведчаць, што гэта не так. Разлікамі даказана, што калі б з зямной паверхні дасягалі толькі такія мезоны, дык іх было б значна меней, чым назіраецца ў сапраўднасці. Застаецца толькі думаць, што ва ўсякім разе некаторая частка мезонаў нейкім чынам пранікае на ўзровень мора з верхніх слаёў атмасферы.

Але зусім ясна, што такое «падарожжа» магчыма толькі ў тым выпадку, калі час для мезона, які рухаецца, працякае значна павольней у параўнанні са звычайным часам.

Але ці магчыма гэта?

У сваім штодзённым жыцці мы заўсёды карыстаемся аднымі і тымі ж адзінкамі вымярэння часу. У якім бы пункце Зямлі мы ні знаходзіліся, як бы ні рухаліся па яе паверхні, працягласць адной гадзіны заўсёды застаецца адна і тая ж; яна аднолькавая ў Маскве і Наварасійску, у Берліне і ў Буэнос-Айрасе, у Пекіне і ў Нью-Йорку.

Нашы гадзіннікі могуць «адставаць» і «спяшацца», яны могуць нават зусім спыняцца. Але мы прызвычаіліся да таго, што сам час заўсёды працякае аднолькава і ў аўтамабілі, які рухаецца з вялікай хуткасцю, і ў падводнай лодцы, і ў цягніку, і ў самалёце. Іншымі словамі, мы прывыклі лічыць, што ход абсалютна дакладнага гадзінніка не залежыць ад таго, якім чынам ён рухаецца. Аднак у сваім развіцці навука паказала, што гэты закон, таксама як і многія другія законы фізікі, у сапраўднасці з'яўляецца вельмі прыблізным і правільны толькі ў адпаведных умовах.

У пачатку XX стагоддзя вядомы фізік Альберт Эйнштэйн распрацаваў механіку хуткіх рухаў, або, як яе цяпер называюць, спецыяльную тэорыю адноснасці. Даследы Эйнштэйна і другіх вучоных паказалі, што пры вялікіх скорасцях, параўнальных са скорасцю святла, многія фізічныя працэсы працякаюць зусім інакш, чым у звычайных умовах. Таму законы звычайнай, або, як яе называюць, «класічнай, механікі», да апісання такіх з'яў непрыгодныя. У прыватнасці было паказана, шляхам тэарэтычных разлікаў, што ў любой сістэме, якая

рухаецца, напрыклад, у касмічнай ракеце, час працякае павольней, чым у той сістэме, побач з якой яна пралятае, напрыклад, на Зямлі.

Такім чынам, абсалютна дакладны гадзіннік, які знаходзіцца ўнутры міжпланетнага карабля, што нясецца ў сусветнай прасторы, павінен увесь час адставаць у параўнанні з зямным гадзіннікам. Пры гэтым выявілася, што адставанне гадзінніка, які рухаецца, будзе тым большым, чым большая скорасць руху. Пры невялікіх скорасцях гэты эфект тэорыі адноснасці вельмі нязначны і практычна неадчувальны. І хоць, строга кажучы, і ў аўтамабілі, які рухаецца, і ў вагоне цягніка, што ідзе па рэйках, і ў кабіне самалёта, што ляціць у паветры, гадзіннік ідзе павольней за той гадзіннік, які нерухома ўмацаваны на Зямлі, мы гэтага заўважыць не можам: вельмі малая скорасць руху ўсіх гэтых відаў транспарту ў параўнанні са скорасцю святла.

Калі нават паставіць гадзіннік на штучным спадарожніку Зямлі, скорасць якога складае каля 30 000 кіламетраў у гадзіну, дык і ў гэтым выпадку эфект адставання ўсё яшчэ быў бы нязначны. За цэлы год такі гадзіннік адстаў бы ад зямнога ўсяго на адну сотую долю секунды. Толькі пры велізарнейшых скорасцях, якія набліжаюцца да скорасці святла, эфект замаруджвання часу можа быць дастаткова адчувальны.

Гэтым і тлумачыцца загадка мезонаў, пра якія мы гаварылі вышэй. Для мезона, які ляціць з велізарнай скорасцю, час працякае ў шмат разоў павольней, чым наш зямны час. Дзякуючы гэтаму мезоны, якія нарадзіліся ў верхніх слаях атмасферы і паспяваюць даляцець да паверхні Зямлі, хоць з нашага зямнога пункту погляду іхняе жыццё для гэтага занадта кароткае.

Гэты факт пераканаўча сцвярджае, што працягласць часу сапраўды залежыць ад скорасці руху, як гэта і прадбачыла тэорыя адноснасці.

Справядлівасць вывадаў гэтай тэорыі сцвярджаецца таксама і тым, што ў цяперашні час яна з вялікай дакладнасцю праверана шэрагам складаных эксперыментаў і шырока прымяняецца на практыцы.

Калі б тэорыя адноснасці была памылковай, дык нельга было б стварыць усялякія сучасныя ўстаноўкі атамнай фізікі, і ў першую чаргу гіганцкія паскаральнікі атамных часціцак.

Усё гэта гаворыць за тое, што перад чалавецтвам адкрываецца новая прываблівая перспектыва — рабіць падарожжы не толькі ў прасторы, але і ў часе.

Калі б мы змаглі пабудаваць ракету, якая была б здольна рухацца са скорасцю, блізкаю да скорасці святла, дык для яе пасажыраў і час, і ўсе фізічныя і біялагічныя працэсы працякалі б у шмат разоў павольней, чым для тых, хто застаўся на Зямлі.

Дзякуючы гэтаму, вярнуўшыся назад, такія падарожнікі былі б намнога маладзейшымі за сваіх сучаснікаў на Зямлі. І чым большай была б скорасць руху ракеты, тым больш значны быў бы выйгрыш у часе. Так, напрыклад, пры руху са скорасцю 255 000 кіламетраў у секунду за той час, на працягу якога гадзіннік, устаноўлены ў ракеце, адлічыць 12 месяцаў, на Зямлі пройдзе ўдвая большы час. Пры скорасці ж роўнай 299 990 кіламетраў у секунду, выйгрыш у часе дасягне казачнай велічыні. Пастараўшы на адзін год за час свайго падарожжа, пасажыр такой ракеты, вярнуўшыся на Зямлю, убачыў бы, што за час яго адсутнасці тут прайшло ні многа ні мала — 375 год.

Такія неабвержныя вывады тэорыі адноснасці.

Аднак нельга не звярнуць увагу на тое, што пры гэтым узнікае даволі дзіўнае становішча. Таму, што ракета рухаецца адносна Зямлі раўнамерна і прамалінейна, яе з поўным правам можна лічыць нерухомаю, а Зямлю — адыходзячай ад ракеты ў процілеглым напрамку.

Але ў такім выпадку ўсе разважанні павінны быць зроблены ў адваротным парадку, а гэта непазбежна прывядзе нас да вываду, што час працякае павольней не ў ракеце, якая рухаецца, а на Зямлі.

Гэтае дзіўнае на першы погляд становішча вядома ў навуцы пад назваю «парадоксу часу». У сувязі з гэтым узнікае пытанне: дзе ўсё ж такі час у сапраўднасці працякае павольней — у ракеце ці на Зямлі? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ўспомніць, што ракета не можа ўвесь час рухацца з пастаяннай скорасцю, раўнамерна і прамалінейна. Яна павінна спачатку разагнацца, накіроўваючыся ж у зваротны шлях пагасіць сваю скорасць, а потым зноў набыць яе. Дзякуючы гэтаму і становіцца зразумелым, што запавольванне часу фактычна мае месца іменна ў ракеце, а не на Зямлі.

Аднак больш падрабязны разгляд



гэтых з'яў магчымы толькі ў так званай агульнай тэорыі адноснасці, або ў тэорыі цягацення.

Такім чынам, час можа быць пераможаны — такія вывады сучаснай тэарэтычнай фізікі, вывады, у правільнасці якіх нельга сумнявацца. Але тэорыя тэорыяй, а ці магчыма ажыццявіць падарожжа ў часе практычна? Трэба прама сказаць, што зрабіць гэта будзе надзвычай цяжка. Для таго, каб ракета змагла развіць скорасць, блізкую да скорасці святла, трэба будзе зрасходаваць велізарнейшую колькасць энергіі.

Аднак чалавек паступова авалодвае ўсё новымі і новымі сіламі прыроды, усё больш і больш магутнымі крыніцамі энергіі, і можна спадзявацца, што чалавецтва ў будучым здолее вырашыць і гэтую найцяжэйшую задачу і навучыцца рабіць падарожжы не толькі ў прасторы, але і ў часе.

**Б. РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук**

# СЯБРЫ МЕДЫКАЎ

Спробы замяніць скуру пры пластычных аперацыях рабіліся хірургамі яшчэ ў старажытныя часы. Шмат стагоддзяў назад пры пашкоджаннях чэрапа прымяняліся накладкі з шалупіння какосавага арэха, а ў пазнейшы час — з пласцінак золата і срэбра.

У Заходняй Еўропе для аднаўлення носа, чэрапа і цвёрдай мазгавой абалонкі хірургі спрабавалі прымяняць каўчук і гуму, бурштын і шкло, парафін і губку. Некаторыя ўрачы выкарыстоўвалі для пластычных аперацый корак і пергаментную паперу. Але ўсе гэтыя матэрыялы не задавальнялі патрэб аднаўленчай хірургіі.

Толькі поспехі ў галіне хіміі пластмас далі медыкам магчымасць атрымаць патрэбны матэрыял: пластмасы лёгкія, трывалыя, не баяцца вады, добра супраціўляюцца ўздзеянню кіслот, шчолачаў, солей.

Нямала давялося папрацаваць савецкім вучоным С. В. Благавешчанскаму, С. Ф. Фёдараву, Г. Л. Шапіру, Н. Н. Прыораву і многім другім, перш чым удалося падабраць пластмасы, якія задавальнялі б патрабаванні пластычных аперацый. Цяпер ёсць больш двухсот відаў пластыкаў, аднак далёка не ўсе яны маюць неабходныя для медыцыны ўласцівасці.

Пасля доўгіх і настойлівых даследаванняў медыкі спыніліся на палі-хлорвінілавых і акрылавых пластыках.

Для пластычных аперацый часцей за ўсё прымяняецца эластычны палівінілхларыд — ЭГМАСС-12. Яму не страшны саракаградусны мароз, і ў той жа час ён робіцца мяккім толькі пры 70 градусах цеплыні. З яго можна рабіць дэталі пажаданай крывізны. У яго ёсць яшчэ адна перавага: ён можа выцягвацца ў тонкіх лістах амаль удвая. Шырокім прызнаннем карыстаецца і АКР-9 — мяккая пластмаса на аснове акрылатаў.

Пластмасавыя ўкладкі, якія хірургі называюць імплантаты, добра зрошчваюцца з тканкамі арганізма, не горш, чым жывыя храсткі або ўласная скура хворага. Эластычнасць і лёгкасць апрацоўкі пластыкаў дазваляе рабіць укладкі любой формы і дакладна падганяць іх да краёў пашкоджанага органа. Часцей за ўсё ў пластмасавых укладках робяць скразныя адтуліны: праз іх прарастае злучальная тканка, якая надзейна змацоўвае часткі пашкоджанага органа.

У Цэнтральным інстытуце траўматалогіі і артапедыі ў Маскве пры дапамозе пластыкаў выпраўляюць не толькі асобныя дэфекты твару — замяняюць часткі носа, вушной ракавіны, вочніцы, — але і робяць пратэзы ўсяго твару.

Спробы замяніць выпаўшыя або

зламаныя зубы штучнымі былі вядомы ў глыбокай старажытнасці. Яшчэ за некалькі стагоддзяў да нашай эры ўрачы рабілі штучныя зубы са слановай косці або з зубоў розных жывёл. Такія зубы прымацоўваліся шаўковай ніткай да ўласных зубоў пацыента.

Умелі рабіць старажытныя ўрачы і штучныя зубы з золата.

У этрускіх грабніцах (этрускі — гэта народ, які жыў у Італіі амаль за тысячу год да нашай эры) былі знойдзены залатыя зубныя пратэзы, вельмі падобныя на сучасныя «масты».

У пазнейшы час штучныя зубы рабілі як са слановай, так і з бычынай косці, прымацоўваючы іх да натуральных зубоў шаўкавінкай або залатым дроцікам.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя штучныя зубы пачалі рабіць з перламутру, а ў канцы таго ж стагоддзя з'явілася новае вынаходніцтва ў зубаўрачэбнай справе — фарфоравыя зубы.

У саракавых гадах мінулага стагоддзя было зроблена важнае адкрыццё, якое мела вялікае значэнне для развіцця навукі і тэхнікі. Чарльз Гудзьір знайшоў спосаб вулканізацыі каўчуку. З таго часу цвёрды і крохкі каўчук можна было ператвараць у гнуткую, пругкую гуму. З каўчуку пачалі рабіць зубы і сківіцы, якія добра служылі людзям. Але ў каўчуку аказаліся вялікія недахопы. Каўчукавыя пратэзы паглынаюць мікробы, што развіваюцца ў поласці роту, раздражняюць слізістую абалонку. Таму стаматолагі працягвалі пошукі больш дасканалага матэрыялу для штучных зубоў і пратэзаў.

Паяўленне пластычных мас адкрыла шлях да паспяховага вырашэння пастаўленай задачы. Аднак далёка не адразу ўдалося падабраць пластмасу, якая задавальняла б усе патрабаванні.

Спачатку для зубных пратэзаў паспрабавалі прымяняць цэлулоід. Але цэлулоідныя пратэзы хутка мянялі форму, часта ламаліся, захоўвалі пах камфары.

У трыццатых гадах нашага стагоддзя было прапанавана рабіць зубныя пратэзы з фенапластаў. Аднак і яны не апраўдалі сябе: хутка ламаліся, мянялі сваю афарбоўку.

Няўдачы не спынілі даследчыкаў. Калі на хімічных заводах пачалі вырабляць акрылавыя пластыкі, яны адразу ж прыцягнулі ўвагу зубных урачоў і тэхнікаў. Гэтыя пластыкі маюць прыемны бляск, у адрозненне ад каўчуку не ўсмоктваюць рэштак ежы і мікробаў, шчыльна прылягаюць да мяккіх тканак. У той жа час яны эластычныя і трывалыя.

Аднак і з акрылавага пластыку не адразу ўдалося атрымаць прыгодны для пратэзаў матэрыял. Распрацаваныя лабараторыяй рэцэптуры адна за другой не вытрымлівалі выпрабаванняў. І толькі сёмая задаволіла медыкаў і пацыентаў. Таму акрылавую пластмасу, якую цяпер прымяняюць для пратэзаў, называюць АКР-7.

Цяпер заставалася праверыць, ці не будзе АКР-7 шкодна ўплываць на арганізм. З пратэзнага матэрыялу зрабілі выцяжкі і дадавалі іх у ежу трусам, марскім свінкам і белым пацукам. Ні ў той дзень, ні ў наступныя дні ў жывёл не было прыкметна якіх-небудзь змен. Яны па-ранейшаму былі вясёлыя, елі з апетытам.

Для таго, каб канчаткова пераканацца ў бясшкоднасці акрылату для арганізма, невялікія кавалачкі пластмасы (прыкладна, каля двух грамаў) уводзіліся ў падскурную клятчатку труса. На працягу ўсяго доследу вага труса не мянялася, не было выяўлена ніякіх змен і ў яго крыві. Зрабіўшы, нарэшце, яшчэ і хімічны аналіз, вучоныя пераканаліся, што акрылаты — зусім бясшкодныя.

Мільёны людзей носяць цяпер пратэзы і штучныя зубы з акрылатаў. Штучную сківіцу з гэтага пластыку не адрозніш ад натуральнай, так добра афарбоўваецца пластмаса пад колер натуральных зубоў.

Пластмасы ўжо амаль поўнасцю выцеснілі з зубаўрачэбнай практыкі такія каштоўныя металы, як золата, плаціну, срэбра.

У часе вайны нямала было раненняў ніжняй часткі твару з пашкоджаннем сківіц. Карыстаючыся акрылавымі пластыкамі, савецкія хірургі паспяхова праводзілі аперацыі сківіц, вяртаючы пацыентам іх нармальны знешні выгляд.

Часам у дзяцей бываюць прыроджаныя недахопы цвёрдага і мяккага паднябення. Такія дзеці гугнявяць, таму што з поласці роту ў насаглотку трапляюць часцінкі ежы.

Пры такім захворванні патрэбна аперацыя. Але бываюць выпадкі, калі дзіцяці нельга рабіць аперацыю. Тады робяць спецыяльны пратэз. Ён дазваляе дзіцяці нармальна глытаць ежу і ліквідуе недахопы мовы.

Зімой у Якуціі бываюць моцныя маразы. Тэмпература падае да шасцідзесяці градусаў ніжэй нуля. У такі мароз часам здараецца, што людзі адмарожваюць рукі.

У адной з геалагічных партый працаваў геолаг т. Выхадцаў. Па абавязку службы яму трэба было ў пачатку студзеня вылецець на самалёце ў тайгу. Самалёт пацярпеў аварыю, і Выхадцаў адмарозіў сабе пальцы на правай руцэ. Іх прыйшлося ампутыраваць.



Геолаг не мог ні пісаць, ні працаваць правай рукою. Калі рана зажыла, ён заказаў у інстытуце траўматалогіі і артапедыі індывідуальны пратэз.

З мяккай пластмасы яму зрабілі пальцы дакладна пад колер яго рукі. Пазногці на гэтых пальцах зрабілі з другой, жорсткай пластмасы. Але як прымацаваць да рукі гэтыя штучныя пальцы, каб яны згіналіся, як свае?

Была пераадолена і гэтая цяжкасць. Пластмасавыя пальцы прымацоўваюць на фалангах, як напальчыкі. Для таго, каб не было прыкметна месца злучэння пратэза з рэшткамі пальцаў, трэба надзяваць пярсцёнкі.

На заводах Міністэрства сацыяльнага забеспячэння РСФСР з эластычнай і мяккай пластмасы выбляюць не толькі пальцы, але і кісці рук. Унутры кісць пустая. У яе ўстаўлены механізм для згінання пальцаў. Для поўнага падабенства з жывой кісцю яе размалёўваюць так, што на ёй відаць крываносныя сасуды.

Аднойчы ў бальніцу прывезлі хворую. Яна трапіла пад трамвай, і ёй прыйшлося ампутыраваць ступні і часткі галёнак абедзвюх ног. Хворая вельмі пакутавала ад думкі, што застанецца калекай і будзе хадзіць на мыліцах.

Урач супакоіў яе. «Мы вас накіруем у спецыяльную клініку, — сказаў ён, — там вам зробяць пластмасавыя пратэзы і вы будзеце не толькі хадзіць, але і танцаваць».

Цяпер гэтая жанчына носіць капронавыя панчохі і басаножкі, ходзіць у турысцкія паходы і на танцы. Нікому і ў галаву не прыдзе, што ў яе — пратэзы.

Часта да ўрачоў-артапедаў звяртаюцца людзі са скаргамі на тое, што ў іх баляць ногі і нельга хутка хадзіць. Часцей за ўсё прычынай такога болю з'яўляецца пляскатая ступня. Людзям з пляскатай ступнёй, са скрыўленнямі вялікага пальца або з выпукленнем касці ўрачы выпісваюць спецыяльны артапедычны абутак, асобныя металічныя або скураныя пласцінкі-супінатары. Супінатары вырабляюцца з лёгкіх і эластычных пластыкаў.

У аднаўленчай хірургіі пачынаюць шырока карыстацца новым пластыкам — фторапластам. З яго робяць асобныя часткі храсткоў, касцей.

З фторапластавай плёнкі вырабляюцца эластычныя карсеты, якія надуваюцца паветрам. Яны пазбаўляюць ад лішніх пакут хворых і параненых з пераломамі канечнасцей, калі іх перавозяць з месца на месца, бо амартызуюць штуршкі.

Калі робяць якую-небудзь складаную аперацыю, дык рэдка абыходзяцца без пералівання крыві. У аперацыйнай ужо стаяць напагатове ампулы з донарскай крывёю.

Нядаўна ў клініках паявіўся сінтэтычны кровезамяняльнік «ПВП». Яго стварылі савецкія вучоныя — прафесар П. С. Васільеў і Е. С. Маргунова ў Цэнтральным інстытуце гематалогіі і пералівання крыві разам з навуковымі супрацоўнікамі Інстытута арганічнай хіміі. Робяць яго на аснове палівінілпіралідона. «ПВП» цалкам замяняе донарскую кроў.

За апошнія гады хімікі стварылі шмат новых сінтэтычных лякарстваў, якія дазваляюць паспяхова вылечваць розныя хваробы: туберкулёз, малярыю, гіпертанію.

Поспех лячэння хворага пры дапамозе лекавых прэпаратаў часта залежыць ад таго, колькі часу гэтыя прэпараты могуць трымацца ў арганізме. Каб падоўжыць час знаходжання лекавага прэпарата ў арганізме хворага, адначасова ўводзяць якое-небудзь арганічнае рэчыва, якое затрымлівае распад асноўнага лякарства.

І вось выявілася, што калі ў малекулу кровазамяняльніка — палівінілпіралідона — увесці малекулы таго ці іншага лякарства, дык можна рэгуляваць час знаходжання гэтага лякарства ў арганізме.

Нагляданні прафесара С. Н. Ушакова паказваюць, што ў малекулы кровазамяняльніка можна ўводзіць атамы металаў, якія валодаюць лячэбным дзеяннем, напрыклад, срэбра, ртуці, свінцу, ліцію. Добра спалучаюцца з вінілпіралідонам злучэнні свінцу і мыш'яку, а таксама саліцылавая кіслата.

Стварэнне лякарстваў на аснове кровазамяняльнікаў адкрывае новыя перспектывы ў лячэнні хвароб і дазволіць больш эфектыўна выкарыстоўваць гаючае дзеянне сінтэтычных медыкаментаў.

У хірургічнай практыцы часам сустракаюцца выпадкі замены стрававода трубкамі з пластмасы. У некаторых хворых можна сустрэць артэрыі і вены з эластычных пластмасавых плёнак. Добра зарэкамендавалі сябе сухажыллі з нейлону і лаўсану. Для накладання шва ў шпіталях і бальні-

цах карыстаюцца капронавай ніткай. А ў недалёкім будучым хірургі зусім перастануць сшываць тканкі — яны проста будуць склейваць іх, як лісты паперы або кавалкі дрэва. Клеем жа будуць служыць палімеры — сінтэтычныя смолы.

Для вырабу штучных крываносных сасудаў часта карыстаюцца і палівінілавымі губкамі. Гэта цвёрды, белага колеру матэрыял, які пры размочванні ў гарачай вадзе становіцца мяккім і эластычным, як гума.

Палівінілавую губку разразаюць на тонкія пласцінкі, таўшчынёю 3—4 міліметры, накручваюць іх на гладкія металічныя цыліндры рознага дыяметра і вараць 10—15 мінут. Пад уздзеяннем цеплыні краі пласцінак «зварваюцца» і атрымліваюцца трубкі патрэбнага дыяметра. Пасля ахаладжэння іх здымаюць з цыліндра, як пальчатку з рукі.

Штучныя крываносныя сасуды добра зрошчваюцца з натуральнымі і не выклікаюць ніякіх хваравітых з'яў у арганізме. Праходзіць 2—3 месяцы і ўнутраная паверхня пластмасавых крываносных сасудаў пакрываецца клеткамі эндатэлія, як і ў здаровым крываносным сасудзе.

Заглянем у аперацыйную. Яркае святло залівае белыя сцены. На стале, пакрытым бялюткай цыратай, прыгатаваны бліскучыя інструменты. Да гэтага часу іх выраблялі з нержавеючай сталі або асобных сплаваў. А цяпер ужо многія з іх зроблены з пластмас.

Кандыдат тэхнічных навук Т. Д. Малдовер з групай супрацоўнікаў распрацаваў канструкцыю пластмасавага шпрыца. Іх выраблююць ужо дзесяткамі тысяч на адным з нашых заводаў медыцынскага абсталявання. Шпрыц з паліурэтана больш трывалы і лягчэйшы за шкляны. Ён не разбіваецца. Вадкасць у ім не праліваецца на поршань. Да таго ж ён у пяцьшэсць разоў танней за шкляны.

Пластмасы прымяняюцца ў медыцыне і пры вырабе розных апаратаў.

У некаторых клініках і бальніцах можна ўбачыць незвычайны апарат. Ён дазваляе вывучаць кровазварот чалавека. У гэтым апараце ёсць сваё сэрца і свае лёгкія. І ўсё гэта зроблена з празрыстага, трывалага арганічнага шкла.

Кроў ад хворага, у якога правяраецца кровазварот, паступае ў гэты апарат па тонкіх трубках з паліхлорвінілу. Каб яна не згортвалася, усе ўнутраныя паверхні апарата засланы плёнкай сіліконавага каучуку.

Калі кроў вяртаецца з апарата хвораму, яна праходзіць праз фільтр, сатканы з капронавых нітак.

Вынаходнікі распрацавалі шмат неабходных медыкам прыбораў і апаратаў, у якіх большасць дэталей зроблена з пластмас.

У бліжэйшы час будзе наладжаны выпуск медыцынскага абсталявання з шырокім выкарыстаннем самых разнастайных пластмас — акрылатаў, паліэтылену, паліурэтану і іншых.

Савецкія ўрачы сумесна з хімікамі і біёлагамі распрацоўваюць рэцэптуры новых сінтэтычных матэрыялаў, каб хутчэй і лепш вылечваць хваробы людзей.

## У свеце мастацтва

# ТВОРЧЫЯ БУДНІ

### З запісаў рэжысёра

Падрыхтоўка новага спектакля ў драматычным калектыве Пастаўскага раённага Дома культуры набліжалася к канцу, калі прыйшла радасная вестка: калектыву прысвоена назва Народнага тэатра. На тварах самадзейных артыстаў можна было бачыць не толькі шчаслівую ўсмешку, але і некаторую ўстрывожанасць. Тэатр... Народны тэатр... Страшнавата! Трэба ж апраўдаць новую назву. Як? Чым?

Шэсць гадоў існуе самадзейны драматычны калектыў у Паставах, а ўжо мае сваю творчую гісторыю з пэўнымі поспехамі, якія адзначаліся прэміямі на аглядах і нават Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Вось яны — гэтыя поспехі: «Позняе каханне» А. Астроўскага, «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка, «Не верце цішыні» І. Шамякіна... За шматкроп'ем, пастаўленым тут, яшчэ некалькі спектакляў, канцэртных праграм. І вось калектыў рыхтуецца да ўвасаблення на сцэне новай п'есы украінскага драматурга М. Заруднага «Вясёлка».

У той дзень рэпетыцыя была вельмі напружаная. Рэжысёр, не гледзячы на заўсёдную сваю вытрымку і знешнюю ўраўнаважанасць, сёння нерваваўся і прыдзіраўся можа нават больш, чым трэба было. Прыдзіраўся да слова, жэсту, не абмінаў ніводнага рабочага шораху не толькі на сцэне, а нават і за кулісамі.

— Што там за шум? Хто там размаўляе? Куды вы пайшлі?

— За кулісы пайшоў.

— Не за кулісы, а ў сад пайшлі, у сад. І там нікога няма — з кім жа вы пачалі гаворку?

Так. Сёння атрымлівалася нешта горш, чым заўсёды. Словы, словы, словы — мора нікому непатрэбных пустых слоў. І ў вачах пустата. Фальшыва ўсё. Размаўляюць і дзейнічаюць механічна, завучана, нібы павіннасць адбываюць.

— Спыніцеся! Рэпетыцыю спынім. Зусім. Так. Садзіцеся. Садзіцеся і раскажыце сваімі словамі — што тут адбываецца? Не. Перш давайце коратка ўспомнім змест усёй п'есы. Ну, хто раскажа? Вы, Шэлест? Калі ласка.

— Антон Краж ад'язджае з калгаса. Агульны сход не выбраў яго зноў старшынёй, а прагаласаваў за брыгадзіра Змітра Шэлеста — кражавага выхаванца. Краж пакрыўджан, абураны: як жа гэта?! Ён ладзіў калгас: «...Вось, вось яно ўсё... Праца мая і маладосць... у кожным каменьчыку, у кожным дрэўцы...» Шмат перадумаў, пакуль згадзіўся: «...ну, калі так, дык мне лепш зусім выехаць... Цяпер хай маладыя, акадэмікі няхай пагаспадараць... перашкаджаць не буду...» Няхай усе бачаць, як Краж пакідае калгас. Ён едзе да зяця, да мужа старэйшай дачкі Волькі. Зяць Пятро Касяк загадвае млынам. Там — ціха, там ён адпачне, нічога не будзе рабіць. Краж упарты і не хоча...

— Расказвайце далей вы, Самапал.

— Добра. Краж упарты, але не хоча сазнацца ў гэтым. Ён, на самай справе, нудзіцца па рабоце ў калгасе і балюча перажывае ўсё, што там робіцца без яго, але ўтойвае гэта. Са мной, гэта значыць з Самапалам, усё спрачаецца. Ён жа мой лепшы сябар яшчэ з грамадзянскай, і я яго ведаю, як чалавека сумленнага, адданага і

добрага практыка, але з адсталымі поглядамі на жыццё. І характар у яго круты, любіць навязваць сваю волю іншым, сям'і, дзецям...

— Хопіць. Цяпер вы прадаўжайце, Волька.

— Гэта праўда. Па загаду бацькі, дагаджаючы яго ўпартасці, Волька выйшла замуж за нялюбага, здрадлівага і нявартага чалавека. «Вы, вы з Касяком загубілі маё жыццё», — нарэшце кажа яна бацьку праўду ў вочы. Цяпер Краж збіраецца выдаць сярэднюю дачку Наташу за калгаснага бухгалтара Рындзю. Збіраецца, як ён кажа, яе «прыладзіць»... Краж добра ведае, што Рындзя хітрун і падхалім, і ўсё ж не можа ўстояць перад ліслівымі абяцаннямі бухгалтара. Але Наташа і Святлана не падобны да Волькі. Яны маюць сваю, цвёрдую дарогу, мэту, добрых сяброў.

— А чым, скажыце, Наташа, тлумачацца такія адносіны Кража да дачок? Хіба ён вораг сваім дзецям?

— Вядома, не вораг. Наадварот, яму здаецца, што іх шчасце, іх будучыня залежаць цалкам ад яго клопатаў, ад таго, як ён іх «прыладзіць»... І што для яго, як ён сам кажа, «...галоўнае, каб яны ўсе пры мне былі». Але вось Наташа і Сашко пажаніліся ды паехалі на цаліну, паехаў на курсы вучыцца стары Кражаў сябар Самапал, ад'язджаюць Святлана з Раманам у другую вёску, у трактарную брыгаду, выязджаюць і Волька з Змітром... Цяпер толькі Краж прыходзіць да думкі, што трэба і яму хутчэй вярнуцца да людзей, да працы, у родны калгас.

Яшчэ не аднойчы прыдзецца вяртацца да зместу ўсёй п'есы «Вясёлка», паасобных яе сцэн. Гэта дапамагае засваенню ўсімі выканаўцамі ліній, па якіх разгортваецца сюжэт, уразуменню ідэйнай сутнасці твора, цэльнасці мастацкага мыслення.

— Ну, а цяпер раскажыце, што адбываецца ў гэтай сцэне, якую мы рэпетыруем? Пра што вы гаворыце? Каму? І што вы хочаце?.. Ну, хоць бы вы, Самапал? Каля пяці мінут вы аб нечым мірна гутарыце з Кражам? Вы хочаце паказаць, хто лепш з вас памятае словы ролі? Хіба дзеля гэтага вы прыйшлі сюды? Ці ў вас мэта больш важная?

— Даказаць Кражу, што ён памыляецца, што ён смешны ў сваёй упартасці, што ён павінен вярнуцца ў калгас.

— Даруйце. Па вашых паводзінах гэтага не было відаць. А вы зацікаўлены ў тым, каб Краж вярнуўся ў калгас?

— Не разумею пытання. Вядома, зацікаўлен.

— Вы не задаволены маімі пытаннямі. Пераадрасуйце гэтую незадаволенасць Кражу. Выказвайце яму вашу незадаволенасць ім, яго паводзінамі і размаўляйце з ім так, як вы толькі што са мной гаварылі. Давядзіце вы яму, ды больш энергічна, што ён глыбока памыляецца. Устаньце! Паўторым усё спачатку.

Рэпетыцыя ў той вечар зацягнулася далёка за поўнач. Некаторыя выходзілі з Дома культуры сумныя, а я, прызнацца, радаваўся вынікам гэтай рэпетыцыі, бо адчуваў турботы, бачыў, як у большасці ўдзельнікаў расла трывога і сапраўднае хваляванне за кожны рух на сцэне, за кожнае сказанае пры гэтым слова — за сябе, за таварышаў, за калектыў, які называўся ўжо тэатрам.

Можа хто адчуў сябе вінаватым ў мастацкім браку. Добра. Хай змагаецца за якасць, хай адчуе адказнасць, хай пахвалюецца. Ці не занадта песцім мы часам нашу самадзейнасць аглядамі, прэміямі, граматамі?! Ці не прыводзіць гэта да самазахаплення, калі пачынае кругам ісці галава ад поспехаў?! Адчуванне сябе незаменнымі, зазнайства прыводзяць да парушэння творчай дысцыпліны,



**Сцэна са спектакля «Вясёлка». Антон Краж** (І. Казенка) **з дочкамі Святланай** (В. Сцефаненка — злева) **і Наташай** (Н. Саванкова — справа).

Фота М. Чарняўскага. (Паставы).



да працяглай бяздзейнасці ў чаканні падрыхтоўкі новага агляду...

І вось застольны перыяд работы над п'есай «Вясёлка» застаўся ззаду. П'еса спадабалася з першага ж чытання. З кожнай рэпетыцыяй яна падабалася ўсё больш і больш. Тэма блізкая, вобразы знаёмыя, сучасныя. І ўсё ж на кожнай рэпетыцыі выканаўцы шукалі ў сваіх ролях штосьці новае, шукалі і знаходзілі, гублялі і зноў шукалі.

Аднойчы, у час яшчэ першай, другой ці трэцяй рэпетыцыі, нехта з тых, што сядзяць воддаль, кінуў слоўца ціха. Слоўца, відаць, было смешнае, бо тыя, што сядзелі бліжэй, зарагаталі, але ціха, каб не перашкаджаць рэпетыцыі. Кіраўнік не заўважыў, не рэагаваў. Значыць, пранесла міма.

Тыя, хто не заняты быў у сцэне, якая зараз рэпетыравалася, прадоўжылі свае «ціхія» забавы. Пачуўся смяшок. Хтосьці несвоечасова ўступіў у дыялаг. Раздаўся агульны смех. Прапанова зрабіць перапынак.

Скончыўся перапынак. Зноў ідзе рэпетыцыя, але праз некаторы час шумок аднавіўся. У адным, другім кутку пачынаюць шаптацца, смяяцца... Завадатары смялеюць, пускаюць дасціпныя жарты, часам, пошлыя — гэта відаць па тым, як чырванеюць дзяўчаты. Творчы настрой знікае. Выканаўцам цяжка сканцэнтраваць сваю ўвагу, адчуваць партнёра, дзейнічаць. Адны бянтэжацца, зрываюцца, расхалоджваюцца. Другія пачынаюць злаваць, скардзіцца на тых, хто перашкаджае. Рэпетыцыю далей весці нельга...

У некаторых калектывах прынята склікаць на рэпетыцыю ўсіх удзельнікаў спектакля — патрэбны яны ці непатрэбны. Але не заўсёды карысныя такія зборы. Чым далей ідзе работа над п'есай, тым больш даводзіцца затрымлівацца на асобных сцэнах, дыялагах, маналогах. Удзельнікам, якія не заняты ў гэтых сцэнах, пры іх частым паўтарэнні становіцца нецікава. Яны пачынаюць сумаваць, бурчэць, што дарэмна выклікалі. Хто вінаваты ў гэтым? Вядома, рэжысёр. Трэба так спланаваць сваю работу, каб не выклікаць лішніх людзей на рэпетыцыі.

За культуру паводзін на сцэне і за кулісамі трэба змагацца вельмі сур'ёзна. Нядобра, калі ўдзельнік сам, без дай прычыны спыняе рэпетыцыю, але вельмі прыемна, калі акцёр сам сябе кантралюе: «не, не тое...» Значыць, ён адчувае, дзе фальш, баіцца яе, хоча знайсці праўду. Такому выканаўцу заўсёды хочацца дапамагчы, падказаць. А можа ён і сам патрапіць... Звычайна такі акцёр кажа: дазвольце, я сам. Зараз, зараз. Прабуе яшчэ раз — зноў не тое. Ён неспакойны, але за гэтага неспакойнага можна не турбавацца — ён дойдзе да праўды. Горш з тым, хто бяспечны. За іх трэба больш непакоіцца. Адзін, бачыце, ролі не ведае: «Дзе роль? — Згубіў. Дома пакінуў. Заўтра буду ведаць». Другі ведае ролю, вызубрыў напамяць словы, але гаворыць іх зусім без сэнсу, аднатонна. Трэці перастараўся — падрыхтаваў дома ролю з інтанацыямі, партнёра не чуе і чакае толькі сваёй рэплікі.

Яшчэ на першай рэпетыцыі ўся п'еса была разбіта на эпізоды — іх ва ўсіх чатырох актах каля сарака. Далі назву кожнаму эпізоду. У назве вызначан змест і лінія развіцця дзеяння. Усё, як кажуць, па-школьнаму. Але гэта не так ужо і блага: ведаеш — хто, дзе, калі і з кім дзейнічае, лёгка аднаўляецца ў памяці логіка, паслядоўнасць падзей, зручна сачыць за лініяй паводзін вобраза і агульным ходам дзеі. Удалыя назвы эпізодаў з'яўляюцца цудоўным сродкам кантролю. Некаторыя назвы вызначаюць лінію паводзін вобраза не толькі ў эпізодзе, але і на працягу ўсяго спектакля. Напрыклад: Рындзя праводзіць; Рындзя заляцаецца, Рындзя — «сябар дома»; Рындзя падлабуньваецца; Рындзя сватаецца; Рындзя страціў нявесту; Рындзя перакінуўся і г. д.

Спыняецца рэпетыцыя — трэба высвеціць галоўнае: ці разумее выканаўца, што ён робіць? Ці помніць ён месца дзеяння, абстаноўку вакол, чаго дамагаецца — якую канкрэтную задачу сабе ставіць? І тут назва эпізода дапамагае. Пачынаюцца зноў перасцярогі, падказванне і пошукі сродкаў выяўлення. Азбучныя ісціны ўсё гэта, але трэба іх паўтараць яшчэ і яшчэ, пакуль не даб'ешся сцэнічнай праўды, дзейснага выражэння, адпаведнага рытму.

Умовы народнага тэатра, калі абмежаваны сцэнічныя магчымасці і колькасць выканаўцаў, выклікаюць неабходнасць скарачэння п'есы. У другой карціне мы пайшлі на тое,

каб зняць цэлы эпізод «моладзь весяліцца» (калі да Наташы прыходзяць сябры). Грамоздкая сцэна з «паваротам круга» толькі прытармажвае дзеянне і адводзіць гледача ад асноўнай ідэі п'есы. Чацвёрка «маладых» у нас была даволі вясёлай, тэмпераментнай, музычнай і не патрабавала ўзмацнення дапаможным саставам.

Сашко і Раман — маладыя хлопцы: першы іграе на баяне, другі — на гітары. Мы і падабралі такіх выканаўцаў. Як прыемна, калі акцёр сам іграе на музычным інструменце, а не імітуе гэтую ігру, напружана прыслухоўваючыся да гукаў, што даносяцца з-за куліс. У глыбіні саду, недзе за альтанкай, сама сабой узнікла сапраўдная атмасфера весялосці — танцавалі, спявалі, прыхлопвалі ў такт, і ўсё тая ж чацвёрка.

Ніякай патрэбы займаць вольных акцёраў не было. Зусім розныя па характару і тэмпераменту: ціхі, але смелы і кемлівы Сашко, парывісты, нястрыманы Раман, энергічная, гарэзлівая, але непасрэдная і шчырая Наташа, уражлівая і крыху наіўная, «дамашняя» Святлана — усе разам яны склалі здзіўляючую гармонію светлай радасці працы, веры ў жыццё, у людзей, адналітную групу добрай, разумнай моладзі, ад шчырасці думак каторых, дасціпных жартаў і заўзятай весялосці не можа стрымацца, каб не ўсміхнуцца, нават злосны Краж. І ўсё гэта зрабілі толькі чатыры выканаўцы.

Не ўсе сцэны ўдаецца хутка і лёгка вырашыць. Больш ці менш удалая назва эпізода яшчэ не гарантуе паспяховага сцэнічнага ўвасаблення правільна зразуметай думкі драматурга.

У другой карціне ёсць такое месца: сёстры Волька, Наташа і Святлана сядзяць утраіх на двары. Гутарка не ладзіцца, хтосьці спрабуе заспяваць. Адкрываецца фортка, уваходзіць Касяк, вітаецца. Наташа запрашае яго сесці. «Пасядзіце з намі, спяем»,— кажа яна да Касяка. «Можна і паспяваць, — адказвае той: «Запявай, Наташа!» І раптам ён угледзеў пакінуты ў двары Кражам ножык, забытыя ніткі. Касяк спахмурнеў. «А вось і шчэпачка», — дражніць яго Наташа. Касяк пакрыўдзіўся, нешта буркнуў. «Оля, можа я б павячэраў?» — звяртаецца ён да жонкі. Волька ўстае. «Не турбуйся, не турбуйся, — спыняе яе Касяк, — я бульбачкі пад'ем, што ад снядання засталася, з мяне і хопіць». Касяк ідзе ў хату. Вось і ўся сцэна.

Пачалі рэпетыраваць, усё як быццам правільна. Але не цікава. Чагосьці не стае і, здаецца, самага галоўнага. Няма **рытму сцэны.** Невядомы стан Волькі. Чаго яна сядзіць тут? І што з Касяком? Хітруе ён ці сур'ёзна гаворыць? Што ён хіцёр — вядома, але прычына яго хітравання зараз няясная. Ці не Волька з'яўляецца прычынай?

Тут бы магло выручыць добрае **фізічнае дзеянне,** але каб хто падказаў. Звернемся да Станіслаўскага. «Вы ведаеце, што справа не ў фізічным дзеянні, — піша ён, — а ў тых умовах, прапануемых акалічнасцях, адчуваннях, якія яго выклікаюць. Паміж сцэнічным дзеяннем і прычынай, якая нарадзіла яго, існуе непарыўная сувязь... Праз гэтыя дзеянні мы імкнёмся раскрыць унутраныя прычыны, якія нараджаюць асобныя моманты перажыванняў, логіку і паслядоўнасць адчування ў прапанаваных жыццём ролі акалічнасцях. Зразумеўшы гэтую лінію, мы зразумелі і ўнутраны сэнс фізічных дзеянняў... З той прычыны, што гэта лінія непарыўна звязана з другой, унутранай лініяй пачуцця, нам і ўдаецца праз дзеянне абудзіць эмоцыю...»

Фізічнае дзеянне Волькі — даіць карову, карміць свіней, курэй. Даёнка, вёдры, карыта. Зноў даёнка, вёдры... раніцай і вечарам, дзень за днём. Ох, як надакучыла. Стоп, восьвось! Вось яна прычына! «Надакучыла! Усё надакучыла: даёнкі, свінні,


**Валянціна Сцефаненка ў ролі Святланы.**



каровы, вёдры... Адпачыць бы ад усяго гэтага, хоць бы на гадзінку, ну пяць мінут. Зараз жа. Забыцца пра ўсё, пакуль муж не прыйшоў. З сёстрамі пасядзець. Пагутарыць з імі, песню запець, кнігу прачытаць. Кніга!.. Божа мой, даўно ўжо кніжкі не трымала ў руках. Няўжо я яшчэ ўмею кнігі чытаць? Дзе яна... кніга? Вось яна».

І Волька выйшла з кнігай. Кніга. Яна і вырашыла гэтую сцэну. Сёстры даўно не бачылі Вольку з кнігай у руках. У вачах праз слёзы засвяцілася штосьці жывое, светлае... Адчыняецца фортка, уваходзіць Касяк — Вольчын муж, з галавы да ног абсыпаны мукой. З млына прыйшоў.

— Дзень добры! — і Касяк аслупянеў: «Што тут робіцца? Спяваюць сярод белага дня. Абібокі, дармаеды. І Волька з імі, з «сястрычкамі». А гэта што?» — у вачах у яго замільгацела. «Быць не можа... Няўжо кніга? Волька з кнігай! Здзяцінела» — раз'юшаны Касяк вырывае кнігу з Вольчыных рук, твар яго перасмыкнуўся. — «Жонка без работы сядзіць, кніжкі чытае — сёстры побач, спяваюць... Добрая сямейка. На сваю галаву ўзяў дармаедаў. Адлупцаваць бы іх да смерці, выгнаць прэч, на вуліцу! Не...» Касяк перасцерагае сябе: «Не сарвацца мне толькі. Асцярожна-асцярожна...» І ён сунуў кнігу зноў у жончыны рукі. «На кім бы спагнаць сваю злосць». Азіраецца вакол. «Ага, ножык валяецца... ніткі...» Наташа прэцца на ражон... не, Касяка не перахітрыеш. Раней выдам цябе замуж за Рындзю... а потым скручу ў барановы рог. А Волька сядзіць яшчэ. Муж прыйшоў галодны, а яна сядзіць... «Сядзі, сядзі!.. Я бульбачкі пад'ем, што ад снядання засталася...» («яшчэ пагаворым!») і знік.

Усё ў гэтай сцэне стала на месца.

Або яшчэ вачыма Касяка. Рэпетыруецца сцэна з чацвёртай карціны. Касяк дае Вольцы грошы на мыла. Ён выбірае ёй старыя паперкі, адлічвае дробныя і незнарок абраніў манету. Касяк быў папрасіў прабачэння і быстра паднёў яе, але раптам задумаўся, хітра ўсміхнуўся і пачаў сцэну спачатку. Вось ён лічыць рублі, потым адлічвае дробныя і... зноў манета звалілася. Касяк мігам кінуўся на падлогу шукаць манету і не знаходзіць яе... Знікла... Ён нервова поўзае па закутках, потым злосна глянуў на Вольку: «усё ты вінавата — мыла, мыла...» Уз'юшаны, зноў кінуўся шукаць: «дзе ж яна? божа мой...» І раптам радасна крыкнуў: вось! Вось яна, хе-хе... Ёсць! Знайшоўтакі, дзякуй богу... бач якая, хе-хе... Ёсць!


**Ігар Дабрацоў у ролі Касяка.**

— Вось табе, Оля, чатыры рублі і сорак капеек.

Пошукі абронёнай манеты ператварыліся такім чынам у цікавую сцэну, якая ярка падкрэслівае характар Касяка.

Новым святлом раптам пачынае свяціцца тая сцэна, дзе паводзіны акцёра глыбока шчырыя і абумоўлены асабістым самаадчуваннем, яго ўнутранымі адносінамі да падзей.

Трэцяя карціна. Змітро сустрэўся з Волькай. Нечакана паяўляецца Касяк. — «Тата! — крычыць ён не сваім голасам. — Тата! Вось гляньце на сваю...» Збягаюцца людзі. Шум. Скандал. Краж кідаецца на Змітра з каромыслам. Раптам раздаецца поўны адчаю крык Наташы. «Не чапайце іх!» Усе сціхлі. «Не чапайце іх», — паўтарае яна праз слёзы: — «...яны любяць адзін аднаго! І вы нічога не зробіце». Краж схіляе галаву долу. Усе ціха расходзяцца. Застаецца адна Наташа.

Пачынаецца наступная сцэна. Наташа і Сашко.

— Я не магу пасля таго, што зараз здарылася з Волькай, весела балбатаць з Сашком. Не магу пераключыцца, — скардзіцца Наташа.

— І не трэба.

— А як жа быць тады? Гэта ж



**Сцэна са спектакля «Вясёлка». Святлана** (В. Сцефаненка) **і Раман** (У. Бабянкоў).

неяк смешна. Смешна, што Сашко ва ўсім згаджаецца са мной.

— А вам смешна?

— Мне таксама смешна, але я зараз не ў гуморы.

— Ну вось і **пагаварыце** з Сашко, будучы «не ў гуморы». Зразумелі?

Наташа пачынае **дыктаваць** свае ўмовы Сашку. Сцэна пайшла зусім у іншым кірунку і ад гэтага стала ярчэйшай. Яна стала арганічнай, дзякуючы шчырасці выканаўцы.

Пад канец сцэны Наташа кажа Сашку:

— А цяпер пацалуй мяне і чакай.

І адразу ж просіць: хай не цалуе мяне тут, на рэпетыцыі. Можна?

Не пытаюся чаму.

— Добра, — кажу, — не будзе ён вас цалаваць. Як толькі захоча пацалаваць — устаньце, бяжыце.

— А як жа словы: «Цяпер пацалуй мяне», сказаць?

— Сказаць — скажыце, а цалаваць не дазваляйце.

Наташа задаволена.

Чацвёртая карціна.

Волька канчаткова парашыла пакінуць Касяка.

— «На ланцуг навяжу, на ланцуг, — злосна шыпіць Касяк.

— Парву! — адказвае Волька.

— Ты?

— Кіну я цябе. Кіну!»

— Можна мне пры гэтых словах зняць фартух? — пытаецца на рэпетыцыі Волька.

— Зніміце фартух і кіньце яго ў твар Касяку.

— «Кіну я цябе!» — крычыць Волька і зрывае з сябе ненавісны фартух, нібы путы, аковы. — «Кіну!» — і фартух ляціць проста ў твар Касяку, як аплявуха, як праклён.

Самыя дарагія моманты ў рэпетыцыі — вось гэтыя **ўзаемныя творчыя падказкі**. Трэба імкнуцца, каб іх было больш.

Пакуль ідуць напружаныя пошукі правільнага сцэнічнага ўвасаблення аўтарскіх задум, не адпачываюць і тыя ўдзельнікі, якія не заняты ў рэпетыцыях. А з імі разам працуюць усе работнікі Дома культуры — сталяр і прыбіральшчыцы, бухгалтар, вартаўнік, білецёры. Усе яны пад кіраўніцтвам мастака А. Агафоненкі майструюць, шыюць, фарбуюць, лепяць...

Рабочы дзень у Народным тэатры пачынаецца а дзесятай гадзіне раніцы. Бывае і раней. Першую гадзіну да пачатку рэпетыцыі і перапынкі скарыстоўваем на арганізацыю работ па афармленню спектакля, на нарады з мастаком і памочнікам рэжысёра, каб удакладніць усе дробязі.

Новае памяшканне Дома культуры ў Паставах багатае. Яно мае залу на 450 месц з балконам, Не забыліся павесіць пышную люстру, а вось сцэну зрабілі, як карабок, з нізкай столлю, без кішэняў і ар'ерсцэны. Кулісы, падугі і сафіты падвешаны на рэйках. Пераставіць кулісы, памяняць падугі або выкруціць лямпачку з сафіта — вельмі складаная аперацыя, якую можна выканаць толькі паўзучы папластунску па рэйках пад столлю. Упарадкаванне сцэны, якая пабудавана без вышыні, без глыбіні, без кішэняў, адбірае шмат часу.

Звычайна да першай гадзіны дня рэпетыруюць занятыя ў спектаклі супрацоўнікі РДК і тыя, хто вольны ад працы з раніцы. У час абедзеннага перапынку ўдаецца прарэпетыраваць кароткія сцэнкі. Асноўны цяжар пераносіцца пасля шасці гадзін, калі вольная ад асноўнага занятку большасць выканаўцаў. Дзіву даешся: чым больш стамляюцца людзі ад рэпетыцый, чым радзей бываюць перапынкі і даўжэй цягнецца рэпетыцыйная пара, тым больш плённа ідзе работа — асэнсаваная, творчая праца самадзейных удзельнікаў.

Хто ж яны, гэтыя сапраўдныя энтузіясты? Больш трапнай назвы для іх і не знойдзеш.



Ролю галоўнага героя п'есы Антона Кража рыхтуе інструктар Дома культуры І. Казенка, Рындзі — таксама супрацоўнік Дома культуры Э. Ягораў.

У спектаклях народнага тэатра вы сустрэнеце Аню Стасюк, Ігара Дабрацова, Уладзіміра Бабянкова.

Пры Доме культуры існуюць акрамя тэатра і іншыя мастацкія калектывы. Добра спявае і цудоўна танцуе Эма Рамашка — работніца цагельні. Хор, танцавальная група ганарацца будаўнікамі Славам Бураком і Ванем Янкоўскім, экскаватаршчыкам з РТС Зотам Лосікам, электраманцёрам Валодзем Суханавым, тэлеграфісткай Данутай Беліцкай... Ды ці пералічыш іх усіх, людзей творчага гарэння, юнакоў і дзяўчат, каго здолела здружыць у цудоўны мастацкі калектыў дырэктар Дома культуры М. Ароцкая.

Шмат затрачана працы, часу, энергіі. Шмат хваляванняў і турбот было ў часе падрыхтоўкі новага спектакля, але ніхто не шкадаваў аб гэтым. Хутка з'явіліся першыя рэцэнзіі. Дазволім звярнуцца да адной з іх, надрукаванай у абласной газеце «Чырвоны сцяг».

«Спектакль пачынаецца. Сёння ідзе п'еса М. Заруднага «Вясёлка». Спачатку зала сустракае артыстаў стрымана... Але па меры таго, як разгортваецца дзея, кантакт паміж акцёрамі і гледачамі становіцца мацнейшым і больш адчувальным. Не бяда, што сцэна малая, што святло ўвесь час мільгае... — людзі, якія сядзяць у зале, гэтага проста не заўважаюць. Яны цалкам захоплены падзеямі, якія разгортваюцца на сцэне.

Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зірнуць на твары. На іх пачаргова ўзнікаюць то гнеў і пагарда, то спачуванне і літасць, то ўхвала. Вось зала дружна і весела рагоча, а потым раптам надыходзіць глыбокая ўсхваляваная цішыня, усе сталі дыханне. У аднаго—другога на вачах слёзы, нехта ў кутку нават усхліпнуў. Не трэба валодаць вялікай назіральнасцю, каб зразумець: тыя, хто сядзіць у зале, забыліся, што перад імі акцёры, забыліся на ўсе ўмоўнасці сцэны. Яны бачаць людзей, якія пакутуюць, радуюцца, памыляюцца і зноў знаходзяць правільны шлях, і ўсёй душой падзяляюць іх радасць і гора. Ці можа быць вышэйшай ўзнагарода для акцёра? Гэта ж азначае, што здолеў ён заваяваць сэрцы гледачоў, здолеў перадаць ім самыя тонкія рухі душы свайго героя. А магчыма, і памагчы каму-небудзь зразумець нешта ў сабе, у сваім лёсе, памагчы вырашыць, як жыць далей, якім шляхам ісці... Значэнне дзейнасці Пастаўскага самадзейнага калектыву цяжка пераацаніць. Ён нясе высокую культуру ў масы працоўных, памагае ім змагацца за выкананне планаў сямігодкі.

Калектыву прысвоена пачэснае званне Народнага тэатра. Падзея гэта не толькі выклікала ва ўсіх пачуццё радасці і гонару, але і абвастрыла пачуццё адказнасці, якое з'яўляецца зарукай новых творчых поспехаў маладога тэатра.»

Пачуццё адказнасці, каб дамагчыся новых творчых поспехаў, — зусім правільна. Калектыву шмат яшчэ працы наперадзе. Трэба спадзявацца, што дружныя воплескі, якімі надараюць гледачы і мастака А. Агафоненку за цудоўнае мастацкае афармленне, і акцёраў за натхнёнае выкананне, не зменшаць маладога творчага парыву, якім поўніўся калектыў Пастаўскага народнага тэатра ў часе падрыхтоўкі спектакля «Вясёлка».

**С. НОВАК.**



**Артысты Пастаўскага народнага тэатра Эма Рамашка і Уладзімір Бабянкоў развучваюць румынскі народны танец.**

## ПОДЗВІГ ЮНАЦТВА

Што такое подзвіг? Хто яны, гэтыя юнакі і дзяўчаты, што не разгубіліся ў час грознай навальніцы, якая ўзнялася над родным краем, а разам са сваімі бацькамі і старэйшымі братамі сталі грудзьмі на абарону савецкай Радзімы? Якімі ідэаламі кіраваліся яны, ідучы ў самае пекла вайны, рызыкуючы сваім жыццём, сваёй толькі што расквітнелай маладосцю?

Адказ на гэтыя хвалюючыя пытанні наш малады сучаснік зможа знайсці ў кніжцы нарысаў «Маладыя патрыёты». * Гэта — праўдзівы летапіс баявых патрыятычных спраў маладых беларускіх камсамольцаў-падпольшчыкаў у дні Айчыннай вайны, хвалюючы расказ пра жывых удзельнікаў партызанскай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на Беларусі.

Фрузу Зянькову вайна застала ў горадзе. Яна бачыла, як на вуліцах разарваліся першыя фашысцкія бомбы. Разам з сябрамі камсамолка Фруза ідзе ў атрад самаабароны, потым імкнецца перайсці лінію фронта і далучыцца да савецкіх войск. Але зрабіць гэта ёй не ўдаецца.

Вярнуўшыся на радзіму, на станцыю Обаль, Фруза становіцца сведкай жудасных падзей: фашысты павесілі на тэлеграфным слупе старога калгасніка Аляксея Лямнёва, расстралялі старшыню мясцовага калгаса Кротава і іншых актывістаў. Фруза раіцца са сваёй сяброўкай-суседкай Валяй Шашковай, як жыць ім далей, што рабіць, калі вакол разгульваюць фашысты-чужынцы. І неўзабаве яны знаходзяць адказ: змагацца, ісці да партызан! Калі ж Фрузе ўдалося наладзіць сувязь з прадстаўніком падпольнага райкома партыі Барысам Маркіянавым, то ён прапанаваў іншае — стварыць з надзейных хлопцаў і дзяўчат баявую падпольную камсамольскую арганізацыю. Фруза адважна, па-камсамольску, выконвае даручэнне прадстаўніка райкома, пазней партызанскага камісара, збірае вакол сябе маладых бясстрашных патрыётаў. І ўжо к вясне 1942 года ў Обалі актыўна дзейнічае баявая камсамольская група. Юныя падпольшчыкі ўстанаўліваюць радыёпрыёмнік, каб прымаць зводкі Савецкага інфармбюро, збіраюць патроны і зброю, пішуць і распаўсюджваюць антыфашысцкія лістоўкі, робяць смелыя дыверсіі.

Ужо з першых крокаў маладым падпольшчыкам давялося стаць перад тварам вялікіх выпрабаванняў. Даznаўшыся, што сёстры-камсамолкі Марыя і Тоня Лузгіны перапраўлялі да партызан партыю савецкіх ваеннапалонных, фашысты схапілі патрыётак, звязалі ім рукі калючым дротам і ўчынілі допыт. Сёстры нічога не сказалі. Гітлераўцы вывелі іх на ўскраіну пасёлка і расстралялі. Гераічная смерць сясцёр Лузгіных ускалыхнула людзей, надала адвагі тым, хто стаў на шлях барацьбы з чужынцамі.

Аўтар нарыса «Юныя мсціўцы» У. Хазанскі сабраў цікавы фактычны матэрыял, знайшоў тых удзельнікаў обальскага падполля, якія засталіся жывымі, і з іх дапамогаю праўдзіва ўзнавіў баявыя справы маладых патрыётаў.

Неўміручы подзвіг маладых падпольшчыкаў Обаля ўвайшоў у летапіс партызанскай барацьбы камсамола Савецкай Беларусі як адна з яе яркіх старонак.

Лагічным працягам хвалюючага расказа аб гераічных подзвігах, якімі праславілі сябе обальскія камсамольцы ў гады суровай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, з'яўляецца нарыс М. Пятніцкага і Л. Вінакурава «Вечна жывыя». Аўтары знаёмяць чытача з баявымі справамі маладых аршанцаў-падпольшчыкаў: Цімкі Дакутовіча, Віктара Тамашэвіча, Жэні Коржаня, Соні Гарбуковай, Марыі Аскерка, Вані Бяляўскага, Генкі Савіцкага, Васі Прыгоды. Як і обальцы, маладыя падпольшчыкі Оршы зрабілі шмат для таго, каб наблізіць нашу перамогу над фашыстамі, выгнаць чужынцаў з беларускай зямлі. Аршанскімі камсамольцамі кіравалі падпольны райком партыі і таленавіты партызан-падпольшчык К. С. Заслонаў.

Аўтары нарыса «Вечна жывыя» ўваскрасілі шмат гераічных эпізодаў падпольнага змагання ў Оршы. Дастаткова прачытаць такія раздзелы з нарыса, як «Фейерверк з палаючых бочак», «Генка-ўсюдыход», «Кароль Оршы», «Фройлен Соня», «Яго называлі арлёнкам у атрадзе», каб уявіць сабе вобразы гэтых бясстрашных юных патрыётаў, якія пражылі кароткае, але слаўнае жыццё ў імя перамогі над ворагам, што ўварваўся на нашу савецкую зямлю.

Савецкі патрыятызм — гэта глыбокае пачуццё любві да сваёй сацыялістычнай Айчыны, якое выхоўваецца на лепшых традыцыях рэвалюцыйнага змагання. Сіла савецкага патрыятызму ў тым, што ён з'яўляецца сапраўды масавым, усенародным. Савецкія людзі ў часіну суровых выпрабаванняў ішлі на подзвіг на фронце і ў тыле свядома, па загаду свайго сэрца, следуючы добрай традыцыі бацькоў, загартаваных у рэвалюцыйнай барацьбе з класавымі ворагамі. Гэтая думка добра падкрэслена ў нарысе Т. Гордышавай «Сыны чырвонай вёскі».

Ціхая ружанская вёска Заполле на Брэстчыне вядома як адзін з цэнтраў рэвалюцыйнага падполля ў заходніх абласцях Беларусі. «Нездарма панічы называлі Заполле чырвоным... Разам з жаночымі хусткамі, чаравікамі і іншымі падарункамі сваім родным і блізкім хлопцы абавязкова прыносілі з заработкаў чырвоны міткаль. А на Кастрычнік, на Першае мая і ў іншыя рэвалюцыйныя святы невядома як з'яўляліся над самымі высокімі ў наваколлі дрэвамі кавалкі чырвонай тканіны».

У Заполлі была актыўная камуністычная ячэйка, якую ўзначальваў Ціхан Ярмак. Як ні лютавалі польскія дэфензіўшчыкі, але знішчыць арганізацыю камуністаў на вёсцы не ўдалося.

Калі пачалася Айчынная вайна, старыя падпольшчыкі, наладзіўшы сувязь з партызанамі, згуртавалі вакол сябе моладзь, стварылі ў вёсцы моцнае падпольнае ядро. Запольскія камсамольцы сабралі шмат зброі і ўзрыўчаткі для партызан, наладзілі выпуск лістовак, а потым самі зрабілі рад дыверсій. Юныя запольцы ахоўвалі друкарню Брэсцкага антыфашысцкага камітэта, якая размясцілася ў лазні Мікалая Гардзея.

Гаварылі, што гэтыя хлопцы паспявалі ў адну ноч даць бой паліцаям, узарваць чыгунку, перахапіць моладзь, якую фашысты гналі ў Нямеччыну, і прасігналіць самалётам з Вялікай зямлі. Нішто іх не палохала.

Т. Гордышава здолела цікава і напружана расказаць пра гераічныя справы запольскай моладзі. Яе нарыс — самы меншы ў кнізе, але ён багата насычаны падзеямі, у ім адчуваецца шчырая аўтарская ўсхвалявансць.

Нарысы, сабраныя ў кнізе «Маладыя патрыёты», — добры працяг пачатага ўжо даўно выдання калектыўных кніг аб незабыўным подзвігу юнацтва ў дні Айчыннай вайны. Каштоўнасць іх перш за ўсё ў фактычнай дакументальнасці, у публіцыстычнай страснасці, з якой аўтары апавядаюць пра бессмяротны подзвіг тых, хто аддаў сваё жыццё за наша сённяшняе шчасце, за нашу будучыню.

Кніжку пра маладых патрыётаў з вялікай карысцю для сябе прачытае кожны малады чалавек, якому яна трапіць у рукі.

**А. ВЕЧАРКОЎ.**

* «Маладыя патрыёты». Нарысы аб падпольных камсамольскіх арганізацыях. Дзяржвыдавецтва, БССР.



## НЕВЫЧЭРПНЫЯ СКАРБЫ НАРОДНЫЯ

У свой час народны паэт Беларусі Якуб Колас у артыкуле «Шануйце і любіце сваю родную мову», звяртаючыся да школьнікаў і піянераў, піcаў: «Роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Пагэтаму вам неабходна так старанна вывучаць родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры». Гэтыя мудрыя словы і сёння гучаць як заклік да сур'ёзнага вывучэння беларускай мовы, яе лексічнага і фразеалагічнага багацця.

Вялікае значэнне пры гэтым мае вывучэнне народных гаворак. Першая спроба арганізаваць сур'ёзнае вывучэнне лексікі беларускіх народных гаворак адносіцца да пачатку другой

паловы XIX стагоддзя, калі з друку выйшаў «Словарь белорусского наречия» І. І. Насовіча, у якім налічваецца звыш 30 тысяч слоў, сабраных у пераважнай большасці на Магілёўшчыне. У яго ўвайшлі і некаторыя словы з народных гаворак Мінскай, Гродзенскай губерняў, часткова лексіка з «Актаў Заходняй Русі».

Больш грунтоўна пытанні лексікі беларускіх народных гаворак пачалі вывучацца пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пры Акадэміі навук БССР у 1925 годзе была створана спецыяльная камісія для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы. У тым жа годзе ёю была выдадзена «Інструкцыя для збірання народнага слоўніка — тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове».

За кароткі тэрмін было сабрана многа матэрыялу. Гэта дало магчымасць ужо ў 1927 годзе выдаць «Віцебскі краёвы слоўнік», які ўключае прыкладна 9 тысяч слоў і каля 300 мужчынскіх і жаночых імён, што сустракаюцца на Віцебшчыне.

У 1929 годзе выходзіць у свет «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны», у якім сабрана лексіка з тэрыторыі былога Чэрвеньскага павету.

Але як у «Віцебскі краёвы слоўнік», так і ў «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» ўключана толькі лексіка, якой няма ў рускай і польскай мовах, што ў некаторай ступені зніжае іх вартасць.

Збіранне матэрыялаў для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы працягвалася аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У час вайны гэты каштоўны матэрыял загінуў. Як толькі Беларусь была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў, зноў пачалося вывучэнне народных гаворак. Гэтай удзячнай справе шмат часу аддаў і Ф. Янкоўскі. На аснове сабранага матэрыялу ён падрыхтаваў да друку «Дыялектны слоўнік» *.

У слоўнік уключаны словы, сабраныя Ф. Янкоўскім на тэрыторыі Глускага раёна Мінскай вобласці. Аўтар сканцэнтраваў сваю ўвагу на словах, якія адсутнічаюць або рэдка сустракаюцца на старонках нашай прэсы. Таму не выпадкова, што ў слоўнік не былі ўключаны словы, якія часта ўжываюцца ў літаратурнай мове і з'яўляюцца агульнабеларускімі.

У «Дыялектным слоўніку» таксама знайшлі сваё належнае адлюстраванне словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных норм сваім фанетычным складам (напрыклад, сталавер — старавер), словаўтваральнымі марфемамі (каровічае малако), граматычным родам (абалачок, памідора).

Падбіраючы матэрыял для слоўніка, аўтар з вялікай любоўю ставіўся да кожнага слова. І таму зусім слушнымі з'яўляюцца яго заўвагі наконт няправільнага ўжывання некаторых слоў у літаратурнай мове.

Для прыкладу Ф. Янкоўскі прыводзіць выраз: «замазка для вокнаў». Ён вельмі прыжыўся ў беларускім радыё, хоць у народзе замест слова «замазка» ўжываецца добра вядомае слова «кіт». Ніхто, напрыклад, з нас не захоча замазваць сабе вокны, але кожны закітуе іх на зіму, каб было цёпла.

Часта на старонках нашых газет можна сустрэць такі выраз, як «церабіць лён» («Калгаснікі прыступілі да цераблення ільну» або «Калгаснікі цярэбяць лён» і г. д.). У народзе мала дзе пачуеш выраз — «церабіць лён». Хутчэй за ўсё скажуць «браць лён», «ірваць лён». Церабіць можна галлё, працярэбліваюць зараснік у лесе. Цярэбяць капусту, буракі, аддзяляючы ў першым выпадку верхнія лісты, а ў другім — гічанне. Можна «церабіць ежу»: ужываецца ў пераносным значэнні, калі чалавек захоча добра есці. І, гледзячы на гэтага чалавека, рэдка хто стрымаецца, каб не сказаць: «Во цярэбіць, аж за вушамі трашчыць».

Па спосабу тлумачэння матэрыялу, па спосабу яго апрацоўкі «Дыялектны слоўнік» Ф. Янкоўскага адносіцца да слоўнікаў тлумачальна-сінанімічнага тыпу. Слова ў ім тлумачыцца або апісальным спосабам або падборам да яго адпаведных сінонімаў. Аўтар тлумачыць словы проста і зразумела, а ў некаторых выпадках прыводзіць цэлыя народныя выразы і сказы, паказваючы, у якім значэнні ўжываецца тое ці іншае слова.

Вельмі добра, што ў слоўніку падаюцца словы ў транскрыбіраваным запісе, калі аўтар паказвае, як вымаўляецца тое або іншае слова жыхарамі Глускага раёна. Для назоўнікаў і дзеясловаў прыводзяцца граматычныя прыметы; сказы, прыведзеныя для тлумачэння слоў, пашпартызаваны, г. зн указваецца тая вёска, дзе было запісана тое ці іншае слова.

Прывядзем некалькі прыкладаў:

**1.** Дзятлу'к (дз[е]тлук) мужч. Зніжальнае. Малы ростам, нямоцны фізічна юнак.

* Ф. Янкоўскі. «Дыялектны слоўнік». Выдавецтва АН БССР. Мінск, 1959.



Йшчэ зь [е]го ні запамагаты, слабенькі нейкі дз[е]тлучок (в. Клетнае).

2. Або'зня (абôзьня, абôзьня) жан. 1. Халодная будыніна для саней і іншых прылад. Там у па́на, Рэ́йтан зва́лі, абôзьня була́. (в. Слаўкавічы). Нам абôзьня трэ́ба. (в. Халопенічы). 2. Пераносн. Вялікая і няўтульная хата. Не́йку абôзьню зрабілі, да ні ха́ту. (в. Клетнае).

3. Дзя'нна (дзя́нна) жан. Жонка дзядзькі. Дзя́нну сваю́ ба́чыла. (в. Касарычы). У дзя́нны папрашу́. (в. Клетнае). Дзя́нна мая́ каза́ла. (в. Барбароў).

4. Цацко'вана (цацко́вано). Упрыгожана. На грудзях цацко́вано (вышытая, расшытая вопратка). (в. Слаўкавічы).

Каштоўным у слоўніку з'яўляецца і тое, што аўтар у некаторых выпадках да часткі слоў прыводзіць паралелі з іншых беларускіх гаворак, а таксама і з некаторых моў: рускай, украінскай, польскай, чэшскай, грэчаскай, нямецкай і г. д. Іншы раз у слоўніку адзначаецца, што тое ці іншае слова сустракаецца і ў творах нашых пісьменнікаў.

У канцы слоўніка змешчаны цікавыя прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэнні, якія шырока бытуюць сярод жыхароў Глускага раёна (напрыклад: «Каб ты смыкам, як языкам», «Сава не родзіць сакала, а такога чорта, як сама», «Кляваць носам» і г. д.).

Кніжка зацікавіць шырокае кола чытачоў. Ф. Янкоўскі пачаў добрую справу. Трэба спадзявацца, што гэтая справа будзе прадоўжана як ім самім, так і знойдзе вартых прадаўжальнікаў.

**М. БАЗАРЭВІЧ.**

# ПА НЯЗВЕДАНЫХ СЦЕЖКАХ

Кожнага, хто сур'ёзна вывучае беларускую літаратуру, не можа не радаваць той факт, што ў апошнія гады ўсё часцей выходзяць з друку манаграфічныя працы аб жыццёвым і творчым шляху нашых найбольш вядомых пісьменнікаў, што пачалі паяўляцца кнігі, прысвечаныя важнейшым пытанням мастацкага майстэрства, даследаванню складаных літаратурных праблем. Кнігі гэтыя, разам з вучэбнымі і метадычнымі дапаможнікамі, дазваляюць шырэй, паўней і глыбей вывучаць родную літаратуру. Выкладчык ВНУ ці настаўнік сярэдняй школы цяпер маюць магчымасць выкладаць матэрыял больш грунтоўна, на больш высокім ідэйна-тэарэтычным узроўні, бо ў іх ёсць пад рукамі тыя крыніцы, адкуль можна чэрпаць новыя факты і думкі.

Праца выкладчыка роднай літаратуры, як вядома, даволі своеасаблівая, спецыфічная. Ён павінен не толькі паведаміць сваім слухачам тыя ці іншыя даты з жыцця пісьменніка, прааналізаваць мастацкі твор, але і зрабіць гэта так, каб выклікаць жывую зацікаўленасць да ўсяго расказанага. Як правіла, у крытычнай літаратуры біяграфічныя звесткі аб пісьменніках падаюцца вельмі сцісла. Наўрад ці можна абудзіць фантазію школьніка, зацікавіць яго, калі яму расказваць толькі аб тым, дзе нарадзіўся, дзе вучыўся, што напісаў той ці іншы пісьменнік. Вучням вельмі надакучае механічна завучваць аднастайна напісаныя біяграфіі, а «сухія» даты і факты лёгка забываюцца.

Вось чаму з кнігай Сцяпана Александровіча «Незабыўнымі сцежкамі»*, якая рэкамендуецца ў анатацыі як «дапаможнік для выкладчыкаў роднай літаратуры і вучняў старэйшых класаў пры вывучэнні біяграфій беларускіх пісьменнікаў», захочуць пазнаёміцца і настаўнік, і цікаўны школьнік. І гэтае знаёмства, напэўна, не будзе бескарысным.

Чытач знойдзе ў кнізе С. Александровіча даходлівa, па-мастацку напісаныя нарысы пра трагічны лёс выдатнага паэта-самародка Паўлюка Багрыма, пра дзяцінства, віленскі і львоўскі перыяды дзейнасці паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі, пра дзіцячыя і юнацкія гады бессмяротнага Янкі Купалы. Разам з аўтарам кнігі ён пройдзе па тых незабыўных сцежках, па якіх хадзілі В. Дунін-Марцінкевіч, А. Міцкевіч, Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, Я. Колас, залюбуецца беларускімі краявідамі, зацікавіцца архітэктурнымі і гістарычнымі помнікамі.

С. Александровіч добрасумленна вывучыў творчасць пісьменнікаў, аб якіх піша, пазнаёміўся з успамінамі і пісьмамі іх сучаснікаў, з архіўнымі матэрыяламі. Усё гэта надае кнізе пазнавальны характар. Аўтар падае ўвесь матэрыял у жывой, мастацкай форме, цікава, захапляльна.

* С. Александровіч. «Незабыўнымі сцежкамі». Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР, Мінск, 1959.

Чытаеш нарыс «Слядамі легенды», і быццам бачыш перад сабой маладога, дапытлівага, чулага юнака Багрыма, быццам знаёмішся з тымі вольналюбівымі, мужнымі людзьмі, якія прывілі паэту любоў да свабоды, якія заахвочвалі яго пісаць на «мужыцкай» мове аб мужыцкай нядолі.

Пабачыш разам з аўтарам кнігі памятныя коласаўскія мясціны—цудоўныя ваколіцы Мікалаеўшчыны, наднёманскае прыволле, велічныя палескія краявіды—і пачынаеш разумець, як жывыя назіранні і ўражанні дапамагалі паэту стварыць у паэме «Новая зямля» і трылогіі «На ростанях» непаўторныя, каларытныя малюнкі прыроды.

Імкненне С. Александровіча дапамагчы настаўніку ці вучню зазірнуць у творчую лабараторыю кожнага пісьменніка вельмі добра адчуваецца ў кнізе. І як вынік—чытач не толькі асэнсоўвае жыццёвы шлях пісьменніка, але і глыбей разумее яго творы, у яго складваецца больш правільнае ўяўленне аб асаблівасцях пісьменніцкай творчай манеры.

Ведучы чытача па жыццёвых дарогах нашых пісьменнікаў, С. Александровіч не забывае паказаць не толькі тое, што мае непасрэдныя адносіны да біяграфіі пэўнага пісьменніка, але і тое, як цяпер выглядаюць тыя мясціны, дзе некалі ён жыў. Аўтар усюды заўважае новае, савецкае.

Па творах Якуба Коласа чытач добра ўяўляе, які выгляд мела калісьці родная вёска паэта: «Пакрывіліся хаты, абвіслі стрэхі на гумнах, купіны моху тоўстаю карою ляглі на гнілых саламяных стрэхах. Збіўся ў кучу будынак. Распаўзліся па полі, як чэрві ў нягоду, бедныя мужыцкія хаты». А сягоння Мікалаеўшчына выглядае зусім інакш, яна памаладзела, пасвятлела. «Пры самым беразе Нёмана,—апавядае С. Александровіч,—раскінулася сяло, прыгожыя шырокія вуліцы абсаджаны маладымі таполямі. Над дабротнымі сялянскімі пабудовамі ўзвышаецца школа—велічная белая камяніца з чырвоным чарапічным дахам, злева дыміць комін цагельнага завода. Бліжэй да ракі—новыя сцены калгасных кароўнікаў і канюшань».

Аўтару добра ўдалося паказаць, што новыя краявіды—гэта сведчанне таго, як непазнавальна за гады савецкай улады змянілася жыццё народа. Такім чынам, разам з пазнавальным характарам кніга мае вялікае выхаваўчае значэнне.

Мэты, якую ставіў перад сабой С. Александровіч, — дапамагчы вучню паўней, глыбей вывучыць біяграфіі буйнейшых беларускіх пісьменнікаў—ён, бясспрэчна, дасягнуў. Больш таго, кніга з задавальненнем будзе прачытана кожным, хто цікавіцца гісторыяй беларускай літаратуры, жыццём і творчасцю яе лепшых прадстаўнікоў.

Шкада толькі, што нарысы С. Александровіча даволі разнародныя па сваіх жанравых адзнаках. У адных выпадках—гэта белетрызаваныя апавяданні аб дзіцячых і юнацкіх гадах П. Багрыма, Цёткі, Я. Купалы, у другіх—дарожныя нататкі ці апісанні мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю пісьменнікаў А. Міцкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, у трэціх—своеасаблівы сінтэз таго і другога. Гэтая рознахарактарнасць у пэўнай ступені парушае цэласнасць кнігі. Уражанне ад яе было б, безумоўна, лепшае, калі б аўтар прытрымліваўся адзінага прынцыпу падачы матэрыялу.

Іншы раз С. Александровіч быццам забывае, што ён піша не для сябе, а для чытача. «Аглядаем муры цікавага архітэктурнага помніка (Дамініканскага касцёла—**М. Я.**), дзе нядаўна за кошт дзяржавы зроблены рэстаўрацыйныя і рамонтныя работы»,—зазначаецца ў нарысе «Навагрудскія сцежкі». А для чытача важна якраз не тое, аглядаў ці не С. Александровіч муры касцёла, а тое, які выгляд мелі яны раней і які маюць цяпер, чаму пра іх трэба ўпамінаць на старонках кнігі. Або другі прыклад з таго ж нарыса: «З думкамі аб братэрскай дружбе беларускага і польскага народаў і іх цесных літаратурных сувязях у мінулым і ў нашы дні пакідаем Дом-музей» (А. Міцкевіча—**М. Я.**). А ці не лепш было б паказаць, што ў музеі вялікага польскага паэта навяло аўтара на думку аб дружбе двух суседніх народаў, аб цеснай сувязі іх культур? Падобных мясцін у кнізе, аднак, не так ужо многа.

Хочацца пажадаць, каб Сцяпан Александровіч прадоўжыў працу па стварэнню нарысаў такога роду аб незабыўных сцежках Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Кузьмы Чорнага і іншых беларускіх пісьменнікаў.

**М. ЯРОШ.**

# Выйшлі ў свет

На паліцах кнігарань рэспублікі з'явіліся новыя кнігі, выпушчаныя Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі.

**Раман Сабаленка. Блакітнае ззянне.** 200 стар. 10 000 экз. Цана 4 руб. 30 кап.

Цэнтральнае месца ў кнізе займае аповесць «Блакітнае ззянне», героі якой — рабочая моладзь, паказаная ў нястрымным імкненні да творчасці. У зборніку змешчаны таксама новыя апавяданні пісьменніка.

**Дзмітры Уксусаў. Ранні ветрык.** На рускай мове. 152 стар. 10 000 экз. Цана 1 руб. 60 кап.

Гэта — першая кніжка пісьменніка. Аповесць «Ранні ветрык» адлюстроўвае пасляваеннае жыццё калгаснай вёскі.

**Васіль Данілевіч. Запявалы.** Нарысы. 188 стар. 5 000 экз. Цана 2 руб.

Зборнік «Запявалы» — першая кніжка аўтара. Прачытаўшы яе, вы пазнаёміцеся з нашымі цудоўнымі сучаснікамі, людзьмі творчай працы — лепшымі рабочымі і інжынерамі трактарнага, аўтамабільнага, падшыпнікавага заводаў. Гэтыя нарысы аб'яднаны ў раздзел «Людзі вялікага лёсу».

У другім раздзеле кнігі — «Песні родных прастораў», — расказваецца аб славутым старшыні калгаса К. П. Арлоўскім, аб калгасным хоры з вёскі Азершчына і яго арганізатары Тацяне Лапацінай, аб творчасці Браніславы Любовіч — майстра вышыўкі з Гродна, аб працы звычайнай дзяўчыны Валянціны Радкевіч — загадчыцы хаты-чытальні.

**Васіль Каваль. Выбранае.** 336 стар. 10 000 экз. Цана 4 руб. 85 кап.

У аднатомнік таленавітага беларускага празаіка 20-х—30-х гадоў Васіля Каваля ўвайшлі лепшыя творы, прысвечаныя жыццю і побыту дакалгаснай вёскі. У цэнтры многіх твораў пісьменніка — юнак, які імкнецца вывесці аднавяскоўцаў з векавой цемры, адсталасці. У асобных апавяданнях створаны вобразы камсамольскіх актывістаў на вёсцы.

**Алесь Дудар. Выбраныя творы,** 128 стар. 5 000 экз. Цана 2 руб. 45 кап.

У кнігу ўключана ўсё лепшае з творчай спадчыны вядомага беларускага паэта 20-х — 30-х гадоў. У вершах адчуваецца подых сацыялістычнай перабудовы горада і вёскі ў першыя гады станаўлення савецкай улады на Беларусі.

**Юльюш Славацкі. Выбранае.** 176 стар. 5 000 экз. Цана 5 руб. 40 кап.

Кніга выдадзена да стапяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння вялікага польскага паэта, якое споўнілася сёлета. Сярод выбраных твораў — вядомыя паэмы Ю. Славацкага «У Швейцарыі» (пераклад М. Танка), «Бацька зачумленых» (пераклад С. Дзяргая), «Ян Бялецкі» (пераклад П. Макаля і А. Вольскага), трагедыя «Мазепа» (пераклад М. Лужаніна і А. Звонака). Вершы паэта пададзены ў перакладах Ул. Дубоўкі, Я. Семяжона, П. Пестрака, К. Паўтаржыцкага. Уступную прамову да зборніка напісаў Пілін Пестрак.

**Алесь Адамовіч. Культура творчасці.** Літаратурна-крытычныя артыкулы. 240 стар. 5 000 экз. Цана 6 руб. 65 кап.

У кнізе змешчана 5 артыкулаў маладога крытыка. Аўтар прасочвае гісторыю станаўлення жанра рамана ў беларускай савецкай літаратуры, раскрывае разнастайнасць творчых стыляў літаратуры сацыялістычнага рэалізма. Аб гуманізме савецкай літаратуры, аб месцы літаратара ў жыцці гаворыцца ў заключным артыкуле кнігі.

**Р. Дзмітрыеў. Навучанне плаванню і трэніроўка плыўца.** 128 стар. 3 000 экз. Цана 2 руб. 35 кап.

Гэта — змястоўны метадычны дапаможнік для выкладчыкаў, трэнераў, грамадскіх інструктараў па плаванню. У кнізе разглядаюцца ўсе асноўныя стылі плавання, а таксама даюцца карысныя парады па правядзенню вучэбна-трэніровачнай работы. Кніжка зацікавіць і тых, хто вырашыў навучыцца плаваць самастойна.

Спорт

# УВАГА, ПАЧЫНАЕМ ГІМНАСТЫКУ!

**Рэпартаж**

Велізарны цэх заліты мяккім святлом. Дзяўчаты ў беласнежных халатах схіліліся за рабочымі столікамі. Усюды — чысціня, на падаконніках — кветкі.

Бясшумна рухаецца лента канвеера. Ад адной работніцы да другой накіроўваецца невялікая празрыстая скрыначка. Тое, што знаходзіцца ў ёй, у спрытных дзявочых руках пачынае набываць усё больш знаёмыя формы. І вось ужо да маленькага механізма, які складаецца з мноства драбнюсенькіх дэталей, прымацоўваюцца цыферблат і стрэлкі. Застаецца толькі змясціць яго ў металічны корпус, і гадзіннік гатовы.

Гэта другі цэх зборкі Мінскага гадзіннікавага завода, прадукцыя якога добра вядома ў Беларусі і далёка за яе межамі. Наручны гадзіннік «Зара» — маленькі, вельмі складаны механізм, і каб стварыць яго, трэба нямала ведаў і ўмення. Другі зборачны цэх — перадавы на прадпрыемстве—змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы. Вось ужо на працягу некалькіх месяцаў ён трымае пераходны Чырвоны сцяг дырэкцыі завода. Амаль усе работніцы цэха маюць сярэднюю адукацыю, многія з іх вучацца на завочных і вячэрніх аддзяленнях тэхнікумаў і інстытутаў.

Мы прыйшлі ў цэх якраз у той час, калі голас заводскага дыктара абвясціў па радыё:



Работніцы другога зборачнага цэха на Мінскім гадзіннікавым заводзе пачалі чарговую зарадку.

Фота С. Чырэшкіна.





Пачалося з зарадкі, а скончылася захапленнем лыжным спортам. Зборшчыца Л. Церлюкевіч і інжынер С. Марнеўскі маюць спартыўныя разрады.

— Таварышы! Падрыхтуйцеся да вытворчай гімнастыкі.

Сціх канвеер. Ля сваіх рабочых месц выстраіліся дзяўчаты. Перад кожным участкам займае сваё месца грамадскі інструктар. Пачынаецца вытворчая гімнастыка.

Разам з моладдзю гімнастычныя практыкаванні робяць і людзі сталага веку: начальнік цэха Антаніна Кузьмінічна Агапава, кладаўшчыца Аксана Альбертаўна Лашутка і многія другія.

Мы гутарым з Аксанай Альбертаўнай.

— Я пажылы чалавек, — гаворыць яна, — і з вялікім задавальненнем разам з маладымі раблю фізічныя практыкаванні. Гэта ўжо ў мяне ўвайшло ў звычку. Калі здараецца, што я іншы раз прапушчу гімнастыку, дык адчуваю сябе неяк стомлена, як быццам чагосьці не хапае...

Яшчэ тры гады назад на гадзіннікавым заводзе, які тады толькі што ўступіў у строй, увялі вытворчую гімнастыку. Ініцыятарамі выступілі камсамольцы, моладзь зборачнага цэха. З ліку лепшых фізкультурнікаў было падрыхтавана дзесяць грамадскіх інструктараў-метадыстаў.

Сярод зборшчыц былі і такія, хто ў час правядзення гімнастыкі працягваў працаваць, імкнуўся зрабіць больш, выканаць план. Аднак на праверку выходзіла, што яны памыляліся. Работніца, якая выконвала некалькі нескладаных гімнастычных практыкаванняў, адчувала прыліў сіл, энергіі, бадзёрасці, і працавала больш плённа. Гэта — відавочны факт, і ў хуткім часе ў гэтым пераканаліся ўсе.

Рос завод, адкрыўся новы зборачны цэх. І дзесяці інструктараў-метадыстаў ужо не хапала. Падрыхтавалі яшчэ дваццаць, стварылі пастаянны семінар. Кожныя два тыдні мяняецца цяпер комплекс практыкаванняў. Гімнастыка праводзіцца два разы ў змену.

— Іншыя сцвярджаюць,—расказвае інструктар фізкультуры Ольга Барысаўна Пруднікава, — што на нашым заводзе лягчэй праводзіць вытворчую гімнастыку, чым на другіх прадпрыемствах, бо ў нас работа «сядзячая»... Я скажу, што галоўнае ў тым, каб пераканаць людзей у карысці гімнастыкі і правільна яе арганізаваць.

Сёння на гадзіннікавым заводзе вытворчая гімнастыка праводзіцца не толькі ў зборачных цэхах, але і там, дзе рабочыя стаяць непасрэдна ля станкоў, займаюцца больш цяжкай фізічнай працай: у інструментальным, аўтаматным і іншых. Перад рабочы-



Зборшчыца Л. Новікава мае першы разрад па стральбе.



Майстар інструментальнага цэха У. Памазаў — добры канькабежац.

мі часта выступаюць урачы-спецыялісты.

... За апошні час на заводзе значна выраслі рады фізкультурнікаў і спартсменаў, папоўніліся здольнай моладдзю секцыі па валейболу, баскетболу, лёгкай атлетыцы, настольнаму тэнісу, лыжнаму і канькабежнаму спорту. У гэтым годзе падрыхтавана 50 спартсменаў трэцяга, 22 — другога разрадаў. У заводскай спартакіядзе па 8 відах спорту ўдзельнічала каля 1 000 чалавек. У розыгрышы першынства завода па валейболу выступала 17 каманд. Спартсмены прадпрыемства — уладальнікі пераходнага прыза на спартакіядзе Варашылаўскага раёна сталіцы.

Можна было б прадоўжыць расказ аб поспехах заводскіх фізкультурнікаў. Але нам хочацца расказаць аб тым, каму калектыў абавязаны гэтымі поспехамі, для каго вытворчая гімнастыка стала як бы «перакідным мастком» ад навічка да спартсмена-разрадніка.

У 1956 годзе прыйшла на завод сціплая, ціхая дзяўчына Люда Зотава. Інструктар фізкультуры Ольга Барысаўна заўважыла, што, як толькі разнясуцца гукі спартыўнага маршу, Люда адна з першых рыхтавалася да выканання гімнастычных практыкаванняў.

— З яе нядрэнны метадыст выйдзе, — падумала інструктар і сваю прапанову выказала маладой зборшчыцы. Люда згадзілася, але доўга саромелася выйсці на сярэдзіну цэха, стаць перад сваімі сяброўкамі. А сёння камсамолка Зотава — лепшы метадыст на заводзе, узнагароджана значком «Грамадскі інструктар СССР».

Раней Люда не займалася спортам, не ведала, якому віду прысвяціць сябе. Яе далейшы лёс, як спартсменкі, вырашыла вытворчая гімнастыка. Дзяўчына паверыла ў свае сілы, паверыла ў тое, што калі яна здолела стаць інструктарам, то можа стаць і спартсменкай. Так яно і здарылася. Люда пачала займацца ў секцыі лёгкай атлетыкі і дамаглася нядрэнных вынікаў у кіданні дыска — стала чэмпіёнкай завода.

Шлях, якім прыйшла ў спорт камсамолка Людміла Зотава — гэта шлях яе многіх таварышаў па заводу. Сярод іх — брыгадзір Тамара Садоўская, зборшчыцы Людміла Шабуневіч, Ліля Сініцарава, Галя Яшкевіч. Галя Ермашкевіч і многія другія.

Хочацца дадаць і прозвішча брыгадзіра Аляксандра Шорыга з інструментальнага цэха, дзе, дарэчы, кожны трэці рабочы — спартсмен. Аляксандр — нязменны старшыня савета калектыву фізкультуры, яго душа і арганізатар. І ў тым, што калектыў дабіўся такіх поспехаў, немалая заслуга Шорыга.

... Адгучала мелодыя марша. Зборшчыцы зноў занялі свае рабочыя месцы. Зарадка дадала ім новыя сілы. энергію. Работа пайшла спарней.

**І. ПРАКАПОВІЧ.**



Зборная валейбольная каманда завода — адна з лепшых у горадзе. Гляньце, колькі ў іх прызоў!

# Гумар і сатыра

**СПОРТ ПРАЗ......ГОД**




1. Кальцавая аўтагонка на Сатурне.
2. Рэкорд на Месяцы.
3. Зноў на Зямлі хтосьці прамазаў.
4. Паветраны гімнаст.
5. Вось дзе разгон для лыжнікаў—на снегавой шапцы Марса!

Жарты мастака А. Кійранена.

# Шахматы

пад рэдакцыяй майстра спорту, чэмпіёна Беларусі па шахматах **А. СУЭЦІНА**

## ЯК ВЫВУЧАЦЬ ШАХМАТНУЮ ТЭОРЫЮ

*Гэтае пытанне ўзнікае ў кожнага маладога шахматыста. Многія з іх імкнуцца як найлепш праштудыраваць літаратуру па гэтаму пытанню і вывучыць напамяць як мага большую колькасць варыянтаў.* Такі спосаб не толькі малапрадукцыйны, але і шкодны.

Пры вывучэнні шахматнай тэорыі трэба перш за ўсё засвоіць, што перамога ў шахматах ніколі не бывае выпадковай, а з'яўляецца вынікам шэрагу лагічных заканамернасцей, для авалодання якімі патрэбна развіццё адпаведных рысаў мыслення і характару чалавека.

Перш за ўсё кожны моцны шахматыст павінен валодаць развітым «камбінацыйным зрокам», пазіцыйнай «адчувальнасцю» і асаблівай «шахматнай памяццю». Каб развіць гэтыя здольнасці, шахматыст павінен выхаваць у сабе дысцыплінаванасць характару і мыслення, працяглую сканцэнтраванасць увагі. Дасягнуць поспехаў у шахматнай гульні можа толькі той, хто кожны крок робіць мэтанакіравана. У мысленні шахматыста не можа мець месца расхлябанасць і апатычнасць. Нарэшце, у здольнага шахматыста павінен быць добры мастацкі густ.

З *такіх вось пазіцый і трэба падыходзіць* да вывучэння шахматнай тэорыі. Асабліва цяжкім для любога шахматыста *бывае звычайна вывучэнне тэорыі* дэбюта. Вялікае мноства розных варыянтаў патрабуе развіцця навыкаў памяці. Таму мы настойліва рэкамендуем маладым шахматыстам галоўную ўвагу сканцэнтраваць на адкрытых дэбютах і гамбітах, як каралеўскі гамбіт, гамбіт Эванса, шатландская партыя, руская партыя, італьянская партыя і г. д. Усе гэтыя дэбюты цяпер вельмі добра вывучаны. Хоць ужываліся яны галоўным чынам у мінулым стагоддзі, але тым не менш багацце камбінацыйных магчымасцей у гэтых дэбютах, яркасць і эмацыянальнасць барацьбы ў іх дае цудоўны матэрыял для развіцця навыкаў памяці. Пры гэтым вельмі важна таксама кожны раз кіравацца агульнымі дэбютнымі прынцыпамі, *да якіх належаць:* хуткае **развіццё фігур** на актыўныя пазіцыі і **барацьба за цэнтр.**

*Трэба памятаць, што для ажыццяўлення* гэтых прынцыпаў на практыцы патрабуюцца асобы спрыт і ўменне ігрока.

Разгледзім такі прыклад: у італьянскай партыі пасля 1. e4 e5, 2. Kf3 Кс6, 3. Сс4 Сс5, 4. с3 Kf6 белыя замест звычайнага 5. d4 ed, 6. cd Св4+, што дазваляе чорным разбіць белы цэнтр шляхам d7—d5 або Kf6 : e4, могуць выбраць 5. 0—0. Цяпер яны задумваюць ажыццявіць ход d2—d4 з усімі выгадамі. Чорныя не могуць тут кіравацца толькі агульнымі меркаваннямі. Так, напрыклад, добры, развіваючы з выгляду ход 5. ...0—0 дрэнны, бо пасля 6. d4! ed, 7. cd Cb6, 8. d5! Ke7, 9. e5! белыя дасягаюць рашаючай перавагі ў цэнтры. *Правільна толькі* 5. ...К : e4!



Чорныя смела ідуць насустрач абвастрэнню, беручы важную цэнтральную пешку белых. І цяпер у адказ на 6. d4 чорныя энергічным ходам 6. ... d5! не толькі робяць шансы роўнымі, але і атрымліваюць яўную перавагу.

Вядома, пачынаючы шахматыст не заўсёды зможа знайсці такое правільнае вырашэнне пазіцыі, але імкнуцца да адшукання яе ён павінен заўсёды!

Парада ўсім такая — вучыцеся на **сваіх партыях,** імкнецеся развіць **самастойнае** мысленне, знаходзьце **сваё рашэнне** ў любым становішчы і толькі тады дапаўняйце свой вопыт вывучэннем дапаможнікаў.

# *Змест часопіса „Маладосць" за 1959 год*

### ПРОЗА



### ПАЭЗІЯ







**МАСТАКІ, якія афармляюць наш часопіс: Г. Паплаўскі, Б. Льдокаў, Л. Дубар.**

## ДРАМАТУРГІЯ





**МАСТАКІ, якія афармляюць наш часопіс: Б. Аракчэеў, В. Ягораў, К. Ціхановіч.**

## НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ, КАРЭСПАНДЭНЦЫІ, ІНТЭРВ'Ю, РЭПАРТАЖЫ



## ДАРОГАМІ СЯМІГОДКІ



## ГАРЫ, КАМСАМОЛЬСКІ АГАНЁК!



## ДАВАЙЦЕ ПАГАВОРЫМ...

### З БЛАКНОТА ПАДАРОЖНІКА



### ЗАПІСКІ, УСПАМІНЫ, ДЗЁННІКІ



### НА АТЭІСТЫЧНЫЯ ТЭМЫ



### НАВУКА І ТЭХНІКА



### У СВЕЦЕ МАСТАЦТВА



### СЛУХАЧАМ НАРОДНЫХ УНІВЕРСІТЭТАЎ



### РАЗМОВА АБ МАЙСТЭРСТВЕ



### КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ







### СПОРТ



### ШАХМАТЫ

## ЗМЕСТ



### Дарогамі сямігодкі



### Давайце пагаворым...



### Навука і тэхніка



### У свеце мастацтва



### Бібліяграфія



### Спорт



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабіце самі!».**